АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАУСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# ВАЛАЧОБНЫЯ ПЕСНІ



МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1980

Рэдакцыйная калегія:

**В. К. Бандарчык, М. Я. Грынблат, К. П. Кабашнікаў, А. С. Фядосік, В. І. Ялатаў**

Складальнікі:

**Г. А. Барташэвіч, Л. М. Салавей**

Складальнік музычнай часткі

**В. І. Ялатаў**

Рэдактар тома

**К. П. Кабашнікаў**

Рэцэнзенты:

**А. І. Гурскі, В. Д. Літвінка**

В 15 **Валачобныя** песні /[Склад. Г. А. Барташэвіч, Л. М. Салавей, склад. муз. часткі В. І. Ялатаў. Рэд. тома К. П. Кабашнікаў].— Мн.: Навука і тэхніка, 1980.— 560 с., нот. іл.— (Беларус. нар. творчасць. /АН БССР. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору).

У пер.: 2 р. 90 к.

У том уключаны лепшыя ўзоры тэкстаў і напеваў абрадавых велічальных песень, якія выконваюцца спецыяльнымі групамі песеннікаў — валачобнікамі ў час веснавых абходаў двароў з віншаваннямі гаспадароў і добрымі пажаданнямі ім. Валачобныя песні характэрны толькі для беларускай народнай паэзіі.

**В $\frac{70700-058}{М316-80}$ 65—79 4702120100** **С(Бел)Ф**

# ВАЛАЧОБНЫЯ ПЕСНІ

Валачобныя песні — каштоўны помнік духоўнай спадчыны беларускага народа, яскравая і характэрная яе адметнасць. Займаючы прыкметнае месца ў сістэме жанраў беларускай народнай паэзіі, валачобныя песні амаль не маюць аналагаў у фальклоры суседніх славянскіх народаў. Гэта абрадавыя велічальныя песні, якія спяваюцца гаспадару і ўсім членам сям'і ў час велікодных абходаў двароў спецыяльнымі групамі спевакоў — валачобнікамі. Звычай штогод абходзіць двары з велічальнымі песнямі і зычэннямі плёну ў працы, прыбытку ў гаспадарцы, з праслаўленнем гаспадара і ўсёй яго сям'і бярэ вытокі ў глыбокай старажытнасці і прымяркоўваецца да пачатку вясны і вясенне-палявых работ (з пашырэннем хрысціянства — дакладна да першага дня вялікадня).

Радасць, якую неслі абуджэнне прыроды, вяртанне цёплых дзён, з'яўленне пашы для жывёлы, звязвалася заўсёды з вялікім клопатам пра ўраджай і чаканнем напружанай працы на палях. Паводле старажытных уяўленняў, валачобныя песні і валачобны абрад разам з іншымі абрадавымі дзеяннямі гэтага перыяду павінны былі магічным шляхам павялічыць ураджайнасць палёў, прыплод жывёлы, засцерагчы ад нядолі на цэлы год. У сапраўднасці ж іх рэальнае значэнне трэба бачыць у тым, што, прыносячы эстэтычную асалоду, узнаўляючы ў дасканалай паэтычнай форме ўвесь каляндар працоўнай дзейнасці земляроба на год, выказваючы ўвагу і бязмежную добразычлівасць да кожнага працаўніка, валачобныя песні мабілізоўвалі працоўную актыўнасць чалавека, улівалі ў яго душу зарад бадзёрасці і веры ў шчаслівую будучыню. Увесь працэс неадкладных і цяжкіх работ малюецца ў валачобных песнях як суцэльнае радаснае, шчаслівае свята. «Нідзе ў беларускіх песнях не адводзіцца такое пачэснае месца земляробчай працы, як у валачобных»,— пісаў беларускі этнограф А. Я. Багдановіч[1]. І варта дадаць, што ні ў якіх іншых песнях няма такой паэтызацыі працы, такога ўзвелічэння працаўніка-земляроба, яго двара і наогул маёмаснага і грамадскага становішча, услаўлення розуму і дабрачыннасці гаспадара і яго родных, ухвалення ўсяго яго быту. Толькі калядныя песні, выконваючы такую ж функцыю, набліжаюцца ў гэтым да валачобных.

---

[1] Богданович А. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Гродно, 1895, с. 107—108.

Гэту акалічнасць адзначае таксама Н. С. Гілевіч: «Зместам і характарам сваім валачобныя песні вельмі напамінаюць велічальныя песні калядоўшчыкаў, толькі дух велічання выяўлены ў іх яшчэ больш поўна і ярка. Ушанаванне селяніна-хлебароба, услаўленне яго працы, паэтычная ідэалізацыя яго маёмаснага становішча, яго гаспадаркі і хатняга быту набывае ў гэтых песнях сілу і маштабы незвычайныя» [2].

Функцыянальная блізкасць валачобных і калядных песень — вынік працяглага гістарычнага развіцця фальклору і абраднасці, дзеяння пэўных вельмі архаічных уяўленняў і звычаяў. Справа ў тым, што і валачобныя, і калядныя песні звязаны са святкаваннем Новага года — толькі па розных каляндарных сістэмах. У гэтым пераконваемся, зрабіўшы невялікі экскурс у аддаленыя часы, прасачыўшы, як адзначалася гэта свята ў розных народаў, найперш у народаў індаеўрапейскай сям'і.

Яшчэ ў глыбокай старажытнасці людзі, назіраючы за сонцам і тымі зменамі ў прыродзе, якія наступалі ў залежнасці ад становішча свяціла адносна Зямлі, дзялілі год на чатыры пары. Пачатак кожнай пары (вясны і восені — у дні параўнання з ноччу, лета і зімы — у дні летняга і зімовага сонцазвароту) урачыста адзначаўся. Заўважаецца таксама пэўнае дастасаванне ўрачыстасцей да асаблівасцей кліматычных умоў сваёй мясцовасці. Паступова выпрацаваўся ўстойлівы комплекс абрадаў, якія грунтаваліся на старажытных міфалагічных уяўленнях і мелі на мэце «вырашэнне» вельмі важных практычных задач жыцця роду, племені. У гэты комплекс абавязкова ўваходзіла памінанне продкаў, калектыўнае спажыванне рытуальных страў, засцерагальныя дзеянні, варажба, тушэнне старога і здабыванне новага агню, ачышчэнне вадой і інш. Пэўнае месца ва ўсім гэтым комплексе адводзілася абрадавым песням, танцам, драматычным дзеянням.

Вельмі істотным з'яўляецца той факт, што ў розных народаў пачатак адной з пораў года мог быць і пачаткам новага года наогул. «У старажытнай Грэцыі прытрымліваліся месячных календароў. Пачатак года адлічваўся паразнаму ў розных мясцінах, але заўсёды ў адпаведнасці з пэўным становішчам сонца: год пачынаўся першым маладзіком пасля летняга ці зімовага сонцазвароту, пасля веснавога ці восеньскага раўнадзенства» [3]. Падзел года на чатыры пары і факт фіксацыі паваротных момантаў года з абрадавым ушанаваннем іх у беларускай народнай традыцыі не выклікае сумнення. Да нашых дзён захаваўся падзел каляндарна-абрадавага фальклору і ўсіх звязаных з ім абрадаў на чатыры цыклы: веснавы, летні, восеньскі, зімовы. Чатыры разы ў год спраўлялі беларусы памінанне продкаў — «дзяды». І ўсё ж святкаванне пачатку вясны па багацці і насычанасці дзеяннямі, відаць, можна лічыць самым выразным.

---

[2] Песні народных свят і абрадаў. Укл. і рэд. Н. С. Гілевіча. Мн., 1974, с. 65.
[3] Иванова Ю. В. Греки.— Календарные обычаи и обряды в странах зарубежной Европы. Зимние праздники. М., 1973, с. 308.

Па розных прычынах святкаванне Новага года пераносілася з адной пары на другую, аднак, паводле сведчанняў вучоных-этнографаў, у старажытнасці яно найчасцей адносілася да веснавога раўнадзенства, калі ўсё жывое абуджалася ад зімовай летаргіі, цягнулася да жыцця, клікала да працы на зямлі. Старажытныя іранцы Новы год урачыста адзначалі 21 ці 22 сакавіка, прычым святкаванне мела дзяржаўны характар, вялікія ахвяраванні прыносілі ў святынях сталіцы Персеполь[4]. «Сакавік у антычным Рыме, бадай што як ні адзін іншы веснавы месяц быў насычаны святамі,— чытаем у кнізе, прысвечанай даследаванню веснавых каляндарных звычаяў і абрадаў.— Гэта і зразумела: першага ж сакавіка ў старажытных рымлян пачынаўся год, і, такім чынам, *пачатак вясны і пачатак года ў старажытнасці супадалі* (курсіў наш.— *Л. С.*). Толькі па календару Юлія Цэзара (уведзены ў 46 г. н. э.) год стаў пачынацца 1 студзеня. Усе святы, якія адзначалі старажытныя рымляне ў сакавіку, і насілі, з аднаго боку, навагодні характар, з другога — выяўлялі чаканне вясны»[5].

Святкаванне пачатку года вясной назіраецца і ў іншых народаў. Супадзенне тлумачыцца тым, што вясной пачынаецца новы прадукцыйны перыяд прыроды. Ды і сам тэрмін «летазлічэнне» ў славян падкрэслівае, што найперш лічылася лета, цёплы перыяд года, у той час як зіма такога самастойнага значэння не мела. Хрысціянства таксама адзначала Новы год 1 сакавіка, потым перанесла яго на 25 снежня. У многіх краінах Еўропы толькі ў другой палавіне XVI ст. Новы год сталі адзначаць 1 студзеня (у Расіі, напрыклад, з 1700 г.). Да гэтага пачаткам года з'яўляліся то вялікдзень, то благавешчанне, то каляды.

Усё сказанае дае нам права разглядаць валачобныя песні як навагоднія велічальна-віншавальныя, ідэнтычныя з калядным і (шчадроўкамі) па накіраванасці і функцыі. Зразумела, што адрозненні ў гаспадарчых задачах зімовага і веснавога часу адбіліся і ў народнай паэзіі і звычаях. Зімой, калі прадукцыйны перыяд года яшчэ не пачаўся, чалавек толькі стараецца ўгадаць, што прынясе яму лета. Таму ў абраднасці гэтага цыкла шмат варажбы, значна больш, чым вясной. А блізкасць палявых работ патрабавала, каб выканаўцы валачобных песень, услаўляючы гаспадара, напаміналі яму пра тэрміны працы, што ўзмацняла арганізацыйны, мабілізуючы пачатак гэтых абрадаў і песень. На характары зімовага абрадавага цыкла адбілася (побач з іншымі фактарамі) наяўнасць вольнага часу ў людзей, што дазваляла праводзіць працяглыя гульні з пераапрананнем, пастаноўкі народных драм батлеечнікамі і інш. Валачобнікі ж не карысталіся ні спецыяльнымі касцюмамі, ні маскамі, ні іншымі сродкамі характарызацыі выканаўцаў (за выключэннем выпадкаў, калі валачобнічалі дзяўчаты, якія ўпрыгожвалі сябе кветкамі). Аднак на поўдні Беларусі, на Случчыне і ў іншых месцах валачобнікаў назы-

---

[4] Уилбер Д. Персеполь. Перевод с англ. М., 1977, с. 15.

[5] Красновская Н. А. Итальянцы.— Календарные обычаи и обряды в странах зарубежной Европы. Весенние праздники. М., 1977, с. 15.

валі «кукольнікі», музыку — «скамарох», што ўскосна сведчыць пра асацыяцыі відовішча, якія выклікалі ў насельніцтва групы спевакоў-валачобнікаў. Грунтуючыся на матэрыялах рукапіснага зборніка І. Аўсяйца, П. Шэйн у свой час пісаў, што ў Слонімскім п. Гродзенскай губ. валачобнікаў інакш не называюць, як «ралёшнікі», што, на яго думку, раўназначна фанетычна змененаму «раёшнікі», г. зн. людзі, якія паказваюць раёк — лялечнае прадстаўленне. Пра «кукольнікаў» у Шэйна гаворыцца наступнае: «Разам з валачобнікамі раней у Аршанскім павеце Магілёўскай губерні, як і ў некаторых мясцовасцях іншых губерняў паўночна-заходняга краю, хадзілі кукольнікі. Спявалі яны тыя ж песні і на тую ж мелодыю, што і валачобнікі, з тым толькі адрозненнем, што першыя заўсёды пачыналіся словамі: «Нуце, братцы, кукольнічкі!» Вызначальным адрозненнем кукольнікаў была даволі шырокая нізкая скрыня з векам. У дно скрыні былі ўбіты вострыя калочкі, на якіх свабодна круціліся ў розныя бакі фігуркі конікаў, абшытых сукном рознага колеру. На самым большым коніку белай масці змяшчалася фігурка чалавека. Гэта быў святы Юр'я, апякун конюхаў і коней, і яго статак. У час спеваў скрыня рухалася наперад і назад, з гэтай прычыны і фігуркі круціліся вакол калочкаў»[6]. Уключэнне ў валачобны абрад своеасаблівай юраўскай батлейкі, відаць, трэба тлумачыць старажытнымі сувязямі валачобніцтва з юраўскім раздзелам веснавой паэзіі, з уяўленнямі пра ролю Юр'я, ключніка зямлі, што адмыкае яе, выпускае траву і расу.

Сувязь валачобных песень з каляднымі выяўляецца не толькі ў агульнасці прызначэння, тэматыкі, паэтычных сродкаў. Асобныя сюжэты сустракаюцца і ў валачобных, і ў калядных песнях. Так, у томе «Зімовыя песні» (1975) тэксты № 200, 214, 216, 219 і іншыя вельмі падобныя да валачобных, што адзначана ў некаторых каментарыях да іх. Дарэчы, на такія супадзенні звяртаў увагу яшчэ Е. Р. Раманаў. На нашу думку, у большасці выпадкаў агульныя сюжэты сфарміраваліся першапачаткова як валачобныя песні, а потым трапілі ў асобных мясцінах у калядныя, пра што сведчаць валачобныя рэфрэны «Явар-дубар зялёны!», «Зялёнае жыта ў дуброве!» і інш.

Тэрытарыяльна валачобныя песні размяжоўваюцца з каляднымі ў асноўным па прынцыпу ўзаемнага выключэння: там, дзе распаўсюджана валачобніцтва, слаба выяўлена або адсутнічае цалкам калядаванне. Класічныя ўзоры валачобных песень запісаны ў паўночнай, паўночна-заходняй і цэнтральнай частках Беларусі, што супадае ў асноўным з арэалам старой крывіцкай цывілізацыі, дакладней з тэрыторыяй Полацкага княства. Відавочна, тут у даўнія часы расцвіў гэты прыгожы звычай, склаўся асноўны рэпертуар і распаўсюдзіўся па ўсёй этнічнай тэрыторыі Беларусі, за выключэннем крайняга поўдня і паўднёвага захаду. Вызначальную ролю тут адыгрыва-

---

[6] Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. 1, ч. 1. СПб, 1887, с. 135—136.

юць гісторыка-племянныя асаблівасці рэгіёнаў, якія праўляюцца ў мове, матэрыяльнай культуры, сістэме фальклорных жанраў і інш. Паказальна ў гэтым плане Заходняе Палессе. В. А. Захарава адзначае, што там амаль не сустракаецца валачобных песень[7]. Затое на Піншчыне бытуе цікавы і своеасаблівы звычай «ваджэння куста», суадноснага з валачобніцтвам у некаторых важных функцыях і дэталях, старажытных па паходжанню. Адгалоскі «куста» занатаваны М. Федароўскім таксама на Пружаншчыне, каля мястэчка Лыскава, дзе гэты абрад існаваў як бы накладзеным на купалле, прымеркаваным да яго[8]. Паводле П. Шэйна, валачобныя песні ў канцы XIX ст. былі распаўсюджаны ў Віцебскай, Мінскай, Магілёўскай, Гродзенскай, Віленскай, Смаленскай і Пскоўскай губернях і некаторых паветах Калужскай, Арлоўскай і Чарнігаўскай губерняў[9].

Можна меркаваць, што валачобны абрад у закончаным выглядзе (і вядомы нам рэпертуар валачобных песень) склаўся ўжо ў XIV—XVI стст., аднак апісанне яго зроблена даволі позна, у XIX ст. Адно з іх найбольш поўнае і дакладнае, выкананае П. М. Шпілеўскім па жывых уражаннях на Віцебшчыне, заслугоўвае, каб яго прывесці тут цалкам.

«Валачобніцтва вядзецца ў нас здаўна і трымаецца ўстойліва. Гаспадары прымаюць дакукі валачобнікаў як неабходнасць, [як] прыемныя і карысныя віншаванні, і большасць чакае іх як благаславёных гасцей, а часткова як прадвеснікаў лёсу гаспадаркі. Паводле разумення сялян, ёсць нейкая таямнічая сувязь паміж візітам валачобнікаў і станам гаспадарчых работ і прыбыткаў надыходзячай вясной і летам. Калі ў час прыходу валачобнікаў у вёску на двары ціха, няма дажджу, ноч ясная, то гэта верны знак таго, што пагода будзе садзейнічаць ярыне, што ўраджай будзе добры, асабліва ж прыбыльным будзе сенакос. А калі толькі валачобнікі зацягнулі свой «лалын», а тут дождж, то не чакай мужык дабра: будуць дажджы і каля Юр'я, і каля Міколава дня, і каля Пятрова і Ілліна дня.

...Валачобнікі ходзяць групамі чалавек па 8 і больш — да 20 і заўсёды трымаюцца ў межах прыхода той царквы, да якой належаць па месцу жыхарства. У прыходзе ніколі не бывае менш 2—3 валачобных груп, а калі парафія вялікая і адлегласць паміж вёскамі значная, то іх колькасць даходзіць да 10.

Галоўная асоба ў кожнай групе — так званы «пачынальнік», або запявала, ён пачынае песню і пяе ўсе радкі, у яго рукі выдаецца ўзнагарода. У пачынальнікі амаль заўсёды выбіраецца заможны гаспадар, мужык абавязкова галасісты і прытым бойкі, нават назойлівы, каб умеў выпрасіць добрую «ўзнагароду». Пры групе абавязкова ёсць музыка, а іншы раз і два, адзін — са скрыпкай, другі — з дудой. Насіць падарункі таксама выбіраец-

---

[7] Беларускі фальклор у сучасных запісах. Брэсцкая вобласць. Традыцыйныя жанры. Мн., 1973, с. 17.
[8] Саламевіч Янка. Міхаіл Федароўскі. Мн., 1972, с. 246—247.
[9] Шейн П. В. Материалы, т. 1, ч. 1, с. 136.

ца асобны мужык, заўсёды дужы, адпаведна свайму прызначэнню, яго называюць «механошам». Усе астатнія члены групы складаюць нешта накшталт хору. Яны пяюць прыпеў пасля кожнага радка песні і называюцца «падхватнікамі». Складаюць групу валачобнікаў выпадкова: задумае хто-небудзь адзін, скажа другому, трэцяму селяніну са сваёй вёскі або з суседніх вёсак, сыйдуцца як-небудзь, крыху пагаворацы, згадзяцца, запросяць вядомага «пачынальніка» — і група гатова. У валачобнікі ідуць у большасці мужчыны сярэдніх гадоў і маладыя хлопцы, рэдка трапляюцца сярод іх замужнія жанчыны, а дзеці і дзяўчаты наогул не ходзяць.

Дзейнасць валачобнікаў пачынаецца каля 5 гадзін вечара ў першы дзень свята (вялікадня.— *Л. С.*), а ў пагостах — пасля заканчэння вячэрні і цягнецца ўсю ноч. На світанні слаўленне спыняецца, хоць бы і не ўдалося абысці ўсе мяркуемыя дамы; толькі ў Себежскім павеце месцамі ходзяць валачобнікі і другой ноччу і трэцяй...

Двор, які стаіць на канцы вёскі, першы прымае віншаванні валачобнікаў, за ім паступова іншыя ў парадку, у якім стаяць. Выключэнняў з гэтага парадку не робіцца ні для каго. Натоўп валачобнікаў звычайна становіцца пад акном дома паўколам, а ў сярэдзіне — пачынальнік, які пад акампанемент скрыпкі зацягвае першы радок «лалына», падхватнікі пяюць прыпеў. Пасля заканчэння гаворыць хто-небудзь з групы, а іншы раз і хорам, кароткае імправізаванае віншаванне. Пасля гэтага звычайна гаспадар або гаспадыня адчыняе акно, дзякуе валачобнікам за гонар і дарує, што бог даў. Атрыманае аддаецца механошу, аж да падзелу. Атрымаўшы дар, група дзякуе гаспадару словамі або кароткай песняй, жадаючы яму прыбытку і ўсялякіх даброт.

Пасля заканчэння працы валачобнікі з набыткам вяртаюцца ў сваю вёску і збіраюцца ў хаце пачынальніка або найбольш паважанага падхватніка. Пачынальнік аддзяляе ад сабранага тое, што было выдадзена асабіста яму. Потым лічаць паасобку яйкі, кавалкі мяса, сыру, пірагоў, і кожнаму валачобніку з кожнага прадукта выдаецца аднолькавая доля, а ўсё, што застаецца з роўнага падзелу, складае непадзельны барыш пачынальніка»[10].

У прыведзеным апісанні праступае старажытная звычаёвая аснова валачобніцтва — віншаваць кожнага гаспадара, не мінаючы ні адной хаты, хоць маёмасная няроўнасць, беднасць асобных сямей былі вядомы валачобнікам і спадзявацца заўсёды на вялікія дары яны не маглі. Роўнасць захоўваецца і пры падзеле дароў. Вылучаўся толькі асноўны пясняр — пачынальнік, які павінен быў ведаць увесь тэкст песні, умець адпаведна яе дапасаваць да сітуацыі. А гэта пад сілу было не кожнаму, калі ўзяць пад увагу, што асобныя тэксты валачобных песень налічваюць да 200 радкоў, апрача рэфрэна, які паўтараецца пры спяванні за кожным радком. Да песні далучаліся, як бы завяршаючы яе, досыць вялікія віншавальныя арацыі. Усё гэта патрабавала

---

[10] «Русский дневник». СПб, 1859, № 101.

ад валачобнікаў (асабліва ад пачынальніка) вялікай адказнасці, сабранасці, добрага мастацкага густу і дасканалай памяці. Урэшце, трэба было быць добрым спеваком, мець вялікую ахвоту да спявання, разумець і шанаваць даўні звычай продкаў. Нездарма гаспадар, надзяляючы валачобнікаў, уручаў асобны дар пачынальніку, часам музыку і механошу. Шматлікія моманты валачобнага звычаю знайшлі адлюстраванне ў саміх песнях: валачобнікі не часта ходзяць — «у гадочку адну ночку» або «ў гадочак адзін разочак»; дары валачобнікам падаюць праз акно: «Нашы дары невялікія, у дзверы не лезуць, у акно — як шыюць». Ёсць тут і напамінак пра магчымы пачастунак у хаце: «Масці кладку, заві ў хатку»; пра тое, што ў валачобнікі хадзілі ў асноўным мужчыны — «валачобнікі — добрыя малойцы» або «братцы-валачобнікі» і інш.

Цікавымі з'яўляюцца звесткі пра лакальнае існаванне дзявоцкага валачобніцтва ў дзень веснавога Юр'я. Так, Зыгмунт Глогер у 1883 г. апублікаваў нататкі Міхала Федароўскага, якія сведчылі пра рэшткі жаночага валачобніцтва на Гродзеншчыне. «У дзень св. Юр'я (23 красавіка) у ваколіцах Ліды, Шчучына і Жалудка да гэтага часу захаваўся адвечны абход,— піша даследчык,— у якім прымаюць удзел толькі дзяўчаты і адзін музыка, які на скрыпцы падыгрывае дзяўчатам, што спяваюць. Гэты абход падобны да таго, які ў Ваўкавыскім павеце адбываецца ў час велікодных свят. Тут дзяўчаты, што спяваюць найлепей, пад вечар прыбіраюцца ў пралескі і іншыя кветкі, што ўжо расцвілі, потым з вясёлай песняй ідуць амаль на ўсю ноч, каб абысці ўсе двары. Гэта звычай дзіўна прыгожы і пэўна так стары, як тыя песні, што яны спяваюць... Музыка ідзе наперадзе, а дзяўчаты, павольна ідучы за ім, спяваюць, стаўшы перад хатай, крычаць: «Няхай будзе пахвалёны Езус Хрыстус!» — і пытаюць «пана гаспадара», ці дазволіць свой дом развесяліць, на што атрымліваюць адказ: «Весяліце». Перад хатай удавы пытаюцца: «Ці дазволіш, бедна ўдава, сваё жыццё развесяліць?» Перад хатай яўрэя кажуць: «Добры вечар!» — і пытаюць: «Ці дазволіце, купцы, свой дом развесяліць?»

Асобна ёсць песні да гаспадара, гаспадыні, паненак, маладзіц, удоў і сірот. Найперш спяваюць да гаспадара. Праспяваўшы песні, калі музыка змаўкае, адна з дзяўчат віншуе:

Дай божа, [каб] гэты рок праваджалі,
Другога за рок дачакалі
Ў ураджаю і радасці...

Гаспадыня частуе спявачак і некалькі яек кладзе ў іх «каробку». Маладзіца звычайна дорыць ручніком і паяском сваёй работы. Калі ж не вынесе падарункаў, то ёй жадаюць:

Маладая малодачка,
Каб ты лягла калодаю,
Каб цябе паднімалі падводаю

Гэты звычай хаджэння дзяўчат на Юр'я са спевамі і віншаваннямі належыць да адвечных славянскіх абрадаў, якім нашы продкі віталі прыход кожнай вясны, а з ёй і новы год, які пачынаўся з вясны. Калі быў прыняты астранамічны каляндар, народ злучыў свае абрады з рознымі хрысціянскімі веснавымі святамі і рэшткі старых абрадаў захоўвае пры гэтых святках»[11]. Лічым неабходным прывесці тут і песню гаспадару з гэтага апісання, якую спявалі дзяўчаты-валачобніцы:

Ішлі дзеўкі кучкаю,
Зустрэлі Юр'я ў вуліцы.
— Святы Юр'я, дзе ж ты бываў?
— Па межах хадзіў, жыта радзіў.
Чыё жыта добрае,
Судзі, божа, сынкам лепшае:
Па край зямлі карчыста,
Пасярэдзіне цяблiста,
Пад верх калоссе каласістае,
У адну косаньку спялося,
У адну стораньку зляглося.
З снапочка — жыта бочка,
З каласочка — жыта гарчык.
Дай божа абмалаціць,
Срэбра, злота палічыць,
Срэбра, злота — каралю,
А здароўе — гаспадару.

Ёсць і іншыя тыпова валачобныя песні, але ў іх найчасцей прысутнічае Юр'я. У рэпертуар дзяўчат-валачобніц уключаны таксама юраўскія песні і розныя прымеркаваныя. Тыпова валачобныя рэфрэны ў гэтых песнях адсутнічаюць, магчыма, таму, што дзяўчаты спявалі без пачынальніцы.

Намі занатаван выпадак юраўскага валачобніцтва жанчын пасля калектыўнай вячэры пры заканчэнні ткання ахвярнай наміткі (за адзін дзень з сабранага па жменьцы льну пралі ніткі і ткалі палатно — «намёт»). Гэты звычай звязаны з аховай жывёлы, бо палатно абносілі вакол вёскі і рассцілалі на выгане, сочачы, каб кожная жывёліна, ідучы з пашы, ступіла на яго. На вячэры мог прысутнічаць толькі адзін мужчына — «пастыр» (пастух). Звычай дазваляў жанчынам у той вечар пайсці ў валачобнае, што і практыкавалася яшчэ ў пачатку нашага стагоддзя (Мядзельскі р.).

Гэтыя звесткі цікавыя тым, што і жанчыны (дзяўчаты) былі ўдзельніцамі валачобніцтва, а галоўнае, што абход двароў з пажаданнямі дабрабыту на новы год прымяркоўваўся не да вялікадня, а да Юр'я, у чым праявілася, відаць, дзеянне дахрысціянскай традыцыі.

Фалькларысты XIX ст. заспелі валачобніцтва на заключным этапе развіцця, але яшчэ ў класічным яго ўвасабленні. Імена з XIX ст. да нас дайшлі найбольш дасканалыя, эпічна разгорнутыя тэксты валачобных песень,

---

[11] Pamiętnik fizyograficzny, t. 3. Warszawa, 1883, c. 491—498.

дакладныя апісанні звычаю, які затухае на нашых вачах. У наш час валачобніцтва знікае, а там, дзе яно захавалася, страціла свой ранейшы магічны сэнс і ўспрымаецца толькі як прыгожая забава. У валачобнікі ходзяць малымі групамі, 3—4 чалавекі. Традыцыйны падзел роляў у групе зусім неабавязковы. Побач з мужчынамі могуць спяваць жанчыны, ходзяць звычайна толькі па сваёй вуліцы, па сваім канцы вёскі. Змяніўся зусім характар дароў і адносіны да іх.

У Заходняй Беларусі ў 20—30-х гадах, калі валачобніцтва было вельмі пашыраным, яго выкарыстоўвалі рэвалюцыянеры для агітацыйных мэт. Так, на матыў рэлігійнай валачобнай песні «Вясёлы нам дзісь дзень настаў» спявалі валачобнікі-агітатары песню атэістычнага, рэвалюцыйнага зместу. Вось адзін з сучасных яе запісаў:

Мае браты, ўжо час настаў,
Каб кожны з нас за праўду стаў,
Тады паўстане новы свет —
Будзе савет!
. . . . . . . . . . . . . . .

У царквах, касцёлах, мечацях
Папы талкуюць аб чарцях,
Не вер ім, бедны наш народ,—
Ідзі ўпярод!

Ты казак тых не пад'ясі,
Што кажуць нам: «На небясі...»
Гэта на цэлы свет дурман —
Далоў падман!

Ідзіце, дайце ім друкоў,
Склікайце ўсіх братоў, сяброў
Ачысціць край ад груганоў —
Далоў паноў!

Як сам ты, браце, бачыш, мой,
Гэта не жыцце, а разбой,
Тут не паможа цэбар слёз —
Шукай атос! [12]

Аналагічная травестацыя валачобнай песні запісана ў свой час Р. Р. Шырмам.

Валачобніцтва адыходзіць незваротна ў мінулае. Аднак многія прадстаўнікі старэйшага і нават сярэдняга пакалення зберагаюць у памяці валачобныя песні, цэняць іх прыгажосць і ахвотна дзеляцца імі са збіральніка-

---

[12] АІМЭФ, ф. 8, воп. 78, спр. 146, сш. 3, л. 16. Зап. В. І. Скідан у 1978 г. у в. Горныя Рудкавічы Карэліцкага р. Гродзенскай вобл. ад Васіля Крывапуста.

мі, пра што сведчаць шматлікія запісы фальклорных экспедыцый апошніх год.

Класіфікаваць валачобныя песні зусім нескладана. Найбольш прымальны функцыянальна-тэматычны прынцып падзелу. У залежнасці ад таго, каму прысвячаюцца віншаванні, а дакладней, ад становішча адрасатаў у родава-сямейнай іерархіі лёгка вылучаюцца асноўныя раздзелы: Гаспадару і гаспадыні; Дзяўчыне (незамужняй дарослай дачцы гаспадара); Хлопцу (нежанатаму даросламу сыну гаспадара); Бабцы. Невялікая колькасць твораў гумарыстычнага характару самастойнага значэння не мае.

Велічальна-віншавальны характар валачобных песень, своеасаблівасць іх рэфрэнаў, адметнасць мелодый і строгая прымеркаванасць да пэўнага часу абумовілі іх даволі паслядоўную адмежаванасць ад іншых песень. У рэпертуар валачобных песень амаль не траплялі «прымеркаваныя», г. зн. не велічальныя. Толькі асобныя запісы баладных сюжэтаў адзначаны як валачобныя песні. Пранікненню балад у валачобныя песні спрыяў перш за ўсё іх характар, выразная эпічнасць, часам легендарнасць (сюжэты «сястра і браты-разбойнікі», «Юр'я і цмок», «дзеўка-дзетагубніца» і інш.). Істотнай была і тая акалічнасць, што многія балады дазвалялася спяваць у пост, у тым ліку і ў пост перад вялікаднем. Тады ж спяваліся, як бы рэпеціраваліся, і ўласна валачобныя песні, толькі без рэфрэна «Хрыстос васкрос на ўвесь свет!»

*Гаспадару і гаспадыні*. Узрост чалавека і яго сямейны стан вызначаюць пэўныя тыповыя жыццёвыя мэты, задачы, спадзяванні. У валачобных песнях гэта акалічнасць знаходзіць яскравае адлюстраванне. Гаспадар заўсёды жыве клопатамі пра гаспадарку і сям'ю, і яму найбольш спяваецца песень, дзе працоўныя клопаты, прыбытак, дабрабыт сям'і, сямейнае ўладкаванне сыноў і дачок стаяць на першым плане. Узвелічэнню гаспадара як паўнаўладнага і клапатлівага кіраўніка сямейнага калектыву садзейнічае апісанне ў песнях яго багатага княжага ўбору (у яго шапка бабровая, кунняя шуба, казловыя боты, шаўковы пояс і г. д.), а таксама двара і ўсіх прадметаў, што яго акружаюць (у дварку, як у вянку: пабудовы маляваныя, пазлачаныя; сталы цісовыя; кубкі залатыя з віном, півам і салодкім мёдам). Двор гаспадара — гэта ідэал прыгажосці і функцыянальнасці, даступны ў сапраўднасці толькі багатай феадальнай вярхушцы: двор стаіць «на пагурачку, на падмурачку», каля двара Дунай цячэ, сад над вадою і інш. Вось як падаецца прыход валачобнікаў у прыгожы багаты двор:

А з-пад лесу, лесу цёмнага,
А з-пад гаю зялёнага
Ці не тучкі ідуць, ці не воблачкі?
То не тучкі ідуць, а не воблачкі,
То ідуць, брыдуць валачобнічкі,
Ідуць, брыдуць да шатаюцца,
Залатой траснёй папіраюцца.
Ішлі от яны да шаталіся,

Багатага пана да пыталіся,
За чый-та двор зачапіліся.
А чый жа двор між азёр стаіць,
Між азёр стаіць на пагурачку,
На пагурачку, на падмурачку?
Мікалайкаў двор між азёр стаіць,
Між азёр стаіць на пагурачку,
На пагурачку, на падмурачку.
Шулы точаныя, пазалочаныя,
Падваротнічка — рыб'я костачка.
А на тым дварэ агонь гарыць,
А на тым агні кацёл стаіць,
А ў тым катле піва варыцца,
Кругом катла паня ходзіць,
Залаты ключы й у руках носіць,
Свайго пана пабуджаець...[13]

Гаспадар паказваецца заўсёды ўрачыста і маляўніча, ён самы паважаны ў сваім сяле, яго выбіраюць на ганаровыя пасады, у яго разумная жонка, прыгожыя, здольныя дзеці:

Абяром войтам слаўнага пана,
Слаўнага пана, [пана] Васіля.
Ён жа ўмеець да суды судзіць,
А суды судзіць, судовыя брацці.
Самому ж пану — каня варанога,
А жане ж яго — жоўтыя лісы,
На дзяцей яго — чорныя бабры,
Чорныя бабры, кабраслі дабры...[14]

У песнях, адрасаваных гаспадару, найбольш момантаў, дзе гаворыцца пра ўраджайнасць палёў, прадукцыйнасць статка і інш. Паэтычная ідэалізацыя маёмаснага стану гаспадара ўвасабляе сялянскую мару аб заможным, вольным жыцці, дзе праца святочна-прыгожая і лёгкая, а плён яе надзвычай багаты. Гаспадару валачобнікі прарочаць добрую долю:

Першая доля — жыта ядраное,
Другая доля — коні вараныя,
Трэцяя доля — дзеці дробныя.
Жыта ядраное — пажынаць будзеш,
Коні вараныя — паязджаць будзеш,
Дзеці дробныя — пасылаць будзеш.[15]

---

[13] АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 90, сш. 2, л. 6—7. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1964 г. у в. Янава Сенненскага р. Віцебскай вобл.

[14] Бессонов П. Белорусские песни с подробными объяснениями их творчества и языка, очерками народного обряда, обычая и всего быта. М., 1871, с. 7.

[15] АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 69а, сш. 4, л. 41—43. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1973 г. у в. Віркаў Клічаўскага р. Магілёўскай вобл.

Старажытнае ўяўленне пра добрую долю чалавека ў валачобных песнях канкрэтызуецца ў трох жыццёва важных рэчах: добрым ураджаі (жыта ядраное), адборным статку (коні вараныя), шчаслівай сям'і (дзеці дробныя). У іншых тэкстах таксама вельмі абагулена малюецца багацце гаспадара: у яго тры свіронкі, у адным — жыта і пшаніца, у другім — дарагія сукны, у трэцім — золата і срэбра. Паказчыкам багацця з'яўляецца вялікая колькасць мёду і воску, гэтых старажытных тавараў абмену.

У песнях, скіраваных да гаспадара, даецца таксама паэтычны, вобразны працоўны каляндар і дэталізаваны пералік заняткаў на цэлы год, пачынаючы з ранняй вясны. «Валачобныя песні,— пісаў Н. С. Гілевіч,— у якіх ідзе пералік царкоўных святцаў,— гэта своеасаблівы і вельмі цікавы народны сельскагаспадарчы каляндар, які ў прыгожых і трапных паэтычных формулах, заснаваных на прыкметах і назіраннях, вызначаў парадак і характар вясновых работ. Такіх паэтычных «календароў» існавала мноства, і кожны варыянт у залежнасці ад мясцовасці меў сваю характэрную адметнасць»[16].

Рэгламентацыя работ у часе паказвае, як удала дастасоўвалі земляробы кожную сельскагаспадарчую культуру да мясцовых умоў, з якім добрым веданнем атмасферных змен вызначаліся аптымальныя тэрміны для апрацоўкі глебы, сяўбы, жніва. Земляробчыя заняткі сумяшчаліся ў часе з рыбалоўствам, бортніцтвам, аднак нідзе не згадваецца паляванне, збор лясных пладоў, ягад, арэхаў. Валачобныя песні ўхваляюць культурнае гаспадаранне, земляробства, жывёлагадоўлю, пчалярства, а старажытныя спосабы здабывання прадуктаў харчавання не лічыліся важнымі, хоць не раз выручалі селяніна ад голаду, узбагачалі, рабілі больш разнастайным яго стол. Негатыўнае стаўленне да палявання як да панскай забавы адбілася таксама ў прыказках і прымаўках: «Хто палюе ды рыбачыць, той хлеб рэдка бачыць», «Пакінь стрэльбу і вуду — хлеб скажа: «Я ў цябе буду», «Вала з'ядуць, пакуль зайца заб'юць» і інш.

Каляндар працы, адлюстраваны ў валачобных песнях, увабраў у сябе шматвяковы сялянскі вопыт, дакладныя назіранні за станам надвор'я, традыцыйнае размеркаванне працоўных заняткаў. У найбольш дасканалых песнях каляндар даецца паслядоўна і поўна, без пропускаў і блытаніны. Разгледзім для прыкладу тэкст, запісаны Уладзімірам Усакоўскім у 1869 г. у в. Загор'е Дзісенскага павета ад Аляксандра Альхімёнка. Гэта песня — сапраўдная сялянская паэма, велічны гімн земляробу і яго працы. Яе без нацяжкі можна параўнаць з паэмай Гесіёда «Дні і турботы» (мы прыводзім толькі месцы, звязаныя з працоўнай дзейнасцю):

28 лютага — збор

А збор мовіць гаспадару:
— Слаўны мужу над мужамі,
Тваё дзела на торг ехаць,
Зялеза купляць, нарогі кавацьь.

---

[16] Песні народных свят і абрадаў, с. 66.

14 сакавіка — Аўдакей
22 сакавіка — саракі
30 сакавіка — Аляксей

Аўдакею — дровы сячэць,
А саракі — клады кладзець.
Аляксею — сані на плот,
Сані на плот, рыба аб лёд,
Лёд вадою, рыба лускою.

7 красавіка — благавешчанне

Благавешчанне — араты на ніву,
Араты на ніву, сядун на прызбу.
Гаспадару, слаўны мужу,
Слаўны мужу над мужамі,
Вазьмі, ваша, нову сошку
Да й коніка варанога,
Варанога, маладога.
Едзь жа, ваша, ў чыста поле,
Ў чыста поле заараваць
З соллю, з хлебам.

Пераходнае — вербніца
(з 28 сакавіка па 2 мая)

Вярба свята — нова лета,
Вярба — пасвіці скаціначку,
Вярба сабірала, ў поле гнала.

Пераходнае — вялікдзень, вялікадне, вялічка
(з 4 красавіка па 8 мая)

Свято вялічка дажыдаці
Да й ў радосці, ў весялосці.

Пераходнае — радаўніца
(аўторак веліконага тыдня)

Радаўнічка, ў бога парадлічка,
Парадзіла баранаваці,
Поле раўняці.

6 мая — Юр'я

Святы Юры, боскі ключнік,
Да ідзі ў поле да ў чыстае,
Адамкні зямлю, пусці расу
На ту вясну да й мокрую.

15 мая — Барыс

Святы Барыс ляды пашыць,
Зямлю грэць, ячмень сеіць
З поўнай сявенькі, з правай жменькі.

22 мая — Мікола

Свято Мікола — старая асоба,
Гарох сеіць, па полю ходзіць,
Па полю ходзіць, жытцо гладзіць,
Дзе вымакла, там падсушыць,
Дзе высахла, там падмочыць.

Пераходнае — шоснік
(40 дзён пасля вялікадня)

Святы шоснік — аўсы шастаць.

Пераходнае — сёмуха, сёмка, тройца
(50 дзён пасля вялікадня)

Святая сёмка — поўная сяўба,
Грэчку сеіць святая тройца.
На вуліцы стучыць, гручыць,
Гнайкі возіць, папар арэць.

Пераходнае — дзевятуха
(9-ы чацвер пасля вялікадня)

Дзевятушка-памяжанушка
Па межах хадзіла, жытцо абзірала,
Жытцо абзірала, раўнавала.

Пераходнае — дзесятуха
(10-я пятніца пасля вялікадня)

Дзесятуха красу давала,
А пяцінка красу здымала,
Красу здымала, пятку давала.

7 ліпеня — Іван

Святы Іван коску правіць
Лугі пратаць, сцірты кідаць.

12 ліпеня — Пятра

Свято Пятро — саўсім ядро,
Папар барануіць, грунт гатуіць
Да пільненька ў кузню ідзець,

У кузню ідзець, сярпы зубрыць.
Гаспадару, слаўны мужу,
Слаўны мужу над мужамі,
Збірай, ваша, стары сярпы
Да ідзі ў кузню напраўляці.

2 жніўня — Ілля
Свято Ілля — старая жняя,
Яна жала, не ўважала.

7 жніўня — Ганны
Святыя Ганны да помачы сталі,
Вязь вязалі, копы клалі.

6 жніўня — Барыс
Святы Барысе, за мешань бярыся.

19 жніўня — спас
Святы спас па полі ходзіць,
Копы лічыць, раскладаець:
Гэта на семя, гэта на емя.

Так храналагічна паслядоўна працягваецца пералік сялянскіх работ і заняткаў да канца года. Варыянтаў календара існуе мноства, усе яны разам даюць разгорнуты малюнак працы земляроба.

У сялянскім побыце аж да калектывізацыі гэтыя тэрміны работ у асноўным выконваліся. Іншы раз пачатак работы меў умоўны, абрадавы характар. Скажам, калі 7 красавіка яшчэ нельга было пачынаць суцэльнае ворыва, то ехалі хоць «заворавяць» — аралі загончык на прыгорку, на сухім пясчаным месцы. Свае тэрміны былі і для сяўбы ярыны, і для азімага жыта. Гультая высмейвалі, што ён пакровам жыта сее, калі вядома, што пакроў — канец усім палявым работам, што «пакроў — з поля дамоў».

У валачобных песнях гэтага раздзела знайшлі шырокае адлюстраванне стыхійна-матэрыялістычны светапогляд народа, працоўны вопыт і ўвесь практычна-гаспадарчы аспект яго дзейнасці. Упамінанне хрысціянскіх свят захавалася ў іх таму, што да тэрмінаў, абазначаных святамі, прымяркоўваліся важныя этапы земляробчай працы. Варта падкрэсліць, што такі тыповы каляндар, у асноўным правільна арыентуючы працаўніка, не скоўваў яго, даваляў самому ўносіць пэўныя папраўкі. Руплівы селянін, сказаўшы сабе «Барысе, за саху бярыся», не ленаваўся паглядзець, якой велічыні лісткі на дрэвах, якія птушкі вярнуліся з выраю і г. д. Многае падказвала чалавеку вопытнаму, вясна будзе ранняя ці спозніцца, будзе мокрая ці засушыць. Ад гэтага ж залежала, паспяшацца з работай, ці пачакаць. «Глядзі не па святках, а па цвятках»,— казалі на Мядзельшчыне.

Для разумення валачобнай абраднасці і паэзіі важным з'яўляецца вызначэнне суадносін у іх архаічных язычніцкіх элементаў і ўплываў хрысціянства. Даследчыкі фальклору славянскіх народаў адзначалі неаднаразова захаванне ў каляндарнай абраднасці шматлікіх рыс язычніцтва. Так, народы Югаславіі, незалежна якога яны веравызнання — каталікі ці праваслаўныя, не прытрымліваюцца вучэння і загадаў сваёй афіцыйнай рэлігіі, а захоўваюць дахрысціянскія вераванні і звычаі[17]. На Беларусі таксама хрысціянства за тысячу гадоў панавання так і не змагло перамагчы старажыт-

[17] Календарные обычаи и обряды в странах зарубежной Европы. Конец XIX — начало XX в. Весенние праздники. М., 1977, с. 243.

ныя народныя ўяўленні. Адносіны яго з народнай звычаёвасцю, з даўнімі язычніцкімі абрадамі заўсёды вызначаліся барацьбой, хоць яе напружанне, тактыка мяняліся ў розны час у залежнасці ад шматлікіх абставін і суадносін грамадскіх сіл. Найбольш ваяўнічымі і рашучымі ў справе знішчэння рэштак першабытнага «паганства» былі праваслаўе і каталіцызм, у той час як уніяцтва старалася абаперціся на народныя традыцыі, каб заваяваць больш прыхільнікаў. Пасля далучэння Беларусі да Расійскай дзяржавы і гвалтоўнага хрышчэння уніятаў у праваслаўных гэта барацьба абвастрылася і стала больш выніковай для праваслаўя, што адбілася і на валачобніцтве. Так, М. Я. Нікіфароўскі, апісваючы звычай валачобніцтва і адпаведныя песні ў вёсцы Вымна, што ў 25 вярстах ад Віцебска, з болем адзначаў: «На вялікі жаль, цяпер рэдка можна пачуць валачобнікаў з іх песняю пад вокнамі: валачобніцкія песні становяцца ўжо «келейным» набыткам. Два свяшчэннікі з вялікім самахвальствам казалі мне, што «ў іх прыходах валачобныя песні пахаваны і больш не ўваскрэснуць».[18] Паўстагоддзя раней А. Рыпінскі таксама адзначаў, што валачобніцтва — гэта старажытны абрад, які праклінаюць ксяндзы. Такім чынам, валачобніцтва захоўвалася толькі ў народнай традыцыі дзякуючы вернасці простага люду запаветам продкаў. Гэта адбілася і на валачобнай песні, і на абрадзе. Выказваючы знешнюю лаяльнасць да хрысціянства (прымеркаванне да вялікадня, упамінанне свят царкоўнага календара і інш.), валачобная паэзія захавала старажытную аснову, сумясціўшы толькі народны працоўны каляндар з календаром хрысціянскім. Між іншым, сумяшчэнне адбылося па ініцыятыве царквы, якая, не могучы сцерці з памяці народа даўніх свят і звычаяў, далучыла да іх імёны сваіх святых. Народ ніколькі не змяніў функцыі дахрысціянскіх апекуноў палеткаў і статка, ён не лічыўся з афіцыйнымі біяграфіямі хрысціянскіх святых, пастаўленых на іх месца. Так, Ілля стаў «добрай жняёй» (жаночага роду), Іван — пчаляром, Кузьма — кавалём, які сярпы робіць, Паўлюк граблі робіць, Барыс снапы звозіць, Дзям'ян сена грабе. Калі б да імён не дадавалася слова «святы», то нельга было б вызначыць іх «святасць», бо нічым іншым, акрамя земляробчай працы, гэтыя святыя не займаюцца. У кантэксце валачобных песень імёны царкоўнага календара ўспрымаюцца як назвы пэўных свят, пэўных каляндарных дат: «свята вялічка», «свята Пятро», «свята Мікола», «свята Юр'е» і г. д. Р. Р. Шырма адзначаў, што «народ звяртаўся да такога «святога», як да свайго сябра, з простай вулічнай мянушкай:

— Дзе ж ты бываў, святы Льяшку?
— Я дома не быў, па полі хадзіў,
Па полі хадзіў, копкі глядзеў;
А із каласочка будзе жыта бочка,
А із другога — больш як з тога!»[19]

---

[18] Шейн П. Белорусские народные песни. СПб, 1874, с. 80.
[19] Беларускія народныя песні. У 4-х т. Запіс Р. Шырмы, т. 3. Мн., 1962. с. 6.

Р. Р. Шырма падкрэслівае таксама непасрэдную сувязь валачобных песень з працоўнай дзейнасцю беларуса-земляроба, змену ў іх вобразаў хрысціянскіх святых у адпаведнасці з народнымі, сялянскімі ўяўленнямі: «Хрысціянскае свята вялікадня якраз супадала з праславянскім святам вясны. Наш народ стварыў мноства валачобных песень, аптымістычных па зместу, меладыйная структура якіх заўсёды мажорная. У гэтых песнях народ славіў вясну, родную зямлю, працу і чалавека. Дзеючымі асобамі валачобных песень часта з'яўляліся святыя. Але ж як яны падобны на беларускіх сялян-земляробаў! Гэтыя святыя ніколі не маліліся богу, не цікавіліся жыццём на тым свеце. Яны былі заняты працаю. Гэта зусім рэальныя тыпы, створаныя творчай фантазіяй народа» [20].

Гаворачы пра сувязь валачобных песень з рэальным працоўным жыццём хлебароба, пра паэтызацыю ў іх штодзённай працы, мы не можам цалкам адмаўляць відавочны факт, што тысячагадовая гісторыя хрысціянства на Беларусі, шырока разгорнутая дзейнасць праваслаўнай, каталіцкай і уніяцкай цэркваў усё ж пакінула пэўныя сляды нават у народнай паэзіі, праўда, не закранаючы яе глыбіннага сэнсу. У валачобных песнях, апрача знешніх атрыбутаў хрысціянства, можна знайсці некалькі сюжэтаў, магчыма, створаных каляцаркоўнымі коламі. Асобныя з гэтых твораў цалкам фальклапрызаваліся і пераказвалі легенду пра смерць Хрыста і яго ўваскрэсенне ў адпаведнасці з народнай паэтыкай. Сярод такіх сюжэтаў найбольш пашыранымі былі «Вялік святы» (у беларускай, рускай і польскай рэдакцыях) і «Маці сына нарадзіла», яны спяваліся толькі з рэфрэнам «Алелюя!» або «Хрыстос васкрэс!» Вось, напрыклад, такі тэкст, запісаны ў XIX ст.:

На першы дзень на вялікдзень
Маці сына нарадзіла,
Алелюя, алелюя, алелюя!
(Рэфрэн паўтараецца пасля кожнай страфы)

На другі дзень ахрысціла,
На трэці дзень ў свет пусціла.

Пайшла маці сына йскаці,
Сустрачае трох анёлаў.

— Мае мілы тры анёлы,
Тры вялікі апастолы,

Ці бачылі майго сына,
Майго сына, Хрыста міла?

Адзін кажа:« Я не бачыў».
Другі кажа: «Я й чуць не чуў».

Трэці кажа: «Я й сам бачыў,
Суса Хрыста на руках дзяржаў» [21].

[20] Беларускія народныя песні, т. 3, с. 5.
[21] Календарь Северо-Западного края на 1889 год. М., 1889, с. 136—138.

Адразу кідаецца ў вочы фальклорны прыём траістага паўтору пры звароце маці да трох «анёлаў-апастолаў». Прычым народных спевакоў нікольк не бянтэжыць, што адказы маці гучаць без неабходнай у гэтым выпадку пачцівасці, і «Сус Хрыстос» тут выступае як прыватная асоба. Проста нейкая маці шукае свайго сына.

Песень, адрасаваных гаспадыні параўнальна небагата. Па сваёй накіраванасці яны блізкія да песень гаспадару, што дае нам падставу змясціць і тыя і другія ў адным раздзеле. Сапраўды, у гаспадыні з гаспадаром адна доля, адны і тыя ж жыццёвыя задачы і клопаты. І ўсё ж пад наглядам гаспадыні звычайна была дамашняя жывёла (акрамя коней) і ўся дамашняя гаспадарка. Таму ў валачобных песнях, прысвечаных гаспадыні, часта гаворыцца пра дзіўныя праявы, незвычайны прыплод жывёлы:

Гаспадынечка-журавіначка,
Устань ранелька, не спі позненька,
Бяры фанарок, ідзі у хлявок.
У тваім хляўку цуда сталася:
Сорак каровак ацялілася,
Сорак цялушак нарадзілася,
Сорак бычэчкаў прылучылася!
Бяры свечачку, ідзі ў клецечку,
Пастаў драбінку, лезь па сланінку. [22]

Апісанне вялікага прыплоду дамашняй жывёлы — гэта спосаб узвелічэння гаспадарлівасці, дбайнасці «пані дому», а таксама своеасаблівае пажаданне хуткага паляпшэння дабрабыту сям'і. Гаспадынька паказваецца часта ў багатым уборы, на фоне багатага двара, але заўсёды ў дзейнасці, яна загадвае, радзіць:

А ў сенечках галубок гудзець,
У свяцёлачку галасок нясець:
— Чаму нашы сені не мецены,
Чаму наша пані не весела?
— А ў нашае пані краўцы былі,
Краўцы былі маладзенькія,
Шылі шубачкі даражэнькія,
Шылі яны, шылі, падоўжылі,
Нашай пані не ўнаровілі.
Наша пані па двару ходзіць,
След замятаець, слуг пабуджаець. [23]

Да гаспадыні, як і да гаспадара, валачобнікі звяртаюцца з ласкавым словам «гаспадынечка-журавіначка», «гаспадынька, як малінка», а калі не ўзвелічаюцца яе асабістыя якасці, то ўсхваляецца яе род, бацька, маці, паэтызуюцца самыя звычайныя дзеянні гаспадыні. Здавалася б, што можна

---

[22] Беларускія народныя песні, т. 3, с. 42, № 25.
[23] Бессонов П. Белорусские песни, с. 10, № 10.

асабліває сказаць пра штодзённы абавязак жанчыны прыносіць дамоў ваду? У валачобных песнях гэты занятак ператвараецца ў бліскучы паэтычны вобраз:

Да чыя жана была гаспадыня,
Да на ціхі Дунай па ваду хадзіла?
Да брала яна вёдры да ўсё новыя,
Да почапачкі атласовыя,
Да каромысел — яваровы корань.
Да прыходзіць яна к ціхаму Дунаю,
Да што раз махне — серабра займе,
Другі раз махне — да то золата. [24]

Часам пахвала гаспадыні выказваецца прасцей, але нават просты пералік яе спрадвечных абавязкаў набывае велічальны сэнс, асабліва гэта датычыцца жанчыны-праллі, жанчыны-ткаллі.

Мая жонка недакушная,
Раненька ўстаець і тоненька прадзець,
Часценька тчэць і беленька беліць,
І беленька беліць, і хораша ходзіць,
І хораша ходзіць, хадзяйства водзіць. [25]

Калі ж справа даходзіць да выпрошвання дароў, тон валачобнай песні становіцца менш урачыстым, зварот да гаспадароў, асабліва да гаспадыні, праменіць гумарам, дабрадушным падахвочваннем:

Гаспадыня прутка, сабірайся хутка,
Кажушок на пашку, на стол — пляшку,
Кілбасы ў куточку вісяць на пруточку,
Падстаўляй драбінку, лезь па сланінку. [26]

Валачобныя песні паўтараліся розным гаспадарам не механічна, а дастасоўваліся да канкрэтнай сітуацыі. Так, нелагічна было хваліць сыноў гаспадара, калі той меў толькі дачок, славіць гаспадыню, калі гаспадар быў удаўцом, і інш. Вопытны пачынальнік так падбіраў песні, так іх на хаду «рэдагаваў», што яны нікога не крыўдзілі, кожнаму казалі нешта прыемнае. Таксама ж старанна падбіраліся і песні гаспадыні. Напрыклад, маладой жанчыне, што толькі нядаўна выйшла замуж, прысвячалася песня, якая тэматычна пераклікалася з вясельнай паэзіяй. Будуецца яна на паралелізме, характэрным для апошняй:

Каялася да сіва зязюлька,
Да зялёны явар, кудравы!
(Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка)

---

[24] АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 72, сш. 3, л. 56, № 68. Зап. Л. М. Салавей і Н. М. Маркава ў 1973 г. у Кіраўскім р. Магілёўскай вобл.
[25] Шейн П. В. Белорусские народные песни, с. 111.
[26] АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, спр. 80, сш. 1, л. 21, № 9. Зап. К. А. Цвірка ў 1974 г. у Валожынскім р. Мінскай вобл.

Што заранё з выр'ю вылятала:
Яшчэ снягі па гарах ляжаць,
Яшчэ воды па лугах стаяць.
Цешыў, нежыў яе салавейка:
— Кайся не кайся, сівая зязюлька,
Да тыя снягі да парастаюць,
Тыя воды ў берагі ўвойдуць.
Каялася малада дзевачка,
Што маладая да замуж пашла:
— Яшчэ дзела не ўсё ўмею,
Не ўсё ўмею, не разумею.
Цешыў, нежыў яе малады дзяцінка:
— Кайся не кайся, мая маладзенька,
Ёсць у мяне да старая бабка,
Старая бабка да мая матка.
Будзе яна рана уставаці,
Рана [redacted] уставаці, цябе пабуджаці,
Цябе пабуджаці, дзела навучаці. [27]

*Дзяўчыне.* Багаты рэпертуар песень, прысвечаных дзяўчыне. Гэта і зразумела, дзяўчаты заўсёды былі дома ў час валачобных абходаў, у той час як дарослыя хлопцы самі былі валачобнікамі. Акрамя таго, у слаўленні дзяўчыны, відаць, праявілася рыцарская галантнасць, еўрапейскі культ жанчыны. У беларускіх валачобных песнях паненка прыгожая, нібы кветка. Яна разумная, адукаваная, здатная да работы, з добрага роду (багатага бацькі, разумнае маткі) — роўная толькі каралевічу.

Валачобнікі ў песнях з'яўляюцца носьбітамі цікавых для дзяўчыны навін. Яны паведамляюць ёй, што едзе або хутка будзе ехаць прыгожы і багаты жаніх, нетутэйшы паніч ці каралевіч. Сама дзяўчына характарызуецца даволі лаканічна; набор эпітэтаў, якія стала ўжываюцца пры гэтым, невялікі. Яна найчасцей «млода панначка», «красна паненка», «слічна паненка». Значна шырэй выкарыстоўваюцца разнастайныя параўнанні:

Ясна, красна да на небе зорка,
Ясней, красней слічная паненка. [28]

Ай, ясен, красен мак у гародзе,
Ай, ясней, красней Дарутка ў мамкі. [29]

Сама млода, як ягода,
Як вішанька садавая,
Як ягадка баравая. [30]

---

[27] АІМЭФ, ф. 8, воп. 78, спр. 148, сш. 7, л. 14—15. Зап. С. Т. Асташэвіч і У. А. Васілевіч у 1978 г. у Карэліцкім р. Гродзенскай вобл.
[28] Песні валачобных свят і абрадаў, с. 107.
[29] Ш е й н П. В. Материалы, т. 1, ч. 1, с. 163.
[30] Беларускія народныя песні, т. 3, с. 81.

Параўнанне выкарыстоўваецца і ў тых выпадках, калі паказваецца шчаслівае жыццё дзяўчыны ў сваіх бацькоў:

Гадуешся
У таткі, ў мамкі
На выгодзе,
Як садочак
На пагодзе. [31]

У валачобных песнях багатая шлюбная сімволіка. Тут і залатыя кубкі, і залатыя ды срэбраныя пярсцёнкі, пярловыя, залатыя, «руцвяныя» вянкі, шаўковыя хусткі. Прычым у песнях падаецца і расшыфроўка гэтых сімвалаў:

Хуста бяленька — на вітаннейка,
Залаты персцень — на мяняннейка,
Сама маладзенька — на вянчаннейка. [32]

Або:

Залаты кубак — на папіванне,
Руцвяны вянок — на заручанне,
Злотны персцень — на вянчанне. [33]

Звычайна сімвалы замужжа (залатыя пярсцёнкі, пярловыя вянкі, залатыя кубкі, шаўковыя хусткі) адначасова з'яўляюцца і сімваламі багацця. Побач з гэтым у песнях дзяўчыне шмат расліннай сімволікі, верагодна, больш архаічнай па свайму характару: дзяўчына шчыпле кветкі ружы, пляце вянок з руты, мяты, ліле́і, «з ліповых цвяткоў, з кляновых лісткоў» і інш. Расліны ў песнях часта надзяляюцца незвычайнымі якасцямі, якія служаць дзяўчыне вельмі важную службу. Так, грушка або вярба з залатымі галінкамі, лісцем ці залатой расой з'яўляюцца для таго, каб заморскія птушкі атрэслі з іх золата паненцы на тры «надобіны»—кубак, персцень, вянок (кованы пояс). Ва ўсіх выпадках прыгожая руплівая паненка збірае гэтыя дары, нясе да кавалёў, каб выкавалі ёй неабходныя рэчы. Гэта песенная перапрацоўка матыву цудоўных памочнікаў. Як і ў казках, звычайныя рэчы становяцца чымсьці незвычайным у руках добрага і сумленнага чалавека, дапамагаюць яму выйсці з цяжкага становішча, перамагчы. Уключэнне матыву цудоўных памочнікаў у валачобныя песні ўзмацняе велічальны іх характар.

Сродкам узвелічэння дзяўчыны з'яўляецца таксама і абмалёўка яе суджанага. Звычайна гэта знатны паніч, рыцар, што «з коніка не ссядае, з страмён ножак не вымае, перад крулем шапкі не знімае». Паколькі ў нава-

---

[31] АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 55, сш. 1, л. 21, № 15. Зап. С. В. Барыс у Міёрскім р. Віцебскай вобл.

[32] АІМЭФ, ф. 8, воп. 76, спр. 123, сш. 2, № 41. Зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у Полацкім р. Віцебскай вобл.

[33] F e d e r o w s k i M. Lud białoruski, t. V, c. 662, № 1555.

кольным жыцці няшмат было месца для цудаў, а рэальныя жаніхі былі простымі сялянскімі хлопцамі, то незвычайны жаніх мусіў прыехаць з чужых зямель, з далёкай краіны.

Едзіць паніч не тутэйшы,
Не тутэйшы — загранічны,
Загранічны, пекны, слічны.
Сам панічык маладзенькі,
Пад ім конік вараненькі,
На ім шуба шоўкам шыта,
Пад ім сёдла злотам літа.[34]

Песні, у якіх паненка прапануе «адгоды» (узнагароду) за знойдзены вянок ці злоўлены залаты персцень, маюць вялікую колькасць варыянтаў і разнастайных рашэнняў. Найбольш цікавымі з'яўляюцца тыя, дзе ўзнагарода ўдаламу малоўцу — шлюб з прыгожай паненкай. Тады просьба дзяўчыны дапамагчы ёй набывае значэнне задання перадшлюбнага спаборніцтва: пераможца бярэ яе замуж, яго таварышы — адпаведна сястру і сяброўку гераіні:

За першага сама пайду,
За другога сястру аддам,
А за трэцяга — таварышку.
Сама пайду у золаце,
Сястру аддам у атласе,
Таварышку — ў аксаміце.
Сама буду панаваці,
Сястра будзе пасцель слаці,
Таварышка — жыта жаці.[35]

Траістасць гэтага малюнка — гэта як бы ступенькі сацыяльнай лесвіцы, на вяршыні якой знаходзіцца тая дзяўчына, якой прысвячаецца песня. Такім чынам, разгледжаны прыём таксама служыць асноўнай мэце — узвелічэнню, усхваленню дзяўчыны.

Некаторыя сюжэты песень, адрасаваных дзяўчыне, сустракаюцца як у калядным, так і ў валачобным рэпертуары. Такім з'яўляецца сюжэт пра дзяўчыну-красуню, перад якой устаюць баяры, здымаюць шапкі, думаючы, што яна вайтоўна або каралеўна.

Асобныя песні з гэтага раздзела, напрыклад тыя, дзе хлопец і дзяўчына расказваюць адзін аднаму небыліцы, правяраючы кемлівасць і пачуццё гумару адзін другога, могуць быць адрасаваны і дзяўчыне і хлопцу.

*Хлопцу.* Гэты раздзел адносна небагаты сюжэтамі. Услаўленне рыцарскай доблесці малойца і напамінак пра яго жаніцьбу, што мае адбыцца ў хуткім часе,— асноўны змест песень гэтага раздзела. Для іх характэрна

---

[34] Hurynowicz A. Zbiór rzeczy białoruskich z gminy Wiszniewskiej parafii Żodziskiej pow. Świencianskiego gub. Wileńskiej. Zbiór wiadomości do antropologii krajowej, t. XVII, dz. 2. Kraków, 1893, c. 56, № 154.

[35] АІМЭФ, ф. 8, воп. 76, спр. 119, сш. 3, л. 20. Зап. А. С. Ліс у 1976 г. у Маладзечанскім р. Мінскай вобл.

эпічная разгорнутасць малюнкаў, уключэнне казачных, міфалагічных матываў. Найбольш прадуктыўна выкарыстоўваецца матыў цудоўных памочнікаў, у ролі якіх выступаюць змяя, чорны арол, сокал, голуб, куна і інш. Выдатны стралок малойчык хоча забіць каго-небудзь з гэтых істот, яны ж просяць дараваць ім жыццё, за што абяцаюць дапамогу ў адказны перыяд жыцця хлопца — у час яго жаніцьбы. Так, змяя абяцае яму сказаць тры радасці, тры весялосці:

Першая радасць — цябе бог завець,
Цябе бог завець і долю даець.
Другая радасць — цябе пан завець,
Цябе пан завець, зямлю даець.
Трэцяя радасць — цябе цар завець,
Цябе цар завець, дачку аддаець.[36]

У іншых распрацоўках сюжэта змяя абяцае служыць у вясельнай дружыне:

Стала змяя прасіціся:
— Не тні мяне, бел малойчык, гэй, лолам!
Не тні мяне, бел малойчык.
Стану я табе ў прыгодзе, гэй, лолам!
Стану я табе ў прыгодзе.
Пушчу сынкі у часнічкі, гэй, лолам!
Пушчу сынкі у часнічкі.
А дачушкі — у сванечкі, гэй, лолам!
А дачушкі — у сванечкі.
А старога — за старосту, гэй, лолам!
А старога — за старосту.
Сама стара — за кухарку, гэй, лолам![37]

За дараванае жыццё арол абяцае ў час вяселля малойчыка перавезці яго і дружыну цераз раку, на якой няма перавозу:

Некалі буду знадобен табе.
А як будзеш ты жаніціся,
Твая дзевачка а й за ракою,
А й за ракою, а й за вадою.
Не будзець табе ні пераезду,
Ні пераезду, ні пераходу.
Я млода цябе — на правым крыле,
Тваю дзевачку — блізка д'ля цябе,
Тваю дружыну — на серадзіну,
Тваіх сваточкаў — ой, на хвасточку,
Тваіх конікаў ўсіх уплаў пушчу,
Тваіх сабакаў ўсіх перасвішчу,
Тваіх музыкаў хоць на языку.[38]

---

[36] Бессонов П. Белорусские песни, с. 12—13, № 14.
[37] Federowski M. Lud białoruski, t. V, c. 682, № 1593.
[38] АІМЭФ, ф. 8, воп. 76, спр. 123, сш. 1, л. 57—58. Зап. Л. М. Салавей у Лепельскім р. Віцебскай вобл.

У значнай колькасці песень, прысвечаных хлопцу, падаюцца малюнкі лоўлі незвычайнага каня, якога ніхто не можа ні злавіць, ні асядлаць. Толькі малойчык здатны на такі ўчынак, за тое конь робіцца яго памочнікам, другам, дапамагае перамагаць у бойках, знайсці дзяўчыну і інш. У некаторых песнях хлопец выступае як уладны каралевіч, якому пакараюцца нават чужыя землі: ён піша лісты ў тры зямлі, каб прыслалі яму даніну, праўда, гэта даніна носіць умоўны характар. Убор малойца, яго конь, збруя каня — усё малюецца як найлепшае, найдаражэйшае. Тут жа і харты, і сокал-памочнік:

Слічны паніч пан Васілька,
Устань рана, умыйся бела,
Пачашы галоўку гладзюсенька,
Надзень кашульку бялюсеньку,
Надзень штонікі гернатовыя,
Панчошачкі бялёвыя,
А боцікі казловыя.
Надзень сукню саятовую,
Падпаяшы пояс залачоны,
Надзень шапку парловую,
Вазьмі ключы сталёвыя,
Ідзі ў стайню мураваную,
Выбірай сабе, ой, коніка,
Ой, коніка найлепшага,
Найлепшага, варанога,
А сядзельца залатое,
А уздзечку сярэбраную,
А падпружачку саятовую.
Вазьмі хартоў бялюсенькіх,
Вазьмі стрэльбу мечавую,
Вазьмі шаблю сталёвую.[39]

Калі суадносіць бытавыя рэаліі, пра якія гаворыцца ў песнях, з сялянскім бытам мінулага стагоддзя, то мы маем прыклад звычайнай ідэалізацыі, паэтычнай выдумкі для ўзвелічэння адрасата песні. Калі ж уявіць, што песня адрасавалася княжычу, які жыў у XII ці XIII ст., то малюнак адразу ператвараецца з фантастычнага ў рэальны. Звернемся да гістарычных дакументаў.

«Хроніка літоўская і жмойцкая», расказваючы пра смерць і пахаванне вялікага князя Свіндарога Уцянесавіча (1300 г.), падае цікавую этнаграфічную замалёўку «Погребы якие были литовские» (пра спальванне нябожчыкаў і пакланенне ідалам, пастаўленым на месцы «жэглішча»): «...учинил жеглище и там спалил тело отца своего и коня, на котором ездил, и шату, которую носил, и покоёвого его, на которого завше был ласкав, сокола и хорта его спалил...»[40] Як бачым, летапісны пералік рэчаў князя, якія з'яўляюцца як бы яго атрыбутамі, дакладна супадае з пералікам з валачобнай песні:

---

[39] Бессонов П. Белорусские песни, с. 12, № 13.
[40] ПСРЛ, т. 32. М., 1975, с. 31.

конь, хорт, сокал, дарагое ўбранне (шаты), верныя слугі. Гэта дае падставу меркаваць, што песня ўзнікла ў глыбокай старажытнасці, яна «з натуры» брала свае вобразы, якія за стагоддзі бытавання ў вуснай перадачы мала змяніліся, захаваўшы амаль першапачатковую дакладнасць і паўнату. Пад дзеяннем часу і новых сацыяльна-эканамічных адносін змянілася, аднак, успрыняцце гэтых малюнкаў і вобразаў: некалі дакументальна строгія, яны набылі якасці эстэтычных ідэалаў, мастацкіх знаходак.

У песнях, адрасаваных хлопцу, сустракаецца шэраг вобразаў і матываў, звязаных з міфалагічнымі ўяўленнямі нашых продкаў: ушаноўваліся арол і змяя, свяшчэнным дрэвам лічыўся дуб, глыбокае сімвалічнае значэнне мела пераправа цераз раку і інш. Нездарма ў песнях арол размяшчаецца на дубе, змяя — на камені, і дуб вырастае часта з казачнай хуткасцю на нашых вачах:

Да ляцяць, ляцяць два галубочкі,
Да нясуць, [нясуць] да па жалудочку.
Дзе жалуды палі, там два дубы сталі.
Між тых дубоў да Дунай цячэ,
У том Дунаі чаўнок плыве,
У том чаўнаку малады паніч. [41]

Або:

Ляцела сава з чыстага поля,
Несла жолуд на крылочку,
Кінула жолуд на багаты двор,
На багаты двор, на салодкі мёд,
На салодкі мёд, на жалезны тын.
А з таго жалуда вырас дубок,
Вырас дубок тонак, высок,
Тонак, высок, падгалісты.
А на том дубу чоран арол,
Чоран арол гняздзечка ўець. [42]

Асаблівасцю валачобных песень, адрасаваных хлопцу, з'яўляецца лаканічнасць заключнай часткі, дзе выказваецца намёк пра дары валачобнікам. Гэта можна растлумачыць тым, што малады хлопец не кіраваў гаспадарчымі справамі, надзяляць спевакоў маглі толькі бацькі, якім і скіроўваліся шматлікія гіпербалізаваныя пералікі дароў. Песні ж, адрасаваныя дзяўчыне, заўсёды мелі разгорнутую заключную частку з выпрошваннем падарункаў. Магчыма, гэта выклікана тым, што бацькі баяліся, каб пра дачку не сказалі благога слова, не зганілі, і стараліся, чым маглі, задобрыць валачобнікаў.

Наогул песні, прысвечаныя дзяўчыне і хлопцу, мала закранаюць гаспадарчую тэму. Усхваленне паненкі і паніча, напамінак пра каханую (каханага), пра блізкі шлюб — вось асноўны змест гэтых песень.

---

41 Крачковский Ю. Ф. Пасха у сельчан белорусов.— «Виленский вестник», 1895, № 73—74.
42 АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 44, сш. 21, л. 5. Зап. Л. Б. Раман у 1971 г. у в. Камень Валожынскага р. Мінскай вобл.

*Бабуль.* У песнях, змешчаных у гэтым раздзеле, гаворыцца пра прыход валачобнікаў, бабіных унучкаў, да бабулі і пра тое, як яна надзяляе ўсіх чырвоным яйкам, толькі сіраце не хапае падарунка. Сірата моцна крыўдзіцца, плача, за крыўду атрымлівае багаты дар і добрую долю або адвяргае дары і просіць у бабкі толькі традыцыйнае велікоднае яйка. Атрымаўшы яго, адыходзіць, належна дзякуючы, падскокваючы ад радасці. Чырвонае яйка мае значэнне рытуальнага падарунка, адсюль такая вялікая яго каштоўнасць.

Матыў чырвонага («краснага») яйка пашыраны ў звычаях і абрадах усіх індаеўрапейскіх народаў, з ім звязана многа розных прыкмет, вераванняў, варожбаў, засцерагальных дзеянняў, гульняў. На Беларусі быў пашыраны звычай «хадзіць па яйка» на першы дзень вялікадня, у якім удзельнічалі толькі малыя дзеці. Этнографы адзначаюць, што першае падараванае яйка захоўвалі цэлы год, верылі ў яго цудадзейную сілу. Існаваў таксама звычай мыцца на вялікдзень у вадзе, у якую былі пакладзены чырвонае яйка, залатыя і срэбраныя рэчы, каб увесь год быць здаровым і багатым [43]. Чырвоным яйкам маці гладзілі дзяцей па тварах, каб былі здаровыя і прыгожыя. Яйка клалі ў варотах, выганяючы на Юр'я першы раз у поле жывёлу. Шкарлупкі ад чырвоных яек закопвалі на жытняй ніве, каб лепей радзіла. Чырвоныя яйкі пакідалі на радаўніцу на магілах родных. Яйкі не толькі фарбавалі ў чырвоны колер (часам у іншыя), але і наносілі на іх розныя знакі, узоры, рабілі пісанкі. Характэрна, што звычай дарыць яйкі даследчыкі разглядалі як навагодні: «...Звычай дарыць адзін другому яйка быў вядомы ў глыбокай старажытнасці. Вядома, што ўсе народы ў Еўропе і Азіі ў язычніцтве мелі звычку ў час святкавання Новага года, які пачынаўся амаль у адзін час з хрысціянскім вялікаднем, ставіць на стол яйкі і рабіць імі адзін другому падарункі» [44]. Усё гэта, відаць, абумоўлена дахрысціянскімі ўяўленнямі пра яйка як сімвал жыцця. Гэтыя ўяўленні данеслі да нас валачобныя песні і велікодныя звычаі, хоць магічны сэнс іх ужо не ўсведамляўся.

Паэтыка валачобных песень надзвычай цікавая, але яна недастаткова вывучана. З даследаванняў апошніх гадоў варта адзначыць працу Н. С. Гілевіча, у якой разглядаюцца некаторыя істотныя асаблівасці паэтычнай мовы беларускай народнай лірыкі, у тым ліку і велічальных песень [45].

Адбор паэтычных сродкаў у валачобных песнях, інтэнсіўнасць выкарыстання асобных з іх абумоўлена асноўнай задачай гэтых песень — узвелічэннем чалавека працы і яго сям'і, яго маёмаснага становішча, пажаданнем яму ўсялякіх даброт на ўвесь год. Таленавітыя невядомыя паэты мінуўшчыны

---

[43] Каминский И. Народные верования в праздник пасхи.— «Минские епархиальные ведомости», 1877, № 7, с. 148.
[44] Ивашин И. Пасхальные обряды и обычаи в деревне.— «Витебские губернские ведомости», 1905, № 87.
[45] Гілевіч Н. С. Паэтыка беларускай народнай лірыкі. Мн., 1975.

напоўнілі валачобныя песні бліскучымі святочнымі вобразамі і малюнкамі, у якіх запаветныя мары перапляліся з рэальнасцю, палёт нястрымнай фантазіі — з дакументальным пералікам прадметаў і спраў.

Як ужо адзначалася, у валачобных песнях шырока выкарыстоўваюцца сталыя эпітэты: салодкі мёд, белы сыр, роўнае поле, ключы залатыя, жнейкі маладзенькія і г. д., разнастайныя параўнанні, сімволіка, гіпербала, паўторы, цікавыя формы рыфмоўкі і інш. Вобразна-выяўленчыя сродкі ў валачобных песнях валодаюць незвычайнай змястоўнай ёмістасцю. Так, паўторы «Тыныпрытыны папрытынены, сады-прысады панасаджаны...», пастаўленыя ў пачатку, сярэдзіне і канцы адной з песень, ствараюць, па словах Н. С. Гілевіча, «тры апоры дзівоснага паэтычнага маста, па якім з мілагучным звонам прабягае «цягнік-ідэя», падкрэсліваючы, узмацняючы асноўную думку твора, што разумная разважлівая жонка — вялікае шчасце для гаспадара, яго найпершы дарадца, маральная апора. А вось прыклад, як узмацняецца праслаўленне заможнасці гаспадара, калі ўводзіцца адна з распаўсюджаных стылістычных фігур — анафара:

Саджай жняёк за столічак,
За столічак за цясовенькі,
За цясовенькі, за кляновенькі,
За скацеркі бярчастыя,
За тарэлачкі трайчастыя,
За ложачкі серабрастыя,
За хлябцы за сітовыя,
За стравіцу за сахарную.

Кожны тэкст валачобнай песні — гэта дасканалы твор мастацтва, прыклад віртуознага валодання шырокім арсеналам сродкаў народнай паэтыкі, лексічным і сінтаксічным багаццем беларускай мовы, умелага выкарыстання гукапісу і інш. Паэтыка валачобных песень заслугоўвае асобнага даследавання.

Важнае месца ў валачобных песнях адводзіцца рэфрэну, які мае тут самастойнае сэнсавае значэнне. Іменна рэфрэн з'яўляецца галоўнай весткай валачобнікаў пра пачатак вясны, пачатак новага года. Нездарма хор падхватнікаў спяваў рэфрэн заўсёды гучна і ўзнёсла. І з фармальнага боку значэнне рэфрэна надзвычай вялікае: паўтараючыся за кожным радком тэксту, ён надаваў песні строгую арганізаванасць, рытмічнасць, структурную празрыстасць. Тое, што валачобную песню часта называлі па рэфрэну («лалын»), дадаткова сведчыць пра яго значымасць у народным успрыняцці.

Самымі старажытнымі, на наш погляд, з'яўляюцца тыя рэфрэны, якія былі сігналам новай пары года, пачатку вясны. Такімі з'яўляюцца «Вясна красна на ўвесь свет!», «Вясна красна на двары!», «Жаркае сонца ў аконца!», «Жаркае сонейка ўзойдзе!» і інш. Акрамя таго, існуе шмат рэфрэнаў, дзе нагадваецца зеляніна: «Зялёны явар, зялёны!», «Зялёны явар, дуброва!», «Зялёна траўка-мураўка!», «Зялёны сад вішнёвы!», «Да віно ж, віно зеля-

но!» Заўважым, што «віно зеляно» тут нельга атаясамліваць з віном як пітвом. Валачобныя песні захавалі даўняе значэнне слова «віно» — вінаградны куст або гронка вінаграду [46]. Паходжанне і значэнне рэфрэнаў «Лолам!», «Гэй, лолам!», «Лалым-лалым!», «Ля-лей-ля!» цяжка растлумачыць. Яны характэрны для паўночна-заходняй часткі Беларусі. Самымі познімі па паходжанню, відаць, з'яўляюцца рэфрэны, звернутыя непасрэдна да саміх выканаўцаў: «Спявайма, братцы, спявайма!», «Іграйце, малойцы, спявайце!», «Няхай так будзе!» і інш.

У беларускай фалькларыстыцы рабіліся спробы растлумачыць паходжанне рэфрэна «Лолам!» Так, Р. Р. Шырма пісаў: «Самы старажытны від валачобных песень, на нашу думку, песні «лалоўныя». Прыпеўкі «Эй, лолам!» або «Ой, лола!», напэўна, былі некалі зваротам да паганскага бога, таксама як «Лель», «Лялі», «Лала» [47]. Прыведзеная паралель, на жаль, нічога не тлумачыць, паколькі яшчэ пераканальна не даведзена, што «Лель», «Лялі», «Лала» былі персанажамі язычніцкага пантэона. На гэту акалічнасць звяртаў увагу яшчэ П. В. Шэйн.

Шырокая распаўсюджанасць у еўрапейскіх народаў блізкіх па гучанню рэфрэнаў «Люлі», «Лалы», «Лялі», «Лады» сведчыць аб іх старажытнасці, спакушае шукаць першапачатковы сэнс. «Хроніка літоўская і жмойцкая», апісваючы пад 1375 годам вяртанне вялікага князя Альгерда з пахода на Маскву, які закончыўся мірным пагадненнем «без розляня крови», падае такі момант: «А потым Олгерд з Витебска з жоною своею ехал до Вилня, где вышло против ему все посполство, плешчучи руками, спевали «ладо», «ладо», ведлуг обычаю поганского, оказуючи радость с повороту князя своего» [48]. Як бачым, летапісец падкрэслівае, што звычай «паганскі» і што выказвалася радасць, а не зварот да бога. Тэрміны «лалы́н» і «лалы́нка», відаць, можна звязаць з «ла́лы», што, паводле тлумачэння І. І. Насовіча, азначае пажыву, выгаду («Мінуцца яму лалы́. Ня будзеш мець нідзе такіх лалоў, як тут»), а паводле П. А. Растаргуева,— памінкі па нябожчыку («Няма, пашоў на ла́лы») [49]. У гаворцы Мсціслаўшчыны «лало́» значыць «добра», «прывольна» [50]. Такім чынам, рэфрэн «Лолам!» перадае настрой радасці, задавальнення, выгоды, аднак раскрыць яго першапачатковае значэнне пакуль што няма магчымасці.

Хрысціянства ўнесла ў валачобныя песні свае рэфрэны, але варыянтнасць іх абмежаваная: «Хрыстос васкрос сын божы!» або «Хрыстос васкрос на ўвесь свет!» Новы рэфрэн быў дакладна пакладзен на музычную

[46] Слоўнік мовы Скарыны. Мн., 1977, с. 53.
[47] Шырма Рыгор. Песня — душа народа. Мн., 1976, с. 115.
[48] ПСРЛ, т. 32. М., 1975, с. 62.
[49] Носович И. И. Словарь белорусского наречия. СПб, 1870, с. 264; Расторгуев П. А. Словарь народных говоров Западной Брянщины. Мн., 1973, с. 147.
[50] Юрчанка Г. Ф. Народная сінаніміка. Мн., 1969, с. 232.

фразу традыцыйнага «Вясна красна на ўвесь свет!» У свядомасці выканаўцаў зберaглося разуменне гэтай замены, таму адны і тыя ж песні ў адной і той жа мясцовасці спяваюцца з дахрысціянскімі і хрысціянскімі рэфрэнамі, а ў час рэпетыцый апошнія наогул не ўжываюцца. Імкнучыся падкрэсліць старажытную народную аснову валачобных песень, мы ўзнавілі ў тэкстах дахрысціянскія рэфрэны (пададзены ў квадратных дужках).

* * *

Вылучэнне валачобных песень з усёй масы народных твораў не ўяўляе цяжкасці. Яны адрозніваюцца не толькі зместам і своеасаблівасцю мелодый, але і спосабам выканання, строгай прымеркаванасцю да адной пары, яркімі, толькі ім уласцівымі рэфрэнамі. Усё гэта дазваляла нават аматарам-збіральнікам беспамылкова вызначыць жанравую прыналежнасць гэтых песень. Адносна нешматлікія выпадкі, калі ў ліку валачобных выконваліся балада ці карагодная песня, не зацямнялі наогул яснага малюнка. У запісах валачобныя песні заўсёды дакладна азначаны, хоць тэрміны ўжываліся розныя.

Самае першае апісанне валачобніцтва пакінута нам А. Рыпінскім. Яно змешчана ў кніжцы «Беларусь», выдадзенай у 1840 г. у Парыжы, дзе апынуўся, ратуючыся ад праследаванняў царскага ўрада, наш зямляк-паўстанец. Апісанне зроблена па памяці, тым не менш аўтар прадэманстраваў добрае веданне беларускай абраднасці і ўпершыню пазнаёміў навуковую грамадскасць з самабытным валачобным абрадам нашага народа. Так, А. Рыпінскі піша, што «люд тутэйшы мае своеасаблівы, яму толькі ўласцівы, пракліна-ны ксяндзамі, а да сёння, аднак, жывы рэлігійны нібы абрад «валачэбнікаў» [51]. Ён вызначае ролю (і падае тэрмін) «пачынальніка», называе яго імкавым правізатарам, які спявае асноўны тэкст песні, а астатнія пад акампанемент скрыпкі за кожным радком гучна прыпяваюць рэфрэн «Хрыстос васкрос на ўвесь свет!» Рыпінскі прыводзіць пачатак першай песні, якую спяваюць пад акном кожнай хаты:

Валачэбнічкі валачыліся,
Валачыліся, памачыліся.

Упамінаецца таксама другі характэрны персанаж валачобнай групы — механоша, «горкай» долі якога спачуваюць таварышы:

Механошага горкая доля:
Чырвон злоты у паперачку
Ды сыр малады на талерачку.

Аўтар зазначае, што песні, адрасаваныя паненцы, мелі рэфрэн «Пейце, малойцы, спявайце!» Наогул у нататках выказваецца шкадаванне, што звычаі нашага народа, такія маляўнічыя і прыгожыя, не сталі тэмамі для прац тагачасных мастакоў.

---

[51] Rypiński A. Białoruś. Paryż, 1840, c. 45—49.

У 1847 г. было выдадзена этнаграфічнае апісанне Барысаўскага павета Яўстахія Тышкевіча [52]. Тут пададзены цікавы ўзор валачобнай песні, дасканалай у мастацкіх адносінах, з дадаткам кароткіх нататак пра абрад валачобніцтва.

Асноўная колькасць валачобных песень была сабрана і часткова апублікавана ў другой палавіне XIX ст. Дастаткова назваць імёны вядомых збіральнікаў Е. Раманава, П. Шэйна, К. Тышкевіча, Ю. Крачкоўскага, А. Гурыновіча, А. Чэрнага, М. Федароўскага, каб пераканацца, што адзначаны перыяд беларускага збіральніцтва быў вельмі плённым.

Тры валачобныя песні змешчаны ў зборніку Елізаветы Паўлоўскай (Е. П.) з Быхаўшчыны [53]. Яны даволі цікавыя для нас сваім зместам, але не маюць эпічнай разгорнутасці і шырыні.

У 50-х гадах XIX ст. некалькі валачобных песень апублікаваў Г. П. Семянтоўскі. Запісы зроблены на Віцебшчыне, у Себежскім, Суражскім і Гарадокскім паветах. Збіральнік адзначае, што выканаўцы не маглі растлумачыць мясцовай назвы валачобных песень «лалын». Для іх «лалын» — гэта «святая песня», хоць змест яе ніякай асаблівай «святасці» не мае [54].

Тры валачобныя песні і невялікую нататку пра валачобны абрад змясціў П. Бяссонаў у зборніку псалмаў і розных «духоўных вершаў» «Калекі перахожыя» [55]. Тэксты запісаны ў Смаленскай губерні, якую збіральнік памылкова лічыў месцам найбольшага пашырэння валачобніцтва, і ўяўляюць сабой дэфармаваныя варыянты, дакладней рэшткі валачобных песень:

Валачобныя — людзі добрыя,
Валачыліся, памачыліся,
Хрыстос васкрос сам гасподзь!
Пачынальнічку — чырвон залаты,
Механошу — хоць тры грошы,
А пяўцам — канец пірага.

Бяссонаў тлумачыў паходжанне слова «валачобнікі», «валачобныя» ад «валачыцца», бачыў у гэтым падабенства валачобнікаў з вандроўнымі калекамі, скамарохамі. Ён гаварыў таксама пра падзел роляў у валачобнай дружыне (запявала-пачынальнік, механоша). Паводле Бяссонава, механошу мелі і скамарохі. Даследчык нагадвае цікавую дэталь: у валачобнікаў механоша насіў на плячы доўгі шост з уздзетым на яго кавалкам сала, а часам увесь шост быў унізаны падарункамі. Гэты момант не занатаваны ў іншых апісаннях валачобніцтва.

Валачобныя песні і нататкі пра валачобны абрад траплялі ў невялікай колькасці і на старонкі перыядычных выданняў. Так, мы знаходзім іх у «Віленскім весніку» за 1869 г., губернскіх ведамасцях і інш.

---

[52] Tyszkiewicz E. Opisanie powiatu Borysowskiego pod względem statystycznym, geognostycznym, gospodarczym... Wilno, 1847, c. 389—391.
[53] Е. П. Народные белорусские песни. СПб, 1853.
[54] «Русский дневник». СПб, 1959, № 101.
[55] Бессонов П. Калеки перехожие. М., 1864, с. 36—39.

У 1871 г. П. Бяссонаў[56] апублікаваў зборнік беларускіх абрадавых песень, сярод якіх ёсць дасканалыя ўзоры валачобных, прысвечаных гаспадару, гаспадыні, панічу і інш. Для публікацыі Бяссонаў выкарыстаў матэрыялы з «беларускага архіва» вядомага рускага фалькларыста П. Кірэеўскага. «Архіў» налічваў каля васьмісот запісаў песень з Міншчыны, зробленых не пазней 30-х гадоў мінулага стагоддзя лацінкай, і Кірэеўскаму быў перададзен Ізабелай Пятроўнай Гудвіловіч. Запісы былі пашпартызаваны, у публікацыі ж пазначаны толькі нумары сшыткаў.

У манаграфіі К. Тышкевіча[57], выдадзенай у тым жа 1871 г., змешчана таксама некалькі валачобных песень з Барысаўскага павета. Валачобныя песні, запісаныя ў Рагачоўскім і Мсціслаўскім паветах, уключыў у сваё апісанне А. Дэмбавецкі[58].

Шмат выдатных узораў валачобных песень апублікавана ў выданнях П. Шэйна[59]. Карыстаючыся паслугамі карэспандэнтаў, ён здолеў сабраць узоры твораў гэтага жанру з розных аддаленых вёсак і мястэчак пераважна Віцебскай губерні. Яму пашчасціла атрымаць значную колькасць надзвычай поўна і дакладна распрацаваных паэтычных твораў, багатых этнаграфічнымі дэталямі, малюнкамі мінулага жыцця.

Багатая падборка валачобных песень змешчана ў II выпуску «Беларускага зборніка»[60] Е. Раманава. Сюды трапілі творы, запісаныя пераважна ў Сенненскім і часткова Рагачоўскім паветах Магілёўскай губерні.

Песні-вяснянкі і велікодныя з рэфрэнам «Лалым-лалым!» з супрацьлеглага кутка Беларусі пададзены Я. Карскім[61].

Варта адзначыць таксама, што творы гэтага жанру сустракаюцца ў зборах А. Гурыновіча[62], А. Чэрнага[63]. Запісы зроблены ў адным рэгіёне — Свянцянскім і Дзісенскім паветах. Адам Гурыновіч збіраў песні сам, ён запісаў дзесяць валачобных песень, прызначаных гаспадару, гаспадыні, дачцы

---

56 Бессонов П. Белорусские песни с подробными объяснениями их творчества и языка, очерками народного обряда, обычая и всего быта. М., 1871.

57 Tyszkiewicz K. Wilja i jej brzegi pod względem hydrograficznym, historycznym, archeologicznym i etnograficznym. Drezno, 1871, c. 328—330.

58 Опыт описания Могилевской губернии в историческом, географическом, этнографическом... Могилев, 1882.

59 Белорусские песни, собранные П. В. Шейном. Записки РГО. СПб, 1873, т. V, с. 281—850; Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. 1, ч. 1. СПб, 1887.

60 Романов Е. Р. Белорусский сборник, вып. I—II. Киев, 1886.

61 Карский Е. Белорусские песни деревни Новоселок-Затрокских Виленской губернии Трокского уезда.— «Русский филологический вестник». Варшава, 1889, т. 21, № 1—2, с. 243—259.

62 Hurynowicz A. Żbiór rzeczy białoruskich z gminy Wiszniewskiej parafii Żodziskiej powiatu Swiencianskiego gub. Wileńskiej. Zbiór wiadomości do antropologii krajowej, t. XVII, dz. 2. Kraków, 1893.

63 Ĉerny A. Pieśni białoruskie z powiatu Dzisienskiego gub. Wileńskiej. Zbiór wiadomości do antropologii krajowej, t. XVIII. Kraków, 1895.

і сыну гаспадара. Дадзена кароткая этнаграфічная нататка пра валачобны звычай у Вішнёўскай гміне. А. Чэрны апублікаваў тэксты, запісаныя, відаць, мясцовым жыхаром Янам Святаполкам-Мірскім, які добра ведаў асаблівасці мясцовай гаворкі і стараўся захаваць іх у тэкстах. Каштоўным з'яўляецца тое, што адна класічная валачобная песня, якая змяшчае земляробчы каляндар, пададзена разам з напевам.

Валачобная песня, запісаная ў Свянцянскім павеце Альфрэдам Ромерам, была змешчана ў часопісе «Вісла» [64].

У 90-х гадах мінулага стагоддзя падборкі валачобных песень і нататкі пра валачобніцтва друкаваліся на старонках губернскіх газет [65]. У гэты час актыўна займаўся збіральніцтвам Міхал Федароўскі. Яго матэрыялы ў 1883 г. апублікаваў Зыгмунд Глогер [66]. Асноўная ж маса запісаў Федароўскага змешчана ў 5-м томе «Люду беларускага...» [67] Тут налічваецца больш трыццаці твораў, пададзены тыповыя напевы. Каштоўнасць гэтай калекцыі ў тым, што яна зроблена ў зоне даволі хуткага разбурэння фальклорнай традыцыі і ў наш час немагчыма было б узнавіць многія з гэтых запісаў.

У пачатку XX ст. даследаваў быт беларусаў, збіраў і выдаваў беларускія песні І. А. Сербаў [68]. Валачобная песня, запісаная ў Бабруйскім павеце, пададзена з нотамі.

Я. Ф. Карскі, даследуючы пашырэнне беларускай мовы і вызначаючы этнічныя межы беларускай «народнасці», збіраў таксама ўзоры народнай творчасці з этнічнага сумежжа. Ён занатаваў валачобную песню ў в. Калюбакі, што знаходзілася за дзве вярсты на поўдзень ад Вялікіх Лук [69].

Збіральніцкая і выдавецкая дзейнасць буйнейшага беларускага энтографа і фалькларыста Е. Р. Раманава працягвалася ў пачатку XX ст. У 8-м томе яго «Беларускага зборніка» (1912) апублікавана 25 валачобных песень, якія ахопліваюць усе раздзелы гэтага жанру. Запісы зроблены ў асноўным у Рагачоўскім павеце, сустракаюцца таксама тэксты з Ашмянскага, Дзісенскага, Пароцкага, Веліжскага паветаў. Раманаў паказвае, як падзяляюцца «ролі» ў групе валачобнікаў: «пачынальнік» — найбольш вопытны спявак, астатнія — «спявальнічкі». Музыка, у той час выключна скрыпач, называўся скамарохам. Цікава, што механошу не толькі выбіралі, але і наймалі, калі валачобнікаў набіралася 15—20 чалавек. Пачынальніку выдзяля-

---

[64] «Wisła». Warszawa, 1897, t. XI, zesz. 2, c. 340.

[65] «Смоленский вестник», 1890, № 37; «Ковенские губ. ведомости», 1891, № 31; «Виленский вестник», 1891, № 110, 112; «Виленский вестник», 1895, № 73, 74.

[66] Pamiętnik fizyograficzny, t. III. Warszawa, 1883, c. 491—498.

[67] Federowski M. Lud białoruski, t. V. Pieśni. Warszawa, 1958.

[68] Сербов И. А. Белорусы-сакуны. Краткий этнографический очерк. Пг., 1915.

[69] Карский Е. Ф. Отчет о поездке в Белоруссию в течение летних месяцев 1903 года. СПб, 1905, с. 15—16, № 7. Отдельный оттиск из «Известий РГО», т. XII, вып. 4.

лі дадаткова 10 яек. Недахопам гэтай публікацыі з'яўляецца адсутнасць дакладнай пашпартызацыі.

Валачобныя песні з Міншчыны змясціў на старонках часопіса «Kwartalnik Litewski» Ян Булгак [70]. Каштоўнасць запісаў Булгака ў тым, што яны пададзены разам з нотамі.

У паслярэвалюцыйны час у Беларусі фальклорнае збіральніцтва набыло шырокі размах. На жаль, архіўныя матэрыялы загінулі ў час Айчыннай вайны. У 1940 г. была выдадзена кніжка С. П. Сахарава [71], якая змяшчала частку матэрыялу з вялікай рукапіснай калекцыі, сабранай вучнямі і настаўнікамі беларускіх школ у Латгаліі. Валачобныя песні з гэтага зборніка адрасаваны гаспадару, яны блізкія да тэкстаў са зборнікаў Шэйна, толькі менш разгорнутыя.

З пасляваенных фальклорных выданняў найбольшую каштоўнасць уяўляе 3-і том 4-томнага выдання беларускіх народных песень Р. Р. Шырмы [72]. Тэксты вызначаюцца багаццем, мастацкай дасканаласцю, яны пададзены разам з нотамі. Запісы маюць дакладную пашпартызацыю, адбор матэрыялу праведзен з вялікім густам. Песні гэтыя сабраны на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў на шырокай тэрыторыі Беларусі і ўяўляюць сабой класічныя ўзоры дадзенага жанру.

Шмат цудоўных тэкстаў валачобных песень змясціў у кнізе «Песні народных свят і абрадаў» Н. С. Гілевіч [73]. Гэта выданне, падрыхтаванае па матэрыялах, сабраных студэнтамі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, ахоплівае народны рэпертуар Міншчыны ў больш позні час — 60—70-я гады. Песні валачобныя, як і іншыя жанры, уважліва адабраны і адрэдагаваны. Недахопам зборніка з'яўляецца яго «філалагічнасць», адсутнасць нот.

Значная колькасць запісаў валачобных песень знаходзіцца ў навуковых архівах. Дарэвалюцыйныя калекцыі захоўваюцца ў Архіве Акадэміі навук СССР і Архіве Геаграфічнага таварыства СССР (Ленінград). Частка з іх ужо апублікавана, напрыклад у выданнях Шэйна, іншыя чакаюць свайго часу. Пэўная колькасць запісаў беларускай народнай паэзіі зберагаецца ў сховішчах Вільнюса, Варшавы і іншых месцах. Аднак найбольш запісаў валачобных песень сабрана ў Архіве Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР.

*Л. Салавей*

---

70 Bułhak Jan. Pieśni wielkanocne w Minszczyźnie (wałaczonniki).— Kwartalnik Litewski, r. II, t. V. Petersburg, 1911, s. 140—144.

71 Сахараў С. П. Народная творчасць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў, вып. 1. Рыга, 1940.

72 Шырма Р. Беларускія народныя песні. У 4-х т., т. 3. Мн., 1962.

73 Песні народных свят і абрадаў, с. 65—125.

# МУЗЫЧНЫ ЗМЕСТ ВАЛАЧОБНЫХ ПЕСЕНЬ

Музычны змест беларускіх валачобных песень — узор гістарычнай устойлівасці і структурнай стабільнасці не толькі сярод песень веснавых, але і ў рамках усёй раннетрадыцыйнай творчасці.

Па сваёй функцыі ў веснавым абрадзе — велічальна-віншавальнай [1] — валачобныя песні блізкія да калядных. Аднак па характару выяўлення прывітальна-віншавальных эмоцый, па музычна-сінтаксічнаму складу яны з'яўляюцца арыгінальнай з'явай.

Сярод усіх жанраў раннетрадыцыйнай песнятворчасці беларускія валачобныя песні вылучаюцца таксама найбольшай схематызацыяй сваёй меладычнай і асабліва рытмічнай структуры, якая дазваляе безадносна да тэксту вызначаць іх жанравую прыроду.

Валачобныя песні маюць ярка выяўлены антыфонны характар. Сольны запеў, які вядзе ніць апавядання (A), і не звязаны з асноўным зместам харавы прыпеў-рэфрэн (R) складаюць песенную страфу з двух падкрэслена самастойных раздзелаў (AR). Меладыя запеву часта варыятыўная ў розных куплетах; тут праяўляецца імправізацыйны дар саліруючага выканаўцы. Прыпеў звычайна нязменны не толькі па тэксту, але і ў музычных адносінах.

Напевы валачобных песень, якія прыведзены ў томе, пераважна аднагалосыя. Двухгалоссе сустракаецца рэдка, у асноўным як эпізод у агульным аднагалоссі (№ 39, 47), трохгалоссе — яшчэ радзей (№ 36). Тлумачыцца гэта хутчэй за ўсё тым, што большасць песень была запісана ад аднаго спевака. У харавым выкананні момантаў шматгалосся сустракаецца, зразумела, значна больш, хоць гэта і не адмаўляе прынцыпова манадычнага стылю валачобных песень.

На традыцыйныя валачобныя песні не аказала, можна сказаць, ніякіх уплываў царкоўная музыка (за выключэннем аднаго, лакальна абмежаванага тыпу, на фарміраванне якога пэўны ўплыў аказаў кант). Іншая справа,

---

[1] Песні іншых функцый веснавога абраду (заклічнай, замоўнай, гульнёвай і бытавой) прадстаўлены ў томе «Веснавыя песні». У тым жа томе даюцца агульнастылістычныя прыкметы песень вясновых (у тым ліку і валачобных), а таксама абгрунтаванне функцыянальнай дыферэнцыяцыі ўсяго песеннага зместу веснавога абраду.

што і зараз пад назвай валачобных песень можна пачуць звычайныя царкоўныя напевы, пакольні і тыя, і іншыя былі прымеркаваны да аднаго і таго ж часу. Некаторае распаўсюджанне атрымалі таксама песні нібы змешанага стылю, дзе на тыпова царкоўных распевах адчуваецца ўплыў народнага меладызму. Да іх адносіцца большасць так званых «паставых» песень. Мяркуючы па гістарычна-этнаграфічных звестках, гэтыя песні з'яўляюцца паранальна познім напластаваннем на веснавы абрад і замацаваліся ў ім у выніку працяглай барацьбы праваслаўя за выгнанне з народнага побыту «паганскіх» звычаяў.

Сярод такіх песень сустракаюцца ўзоры парадыйнага характару, якія азначаюць у народнай культуры моманты эрозіі царкоўнага благачэсця. Вось адна з падобных песень на напеў царкоўнага гімна «Вялік святы наш дзень настаў» (словы «а дзед схвастаў» выконваюцца тут замест «Алілуя»):




Манера выканання большасці гэтых песень значна адрозніваецца ад традыцыйнай народнай. Магчыма, таму, што многія сталыя выканаўцы ў свой час спявалі ў царкоўных хорах, у сувязі з чым іх спевы набліжаюцца да раўнамернай псалмодыі. Цікава, што ў адрозненне ад іншых раннетрадыцыйных песні рэлігійнага зместу ахвотна выконваюцца мужчынамі.

Сама эмацыянальная атмасфера валачобнага абраду — святочнасць, слаўленне, жартоўныя выпады — абумоўлівае жвавы, прыўзняты характар песень. З усёй масы валачобных напеваў, запісаных да нашага часу (а іх больш 2000), мінорны лад маюць не больш дзесятка; астатнія выконваюцца ў ясным мажоры.

Асаблівы каларыт беларускім валачобным песням надае іх рытмічная арганізацыя. Уласцівыя песням выразна акцэнтаваныя рытмы своеасабліва падкрэсліваюць маршавы рух. Такі рытм непасрэдна адлюстраваны і ў інта-

нацыйнай структуры, надае ёй пэўны прамалінейны характар. Тут параўнальна рэдка выкарыстоўваюцца працяглыя ўнутрыскладовыя распевы, незвычайныя інтанацыйныя павароты. Усе меладычныя абароты акруглыя, вакальна-зручныя, лёгказапамінальныя.

Найбольш устойлівай і жанрава характэрнай музычнай прыкметай валачобных песень з'яўляецца страфічная і метрарытмічная іх структура. Асаблівасці гэтай структуры дазваляюць падраздзяліць усе беларускія валачобныя песні на чатыры тыпы, з якіх адзін, асноўны, самы шматлікі (ахоплівае ўвесь арэал гэтага жанру на Беларусі) і тры маюць прыватнае значэнне як па колькасці, так і па лакальнасці распаўсюджання.

Усе чатыры тыпы сустракаюцца ў практыцы народнай песнятворчасці і ў наш час, прычым зрэдку пры выкананні самога абраду (асабліва ў паўночных раёнах).

Т ы п п е р ш ы (№ 1—60). У аснове музычнай рытмічнай арганізацыі гэтага тыпу ляжыць ярка выяўлены рэгулярна-акцэнтны рытм [2]. У нотным кантэксце гэта адлюстравана ў музычным перыядзе, які складаецца з чатырох тактаў па 4/4 (асноўная метрычная доля — чвэрць) з генеральнай цэзурай паміж 2-й і 3-й фразамі і дапаможнымі — паміж 1-й і 2-й, 3-й і 4-й [3]:



У сувязі з тым што верш валачобнага прыпеву ў канцы мае мужчынскую клаўзулу, рытм апошняй музычнай фразы выглядае так:




Прынцыповым жа адрозненнем запеву з'яўляецца выкарыстанне ў ім жаночай клаўзулы.

Увогуле прыпеў цягнецца да 7-складовіка. Запеў жа мае самую розную

[2] Х о л о п о в а В. Вопросы ритма в творчестве композиторов XX века. М., 1971, с. 77.

[3] У некаторых запісах гэты перыяд фіксуецца як васьмітактавы, дзе кожны чатырохчацвяртны такт падзяляецца на два па 2/4 (№ 1—3), або як чатырохтактавы па 2/4, дзе асноўная рытмічная доля ўжо не чвэрць, а восьмая (№ 12, 23, 29).

колькасць складоў, ад 8-складовіка, што збліжае яго з рытмічнай формулай напеву,— «У чыстым полі, на стадолі»:



да больш працяглых, але ў асноўным цотных складовікаў.

Павелічэнне колькасці складоў верша запеву адбываецца за кошт увядзення дадатковых лексічных адзінак: «Да на паплаўцы, да на мураўцы» (10 складоў), шматскладовасці слоў: «Валачыліся валачобнікі» (10 складоў) або за кошт таго і другога: «Да ляцела сойка цераз Навасёлка» (12 складоў). Наогул верш можа пашырацца да 16-складовіка (больш не сустракаецца).

Аднак незалежна ад колькасці складоў важнейшай заканамернасцю валачобных песень гэтага тыпу з'яўляецца змяшчэнне верша ў стандартны паўперыяд, г. зн. у два такты па 4/4. Гэта, натуральна, выклікае драбленне асноўнай метрычнай долі і з'яўленне рытмічных матываў самай разнастайнай канструкцыі.

Драбленню можа падвяргацца любая доля, але і тут ёсць свае пераважныя схемы. Часцей за ўсё гэта адбываецца з пачатковымі долямі:



радзей з канечнымі:



і зусім рэдка з сярэднімі:



Пераважнае драбленне першых доляў і падкрэсліванне ў сувязі з гэтым харэічнасці рытмічнага матыву надае напеву валачобных песень асабліва дынамічны, нейкі «заліхвацкі» характар.

Розная колькасць складоў у строфах уплывае на варыяцыйнасць музычнай рытмікі ў куплетах. Дарэчы, і пры роўнай колькасці складоў у вершах музычная рытміка імкнецца да варыяцыйных змен. Так, калі ў першым куплеце дробіцца першая фраза, то ў наступным ужо другая:



Гэта чаргаванне рытмічнага напружання і разраджэння робіць характар усяго напеву вострым, стварае пастаянную імпульсіўнасць руху.

Валачобныя песні ў адрыве ад абраду іншы раз трапляюць у разрад чыстых песень, з уласцівай апошнім свабодай метрычнага развіцця, у сувязі з чым у валачобных напевах гэтага тыпу ўзнікае метр 5/4.

З рэдкіх выключэнняў у метрарытмічнай фактуры валачобных песень першага тыпу трэба адзначыць такія, як мужчынская клаўзула ў запеве, увядзенне ў прыпеў дадатковых лексем, напрыклад замест «Віно маё зеляно!» спяваецца «Ды віно маё зеляно!» У апошнім выпадку раздрабляецца асноўная метрычная доля і ў прыпеве:



Раўнамерны, амаль маторны рытмічны рух у напевах валачобных песень у нейкай ступені нейтралізуецца меладычнымі распевамі. Яны невялікія (звычайна чвэрць расшчапляецца на дзве восьмых або на восьмую плюс дзве шаснаццатыя) і выкарыстоўваюцца несістэматычна [4], але ўсё ж здымаюць пэўную інтанацыйную механічнасць напеву.

Метрарытмічнай і структурнай выразнасці ў валачобных песнях першага тыпу спадарожнічае выразнасць лададынамічная.

Гэта, бадай, адзіны ў беларускай песнятворчасці жанр, які мае ярка выяўленыя гарманічна-функцыянальныя сувязі, уласцівыя развітому гамафоннаму стылю. Выкарыстанне ў скрытым выглядзе звычайных гарманічных функцый (T, D, S) суправаджаецца нарматыўнымі, у рамках класічнай гармоніі, іх суадносінамі. Калі абазначыць кожны паўтакт напеву (дзве чвэрці) адпаведнай функцыяй, то ў валачобных песнях гэтага тыпу ўзнікаюць наступныя схемы:

| | Запеў | | Прыпеў | |
|---|---|---|---|---|
| | TT | DT | TS | DT |
| | TS | DT | TS | DT |
| | DT | DT | TS | DT |
| Радвей | | | | |
| | DD | DT | TS | DT |
| | TT | TT | TS | DT |
| | TD | TD | TS | DT |

Трактоўка той або іншай (асабліва сярэдняй) функцыі можа змяняцца, але агульная тэндэнцыя руху ад устою да няўстою і зноў да ўстою застаецца.

---

[4] Рэдкі прыклад працяглых (якія ідуць адзін за другім) распеваў мы знаходзім у запісе Л. Фёдарава («Беларускае мастацтва». Мн., 1960, с. 168).

У вышэйпрыведзеных схемах прыцягвае ўвагу функцыянальная аднатыповасць прыпеву, дзе абыгрываецца класічны кадансавы абарот (у многіх выпадках на месцы дамінанты, на моцнай яе долі, прысутнічае гук, які дазваляе трактаваць яго ў гэтых умовах як частку кадансавага квартсэкстакорду).

У прыпевах таксама больш аднастайны, чым у запевах, характар меладычнага развіцця, які імкнецца да наступнай меладычнай фігуры:




Асабліва выразным з'яўляецца заключны раздзел прыпеву ярка аўтэнтычнага характару:




Нярэдка, дарэчы, сустракаецца і заключны плагальны абарот (IV—I), які гучыць, аднак, у дадзеных рытмічных умовах вельмі рашуча.

У прыведзенай вышэй абагульняючай інтанацыйнае развіццё прыпеву меладычнай фігуры замест IV ступені зрэдку прысутнічае III ступень (№ 11, 12), што вызначаецца тэрцавым ладам усяго напеву. На гэтым месцы можа ўжывацца V ступень (№ 25, 27), якая асабліва супярэчыць дынаміцы развіцця гэтага раздзела формы. Выключэннем з'яўляецца завяршэнне ўсяго прыпеву на V ступені (№ 33).

Што датычыцца запеву, то ён даволі часта пачынаецца не з I ступені: або з V — тады звычайна разгортваецца «святочная» (па тэрміналогіі Ф. Рубцова) інтанацыя (№ 1, 16), або з III (№ 2). Сустракаецца пачатак таксама і з няўстойлівых ступеней: з IV (№ 7, 37), зрэдку з II (№ 54, 57). Радзей выкарыстоўваюцца ступені, якія ляжаць ніжэй узроўню танічнага гуку, часцей за ўсё V (№ 20—22).

Асноўным ладам валачобных напеваў гэтага тыпу з'яўляецца квінтавы, даволі распаўсюджан квартавы, рэдка сустракаецца тэрцавы. Усе гэтыя лады звычайна выкарыстоўваюцца з субквартай, запоўненай або незапоўненай. У канцы запеву субкварта мае (у адрозненне ад кварты сцвярджальнай у завяршэнні ўсяго напеву) «пытальны» характар:



Дыяпазон мелодыкі не перавышае інтэрвалу квінты. У рэдкіх выпадках закранаецца VI ступень (як верхні гук тэрцавай уторы) (№ 39).

Увогуле і форма, і інтанацыйны змест дадзеных песень аднатыповыя. У гэтым томе мы прывялі толькі невялікую частку існуючых запісаў. Адро-

зненне іх паміж сабой непрынцыповае. Існуе паўны набор ходкіх і зручных для выканання інтанацый-напевак, якія свабодна чаргуюцца не толькі ў розных песнях, але і ў куплетах адной песні і ў розны час яе выканання. У гэтых адносінах валачобныя песні па фармальна-інтанацыйнай структуры нагадваюць частушкі. Амаль нагляднае счапленне самастойных па рытміка-інтанацыйнай структуры напевак[5], іх своеасаблівая незалежнасць ад месцазнаходжання ў агульным меладычным кантэксце дае шырокія магчымасці для наватворчасці, для вырыянтнай вынаходлівасці выканаўцаў.

Важнейшай прыкметай валачобных песень гэтага тыпу з'яўляецца квадратнасць формы. Адступленні параўнальна рэдкія, але ўсё ж нельга сказаць, што яны зусім выпадковыя.

Квадратная структура звычайна парушаецца ў тых выпадках, калі на валачобны напеў выконваецца тэкст песні іншага жанру (асабліва часта баладнага зместу).

У некаторых песнях у рамках агульнай квадратнасці формы прыпеў аказваецца некалькі (у асноўным на адну чвэрць) ссунутым «налева», г. зн. па сутнасці з'яўляецца «ўмешаным» прыпевам (№ 40). Такія песні часта сустракаюцца ў Валожынскім раёне. Па словах выканаўцаў, умешаная частка прыпеву, у дадзеным выпадку слова «віно», спявалася яшчэ запявалам, г. зн. фармальна адносілася да запеву, што ў некаторай ступені (фактурна) падкрэслівала квадратную аснову формы.

Сустракаюцца таксама строфы з дзвюма фразамі запеву — ABB (№ 37).

Песні выразна квадратнай структуры ў музычных адносінах не выяўляюць унутранай дыферэнцыяцыі. Больш ці менш прынцыповае значэнне мае ў гэтых адносінах тэкставы змест прыпеву.

Значна радзей сустракаюцца сярод песень гэтага тыпу строфы неквадратнай структуры. Адна з такіх строф прыводзіцца ў прыкладах № 51—57. Тут кароткі выгук тыпу «Гэй, віно!» або «Гэй, лалым!» замяняе ўвесь звычайны прыпеў. Паколькі ў гэтым выглядзе структура страфы выглядае крыху незавершанай, апошняя паўтараецца двойчы — ArAr.

Песні такой структуры сустракаюцца на паўночным захадзе Беларусі. У рамках гэтага тыпу валачобных песень можна выявіць і яшчэ больш «дзіўныя» структуры, але ўсе яны так ці інакш непасрэдна звязаны з асноўнай (№ 60).

Тып другі (№ 61—71). Распаўсюджан на самай поўначы Беларусі. У адрозненне ад асноўнага тыпу прыпеў тут паўтараецца праз кожныя паўрадка: «Ідзём, пайдзём (прыпеў) па вуліцы (прыпеў)». У музычнай струк-

---

[5] І. Земцоўскі вобразна называе падобную будову валачобных песень «суставчатостью»: Земцовский И. Мелодика календарных песен. Л., 1975, с. 115.

туры песень гэтага тыпу прыпеў не адмежаваны ад запеву, абодва ўключаны ў адзіную меладычную хвалю і складаюць рытма-інтанацыйнае цэлае. Гэтаму садзейнічае тое, што прыпеў пачынаецца з затакта (увогуле не ўласцівы для валачобных песень рытмічны абарот). На тэкстах песень другога тыпу найбольш адчуваецца царкоўнае ўздзеянне. Амаль 80% запісаных песень гэтага тыпу маюць прыпеў «Хрыстос, сын божы, васкрэс!» і «Хрыстос, сын божы!» З традыцыйных прыпеваў сустракаюцца «Няхай так будзе!», «Зялёны сад, вішнёвы!»

У залежнасці ад складовай структуры дадзеных прыпеваў утвараюцца дзве разнавіднасці (падтыпы) агульнай музычна-рытмічнай канвы:




Паколькі характар выканання песень гэтага тыпу больш паскораны, чым першага, асноўным метрарытмічным часам тут з'яўляецца ўжо не чвэрць, а восьмая.

Характэрнай асаблівасцю гэтых песень з'яўляецца асіметрычнасць страфы, але яе метрарытмічная схема вытрымліваецца вельмі строга, як і ў асноўным тыпе. Дабаўленне ў запеве лішніх складоў не ўплывае на агульную часавую працягласць фразы і існуе за кошт драблення асноўнай долі (№ 67).

Для песень гэтага тыпу таксама характэрны стабільныя меладычныя абароты, і ў прыватнасці кадэнцыя на V знізу ступені (субкварце). Дзякуючы гэтаму куплет з'яўляецца як бы разамкнутым і патрабуе далейшага меладычнага руху; ланцуг падобных куплетаў разгортваецца ў бясконцы кругаварот функцый: I—V—I—V—I—V—I і г. д.

І першы і другі падтыпы прыпеваў маюць для многіх песень устойлівы меладычны малюнак:




Як бачым, прыпеў першага падтыпу з'яўляецца нібы «абрубленым» варыянтам другога. Ён і больш дынамічны.

**Тып трэці** (№ 72—83). Агульнасць віншавальнай функцыі песень валачобных і калядных з'явілася прычынай таго, што ў радзе мясцовасцей песні гэтыя аказаліся падобнымі і музычным зместам, у першую чаргу метрарытмічнай формулай. Так, на Віцебшчыне (асабліва ў Лепельскім, Шумілінскім, Полацкім, Сіроцінскім раёнах) часта сустракаюцца валачобныя песні, заснаваныя на тыпова калядных рытмічных формулах. Розніца толькі ў прыпеве, больш разгорнутым, з характэрнымі метрарытмічнымі перабівамі ў валачобных песнях:



Блізкасць рытмічнай тыповай структуры зімовага і веснавога цыклаў можна растлумачыць і тым, што тут адбілася часавая блізкасць самога абраду. І зараз у фальклорнай практыцы сустракаюцца выпадкі, калі адна і тая ж песня ў розных мясцовасцях (і розных этнічных умовах) атэстуецца то валачобнай, то каляднай. Так, песні № 13, 18 з «Анталогіі» Г. Цітовіча (1975), запісаныя на Беларусі як валачобныя, на Украіне лічацца калядными («Колядки і щедрівки». Київ, 1965, с. 370, 683).

У аснове запеву песень гэтага тыпу ляжыць двойчы паўтораная калядная рытмічная формула:



Іншы раз апошняя чвэрць першага рытмічнага матыву дробіцца за кошт дапаможнай часціцы — ды, да (№ 73) або агаласоўкі апошняй зычнай (№ 74).

Прыпевы ў гэтых песнях пастаянныя. Іх тры: «Зялёны сад, вішнёвы!», «Зялёна траўка-мураўка!», «Спявайце, братцы, спявайце!»

Першы прыпеў мае рытмаформулу:



другі і трэці:



Такім чынам, уся метрарытмічная канструкцыя выглядае так:






Рытмічная структура першага прыпеву служыць асновай для з'яўлення прыпеву рэлігійнага («Хрыстос ўваскрос, сын божы!»), які таксама тут выкарыстоўваецца.

Пераход ад запеву да прыпеву, ад чацвяртной метрычнай долі да восьмай, стварае своеасаблівы тэмпавы збіў, які пры выкананні нейтралізуецца паўзай перад пачаткам прыпеву (№ 82) і трыольным рытмам (№ 80). З гэтай мэтай нярэдка раздрабляецца апошняя чвэрць другога рытмічнага матыву запеву, у выніку чаго прыпеў атрымлівае затакт і ўся рытмічная пульсацыя асноўваецца толькі на рухах чвэрцямі.

Сярод песень і гэтага тыпу сустракаюцца як выключэнне ўзоры, якія маюць іншую структуру прыпеву (№ 81, 82) (сам тэкст прыпеву тут таксама крыху незвычайны) або ўвогуле не маюць яго (№ 83).

Арыгінальнай асаблівасцю меладычнага зместу гэтага тыпу валачобных песень з'яўляецца кадэнцыя на II ступені. Падобная кадэнцыя часта сустракаецца ў тых жа раёнах у напевах іншых жанраў, у прыватнасці ў песнях дажынкавых, але ў адрозненне ад апошніх, дзе падыход да кадэнцыі ажыццяўляецца звычайна зверху, у песнях валачобных у кадансе строга вытрымліваецца паслядоўнасць ад I да II ступені.

Песні, якія не маюць прыпеву, не маюць і падобнага кадансу.

Тып чацвёрты (№ 84—90). Сустракаецца на даволі шырокай тэрыторыі, амаль на той жа, што і першы тып, але ў адрозненне ад яго не настолькі часта.

Па музычнаму зместу гэты тып далёка адыходзіць ад меладычных заканамернасцей раннетрадыцыйнай беларускай песнятворчасці. Для яго характэрны мерны трохдольны рух з падкрэслена ямбічнымі абаротамі, якія асацыіруюцца з атмасферай апавядання:



І сапраўды, некаторыя ўзоры гэтых песень, асабліва з вузкім ладавым дыяпазонам (тэрцыя), нагадваюць мернае развіццё былiннага верша. Таму многія песні гэтага тыпу бытуюць у наш час як песні сольныя, са складанай пераменнай метрыкай (№ 84), паўімправізацыйнай меладыкай.

У напевах з больш шырокім ладавым дыяпазонам — у кварту і вышэй — гэтыя песні выяўляюць блізкую сувязь з кантам. Гэтаму садзейнічаюць адпаведныя меладычныя абароты ўрачыста-ўзнёслага характару.

У паўночна-заходніх раёнах Беларусі песні гэтага тыпу выяўляюць пэўную блізкасць да песень III тыпу: выкарыстанне тых жа прыпеваў («Зялёны сад вішнёвы!», «Спявайце, братцы, спявайце!»), кадэнцыя на II ступені (№ 87—90).


I тып (асноўны)


II тып


III тып


IV тып

Раёны распаўсюджання (найбольшай канцэнтрацыі) валачобных песень

Меладычны змест песень ілюструецца ў томе ў асноўным на прыкладзе першага куплета. Неэквірытмічнасць астатніх не адлюстроўваецца, паколькі мае ў валачобных песнях пастаянны характар.

Часта нават пры аднолькавым складасаставе верша мелодыка-рытмічны яго змест змяняецца не толькі ў розных куплетах, але і ў адных і тых жа пры паўторным выкананні (для ілюстрацыі гэтай асаблівасці ў некаторых песнях даецца некалькі куплетаў).

Пры натаванні музычных прыкладаў, акрамя агульнавядомых, выкарыстаны таксама спецыфічныя для фальклорнага матэрыялу абазначэнні:

//, \\ — глісанда (уверх і ўніз)

♪ — прыблізная вышыня гуку

(√ — няпэўная вышыня гуку

(𝄽), (𝄾) — нетэматычная паўза

+, ↑ — павышэнне гуку менш чым на 1/2 тону
—, ↓ — паніжэнне гуку менш чым на 1/2 тону
⌣ — глыбокая цэзура, перахопліванне дыхання
( ) — у дужках даюцца дадатковыя да асноўнага тэксту фанемы (паўгалосныя, прадыктавыя і інш.), якія ў тэкставай частцы не ўлічваюцца
[ ] — частка тэксту, якая пры спяванні выпадае

У квадратных дужках таксама прыводзяцца тэмпавыя абазначэнні, якія адсутнічаюць у арыгінале.

*В. Ялатаў*

# ВАЛАЧОБНІКІ — ГОСЦІ НЕДАКУЧНЫЯ

## 1

А на вялікдзень ды на першы дзень,
Зялёны явар, зялёны!*
Збіраліся хлопцы, ўдалыя малойцы,
Ды збіраліся, рахаваліся:
— Ды куды, братцы, мы павернемся,
Ці ў дуброву, ці ў роўнае поле?
А ў дуброве мы ж паросімся,
У роўным полі мы папылімся.
Пойдзем, братцы, краем Дунаем,
Краем Дунаем мы іграючы,
Мы іграючы, успяваючы.

## 2

Першым дзяньком ды вялікаднем,
Вясна красна на дварэ! *
Валачобнічкі сабіраліся,
Сабіраліся, рахаваліся,
У пачынальніка ды пыталіся:
— Вот куды ж мы пойдзем, пане пачынальнік?
— Дарогаю ды шырокаю,
Спяваючы ды іграючы,
Слаўнага пана шукаючы.
— Ой, ці дома, дома слаўны пане?
— Няма пана дома, паехаў у поле,
Паехаў у поле жыта аглядаці,
Жыта і пшаніцу, ўсякую збажыцу.

*Механоша прыказвае:*
— Гэчка, гэчка, вылезь з падпечка,
Вынесь па яечку.
Не дасі яечка — здохне авечка,
Не дасі кока — вылезе вока.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

3

Чый гэта дамок, а ён новенькі,
Вясна красна на ўвесь свет!*
А ён новенькі, ўвесь дубовенькі.
А здраства таму, хто ў гэтым даму:
Гаспадынечцы і гаспадару.
Гаспадынечка-журавіначка,
Гаспадарочак — слічны паночак,
А ці ўслых табе мае песенькі,
Мае песенькі валачобныя,
Валачобныя, велікодныя?
А калі няўслых, дык бог з табою.
А калі услых — гукай са мною,
Масці кладачку, заві ў хатачку.
А мы госцейкі небывалыя,
Небывалыя, нехаджалыя.
Нячаста ходзім, нямнога просім,
Толькі ў гадочак адзін разочак.
Ай, нясі, нясі кварту гарэлкі,
Кварту гарэлкі, сыр на талеркі,
К таму сырчыку — пшонны піражок,
К таму піражку — місу тваражку.
Кварта гарэлкі, ой, для смеласці,
Сыр на талеркі, ой, для голасу,
Пшонны піражок, ой, для коласу,
А міса тваражку для нажытачку.

4

А мы ідзём, ідзём пад багаты дом.
[Вясна красна на ўвесь свет!]*
Пад багаты дом, «дзень добры» даём:
— Дзень добры таму, хто ў гэтым даму!
Гаспадарочак, слышны паночак,
Ці спіш, ці ляжыш, ці адпачываеш,
Ці нас, валачобнікаў, дажыдаеш?
А калі не спіш, гукай са мною,
А калі ты спіш, дык бог з табою.
А мы госцікі недакушныя,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Нячаста ходзім, не дакучаем,
А ў гадочак адзін разочак,
А нашы дары невялікія:
Пачынальнічку — сорак яечак,
А падхватнічку — ды па дзесятачку,
А нашаму музыку — трубку палатна,
Трубку палатна — торбачку пашыць,
Торбачку пашыць — скрыпачку насіць,
Кварту гарэлкі, сыр на талеркі,
А механошу — жыта калошу.
Гаспадынюшка-журавінушка,
Адары ты нас, не мары ты нас,
А не хочаш дарыць — хадзі к нам хадзіць,
Хадзі к нам хадзіць, ночку каратаць,
Ночку каратаць, людзей ўзвелічаць.

5

Борам, борам, баравінкаю,*
Вясна красна на двара!**
Субіраліся, рахаваліся,
Слаўнага пана мы пыталіся.
Ды ці дома, дома слаўны наш пане?
Хоць ён і дома, не акажацца —
У новай каморы прыбіраецца,
Лапці скідае, боты абувае,
Кладзе шапку-бабровачку,
А рубашку шаўковую,
Шоўкам шыту, злотам біту.
Як прыбраўся, так і аказаўся:
— Служкі ж мае вы вярненькія,
Вы падайце ключы залаценькія
Адамкнуці мне каморачку,
Частаваці мілых госцейкаў.
Гэта не госці — валачойнічкі,
Яны ж у нас часта не бываюць,
У гадок разок ды перапытаюць.
Палажыце кладку ды завіце ў хатку.
Чарку гарэлкі, сыр на талеркі.

---

* Кожны радок спяваецца два разы.
** Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка

## 6

Гаспадару, слаўны панок,
Зялёны альвас, віншуем вас!*
Ці спіш, ляжыш, аддыхаеш?
Калі не спіш, устань,
Прычашыся, прыбярыся —
Кашулечку шаўковую,
А штонікі аксамітны,
Панчошачкі шаўковыя,
Чаравічкі казловыя.
Гаспадару, слаўны панок,
Што дзеецца ў тваім дварку,
Што дзеецца, лялеецца?
Масці кладку, заві ў хатку.
Гэта госці нячастыя,
Рэдка ходзяць, мала просяць:
Пачынальніку — капу яек,
Маім братцам — па дзесятцам.

## 7

Вечар добры,
Няхай так будзе!*
Гаспадару,
Устань рана,
Мыйся бела,
Як папера,
Ды утрыся
Палаценцам.
Абуй боты
Казловыя,
Панчошанькі
Беленькія,
Падвязачкі
Шоўкавыя.
Масці кладку,
Вядзі ў хатку
Пад музыку
Без'языку.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Мы нячаста
К людзям ходзім
І нямнога
Сабе просім:
Хоць два злоты
Нам на боты.
Калі змога —
Паўпірога,
Калі сіла —
Хоць паўсыра.

8

А з-за лесу, лесу цёмнага,
Зялёны сад вішнёвы!*
Ідзе туча валачобная.
Валачобнічкі-недакучнічкі
Нячаста ходзяць, нядорага просяць,
У гадочак адзін разочак,
Пачынальнічку — чырвоны злоты,
Яму чырвоны злоты на боты.
Падхопнічкам — па залоценькім,
А механошу — жыта калошу,
Хай ён нясе аж парвецца,
З яго бог насмяецца.

9

На добры вечар, сам пан хвазяін!
Ой, калі ж ты спіш, так бог з табою,
Калі не спіш, так выйдзі са мною,
Паслухай, што ў небе гудзе.
Прачыста ідзе, трох гасцей вядзе.
Першы госць — яснае сонца,
А другі госць — ясны месяц,
А трэці госць — дробны дожджык.
— Чым пахвалішся, яснае сонца?
— Як я ўзыйду рана ў нядзелю,
Дак парадуецца ўвесь мір раждзёны.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

— Чым пахвалішся, ясны месяц?
— Як я ўзыйду позна з вечара,
То зрадуецца купец у дарозе,
Тавар у аборы і шчука ў моры.
— Чым пахвалішся, дробны дожджык?
— Як я прыйду тры разы ў маі,
Зародзіць бог жыта, пшаніцу,
[Жыта, пшаніцу], ўсякую пашніцу.

## СЛАЎНЫ ГАСПАДАР І ЯГО ДВОР

### 10

Із-пад лесу, лесу цёмнага
Ішла тучка валачобная.
А не туча то йшла — валачобнічкі,
Валачобнічкі, белы малойцы,
Белы малойцы, а ўсё кудзінцы.
Пабраліся брат за брата,
Брат за брата, друг за друга.
Ішлі яны дарогаю,
Дарогаю шырокаю,
Шырокаю, торненькаю,
Траўкай-мураўкай зялёненькаю.
Сустрэлі яны госпада бога,
Знялі шапачкі, пакланіліся,
Пыталіся ў госпада бога:
— Пакажы нам, божа, во куды дарожка?
— А гэта дарожка і туды і сюды,
І туды і сюды, ў тры гарадочкі,
У тры гарадочкі, [illegible] слаўнаму пану,
К слаўнаму пану, [пану Аляксею].
Ні па том, ні па сём не пазнаеш
Слаўнага пана, [пана Аляксея].
Толькі ўзнаеш па падвор'ейку.
Вот яго двор на пагурачку,
На пагурачку трысцём трышчон,
Трысцём трышчон, вароты залоты,
Вароты залоты, парогі тачоны,
Падваротнічка — рыб'я костачка.
Каля таго трысця вуллі стаяць,
Вуллі стаяць, пчолкі гудзяць,
Пчолкі гудзяць, у палёт ляцяць.
— Патом таго, слаўны пане,
Слаўны й пане, [пане Аляксею],
Даў жа ты мне пасад добры,

Дай жа ты мне палёт доўгі.
— Пчолкі мае вы раістыя,
Ляціце ж вы за брод па мёд,
У шчыры бары па жоўты воск,
На ліпачку па пасылачку.
— Патом таго, слаўны пане,
Слаўны пане, [пане Аляксею],
З салодкага мёду кануны будуць,
З жоўтага воску свечы будуць.
Божую свечку насукаць будуць,
Насукаць будуць, навышаць будуць,
Салодкі кануны снедаць будуць,
Слаўнаму пану, [пану Аляксею],
Патом таго, слаўны пане,
Слаўны пане, [пане Аляксею],
Да ужо ж вам песня спета,
Песня спета проціў лета,
Проціў лета, лета цёплага,
Проціў году, году новага,
Проціў вясны, вясны краснае,
Ў добрай ласцы, ў добрай згодзе,
Ў добрай згодзе, нам пець годзе.

## 11

Валачэбнікі сабіраліся,
[Вясна красна на ўвесь свет!]*
Сабіраліся, рахаваліся:
— Ды куды ж, братцы, мы пахілімся?
Ды пойдзем жа, братцы, мы далінаю,
Ды мы далінаю, мы шырокаю.
Сустрэнем мы госпада бога
Са ўсімі святымі ды з апосталамі.
Госпадзі божа, укажы дарогу,
Укажы дарогу ў слаўны горад,
У слаўны горад, к слаўнаму пану,
К слаўнаму пану, пану Андрыяну.
А ў яго на двар ды стаяць правары,
Ды стаяць правары, ды гараць агні,
Ды гараць агні ды ўсё сіненькія,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Ды варащь мяды ўсё салодзенькія.
Ды каму, па каму, ды па пчэльнічку,
Пану Андрыяну ды на сто вулей,
Ды на сто вулей, ды на сто раей!
Пане Андрыяне, не кажы барыці,
Не кажы барыці, кажы падарыці.
Кажы дары даці ды не мерачы,
Срэбра ды злата ды не важачы.
Абруч вісіць — калясо будзе,
Пазаві ў хату — харашо будзе.
Пане гаспадару, масці кладку,
Масці кладку ды заві ў хатку.

## 12

Ішлі, прайшлі валачэбнічкі,
[Вясна красна на ўвесь свет!]*
Ішлі, прайшлі, істаміліся,
Істаміліся, шаталіся,
К Іванаву двару прытапталіся.
Іванаў двор на [гары] стаіць,
На [гары] стаіць, на крутым беражку,
На крутым беражку, на жоўтым пяску.
Кругом варот жалезны тын,
Кругом тына вуллі стаяць,
У тых вуллях пчолкі гудуць,
Пчолкі гудуць, на палёт ідуць,
На яры воск, на сладкі мёд.
Што яры воск — богу на свячу,
Што салодкі мёд — то хазяюшцы.
Хазяюшка, ты наш бацюшка!
Не тамі ты нас, падары ты нас.
Нашы дары невялікі:
У двор не нясуць, ў акошка даюць.
Кала лесу, лесу цёмнага
Каціласяя злата карэта,
У карэце тры празнічкі:
Першы празнік — Ягор храбёр,
Другі празнік — Мікола святой,
Яшчэ празнік — Ілля-прарок.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Ягор храбёр на кані сядзіць,
Мікола святы засявальнікам,
Ілля-прарок па межах хадзіў,
Па межах хадзіў ды хлеб радзіў.

## 13

У цёмным лесе стучыць, гручыць,
Вясна красна на ўвесь свет!*
Мы ж думалі, што гром грыміць,
Аж моладзец борць дзяўбаіць,
Борць дзяўбаіць, пчолак садзіць,
Пчолак садзіць, бога просіць,
Каб пчолачкі зляталіся,
Зляталіся, звіваліся
Да й молайцу асталіся —
Да й за працу мядок насіць.

## 14

А ў Сымонькі на дварэ тры свіроначкі,
А ў першым свіронку — жыта і пшаніца,
У другім свіронку — дарагія сукні,
У трэцім свіронку — злота і срэбра.
Жыта і пшаніцу [с]пажываць будзе,
Дарагія сукні насіць будзе,
Срэбрам-злотам шафаваць будзе,
Із сваёй жаной панаваць будзе,
Сваімі дзеткамі пасылаць будзе.
А ў яго на дварэ а стаіць сасна,
[А на той сасне яравыя пчолкі].
— Яравыя пчолкі, што вы думаеце?
— А мы думаем паляцеці
У шчыры бары на жоўтыя цвяты,
А прынясём сто пудоў мёду
Нашаму гаспадару на ўспамогу.
— Яравыя пчолкі, што вы думаеце?
А мы думаем паляцеці,
Паляцім мы ў шчырыя бары,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

А прынясём сто пудоў воску
Нашаму Сымоньку на ўспамогу.
У яго на дварэ а зялён явар,
На том явары ясен сакол
З ясным сакалом размаўляе.
— Ясен сакол, што ты думаеш?
— А я думаю паляцеці,
Я палячу ў шведскую зямлю.
А прыганю я стада быдла
Нашаму Сымоньку на ўспамогу.
— А ясен сакол, што ты думаеш?
— А я думаю паляцеці,
А палячу я ў турэцкую зямлю,
А прыганю я табун коней
Нашаму Сымоньку на ўспамогу.

## 15

Славен, славен наш хазяін,
Вясна красна на ўвесь свет!*
Ах, чым жа ён да гэтак жа славен,
Ці канём, ці валом, ці сваім дабром?
Ні канём, ні валом, да сваім дабром.
Ў яго на дварочку, так як у вяночку.
Да кругом двара да тыны стаяць,
Пад тынамі салаўі пяюць,
Салаўі пяюць, пчолкі гудуць.
Прасіліся пчолкі ў свайго пана
На трыполле да на пагулянне.
Першае поле — паднябеснае,
А другое — да нямецкае,
А трэцяе — да швецкае.

## 16

А з-пад лесу, лесу цёмнага,
Вясна красна на ўвесь свет!*
Ніхто тыя хмары не ўгадае.
Абабраўся чэсны мужа:

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

«Я ж гэту хмару й а ўгадаю,
Я ўгадаю, а спазнаю,
Гэта хмара — пчаліная маці!»
На чый жа двор йна наверне?
Навярнула йна к чэснаму мужу,
К чэснаму мужу пану Івану.
— Садзіцеся, пчолкі, усе на дуб'іку.
То на дуб'іку не памесціліся.
— Садзіцеся, пчолкі, усе па вулліку,
Па вулліку, па сасоннічку.
Па дуб'іку мяды густыя,
Па сасоннічку воскі чыстыя.
Мяды варыць — то сыноў жаніць,
Воскі варыць — свечы сукаць,
Свечы сукаць — к цэркві хадзіць,
К цэркві хадзіць да бога прасіць:
— Сашлі ж, божа, пчолы ярыя!

## 17

— Добры вечар, ды паненачка,
Вясна красна на ўвесь свет!*
Ды ці дома, дома пане гаспадару?
— А няма ж дома, у зялёнай дуброве.
— Што ж ён робіць?—Вуллі строіць,
Вуллі строіць ды бога просіць:
— Прынясі, божа, пчаляную матку
І з дзеткамі, і з суседкамі.
Пчаляная матка — то ж мне самаму,
А пчаляныя дзеткі — то сынам маім,
А суседачкі — дачарам маім.

## 18

Да цераз поле, да шырокае,
Да цераз межы залаценькія
Ішлі, цяклі валачобнічкі
Да пыталіся слаўнага пана,
Слаўнага пана, пана гаспадара.
Да чым жа ён уславіўся?

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

І дабром сваім, і жыватом сваім.
Падмятае двор ўсё павім пяром,
Ўсё павім пяром, залатым крылом.
Стаўляе сталы ўсё [цісовыя],
Засцілае сталы ўсё кітайкаю,
Ўсё кітайкаю, ўсё зялёнаю,
Стаўляе кубкі ўсё срабляныя,
Налівае кубкі зеляным віном,
Зеляным віном, чорным півам,
Чорным півам да салодкім мядо́м
Зеляное віно — пану гаспадару,
Чорнае піва — для жаны яго,
Саладок мядок — для яго дзетак.
Дай табе божа, пане гаспадару,
І ў каморы і ў аборы:
Гдзе гара — там жыта капа,
Гдзе лог — там сена стог.
Пане гаспадару!
Не кажы так іці, кажы надарыці,
Да нашы дары невялікія.
Валачобнічкі — не дакучнічкі,
Да ў год ходзяць да бога просяць.
Пачынальнічку — пяцьдзесятнічку,
Старшаму пяўцу — да капу [яек],
Да кашаляносу — да пірог [illegible] носу.

## 19

Ішлі, брылі валачэбнікі,
[Вясна красна на ўвесь свет!]*
Прыйшлі, прыбрылі к чэснаму мужу,
К чэснаму мужу, багатаму дому.
Ці ёсць, ці нет гаспадар дома,
Гаспадар дома Іванюшка?
Хоць ёсць, хоць нет, да не кажацца,
Садзіцца за стол за цісовенькі,
За скацерку за кручастую.
Стаіць перад ім да тры кубачкі,
Тры кубачкі пазалочаныя.
У першым кубку — зеляно віно,
У другім кубку — салодкі мёд,
У трэцім кубку — пшоннае піва.

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка

Зеляно віно — самому яму,
Салодкі мёд —то жане яго,
Пшоннае піва — то дзяцём яго.
Наш паночак, гаспадарочак,
[Гаспадарочак] Іванюхна!
Сабіраешся ты к абедзеньцы,
Надзяеш ты боты нямецкай работы,
Панчошкі бялёвыя, падвязкі шаўковыя,
Падвязкі шаўковыя і шапачку сабаліную.
Іванічка, наш паночак,
[Наш паночак], гаспадарочак!
Прыказаў таміць, прыкажы дарыць
Нас гасцей валачэбнічкаў.
Нашы дары не вялікія,
Не вялікія і не малыя:
Пачынальнічку — чырвон залаты,
Чырвон залаты на паперанцы,
А белы сыр на талеранцы,
Па чарцы гарэлкі ў бутыланцы.
Падхватнічкам — па дзесятку яец,
А наануслі хоць нямнога — паўзалатога.
Механошага горкая доля,
Горкая доля — жана яго не любіць.
Прынясі, ягамосце, кусок сала,
Штоб яго жонка любіць стала.
Прынясі, ягамосце, кус саланіны,
Кус саланіны ва ўсю спіну.
Жыві здароў са ўсім двапом,
Із дэткамі, з галубяткамі,
З дальнымі прыяцёламі
Да й з бліжнімі суседамі,
Гэты празнічак праважаючы,
На прыбудушчы год дажыдаючы,
У карысці, ў радосці, ў добрым здаровечку.

## 20

Ішлі, брылі валачобнічкі,
[Вясна красна на ўвесь свет!]*
А шаталіся, а бадзяліся,
К чыйму двару прыпыталіся?

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

А к таму двару, к Купрэеву.
А ці дома, дома сам пан гаспадар?
А хоць ён і дома, да не кажацца,
Ён не кажацца — прыбіраецца,
Надзяваіць сукну атласовую,
Надзяваіць боты казловыя,
Надзяваіць шапку сабалёвую,
Надзяваіць пояс, што як жар гарыць.
А й садзіцца ён за цісовы стол,
За цісовенькі да за новенькі,
Да й стаяць жа за ім тры хлопчыкі,
Да тры хлопчыкі, тры малойчыкі.
Дзяржаць жа яны па кубачку,
Па кубачку па сярэбранаму.
У першым кубку — зеляно віно,
У другім кубку — салодкі мядок,
У трэцім кубку — пшоннае піва.
А й каму ж піць тое зеляно віно?
Пану гаспадару, пану ласкаваму!
Салодкі мядок — то яго жане,
Пшоннае піва — то дзяцём яго.
Не кажыце таміць, прыкажыце ж дарыць.
Нашы дары невялікія:
Пачынальніку — чырвон залатэй,
Прыпявальнічкам — па дзесятку яец.
Скамарохава горкая доля:
Чарка гарэлкі, сыр на тарэлкі,
Чарка гарэлкі — то для смеласці,
Сыр на тарэлкі — для крэпасці.

## 21

А ў нядзелю ранюсенька,
[Вясна красна на ўвесь свет!]*
Ішлі хлопцы, ўдалыя малойцы,
Ішлі ж яны гукаючы,
Багатага двору пытаючы,
Багатага двору да чэснага пана.
А ў нашага пана зялезны тын,
Зялезны тын, медзяныя вароты,
Падваротнічкі з рыбяй костачкі.
— Пане гаспадару, адчыні аконца,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка

Адчыні аконца, глянь у роўна польца.
Панскае поле зрана туманіста,
Зрана туманіста, жыта каласіста.
Запрагайце коні да ўсё вараныя,
Пасаджайце жнейкі да ўсё маладыя,
Да паедзем ў поле жыта зажынаці.
Як раз разнём — капу нажнём,
Другі разнём — сто коп нажнём.
А ў нашага пана сталы засціланы,
Сталы засціланы, кубкі наліваны.
У адным кубку —то віно зеляно,
У другім кубку — яравое піва,
У трэцім кубку — то мядок саладок.
Зялёнае віно —для самога пана,
Яравое піва — для жаны яго,
То мядок саладок — для дзетак яго.
Ці ўслых табе, пане гаспадару,
Калі ўслых — даруй гасцей,
Не баў, бардзей!
Чырвень злоты нам на боты,
Саракоўку на падкоўкі,
Гарнец водкі для паходкі.

## 22

Вой, ці дома, дома сам пан хазяін?
[Вясна красна, гожа] на ўвесь свет!*
Ой, ён дома, дома, не адзываецца —
У новай святліцы адзяваецца,
А адзявае шубу шаўровую,
А шапачку бабровую.
А прыбраўшыся, ён да царквы пайшоў,
Ой, да цэркаўкі, ой, да божае,
Ой, да ютрані да святое.
А прышоўшы ж ён да із цэркаўкі,
А сеў жа ён да за столікам,
Да за столікам за цясовенькім.
А ў стале ножкі, ножкі точаныя,
Ножкі точаныя, пазалочаныя.
На стале кубкі паліваныя,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Мёдам, віном наліваныя.
А зялёнае віно — для самога яго,
А мядок саладок — для жаны, для дзетак.
Вот табе, хазяін, песня спета,
Песня спета процiў нова лета,
Богу на славу, вам на здороўе.
А дары, дары да нас не пазні,
Нашы дары невялікія:
Запявальнічку — паўрублёвачку,
Падпявальнічку — да й рублёвачку,
А нашым братцам — да капу яец.
А капу яец нейдзе ўзяці,
А дзесятачак трэба даці.

## 23

Добры вечар, пане гаспадару!
Да віно ж наша зеляное! *
Ці ёсць дома, ці акажашся?
Хоць і дома, не акажацца —
К святому дню прыбіраецца.
Стаўляе сталы ўсё часовыя,
Засцілае сталы ўсё кітайкамі,
Ўсё кітайкамі, ўсё зялёнымі.
Стаўляе чашы надзіманыя,
Налівае чашы чорнага піва,
Чорнага піва, зялёнага віна,
Зялёнага віна, салодкага мёду.
Сам гаспадар да на покуці,
Жана ж яго да кала яго,
Дзеткі яго па-за стулайкам.
Чорнае піва — пану гаспадару,
Зялёнае віно — для яго жаны,
Саладок мядок — для яго дзетак.
Дай табе ўсяго, пане гаспадару,
І ў каморы, і ў аборы,
А на стайні вараныя коні,
Авечкі касматыя, каровы брухатыя,
Каровы брухатыя ды валы рагатыя.
Дай табе ўсяго, пане гаспадару,
Курэй падпечак і яец засечак.

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Вынесь, вынесь, пане гаспадару,
Копу яец на паўміску,
Белым сырам налажыўшы,
Калбасою абкруціўшы.

## 24

Добры вечар, пане гаспадару!
Да зялёны явар, дубровы!*
Да ці дома пан гаспадар?
Дома, дома, не акажацца,
Не акажацца — прыбіраецца.
А к якому дню? Усё к вялікадню.
Памятае двары ўсё павым пяром,
Усё павым пяром, залатым крылом.
Застаўляе лавы ўсё цісовыя,
Усё цісовыя, папісоныя.
Засцілае сталы ўсё кітайкаю,
Усё кітайкаю, ўсё зялёнаю.
Стаўляе кубкі ўсё мядзяныя,
Усё мядзяныя, падзіманыя,
Падзіманыя, пазлачаныя.
Налівае кубкі зеляным віном,
Зеляным віном, пшанічным півам,
Пшанічным півам, мядком саладком.
Мядок саладок — для яго дзяток,
Пшанічнае піва — для яго жаны,
Зеляно віно — для самога пана,
Для самога пана, пана гаспадара.
Дай жа божа пану гаспадару
Жыці-быці, весяліціся,
Гарэліцу гнаці, дочкі аддаваці,
Піўцо варыці, сынкоў жаніці.
А тваё сынкі — доўгія падаркі,
А тваё дочкі — далёкія госці.

## 25

Дзень (і) добры дзень, пане гаспадару,
Ды віно ж маё зеляное!*

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Ды ці ёсць, ці няма ды хто дома?
Хоць і ёсць, хоць няма — не акажацца,
Не акажацца — прыбіраецца
Ўсё к святому дню, ўсё к вялікадню.
Замятае двары ўсё павым пяром,
Ўсё павым пяром, залатым крылом,
Засцілае сталы ўсё кітайкамі,
Ўсё кітайкамі, ўсё зялёнымі,
Ды стаўляе кубкі ўсё пісаныя,
Ўсё пісаныя, маляваныя.
Налівае кубкі зеляным вінам,
Зеляным вінам, чорным півам.
Зялёнае віно — пану гаспадару,
Чорнае піва — для яго жаны,
Саладок мядок — для яго дзяток.
Вынесь, вынесь копу яек,
Копу не копу, а паўкапы мала,
Вынесь сорак, каб усім стала!

## 26

А з-пад лесу, лесу цёмнага,
Вясна красна на ўвесь свет!*
А з-пад гаю, з-пад зялёнага
Ці не тучка йдзець, ці не воблачка?
А йшлі ж тудой валачобнікі,
Валачобнікі — людзі добрыя.
А йшлі ж яны, шаталіся,
Вялікага сяла пыталіся,
Вялікага сяла, багатага двара,
Багатага двара пана Іванькі.
Ці ты дома, пане Іванька?
Хоць ён дома, ён не акажацца —
К вялікаму святу прыбіраецца,
Абуваець боты шаўровыя,
Надзяець шаты па самыя пяты,
Падпяразаіць ды каван пояс.
Прыбраўшыся, ён сеў сабе
За столікам за цясовенькім,
За скацерцю за бялёвенькай.

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Перад ім стаяць чатыры кубкі,
Маляваненькіх, налiваненькiх.
У адным кубку—зеляно віно,
У другім кубку—пшоннае піва,
У трэцім кубку—саладок мядок,
У чацвёртым кубку — горка гарэлка.
Зеляно віно—для самога пана,
Пшоннае піва—для жаны яго,
Саладок мядок—для дзяцей яго,
Горка гарэлка—для суседзь яго.

## 27

Ды йшла туча, туча цёмная,
Зялён явар, зялёны!*
З-пад той тучы — валачобныя.
Ды ішлі ж яны ўсё дарогаю,
Ўсё дарогаю, ўсё шырокаю.
Сустрэлі яны госпада бога,
Госпада бога, Юр'я святога.
Госпаду богу памаліліся,
Шапачкі знялі, на каленях сталі,
Ў госпада бога яны папыталі:
— Ай, божа, божа, укажы дарогу,
Ды куды ж ісці песні пеці.
— У якое сяло?— У вялікае,
У вялікае, у слабодскае.
— Ды к каму ж у двор?— К пану Івану.
А ці дома, дома пане Іване?
Хоць ён і дома, не кажацца —
У каморачцы прыбіраецца,
Надзяе рубашку тонку белую,
Абувае боты слуцкае работы,
Надзяе шапку бабровую,
Надзяе шубу казловую,
Завязвае хустку шаўковую,
Падпяразвае пояс лучковы.
Як прыбраўся, тады ж абазваўся:
— Валачобнічкі ж вы мае мілы,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Ды ці вы мяне ды не знаеце,
Што майго двара вы пытаеце?
Мой жа дварок знакамісценькі,
Знакамісценькі, пазлацісценькі,
На маім дварэ стол-прастол стаіць,
На маім стале ды тры кубачкі,
Ды тры кубачкі, ды тры роўныя,
Ды тры роўныя, ды тры поўныя.
За маім сталом сам бог сядзіць.
Первы кубак—для самога бога,
А другі кубак— для жаны яго,
Трэці кубак—для Юр'я святога.
Святы Юрай па межах ходзіць
І ў Івана жыта родзіць.
Музыканціку—ды капа яец,
Валачобнічкам — гарнец гарэлкі,
Пачынальніку — сыр на талеркі.

## 28

Да й ішлі хлопцы да полем, борам,
Вясна красна на двары!*
Да полем, борам, баравінкаю
Першым дзянёчкам, вечарынкаю,
Іграючы, успяваючы,
Слаўнага пана да пытаючы.
А ці дома, дома слаўны пане?
Хоць ён удома, не акажацца—
У новай каморы прыбіраецца,
Ў казловыя боты абуваецца,
Залатую сукню да на пашкі бярэ,
Шапку-баброўку кладзе на галоўку.
Як прыбраўся, тады аказаўся.
Выйдзі, выйдзі, пане, к нам на ганачак
Да вынесь, пане, нам падарачак.
А які падарак — да сорак яек.
Да сорак яек да сорам даці,
А пяцідзесяці трэба пашукаці.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка

## 29

Добры вечар, да паненачка!
Вясна красна на ўвесь свет!*
Да ці дома, дома пане гаспадару?
Хоць ён дома, не адзываецца—
У чырвоныя боты абуваецца.
І пан і па каморы да пахаджае,
Ён свае сыночкі да пабуджае:
— І ўставайце, сынкі маладыя,
І да бярэце павады шаўковыя,
І залыгайце валы, валы палавыя,
І запрагайце ў ярмы, ў ярмы залатыя,
Загарэце зямлю на вяліку сям'ю.
І зарадзі, божа, панскую ніву,
І да каб вырас каласок з піражок.
Да і каб і было ядро з вядро.

## 30

Добры вечар, пане гаспадару! **
[Вясна красна на ўвесь свет!]*
Заспяваем песню вяльможнаму пану,
Як і для пана, таксама для пані.
У панскім дварочку, як у вяночку,
Садам абсаджоны, тынам гараджоны,
Панская ніва будзе ўрадліва.
Панскія дзеткі, як у садзе кветкі,
Да навукі кемны, у размове прыемны.
Палажыце кладку, пазавіце ў хатку,
Сыр на талерку закусіць гарэлку.

## 31

На першы дзень на вялікадня,
[Вясна красна на ўвесь свет!]*
Сабіраліся, рахаваліся,
Рахаваліся белыя малойцы,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.
** Кожны радок спяваецца два разы.

Белыя малойцы — валачэбнікі.
Сабраўшыся, эрахаваўшыся,
Пашлі яны іграючы,
Іграючы, ўспяваючы,
Слаўнага сяла да пытаючы.
Прышлі яны к слаўнаму сялу,
К слаўнаму сялу, к новаму двару,
К новаму двару на падвор'е,
На падвор'е пад акошачка.
— Дзень добры, пане гаспадару!
Адчыні акошка, паглядзі на двор.
Ў яго на двара вінны калодзезь,
Вінны калодзезь і розныя краскі,
Розныя краскі, морскія пташкі.
Морскія пташкі і залатыя чашкі.
Вінны калодзезь яны выпілі,
Розныя краскі яны пашчыпалі,
Морскія пташкі [яны] разагналі,
Залатыя чашкі яны паламалі.
Засмуціўся пане гаспадару,
А яго жана, вельмі разумна,
Разважыла і разраіла:
«Не смушчыся, мой міленькі!
Вінны калодзезь ён сам нацячэ,
Розныя краскі самі нарастаюць,
Морскія пташкі з мора налятаюць,
Залатыя чашкі залатар прынясе».
Калі любіш гасцей, дык заві ў хату.
Нам, валачобным, мала трэба:
Кварта гарэлкі дзеля пасядзелкі,
А сыр белы на закуску,
А пшонны пірог дзеля коласу,
Карэц яец для маіх рабят,
А пачынальнічку чырвон злоты,
Чырвон злоты то яму на боты.

## 32

Да ў нашага пана гаспадара,
Да зялён явар, дуброва!*

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Сад-вінаград пазасаджаны,
Райскія птушкі папрынаджваны,
Цясовыя сталы да пазасціланы,
Зялёныя кубкі да паналіваны.
Усходзілася шура да бура,
Сад-вінаград да паламала,
Райскія птушкі да паразганяла,
Цясовыя сталы да парассцілала,
Зялёныя кубкі да паразлівала.
Засмуціўся сам пан гаспадар,
А ў яго жонка разважліва,
Па двару ходзіць, пана разважае:
«Не смуціся, пан гаспадар,
Да калі будам жыці да быці,
Сад-вінаград пазасаджваем,
Райскія птушкі папрынаджваем,
Цясовыя сталы да пазасцілаем,
Зялёныя кубкі да паналіваем
І з дзеткамі, і з суседкамі,
І з блізкімі да прыяцелямі».
Кварту гарэлкі пастанавіці,
А сыр белы да палажыці.
Кварта гарэлкі да дзеля смялосці,
А сыр белы да дзеля бялосці.

## 33

А ў нашага пана гаспадара,
Вясна красна к нам прыйшла!*
Пасярод двара залатая гара,
А на той гары да на залатой
Тыны-прытыны папрытынены,
Сады-прысады панасаджваны,
Райскія пташкі папрынаджваны.
Да завінулась шура да й бура,
Усю тую гару да й раздула,
Тыны-прытыны паварочала,
Сады-прысады павырывала,
Райскія пташкі паразганяла.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Да зажурыўся пан гаспадар,
Да на той гары пахаджаючы,
Белыя ручкі да ламаючы.
Да яго жана разважна была:
«Да не журыся, пан гаспадар,
Да калі будзем жыці да быці,
Мы тую гару зноў панасыпляем,
Тыны-прытыны папрытыниваем,
Сады-прысады панасаджваем,
Райскія пташкі папрынаджваем».

## 34

Да на вялікдзень, да на божы дзень,*
[Вясна красна на ўвесь свет!]**
Сабіраліся, рахаваліся
Красныя малойцы—валачэбнікі.
А сабраўшыся і пайшлі сабе,
Іграючы, прыпяваючы,
Слаўнага пана да пытаючы.
Ой, ці дома ты, дома, наш пан?
Ой, хоць дома, не скажацца—
У новай каморы прыбіраецца.
Слаўны наш пан, чым ён славен,
Ці сваім дабром, ці сваім уборам?
На яго двары вялікая ўцеха,
А якая ўцеха?— Залатая гара,
Сад-вінаград, райскія птахі.
Да гэтага ж пана паехалі госці,
А якія госці?— Валачэбнікі.
Сад-вінаград яны паламалі,
Райскія пташкі паразганялі.
Слаўны наш пане, не тамі гасцей,
Не тамі гасцей, надары бардзей,
Вынесі падарак на свой новы ганак,
Капу яек да не лічачы,
Срэбра-злота да не важачы.

---

* Кожны радок спяваецца два разы.
** Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 35

А чый гэта дом свянцоны?
Ці ёсь у доме дабрачэсны хадзяю,
А хадзяю пане Мікалаю?
Устань жа ты, прабудзіся,
Дарагой шубай абхініся,
Падыйдзі к ваконцу, паглядзі на двор,
Што ў цябе на дварэ савяршаецца,
Савяршаецца й аб'яўляецца.
Твой жа дварочак, як тыночак,
Вароцікі мядзяныя,
Падваротнічкі маляваныя.
У канцы варот стаіць ягор,
Тонак, высок аж да неба,
Сучча, веццe да самае зямлі.
Як наляцелі з чыстага поля,
[З чыстага поля] дробныя пташкі,
Дробныя пташкі, усё салавейкі.
Вяльможна паня ходзіць па пакою,
А бярэць хустку у правую ручку
Да выходзіць на ганачак.
Махнула хусткай на зелен ягор:
— Шугі ў лугі, дробныя пташкі,
[Дробныя пташкі], усё салавейкі!
Не 'ббівайце залатога лісця,
[Залатога лісця], срэбранага веццяя,
Мне самой, імасці, знадабна будзець.
Судзіць жа бог сыноў жаніці,
Сыноў жаніці, дачок аддаваці,
А панічам на страменкі,
А паненачкам на вяночкі.

## 36

Ой, лугам, лугам да лугавіною,
Да зялён явар, дуброва!*
Да тудэю ішлі гойныя госці,
Гойныя госці — валачобнічкі.
Валачобнічкі валачыліся

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Да па пояс памачыліся,
Пакуль да пана да дабіліся.
Ой, славён слаўны пане гаспадару.
Ой, чым жа ён да гэтак славён:
Ці канём, ці валом, ці сваім дабром?
На яго дварочку, як у вяночку.
У нашага пана тын тынаваны,
Тын тынаваны, двор маляваны,
Навакола тына саболік іграіць,
[Саболік іграіць] і пчолкі лятаюць.

37

А на вуліцы на шырокай,
Зялёны сад вішнёвы!*
На мураве на зялёнай
Ляжыць бруссе брусаванае,
На тым бруссі мужыкі сядзяць,
Мужыкі сядзяць, раду радзяць,
Раду радзяць, раду добрую,
Раду добрую, валачобную:
Каму ехаць папярод сеяць?
Чыя ручка шчаслівая,
Таго ніўка ўрадлівая,
Таму ехаць папярод сеяць.
Іванава ручка шчаслівая,
Яго ніўка ўрадлівая,
Яму ехаць папярод сеяць.

38

На вуліцы на шырокай,
Зялёны сад вішнёвы!*
На мураўцы на зялёнай
Ляжыць бруссе ўсё цясовае,
На тым бруссі ды мужы сядзяць,
Мужы сядзяць, мужы чэсныя,
Радуюць раду ды вялікую,
Вялікую, ды не малую:

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

А каго ж нам абабраці,
Абабраці, начальству даці?
Абабяром пана Піліпа—
У яго на дварэ агні гарацъ,
Агні гарацъ, катлы вісяць,
Піва варыцца, сыта сыціцца,
Пірагі пякуць, у карабы кладуць,
У карабы кладуць—
Зяця ў госці ждуць.

## 39

А на вуліцы да на шырокай,
А на мураве да на зялёнай
Ляжыць бруссе да цясовае,
А на тым бруссі да мужы сядзяць,
Да мужы сядзяць, мужы часныя,
Да радзяць раду, раду добрую,
Раду добрую валачобную:
Да каго ж мы будзем абіраць войтам?
Абяром войтам слаўнага пана,
Слаўнага пана, [пана] Васіля.
Ён жа ўмееццъ да суды судзіць,
А суды судзіць, судовыя браць.
Самому ж пану каня ваpанога,
А жане ж яго жоўтыя лісы,
На дзяцей яго чорныя бабры,
Чорныя бабры, што б раслі дабры,
Патом таго, слаўны пане,
Да ўжо ж вам песня спета.

*Дзякуюць, атрымаўшы дары:*
А спасіба слаўнаму пану,
Слаўнаму пану, [пану] Васілю
За яго хлябы сітовыя,
За яго страўкі за сахарныя,
За яго слоўцы за пакорныя.
А патом таго да дзецям яго,
А патом таго да і ўсёй сям'і.
Да жыві здароў да і будзь багат,
Да не сам сабой, да й з сваім дваром,
Да з сваімі любадзеткамі,

Да з сваімі і са бліжнімі,
І са бліжнімі і са дальнімі,
З пакрэўнымі да прыяцелямі.

## 40

Вялікадня, на святога дня,
[Вясна красна на ўвесь свет!]*
Красныя малойцы сабіраліся,
Сабраўшыся, рахаваліся,
У слаўнага пана ды пыталіся:
— А куды ж мы пойдзем, пане пачынальнік?
— Ой, пойдзем мы дарожкаю,
Ой, дарожкаю ды шырокаю,
Ой, пойдзем мы к ціхаму Дунаю.
Ці дома, дома слаўны пане?
Няма дома, паехаў да Львова.
Ва Львове ён суды судзіць,
Суды судзіць, перасуд бярэ,
Перасуд бярэ ды дадому шле,
Ды дадому шле сваёй жане,
Ды сваім дзеткам на сукенку,
Ды сваёй жане ды на шубаньку.

## 41

Да хадзілі мы не дзень і не два,
Не дзень, не два, не ноч і не дзве,
Мядок саладок, віно зеляно!**
Да шукалі ж мы слаўнага пана,
Слаўнага пана, пана гаспадара.
Яго дворня брукам брукавана,
Брукам брукавана, тынам тынавана.
Яго жана па двары ходзіць,
Па двары ходзіць і пляху віна носіць
Да і кукольнічкаў просіць:
— Да і кукольнічкі-сваявольнічкі!
Паволі хадзіце да не гаманіце
Да майго пана не будзіце!

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.
** Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага двухрадкоўя.

Да быў мой пан у вялікай дарозе,
У вялікай дарозе, у слуцкім абозе,
Да суды судзіў, да перасудкі браў,
Сынкам сваім конікі спраўляў,
Да спраўляў сынкам па коніку,
Па коніку да па вараненькім,
А сваей жане кунню шубу.
Сынкі ж будуць паязджаці,
А дачушкі будуць скакаці,
А жана ў шубе пахаджаці.

## 42

А йшлі, гулі валачобныя*,
Вясна красна, дзень цёплы!**
Ішлі ж яны ўсё гукаючы,
Слаўнага мужа да пытаючы:
— Да ці дома, дома слаўны мужа?
Хоць ён і дома, да не акажацца—
У каморачцы прыбіраецца,
У сінія сукны адзяваецца,
Баброву шапку кладзе на галоўку,
Шаўковы пояс падперазуе.
Як прыбраўся, тады абазваўся:
— Дзіўныя людзі валачобныя,
Што ж вы мяне да не знаеце,
Чаго ж мяне да пытаеце,
А ці вы ж мяне ці двара майго?
Мой жа дварок знакаміценькі:
Паўз мой дварок рэчкі цякуць,
Рэчкі цякуць, масты мосцяцца,
Усе й калінавыя, усе й малінавыя.
Цераз той мосцік сам гасподзь ішоў,
Сам гасподзь ішоў, матка божая.
А святы Юрай, запрагай коней,
Святы Мікола, гавары з мужам,
Гавары з мужам, што яму за долю даці.
Першая доля—жыта ядраное,
Другая доля—коні вараныя,

---

* Кожны радок спяваецца два разы.
** Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Трэцяя доля—дзеці дробныя.
Жыта ядронае—пажынаць будзем,
Коні вараныя— паязджаць будзем,
Дзеці дробныя—пасылаць будзем.

## 43

На першы дзень на вялікадня,
Зялён явар, зялёны!*
Ішла туча, туча цёмная,
Туча цёмная, валачобная.
Да ішлі ж яны ўсё дарогаю,
Ўсё дарогаю, ўсё шырокаю,
Да мураўкаю зеляненькаю.
Сустрэлі яны госпада бога,
Як спаткалі, шапкі знялі,
Шапкі знялі, сукланіліся,
Сукланіўшыся, папыталіся:
— Госпадзі божа, ўкажы нам дарогу,
Ўкажы нам дарогу к вялікаму сялу,
К вялікаму сялу, [redacted] новаму двару,
К чэснаму мужу, к пану Івану.
— А ці вы ж яго да не знаеце,
Да што вы яго да пытаеце?
Да яго ж дварок знакамісценькі,
Да кругом двара да рака цячэ,
Рака быстрая, беражыстая.
Падышлі яны пад акенечка,
Да пад новае, пад цясовае.
А ці дома, дома пане Іване?
Хоць ён дома, да не кажацца—
У каморачцы прыбіраецца.
Надзяе шубу бабровую,
Надзяе штаны картовыя,
Надзяе боты казловыя.
Як прыбраўся, так і абазваўся,
Так і да цэрквы богу маліцца,
Богу маліцца, ў бога прасіці:
— Дай жа мне, божа, да тры сыночкі,
Да тры сыночкі, ўсе работнічкі.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

6. Зак. 1108

Першы сыночак пахарнік будзе,
Другі сыночак водчычак будзе,
Трэці сыночак крэўчычак будзе.
Пахар гукне ў чыстаму полі,
Палавыя валы паганяючы,
Госпада бога успамінаючы:
— Дай жа мне, божа, хараша спахаці,
Гэтаму рошчу хараша расціці.
Водчычак гукне ў зялёнай дуброве,
Цясовыя вуллі адчыняючы,
Госпада бога успамінаючы:
— Дай жа мне, божа, матку пчаляністую,
Пчаляністую і раістую,
І раістую, і мядзістую.
Крэўчык гукне за скам'ёю,
Шаўковыя сукні рассцілаючы,
Госпада бога успамінаючы:
— Дай жа мне, божа, хараша пашыці,
А хадзяіну весела знасіці.

## У ПАНА ГАСПАДАРА ЖЫТА РОДЗІЦЬ

### 44

Добры вечар, чэсны й пане,
Чэсны й пане, [пане] Аркадзі!
Чы пазволіш песню спеці?
Ва нядзельку паранюсенька
Ўзышло сонца весялюсенька,
Ўзышло яно абутрала,
Асвяціла лугі, бары,
Лугі, бары, чыстае поле,
Чыстае поле, жыта ядраное.
Во што ў полі рана пагукаець?
Во чы лебедзі, во чы сокалы?
Во не лебедзі, во не сокалы—
Ядраное жыта гаспадара кліча.
Патом таго, слаўны пане,
Слаўны пане, [пане] Аркадзі,
Пасеяў жыта, у полі не быў,
У полі не быў, не адведаваў.
Не адведаў у корані,
Адведай хоць у коласе.
А ў корані каранісценька,
А ў коласе каласісценька.
Патом таго, слаўны пане,
Слаўны пане, [пане] Аркадзі,
А пашоў жа ён у чыстае поле
Поле палявацї, жыта аглядаці,
Пяшком пашоў, ён не абышоў,
На кані паехаў, ён не аб'ехаў,
Сакалом ляцеў, жыта глядзеў:
— Хвала божа, харашо жыта!
Каласок гнецца, аб зямлю б'ецца,
Ядраное жыта высыпаецца,
Колас к коласу галаву клоніць.
Патом таго, слаўны пане,
Слаўны пане, [пане] Аркадзі,

Ой, едзь жа ты да доманьку,
Да доманьку да новага,
Да новага, да айцоўскага,
Да айцоўскага, да бацькоўскага,
[Да] караватачкі да цісовае,
Да сваёй жаны да вернае.
— Ты жана мая, ты душа мая,
Ох, быў жа я ва чыстым полі
Поля палявацї, жыта аглядацї,
Хвала богу, харашо жыта!
Патом таго, слаўны пане,
Слаўны пане, [пане] Аркадзі,
Вайдзі жа ты да стаенкі,
Да новае, да айцоўскае.
Вазьмі каня варанейшага,
Варанейшага, што найлепшага.
Паязджай жа ты да горада,
Да горада да Магілёва.
А стань жа ты на рыначку,
На рыначку, пры крамачку,
Пакупляй сярпы ўсе сталістыя,
Падзяржаначкі пазлацістыя.
Прыехаў жа ён із горада,
Із горада із Магілёва.
Чэсная пані дагадліва:
Сабрала жняёк да павён дварок,
Сорак сярпоў жыта жаці,
Сорак хлапцоў сноп'я насіці,
Сорак мужчын копы класці.
— Ты жана мая, ты душа мая,
Заві жняёк у хатачку,
Запалі свечы трайчастыя,
Саджай жняёк за столічак,
За столічак за цясовенькі,
За цясовенькі, за кляновенькі,
За скацеркі бярчастыя,
За тарэлачкі двайчастыя,
За ложачкі серабрастыя,
За хлябцы за сітовыя,
За страўцу за сахарную.
Пабі й жа ты іх хлебам, соллю.
— Цяпер вы, жнейкі, не пышыцеся,
Госпаду богу памаліцеся,

Слаўнаму пану пакланіцеся.
Патом таго, слаўны пане,
Слаўны пане, [пане] Аркадзі,
Адпраўляй жняёк у чыстае поле,
Чэсную жану во пепераду,
З белым сырам, з малым сынам.
Што раз разнець, то сноп нажнець,
На ступень пражнець—капу кладзець.
Часты-густы ў небе звёзды,
Часцей-гусцей у полі копы
Слаўнага пана, [пана] Аркадзі.
Вялік-шырок у небе месяц,
Шырэй-вышэй у гумне стагі
Слаўнага пана, [пана] Аркадзі.
Перанясі, божа, во гэту пашэнку,
Во гэту пашэнку чэраз асетку.
Вот дай, божа, умалоціста,
А ў закроме во насыпіста,
А з закрому невыборыста,
У мельніцы намеліста,
У дзяжы падыходзіста,
У печы набуханіста,
У столічку укроіста,
У сямействе — міравая сыць.
Патом таго, слаўны пане,
Слаўны пане, [пане] Аркадзі,
Да ўжо ж госці даўно пяюць,
Слаўнаму пану весці даюць.
Ах, мы госці недакучныя,
Год у год раз пабываем,
Вашага здароўя спытаем,
Вот у той жа дзень, у вялікдзень.
Ой, чым жа нас дарыць будзеш,
Чы золатам, чы серабром,
Чы краснымі яечкамі,
Чы харошымі славечкамі?
Нашы дары не вялікія,
Не вялікія і не малыя:
Пачынальнічку — чырвон злоты,
Падхватнічку — паўзалатога.
Асвістаму хоць нямнога,
Хоць нямнога—каня варанога,
Каня варанога гулі вазіць.

Нашай скрыпца — мерка жытца,
Наш механош—кашэль насіць,
Кашэль насіць, сала прасіць,
Поўсць сланіны з самай серадзіны.
А на нашу браццю—па капе яец,
Па капе яец негдзе ўзяці,
Па дзесятачку можна даці.
А музыкава горкая доля,
Горкая доля — кварта гарэўкі,
Кварта гарэўкі, сыр на тарэўкі,
Пірог мяккі на закуску.
Кварта гарэўкі для смеласці,
Пірог мяккі для крэпасці,
Сыр бяленькі для голасу.
А што не вып'ець—мы дапаможам,
Як уп'ецца—спацькі паложым,
Як праспіцца, працверазіцца,
Пойдзець з намі развесяліцца.
Патом таго, слаўны пане,
Слаўны пане, [пане] Аркадзі,
Да ўжо ж вам песня спета,
Песня спета проціў лета,
Проціў лета, лета краснага,
Ў добрай ласцы, ў добрай згодзе,
Ў добрай згодзе, нам пець годзе.

## 45

Ідуць, гудуць валачоўнічкі,
Вінам, вінам зялёным!*
Спяваючы, гукаючы,
Слаўнага сяла пытаючы,
Вялікага двара Гаўрылава.
Чы ўдаму, даму пане гаспадару?
Хоць і ўдаму, не акажацца —
Сядзіць на куце, абуваецца.
Надзяе боты казловыя,
Кладзе шапку бабровую,
Надзяе шубу мядзведжую,
Сядлае каня ворана,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Едзе ў поле жыта глядзець.
Спатыкае яго Юр'е з Міколай:
— Не едзь, пане гаспадару,
Тваё жыта даўно агледжана,
Пры дарозе удалося,
За гарою ў трубы павілося.
А ў даліне жнейкі жалі,
Жнейкі жалі маладзенькі,
Іх сярпочкі залаценькі.
Часты-густы зоры на небе,
Часцей-гусцей на зямлі копы.
Шырок-вялік месяц на небе,
Шырэй таго гумно яго.
Дай жа божа пану гаспадару
Жыці-быці, жыта вазіці,
Жыта вазіці, у тарпу злажыці.
У торпах укладна, на таку ўмалотна,
На таку ўмалотна, ў арудзе прысыпна.
У арудзе прысыпна, у печы прысушна,
У печы прысушна, у млыне прымолна,
У млыне прымолна, ў дзяжы падыходна,
Ў дзяжы падыходна, у печы румяна,
У печы румяна, на стале сытна,
На стале сытна, у сям'і змірна!
Песня спета проці лета,
Не кажы барыць, а кажы дарыць.
Сыр на талерку, будзем піць гарэлку.
Пірог пшонны на закуску,
Чарку гарэлкі дзеля голасу,
Пірог пшонны дзеля коласу.
Вобад вісіць — калясо будзе,
Пазавеш у хату—добра будзе!
Песня спета проці лета,
Проці лета, проці цёплага.

## 46

Добры вечар, пане гаспадару!
Віно ж, віно ж зялёнае!*
А ці дома пан гаспадар?

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Прыйшлі ж мы да пана,
Да пана, як да гетмана,
Заспяваць прыкладна,
Заімшаваць ладна.
Панскае падворка брукавана,
Жоўтым пясочкам пасыпана.
У панскім ганку, як у вянку.
Мы не пойдзем у хату,
Проста ў поле,
Проста ў поле на панскую ніву,
Каб панская ніва была ўрадліва.
Дай жа божа, пане гаспадару,
Як пан араў, валы бушавалі,
Як баранаваў, коні іржалі.
Каб у панскай торпе было прыкладненька,
А на таку было прымалатненька,
А ў арудзе было прысыпненька,
А ў млыне было прымяльненька,
А ў дзежцы было прыхадненька,
А на стале кварта гарэлкі.

## 47

Радзі, божа, жыта
На новае лета.
Серпачком жата,
Жменькаю брата,
Ў снапкі вязана,
Ў сцірты кладзена,
На воз кладзена,
Жэрдкаю ўсціснена,
Ў гумно ўвезена,
Ў старану зложана,
На таку змалочана,
Ў печы прысушана,
Ў жорнах прымолана,
Ў дзяжы прыкіснена,
Ў пячы прыпечана.
На стале акроена,
Дружыне прысытна.

## 48

А ў нядзелю паранечку,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
Ходзіць наш хаяін па ганачку.
А ён ходзіць, пахаджае,
Сынкі свае паклікае:
— Сынкі мае вярненькія,
Асядлайце каня варанога,
Каня варанога, сядла залатога,
Я паеду на роўнае поле,
На роўнае поле нівы аглядаці.
Як выехаў за вароцечка,
Сустрачае госпада бога.
— Куды едзеш, добры гаспадару?
— А я еду на роўнае поле,
На роўнае поле нівы аглядаці.
— Не едзь, не едзь, добры гаспадару,
Твая ніва ўся ўрадліва,
А што горка, то жыта копка,
А што лужок—сена стажок,
Будзе на праданне і для сябе стане.
Гэта табе, пане гаспадару,
Песня спета проціў лета,
Проціў лета ўрадлівага,
Проціў года шчаслівага,
Проціў Юр'я на здароўе.
Яйкі фарбаваны, мы людзі каханы,
Мы жычым праўдзіва, дай божа шчасліва.

## 49

А ці ўдому пане гаспадару?
Да віно ж маё зеляное!*
Ой, ці ўдому, ці акажацца?
Хоць і ўдому, не акажацца,
Не акажацца—прыбіраецца,
Абувае боты шаўровыя,
Адзявае шубу babровую.
Паедзе у поле жыта аглядаці.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Жыта і пшаніцу, ўсяляку пашніцу.
У даліне жыта удалося,
А на грудзе ў трубы павілося.
Там жнуць жнейкі маладзенькі,
У іх сярпочкі залаценькі.
Снапок звяжа—копка ляжа,
Копка ляжа—на воз кладуць,
Яе на воз кладуць да у гумно вязуць.
У гумне укладна, на таку ўмалотна,
У таку ўмалотна, у млыне прымольна,
У млыне прымольна, ў дзяжы падыходна,
У печы румяна, да стала падана,
За сталом сытна, ўсёй сямейцы змірна.

*Віншаванне:*
Нашым братцам сорак яек,
Сорак не сорак, пяцьдзесят да мала,
Пяцьдзесят да мала, каб усім стала.
Бутэльку гарэлкі, сыр на тарэлкі,
Палажы кладку, зазаві ў хатку.

## 50

Ішлі хлопцы, удалыя малойцы,
[Вясна красна на ўвесь свет!]*
Ішлі ж яны гукаючы,
Багатага двору шукаючы,
Багатага двору да чэснага пана.
— Ці спіш, ляжыш, пане гаспадару?
Калі не спіш, адзавіся,
Адзавіся, бела умыйся,
Бела умыйся, гладка прычашыся,
Ў казловыя боты да ўсё прыбярыся.
Потым таго, пане гаспадару,
Глянь у аконца, глянь у другое.
На тваім дварышчы сіні туманішча,
Сіні туманішча, зялёнае жыта.
Потым таго, пане гаспадару,
Рабі сярпы сталёвыя,
Сталёвыя да ўсё вострыя.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Тваe жнейкі да ўсё маладыя,
Разок махнуць — снапок нажнуць,
Другі махнуць — капу нажнуць.
Потым таго, пане гаспадару,
Твая жонка барэда гжэчна,
Дасць нам гарэлкі і сыр на тарэлку,
Сорак яек на паўміску.
Тыя яйкі мы палічым,
Тваю жонку павялічым.

## 51

А ці ўдома, ўдома пане гаспадару?
Вiном, віном зялёным!*
Хоць і ўдома, не акажацца —
Сядзіць на крэсле абуваецца,
Абувае боты шаўровыя,
Адзяе шубу бабровую,
Бярэ ключы залаценькія.
Пойдзе адмыкаці каня варанога
І паедзе поле аб'язджаці,
Поле аб'язджаці, жыта аглядаці,
Жыта аглядаці, ці пара жаці,
Ці пара жаці, жнеек наймаці.
Урадзіла жыта пры дарозе,
А ў даліне ў трубы павілося.
Што жнеечка, то жменечка,
Што сярпочак, то снапочак.
Песня спета проці лета.

## 52

На першы дзень на вялікдзень,
Зялён явар, зялёны!*
Валачобнікі сабіраліся,
Сабіраліся, рахаваліся:
— А куды пойдзем, а куды зайдзем?
Пойдзем, пойдзем ўсё дарогаю,
Усё дарогаю, ўсё шырокаю.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Зайдзем, зайдзем к пану Івану.
А ці дома, дома пане Іване?
Хоць ён жа дома, не акажацца —
У новай каморы прыбіраецца,
Адзяе майтачкі гарнатовыя,
Адзяе боцікі ўсё казловыя,
Адзяе шубачку сабалёвую,
Адзяе шапачку ўсё бабровую,
Выводзіць каня вараненькага,
А кладзе сядло залаценькае.
Садзіцца, едзе ў роўнае поле,
Ў роўнае поле ды к свайму жыту.
А яго жыта ядраністае,
Ядраністае, каласістае.
К адной мяжы нахілілася,
Свайму гаспадару пакланілася.
Песенька спета напроці лета,
А будзь жа весел, як вясна красна,
А будзь жа ціхі, як ціха лета,
А будзь жа багаты, як багата восень.
А ты, гаспадынька, ўсё дагадайся:
Скавародку—ў печ, па яечкі—ў клець,
Кусок сала пакрышыці,
А каўбаскаю абгарадзіці,
Кварту гарэлкі і сыр на талеркі.

## 53

А што ў полі рана гукала?
Рана гукала жыта густое.
Яно гукала чэснага мужа:
— Ой, чэсны муж, сам пан Якаў,
Не магу стаяць, коласа дзяржаць,
Колас клоніць, сукалена ломіць,
[Сукалена ломіць], саломіну трасціць.
— Пастой, пастой, жыта густое!
А з панядзелку на ўсю нядзельку
Сабяру на цябе я жней маладых,
Жнеі маладыя, сярпы залатыя.
Часты-ясны зоркі на небе,
А часцей таго копы на зямлі.
Во шырок-высок месяц на небе,

Шырэй-вышэй стагі на гумне,
А на тым гумне на Якавіным.
А патом таго сам пан Якаў
Па гумну ходзіць ды бога хваліць:
— Слава табе, вышняму богу,
Што ёсць з чаго піва варыць,
Піва варыць, сыту сыціць,
Во сыту сыціць, во гасцей паіць,
Ой, тых гасцей, валачобнікаў.
Валачобныя — людзі добрыя,
Яны год у год павалочацца,
Яны год у год на вялікадня.

## 54

Ці ўдому, ўдому пане гаспадару?
Да віно ж, віно зялёнае!*
Ой, хоць дома, не акажацца —
У панскія боты абуваецца,
Абуваецца, прыбіраецца.
Каня сядлае, у поле выязджае,
Поле аб'язджае, жыта аглядае.
Спаткалася Юр'я ў вароцечках:
— Куды едзеш, пане гаспадару?
— Еду ў поле жыта аглядаці.
— Вярніся ж дамоў, пане гаспадару,
Ужо тваё поле абгледжана.
На адной ніўцы ў трубу звілося,
А на другой там жнейкі жнуць,
Да жнуць жнейкі маладзенькія,
Іх сярпочкі залаценькія.
Густа-густа зор на небе,
Гусцей таго снапоў у яго.
Высок-высок месяц на небе,
Вышэй таго гумно яго.
Дай жа божа, пане гаспадару,
З поля звесці і ў торпы злажыці.
У торпах укладна, на таку ўмалотна,
У арудах прысыпна, у печы прысушна,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

А ў млыне прымольна, а ў дзяжы падходна,
А ў печы румяна, на стале сытна,
А ў сям'і змірна.

## 55

Ідзём, пайдзём па вуліцы,
Зялёны сад, вішнёвы сад!*
Спяём песню сяму-таму.
Гаспадару, слічны пане,
Ці спіш, ляжыш, адпачываеш
Ды жоначку абымаеш?
Устань рана, не спі позна,
Сядзь пад акном на ўсход сонца,
Глянь, на двара што дзеецца,
Што дзеецца, лялеецца!
Сады цвітуць, расцвітаюць,
Птушкі пяюць, распяваюць!
Бяры сядло залатое,
Сядлай каня варанога,
Язджай ў поле шырокае:
Тваё жыта прыдалося,
Колас точыць — выплываць хоча!

## 56

Добры вечар, слаўны пане!
Віно ж, віно зялёнае!*
Слаўны пане гаспадару,
Сярод двара стаіць вярба,
На той вярбе салавей пяе.
Салавей пяе, пана будзіць.
Устань, пане, абуй боты,
Абуй боты, адчыні акенца.
Адчыні акенца, паглядзі ў гуменца,
Адчыні другое, паглядзі у поле,
Што там у полі выраблясцца:
У тры лубкі збожжа сеецца,
У сто коней барануецца.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

*Пасля прыгавор:*
Пакладзі кладку,
Пазаві ў хатку,
Бутэльку гарэлкі,
Сыр на талерку.
Віншуе, алілюе!

## 57

Ішлі, пайшлі валачобнічкі,
Іграючы, успяваючы,
Слаўнага пана пытаючы,
Слаўнага пана гаспадара.
— А ці дома ж, пане гаспадару?
Ці спіш, ці ляжыш, ці не ўкажашся,
На канапе убіраешся?
Яго жана адказуе:
— Не спіць, не ляжыць, не аказуецца —
На канапе убіраецца,
Надзяе порткі замшовыя,
Надзяе сукні саятовыя,
Надзяе боты казловыя,
Завязуе хустку шаўковую,
Надзяе шапку сабалёвую.
Яго служкі каня выводзяць,
Выводзяць каня варанога.
Кладуць сядло залатое.
Паехаў пан жыта глядзець,
А спаткаўся з святым Юр'ем.
— Павярніся ж, пане гаспадару,
Я тваё жыта сам агледзеў.
Харошае жыта, каласістае,
К адной мяжы прыклянула,
К другой мяжы нахілілася,
Пану гаспадару пакланілася,
Хоча яно спачыніціся.
Прысылай, пане, семдзесят сярпоў,
Семдзесят сярпоў жыта жаць,
Дваццаць малайцоў снапы складаць,
А сто падвод снапы вазіць.
Патом таго на здаровенька,
Жыві здароў, будзь і багат,
Не трымай гасцей да дары бардзей.

*Хор*

Нашы дары невялікія:
Пачынальніку — чырвон злоты,
Яго дружыне — па грошыку,
Механосу — карэц яец,
А музыцы чы не добра доля?
Добрая доля — кварта гарэлкі.
Кварта гарэлкі — то для голасу,
А пірог пшонны — то для коласу.
Валачобнічкі — не дакучнічкі,
У год ходзіце, бога просіце.
Яны пяюць, як салавейкі,
Як салавейкі ў лузе на каліне.
Стой, калінка, стой, не хіліся,
Слаўная пані, развесяліся.

## 58

На вялікдзень на першы дзень
Валачэбнічкі збіраліся,
Збіраліся, рахаваліся,
Слаўнага пана да пыталіся:
— Да чы дома, дома, слаўны пане?
Калі дома, устань рана,
Устань рана, ўмыйся бела,
Ўмыйся бела, ўтрыся суха,
Надзень боты казловыя,
Падпяражы пояс шаўковенькі,
Завяжы хустачку шчыразлотную,
Надзень шапку бабровую,
Надзень шубу атласовую,
Адчыні акно, паглядзі ў гумно,
Адчыні другое, паглядзі ў поле,
Што ў тваім полі дзіва дзеецца,
Дзіва дзеецца, жыта сеецца,
Сам бог ходзе, жыта родзе,
Жыта і пшаніцу, усякую пашніцу.
Што мовіла ядраное жыта,
Ядраное жыта слаўнаму пану,
Слаўнаму пану, пану гаспадару:
— Сядлай каня варанога,

Едзь у поле жыта глядзець.
Спаткаў яго святы Юры:
— Куды едзеш, слаўны пане?
— Еду ў поле жыта глядзець.
— Я ж тваяго жыта сам абгледзеў.
І ў корані каранітае,
І ў саломцы сцяблістае,
І ў коласе ядраністае;
Пры корані анёл стаіць,
А ў саломцы не ззыблецца,
А ў каласочку не здзержыцца.
Наймай кавалі даражэнькія,
Куй сярпочкі залаценькія
Ды шлі жнейкі ў поле жаці.
Часты-густы зоры на небе,
Часцей-гусцей жнейкі ў полі.
Часты-густы зоры на небе,
Шырэй-вышэй сцягі ў полі,
Сцягі ў полі, сціпты ў гумне.
Шумяць-гудзяць цёмны хмары,
Шумней-гудней копкі ў гумне.
Што мовіла ядраное жыта,
Ядраное жыта слаўнаму пану,
Слаўнаму пану, пану гаспадару?
— Вазьмі свечку грамнічную
Ды праводзь яго да гумна свайго.
Ой, чым жа ты уславіўся:
Чы гумном сваім, чы дабром сваім?
— Ой, славен я гумном сваім,
Слаўней таго дваром сваім.
Яго двары тынам тынены,
Тынам тынены ды сырым дубам,
На яго двары ў тры рады хлявы,
Яго вярэюшкі мядзяныя
І вароцечкі пазлацаныя,
Падваротнічка — рыб'я костачка.
На яго дварцы віна калодзезь,
Яго двары падмятаныя.
Падмяталі двары ясны сокалы,
З руму на рум вылятаючы,
Слаўнага пана пабуджаючы.
— Выйдзі, выйдзі ды на ганачак,
Нашы брацця заўспявалі,

Як [салавейка ў ніцай] у лозе,
[Ў ніцай]у лозе ды ў калінінцы.
Ды стой, калінінка, не зыбліся,
Слаўны пане, ды развесяліся.
Выйдзі, выйдзі ды на ганачак,
Вынесь, вынесь нам падарачак.
Нашы дары невялікія:
Пачынальніку — чырвон злоты,
Нашым таварышам — па дзесятку,
А механосу — два-тры грошы,
А музыку горкая доля —
Кварта гарэлкі дзеля пасядзелкі,
І сыр белы дзеля галосу,
Пірог пшонны дзеля калосу.

## 59

Ідуць, гудуць валачэўнікі,
Віно ды віно ж мае зялёнае!*
Іграючы, спяваючы,
Слаўнага сяла пытаючы,
Слаўнага сяла, шырокага двара,
Шырокага двара пана Урбановіча.
Прыйшлі да пана, як да гетмана.
У панскім ганку, як у замку,
Панска брама падуняна,
Абгародка пазлачана.
У панскім ганку сталы стаяць,
Сталы стаяць цясовыя,
Пазасціланы абрусы сурвятовыя,
Паналіваны кубкі поўныя.
Панска жонка падвышона,
Панскія дзеткі, як у гародзе кветкі.
А ці дома, дома пане Урбановіч?
Хоць і дома, не акажацца —
У каморы на крэслечку
Умываецца, прыбіраецца.
Пойдзе ў поле жыта аглядаці.
Адзеў боты казловыя,
Адзеў шубу енатовую,
Адзеў шапку бабровую,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Завязаў пояс — ясен месяц.
Пайшоў ў поле жыта аглядаці.
Пры дарозе жыта прыдалося,
Пры даліне жыта пахіліла,
Пры прагоне ў трубы павілося.
Там жнуць жнейкі маладзенькія.
Іх сярпочкі залаценькія.
Што жнеечка — то жменечка,
Што жменечка — то снапочак,
Што снапочак — то копачка,
Што копачка — то й вазочак.
Дай жа божа жыці-быці,
Жыці-быці, жыта звазіці,
Жыта звазіці, ў гумно злажыці.
Дай жа божа ў тарпе прыкладна,
Ў тарпе прыкладна, на таку ўмалотна,
На таку ўмалотна, ў арудзе прысыпна,
Ў арудзе прысыпна, у печы прысушна,
У печы прысушна, у млыне прымольна,
У млыне прымольна, ў дзяжы падыходна,
У дзяжы падыходна, у печы румяна,
У печы румяна, а на стале сытна,
На стале сытна, ў сям'і змірна!
Пане гаспадару, песня спета,
Песня спета проці лета,
Проці лета, проці цёплага,
Проці цёплага, велікоднага,
Велікоднага, ўсім угоднага.
Пане гаспадару, не тамі гасцей,
Не тамі гасцей, надары барджэй:
Карэц яек нелічоных,
Дзве саракоўкі нам на падкоўкі,
Бо мы ўсе боты патапталі,
Пакуль да пана дапыталі.
Мы хадзілі каля лазы,
Спалохаліся дзікай казы.

## 60

Ідуць, гудуць валачэўнічкі,
Віно да віно, віно зялёнае!*

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Іграючы, спяваючы,
Слаўнага сяла пытаючы,
Слаўнага сяла, шырокага двара,
Шырокага двара, багатага гаспадара.
Ці дома пане гаспадару?
Хоць удома, не акажацца —
Сядзіць у хляве абуваецца,
Абувае боты храмовыя,
Кладзе шубу мядзведзеву,
Падпяразае пояс — ясен месяц,
Па пакоі ходзіць, служак пабуджае:
— Ўстаньце, служкі, ўстаньце, дарагія.
У нас сягоння дзіва здзівілась:
Дзевяць кароў ацялілась,
Дзесята цяліца цяліцца маніцца,
Хлявец авец пакацілася.
Асядлайце каня варанога —
Я й паеду поле аглядаці,
Поле аглядаці, ці будзе што жаці.
Еду ў поле і другое,
На трэцяе ўз'язджаю і Юр'я страчаю.
— Куды, пане гаспадару?
— Еду ў поле жыта аглядаці,
Жыта аглядаці, ці будзе што жаці.
— Каля твайго жыта сам бог ходзіць,
Сам бог ходзіць, ключом звоніць,
Ключом звоніць, зямлю адмыкае,
Зямлю адмыкае — расу выпускае.
Пры дарозе жыта ўдалося,
А ў лагчыне ў трубы павілося.
Там на ўзгорку пахілілася,
Там жнуць жнейкі маладзенькія,
У іх сярпочкі залаценькія.
Першая жнейка — гаспадынька,
Другая жнейка — нявестачка,
Трэцяя жнейка — дачушачка.
Што й слядочак, то й снапочак,
Што й снапочак, то й бабачка,
Што й бабачка, то й копачка.
Часцей-гусцей зорак на небе,
Часцей зорак копак на ніве,
Дай жа божа, пане гаспадару,
Жыці-быці, жыта павазіці,

Жыта павазіцi, ў тарпу злажыцi,
У тарпу прыкладна, на таку ўмалотна,
На таку ўмалотна, ў арудзе прысыпна,
У арудзе прысыпна, ў млыне прымольна,
У млыне прымольна, ў дзяжы падыходна,
У дзяжы падыходна, ў пячы румяна,
У пячы румяна, на стале сытна,
На стале сытна, ў сям'і смірна.

*Прыгаворка:*
Дай жа божа, пане гаспадару,
Жыцi-быцi, сто бочак жыта намалацiцi,
Паўбочкі прадацi, валачэўнікам дацi.

## 61

Ідуць, гудуць валачэўнічкі,
Зялён явар, зялёны!*
Ідуць яны пытаючы,
Таго двара шукаючы.
А цi ў доме пане гаспадару?
А цi ў доме, не акажацца —
У каморы сабіраецца,
Адзеў шубу мядзведжую,
Адзеў шапку бабровую,
Абуў боты хромавыя,
Асядлаў каня варанога,
Едзе ў поле жыта аглядацi.
— Пане гаспадару, куды едзеш?
Твае жыты абгледжаны,
Абгледжаны, аб'езджаны.
Юр'я і Мікола па межах ходзяць,
Па межах ходзяць, жыта родзяць.
Пры дарозе прыдалося,
Пры даліне ў трубы павілося.
Там жа жыта жалі жнейкі,
Там жа жнейкі маладзенькія,
Ў іх сярпочкі залаценькія,
Ў іх сярпочкі залаценькія.
Што жнеечка, то і жменечка,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Што сярпочак, то і снапочак,
Што снапочак, то і копачка,
Што копачка, то і торпачка.
На таку ўмалот, а ў млыне прымольна,
А ў дзяжы падходна, а ў печы румяна,
На стале нажытна, усёй сям'і насытна.
Песня спета проціў лета,
Проціў лета, проціў цёплага,
Проціў цёплага, велікоднага,
Велікоднага, семігоднага.

## 62

Добры вечар, пану гаспадару!
Ды віно ж, віно зеляное! *
Ці спіш, ляжыш, ці не чуеш?
Ён не спіць, ды ў каморы,
У каморы прыбіраецца,
Прыбіраецца, адзяваецца,
Кладзе кашульку бялёвую,
А портачкі замшовыя,
А боцікі казловыя.
Кладзе шубку мядзведную,
Бярэ каня варанога,
Кладзе сядло залатое,
Едзе ў поле жыта глядзеці,
Жыта глядзеці, чым бог давядзеці.
Спатыкае святую Міколу.
— Куды едзеш, пан гаспадару?
— Еду ў поле жыта глядзеці,
Жыта глядзеці, чым бог давядзеці.
— Хоць едзь не едзь, хоць вярніся,
Тваё жыта абхаджона, абгляджона,
З кораня каранiстае,
З коласа каласістае.
Дай жа божа пану гаспадару
Лета дачакаці, жонку выпраўляці,
[Жонку выпраўляці] жыта зажынаці,
З белым сырам, з малым сынам.
Сынок маленькі, сярпок залаценькі,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Разок махне — снапок нажне,
Шаг прыбавя — копы ставя.
Сам бог едзе, копы ліча.
Дай жа божа пану гаспадару
На полі капамі, а ў гумне тарпамі,
На таку ўмалотам, а ў кішэні злотам.

## 63

Добры вечар, пане гаспадару!
Вясна красна на ўвесь свет! *
Прыйшлі мы да пана, як да багача,
Хочам пана да й павітаць,
Яго панскае здароўе спытаць.
Ці здароў пан, ці вясёл пан?
Ці здарова панская жонка?
Ці здаровы панскія дзеткі?
Панская жонка будзе падвышона,
Панскія дзеткі, як у садзе кветкі,
А панскі двор, як у вянку.
На панскім ганку крэслы стаяць,
На тых крэслах сам бог сядзіць.
— Увайдзі, божа, у панскія пакоі.
— Я не пайду ў панскія пакоі,
Але пайду ў роўнае поле,
У роўнае поле па мяжах хадзіці,
Па мяжах хадзіці — жыта радзіці.
А ўсіх жыта харашусенька,
Нашага пана ўсё найлепшае,
Найлепшае, ядранейшае.
Яно сцяблом сцяблыністае,
А коранем каранiстае
І коласам каласістае,
Яно пад гару пахіліўшыся.
Як пан араў, валы бушавалі,
Як пан барнаваў, конікі іржалі.
Жнуць яго жнейкі маладзенькія,
Іх сярпочкі залаценькія.
Яны самі, як ластаўкі,
Іх галоўкі, як макаўкі.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Як яны жалі, сярпы зажалі,
Як яны селі, сярпы зазвінелі,
Як яны сталі, сярпы заззялі.
Часты-густы зоры на небе,
Часцей-гусцей снапы ў полі.
Як на небе высок месяц,
Так за імі вышэй копы.
Як пан звозіў да сваё жытцо
У цёмныя гумны да з светлага поля,
Яно ў тарпе прылежыста,
А на таку прымалоціста,
А ў арудзі прысыпіста,
А у млыне прымеліста,
А ў дзяжы падыходзіста,
А у печы румяніста,
А на стале, як сыр белы.
Сыр бяленькі для коласа,
Кварту гарэлкі для голаса.
Мы свае боты патапталі,
Пакуль пана дапыталі.

### 64

А ў нядзелю да паранannapolis
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
Ходзіць паніч да па ганачку,
Ходзіць, ходзіць да пахаджае,
Чалядзеньку пабуджае:
— Ой, устань мая чалядзенька,
Сядлай каня варанога,
Я ж паеду ў роўнае поле
Нівы свае аглядаці.
Як выехаў за варота,
Сустрачае госпада бога.
— Куды едзеш, слічны панічу?
— Еду, божа, ў роўнае поле
Нівы свае аглядаці.
— Ой, вярніся, слічны панічу,
Ніва твая урадлівая,
І на сцябло сцяблістая,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

І пад колас каласістая.
З каласочка — жыта мерачка,
А з снапочка — жыта бочка.
Ото ж табе, слічны панічу,
Песня спета процi лета,
Процi лета ўрадлівага,
Процi года шчаслівага.

### 65

Добры вечар, пане гаспадару!
Да віно ж, віно зялёнае! *
А ці ўдому пане гаспадару?
Хоць і ўдому, не акажацца —
У каморы адзяваецца,
Кладзе порткі сігналёвы,
Абувае боты шаўровыя,
Кладзе шубу мядзведжую,
Вядзе каня варанога,
Кладзе сядло залатое,
Едзе ў поле жыта аглядаць.
Спатыкае яго Юр'я ў варотах:
— Куды едзеш, пане гаспадару?
— Еду ў поле жыта аглядаці.
— Хоць едзь, хоць не едзь,
Хоць вярніся,
Тваё жыта аб'язджона,
Аб'язджона, агляджона.
Тваё жыта пара жаці.
Там жнуць жнейкі маладыя,
У іх сярпочкі залатыя.
Серп заложа — сноп паложа,
Шаг надбавя — копы ставя,
Копы ліча, гаспадара кліча.

Дай жа божа, пане гаспадару,
На полі капамі,
У гумнах тарпамі,
На таку ўмалотам,
У кішэні злотам.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 66

У нядзельку ранюсенька,
Да віно ж, віно зялёнае!*
Ўзышло сонца яснюсенька,
Асвяціла лясы, бары,
Лясы, бары, роўнае поле,
Роўнае поле, жыта ядраное.
У коласе, як у золаце,
У корані, як у чыстым срэбры.
— Пане гаспадару, выпраў жану,
Выпраў жану жыта жаці
Із сярпочкам залаценькім,
Із сыночкам маладзенькім.
Разок чыкне — снапок нажне,
Ступень пражне — капу нажне.
Пане гаспадару, твае копы,
Твае копы незлічоныя.
Сам бог ходзе, копы ліча,
Копы ліча, гаспадара кліча.
Дай жа божа пану гаспадару,
Каб на полі ўсё й капамі,
А ў гумне ўсё й тарпамі,
А на таку прымалотнае,
А ў млыне прымельнае,
А ў дзяжы падходнае,
А ў печы прыпечнае,
А на стале прыкройнае.
Дай жа божа пану гаспадару
Сыра на талерку закусіць гарэлку,
Скварку ў печ, па яечкі ў клець,
Піва варыці, сына жаніці,
Гарэлку гнаці, дачку аддаваці.
Дай жа божа, каб рок ад року
Гаспадыня была пры боку.

## 67

А ці дома, дома пане гаспадару?
Віно ж, віно веляно! *

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

А няма дома, паехаў у поле,
Поле аб'язджаці, жыта аглядаці,
Юр'я з Міколай сустракаці.
— Святое Юр'я, якаво жыта?
— Пане гаспадару, каля твайго жыта
Сам бог ходзя, жыта родзя.
Пры дарозе жыта удалося,
А ў даліне ў трубы павілося,
А на гарэ пахілілася.
Едзь дадому, пане гаспадару,
Наймай жнейкі маладзенькія,
Ў іх сярпочкі залаценькія.
Жменьку нажне — снапок звяжа,
Снапок звяжа, у капу ставя,
У капу ставя, на воз бярэ,
На воз бярэ, у гумно вязе,
У гумно вязе, у тарпу кладзе.
Дай жа божа, пане гаспадару,
[Пане гаспадару], у тарпе прыкладам,
У тарпе прыкладам, на таку ўмалотам,
На таку ўмалотам, у свірне прысыпна,
У свірне прысыпна, у млыне прымольна,
У млыне прымольна, у дзяжы падходна,
У дзяжы падходна, у печы румяна,
У печы румяна, на стале прыкройна,
На стале прыкройна, у сям'і давольна.
Дай жа божа, пане гаспадару,
За год прыждаці,
Гэтай парой панам назваці,
Жыці-быці, а нас надарыці:
Капу яек нялічаных,
А сыр на талерку,
Чырвонцы ў паперку
І два літры нам запіці.

# ПРАЦОЎНЫ КАЛЯНДАР СЕЛЯНІНА

## 68

Ай, ішлі, прайшлі удалы малойцы,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
Па вулушцы па шырокай,
Па мураўцы па зялёнай,
А прышлі к двару, к слаўнаму мужу,
К слаўнаму мужу к пану Петрычку.
Пачом жа знацен яго двор?
Вакола згароду ўсё жалезны тын,
А шулачкі мураваныя,
Вярэюшкі ўсё тачоныя,
Вароцікі пазлачоныя,
Падваротніца — бела рыббя косць,
А клямачкі пазлачоныя,
А замочкі сярэбраныя.
Прышлі [яны] к слаўнаму мужу,
К слаўнаму мужу к пану Петрычку.
У яго вакошачкі ды ўсё красныя,
[Ля] вакошачка вісіць залато кальцо.
Шаске́-бразке́ залатым кальцом,
Залатым кальцом па вакошачку:
— Ці абачнешся, ці ачнешся,
Добры слаўны муж пан Петрык?
А што ж табе не чуць, што не адклікнешся?
Часу не маець: умываецца, прыбіраецца,
Да храму божага сабіраецца,
Надзяець сподні саятовыя,
Надзяець панчошкі ды бялёвыя,
Надзеў боцікі ўсё казловыя,
Надзеў шубаньку енатовую,
Надзеў шапачку ды пуховую,
Завязаў хусту ды шаўковую,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Пашоў жа ён у храм божы
Богу памаліцца, Хрысту пакланіцца.
Прышоў жа ён ды з храму божага,
А сеў жа сабе ды на покуце,
На покуце ды ў золаце.
Перад ім стаяць а ўсе столікі,
А ўсе столікі ды дубовыя,
Абрусы на іх ды бялёвыя,
Перад ім стаяць ды тры кубачкі,
Тры кубачкі залоценькія,
Налітыя і поўненькія:
А ў першым кубку — зелена віно,
А ў другім кубку — салодкі мядок,
А ў трэцім кубку — пшанічнае піва.
Зелена віно ён сам п'еиь,
Ён сам п'еиь і жане даець,
Пшанічна піва чэлядзі даець,
Саладок мядок — сваім дзетачкам.
Пане гаспадару, добры муж!
Адчыні вакно сваё краснае,
Паглядзі на двор на свой шырокі,
На тваім двару, як лістом сцелецца,
Увесь твой двор цёсам вымашчан,
Пасярод двара праявачка праявілася:
Нова цэркаўка састанавілася.
У тэй цэркаўцы ды стаіць шацёр,
Стаіць шацёр шырок, распрасцёр,
А пад тым шатром сам бог з Пятром,
Сам бог з Пятром ашахуюцца ды рахуюцца,
Катораму святому напярод быць?
Святое ражство напярод прышло,
Святое васілле на новы рок,
А на новы рок паздраўляецца,
Святое крышчэнне на ярдань ходзіць,
На ярдань ходзіць, ваду свеніць,
Святыя грамніцы свечы сукаюць,
Свечы сукаюць, на прыстаў стаўляюць,
Святы збор ляды разбіваець,
Ляды разбіваець, ваду пушчаець,
Свята вербніца вербу свяціла,
Благавешчанне лемяшы йстрыла,
Вараным канём, залатой сахой,
Залатой сахой ды правай рукой.

Свята вялічка з красным яечкам,
Старым і малым яечкі качаць,
Яечкі качаць, святцаў праважаць.
А гэта святца адзін разочак у гадочак.
Святы Юры па лугу ходзіць,
Па лугу ходзіць, коні пасець,
Каб былі добры ды пабрыківалі.
Святы Мікола па межах ходзіць,
Па межах ходзіць, жыта родзіць.
Святое ўшэсце поле вымятаець,
Поле вымятаець, колас высыпаець.
Святая тройца жыта красуець,
Святы дзевятнік краску здымаець,
Краску здымаець, пятку становіць.
Святы Іван ды памагаець,
А святы Ілля зажынаець
Залатым сярпом, правай ручкай,
А Іллёва жонка слаўная жнейка:
Гдзе раз разнець, там сноп кладзець,
Гдзе гарушачкі, там капушачкі,
Гдзе лажочак, там снапочак.
Часты-густы на небе звёзды,
Часцей-гусцей у слаўнага мужа,
У слаўнага мужа ды ў полі снапы,
У слаўнага мужа пана Петрычка.
Шырок-высок на небе месяц,
Шырэй-вышэй у слаўнага мужа сцягі.
Святы пакроў ў гумно звозіць,
Кузьма з Дзям'янам на васець содзіць,
На васець содзіць ды бога просіць:
— Дай, божа, ды слаўнаму мужу
На васець пасадзіці, на таку намалаціці,
А ў свірні ўсё насыпіста,
У млыне ўсё намеліста,
А ў дзяжы ўсё падходзіста,
А ў пячы ўсё падросціста,
А на століку сыць хрысціянская.
За гэтым, слаўны муж, пане Петрычку,
Любіш гасцей — прасі ў хату,
А не любіш — адпраўляй барджэй.
Не адзін ты ў нас — многа вас,
Адпраўляй барджэй і дары скарэй.
Нашы дары не малыя, не вялікія:

Пачынальнічку — па палтыннічку,
Падхватнічкам — па дзесяць яец,
Музычынку — чырвоны злоты,
[Чырвоны злоты] яму на боты.
Яшчэ ■ таму полсць саланіны,
Полсць саланіны — смычок падмазаць,
Штоб скрыпачка ды йграла,
Штоб яна не залягала.
За гэтым, добры муж, бывай здароў,
Бывай здароў, жыві весела і багата,
І сам сабой, і з маладой жаной,
І з дзеткамі дробненькімі!
А за гэтым знімайце пуховы шапачкі
І кланяйцесь нізкім уклонам,
Нізкім уклонам, а ўсё боскім словам.
А жыві здароў век да веку,
Век да веку, рок да року,
Гэта святца праважаці,
[Гэта святца] ўзвелічаці,
А другі год другога дажыдаці.

## 69

Дзень добры таму, хто ў гэтым даму,
[Зялёны сад вішнёвы!] *
А на першы дзень на вялічачку
Валачобнікі валачыліся,
Прышлі, узышлі на багаты й двор.
Па чаму значон гэты й багатыр?
Па таму значон, па вароцiках.
Яго варотцы [да] цясовыя,
А замёцікі пазлачоныя,
А хвілярачкі ўсе тачоныя.
Дзень добры таму, хто ў гэтым даму!
Гаспадарочак, ласкавы паночак,
Адчыні вакно, паглядзі на двор,
На вашым двара усё добрае,
Усё добрае, ўсё дабрусенька,
Стаіць касцёлак ўсё навюсенькі,
З медзі выліты, срэбрам накрыты.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

А ў тым касцёлку ўсё прастолічкі,
Кала прастолаў усё крэслічкі,
А на крэслічках — па святочачку.
Усе шыхуюцца, парадкуюцца,
А катораму старшым, большым быць,
Наперад ступіць, перад павадзіць.
Святое ражство наперад пашло,
А потым таго новы й гадочак,
Новы й гадочак павёў радочак.
А потым таго святое кшчэнне,
Святое кшчэнне рана ўставала,
Рана ўставала, ў царкву хадзіла,
Ў царкву хадзіла, ваду свянціла.
А потым таго святыя грамніцы,
Святыя грамніцы і не ляніцы
Рана ўставалі, свечкі сучылі.
А потым таго святы й ізбор,
Святы й ізбор — пагнала снег з гор,
Снягі зганяець, воды пускаець.
А потым таго святы й Аўдакей,
Святы й Аўдакей сохі скіпаець.
А потым таго святы й Аляксей
Лемяшы істрыць і сохі путрыць.
Благавешчанне заорываець
Вараным канём, залатой сахой,
Пяньковы гужы, божа памажы.
А потым таго святая вярбніца
Рана ўставала, у садок хадзіла,
У садок хадзіла, вярбу ламала,
Пучкі вязала, ў цэркву насіла,
Ў цэркву насіла і пасвянцала.
А потым таго святы й Юр'я,
Святы й Юр'я едзець на кані
На сівенькім, на пляснівенькім,
З неба з'язджаець, з богам гукаець:
— Божачка мой, падай жа ключы
Усё зямляныя, пазлачаныя
Атамкнуць зямлю, выпусціць расу,
Выпусціць расу на красну вясну.
А потым таго святое вялічка,
Святое вялічка з красным яечкам.
Тое яечка на пасвянцанне,
Старым, малым на разгаўлянне,

Малым дзетачкам на пагулянне.
А потым таго святы й жа Барыс,
Ен коні пасець у зялёных лугах,
У зялёных лугах, у шаўковых травах.
Коні напасець, дамоў прывядзець,
Прывёўшы дамоў, закладываець,
Закладываець і барануець,
Барануець, поле раўнуець.
А потым таго Міколін бацька
Із сявалачкай яр засяваець.
Первая сяўба — белы й гарошак,
Втарая сяўба — яра пшаніца,
Яра пшаніца, ўсякая пашніца,
Авёс вяцісты й, ячмень пляцісты й,
Ячмень пляцісты й, а гарох стручысты й,
Пшаніца бела удала была.
А потым таго сам Мікола,
Сам Мікола, нет яго дома.
Нет яго дома, пашоў у поле,
Пашоў у поле у межавое,
Па межах ходзіць, ён жыта родзіць,
А гдзе гусценька, там радзі, божа,
А гдзе рэдзенька, там гусці, божа.
А потым таго святое ўшэсце,
Святое ўшэсце колас выносіць.
А потым таго святая тройца,
Святая тройца жыта красуець.
А потым таго святы дзевятнік,
Святы й дзевятнік краску знімаець,
А дзесятуха ядро ўкладаець.
А потым таго святы й жа Іван,
Святы й жа Іван, ён наліваець.
А потым таго святы й жа Пятро,
А святы й Пятро жытцо спяліць.
А потым таго Іліная пяценка,
Іліная пяценка сярпочкі зубіць.
А потым таго сама Ілля,
Сама Ілля — старая жняя.
Старая жняя зажынаець
Залатым сярпом, срэбраным саўём.
Што разок разнець — снапочак нажнець,
Што другі й разнець, так другі й нажнець.
Гдзе гарушачка, там капушачка,

А гдзе лажочак, там снапочак.
А потым таго святы й жа спас,
Святы й жа спас — усім рабочы час.
Ен не гуляець, каня сядлаець,
Каня сядлаець, поле аб'язджаець,
Поле аб'язджаець, копы аблічаець,
У гумно вязець, у сцягі ўдзяець.
Не з канём ехаць — саколкай ляцець,
Пану гаспадару стагоў паглядзець.
А прачыстая на восець носіць,
Кузьма з Дзям'янам на помач просяць.
Малыя сяткі, бярыце цапкі,
Будзем малаціць, у бога прасіць,
Каб гэта дабро уродна было,
У засеку спор, у прудзе прымол,
У цісовай дзяжы падходзіста,
У кафлянай печы бухоніста,
На стале сыццю хрысціянскаю.
Дзень добры таму, хто ў гэтым даму!
Гаспадарочак, ласкавы паночак,
Чы спіш, чы ляжыш, чы адпачываеш?
Калі вы спіцё, пан бог жа з вамі,
Калі лежыцё, гукайце з намі.
Адчыні вакно, паглядзі на двор,
А мы ж госцічкі небывалыя,
Небывалыя, нехаджалыя,
Нячаста ходзім, нямнога просім,
На вялічачка, на першы дзянёк.
Пачынальнічку — дзесяць пар яец,
Пасаблянічкам — хоць па пяток,
Механошу — пшаны калошу.
Мая музыка не дарагая —
Кварта гарэлкі, сыр на талеркі,
Пшонны й піражок на закусачку,
Песеньцы канец —дзесяць пар яец.

70

Ішлі, прыйшлі валачобнічкі,
Іграючы, спяваючы,
Добрага пана шукаючы.
— Добры вечар, пане гаспадару!

Чы спіш, чы ляжыш, пане гаспадару?
Калі да спіш — бог з табою,
Калі не спіш — моў са мною,
Адчыні вакно, паглядзі на двор,
На тваім дварэ стаіць шацёр
Навюсенькі, бялюсенькі,
А ў тым шатры залатое крэсла,
На тым крэсле сам бог сядзіць,
Перад богам усе святкі
Шыхуюцца, рахуюцца,
Катораму святому напярод пайсці?
Святыя саракі напярод пайшлі,
Святы Аляксей сохі чэшыць,
Святое благавечшанне заворываець,
Святы вярбіч вярбу пасвянцаець,
Чысты чацвер ячмень засяваець,
Святое вялічка з красным яечкам.
Першы дзень пірагі маюць,
А сярэдні дзень пагуляюць,
А паследні дзень выпраўляюць.
Святы Юр'я — божы пасол,
Божы пасол да бога пайшоў,
А ўзяў ён ключы залатыя,
Адамкнуў зямлю сырусенькую,
Пусціў расу цяплюсенькую
На Белую Русь і на ўвесь свет.
Святы Барыс бабы сеець,
Святы Мікола па межах ходзіць,
Па межах ходзіць, жыта родзіць,
Урасіўся, умачыўся,
Пад залаты пояс падаткнуўся.
Святы ўшэснік жыта выплываець,
Святая сёмуха навозы возіць,
Навозы возіць і бога просіць.
Святы дзевятнік жыта раўнуець,
Святая дзесятуха жыта красуець,
Святы Іван пчолы садзіць
Пад пералазам па шэсцера разам.
Святы Пётра жыта родзіць,
Святы Кузьма сярпы робіць,
Залатыя, новыя і сталёвыя.
Святы Паўлюк граблі робіць,
Святы Дзям'ян сена грабець.

Святы Ілля — слаўная жняя,
Святы Барыс снапы зносіць,
Святы Ганны дамоў возяць,
Святы спас жыта пасвянцаець,
Святая прачыстая папары мяшаець,
Святое ўзвіжанне з поля збіраець,
Святы Міхайла з халодным ветрам,
Святы пакроў зямлю пакрываець,
Зямлю лістом, а ваду лёдам.
Святы Юр'я грудой гвоздзіць,
Святы Мікола снегам мосціць.
Прыйшлі калядкі — гаспадарам парадкі.
Святая Васілля дзяжу мясіла,
[Дзяжу мясіла], пірагі пякла,
І рагатыя, і букатыя.
Святое вадохрышча ваду пасвянцаець,
Ваду пасвянцаець, людзей пакрапляець,
Прыйшлі саракі да другіх саракоў.
Дай божа гаспадарам здароўе,
Дай божа, каб жыта радзіла,
На ніве капамі, а ў гумне сціртамі,
На таку ўмалотам, а ў арудзе спорам,
У арудзе спорам, а ў прудзе намолам,
Ў дзяжы падходам, а ў печы ростам,
А на стале ж сыццём.
Гаспадарок, дары гасцей,
Не баў жа ж, барждждэй!
Валачобнічкі — не збытнічкі,
Нашы дары невялічкі.
Яны ў дзверы не лезуць,
У вакно змежуць.
Пачынальніку — капу яек,
А памагальнікам — па дзесятку,
Для механошы — тры грошы.
Музыцкая горкая доля,
Што даюць, бярэць тое.
Гаспадарок! Дары па парадку,
А не дарыш, прасі ў хатку.
Мы на тое прыступаем,
Пачастуй — усё прыймаем.

## 71

Пахвалёны,
[Няхай так будзе!] *
Дом свянцоны.
Гаспадару,
Слаўны й пану,
Чы спіш, ляжыш,
Пачываеш?
Чы з жаною
Маладою,
Чы з дзеткамі
Маленькімі?
Чы ў пярыне
У пуховай?
Калі спіш,
Бог з табою,
А не спіш,
Бог жа з намі.
Устань рана,
Мыйся бела
У мядніцы,
Надзень сурдуцік
Драповенькі
І боцікі
Казловенькі,
І шапачку
Бабровую,
На ёй кветка
Парловая.
Адчынь аконца
На ўсход сонца,
Глянь на двор,
На падвор'е,
Што дзеецца,
Ляпеецца.
Ў тваім дварку
Тын тынёны,
Астраколы,
Сад садзёны,
Сад зялёны.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Кала саду
Пчолкі звіняць,
Мяды сыцяць.
Сярод саду
Явар стаіць
Зелянюстанькі.
Пад яворам
Шацёр стаіць
Злотам крыты,
Срэбрам біты.
Што ў тым шатры
Крэсла стаіць,
Што ў тым крэсле
Сам бог сядзіць.
Кала бога
Усе святыя,
Служкі яго,
Рахуюцца,
Катораму святку
Уперад стаць.
Благавешчанька,
Перша святка,
Жытцо рушыць.
Чысты чэцвер
Каня гладзіць,
Араць ладзіць,
Ў чыстым полі
Заворываець.
Святы вялькавац
Яйкі красіць,
Ў касцёл возіць,
Пасвянцаець,
Разгаўляець.
Адно яечка
На разгаўлянне,
А другое
На пагулянне,
Малым дзеткам
На пацеху,
А трэцяе
Нам, малойцам,
Пакаціці
Па століку

Па цісоваму,
Па абрусіку
Па бялёваму.
Радаўніца
Радаваець,
Соллю-хлебам
Сталы ставіць,
Старых памінаець.
Святы Юры,
Божы ключнік,
Вазьмі ключы
Залатыя,
Ідзі ў стайню
Муравану,
Вазьмі каня,
[Вазьмі] сівога,
Ўскладзі сядло
Залатое,
Едзь у поле
У чыстое,
Адамкні зямлю,
Пусці траву
На ўсю вясну
Зеляненькую,
На травіцу
Дай расіцу
Мядовую.
Святы Барыс
Ляды паліць,
Бога хваліць.
[Гаспадару,
Слаўны пане],
Ячмень сеець
Залатой сяўнёй,
Правай ручкай.
Рэдка кінець —
Густа ўсходзіць.
Дай жа божа
Пярыста-каласіста.
Святы Мікола
Па межах ходзіць,
Жыта раўнуець.
Раўнуй, божа,

Ўсюды роўна
Горы, даліны.
Святы шоснік —
Жытцо пучком,
Каленцам.
Свята сёмка
Колас даець.
Святы дзевятнік
Красу кладзець,
Наліваець.
А дзесятка —
Жытку пятка.
Святы Пятро —
Жытцу ядро.
Іван, Кузьма
Сярпы зубіў,
Ідзя згубіў.
Святы Ілля —
Божа жняя.
Гаспадынька
І княгінька
Ў чыстым полі
Зажынала,
Соллю-хлебам,
Малым сынам.
Раз разнець —
Снапок нажнець,
Снапок звяжыць —
Копкі ставіць.
Святая Ганна
Ззаду ходзіць,
Копы лічыць.
Святы спас
У гумны возіць,
Сцірты віець,
Асець садзіць,
Бога просіць:
— Дай жа, божа,
Ў таку ўмалот,
Ў свірне спору,
Ў печы насушы,
Ў жарнах намолу,
Ў дзяжы падходу,

Ў печы напёку,
Ў стале насытак
Усёй сям'і.
Прачыстая большая
Жыта свенціць,
Засяваець,
А меншая
Памагаець.
А ўзвіжанне —
З поля дзвігні.
Святы пакроў —
Саўсім дамоў.
Пакрый, божа,
Зямлю лістам,
Ваду лёдам,
Пчалу мёдам,
Жытцо пярцом.
Гаспадару,
Добры пану!
Святы Змітры,
Людзі хітры,
Чаны парадь,
Піва варадь,
Сыноў жэняць,
Дачок даюць.
А сыночку
Па сто рублей,
Па коніку
Па вараненькім,
Па седзелку
Па залаценькім.
А дачушцы
Па шубачцы.
Гаспадару,
Слаўны пану!
Ўслых васпану
Наша песня
Вельканоцная?
Калі ўслых,
Масці кладку,
Заві ў хатку.
Калі міла —
Вядро піва,

Калі ласка —
Водкі пляшка,
Сыр на талерку
Закусіць гарэлку.
Гаспадару,
Слаўны пану!
Жыві з богам,
Будзь багаты,
Будзь вясёлы,
Як у небе анёлы.

## 72

Пане гаспадару, [слаўны мужу],
Слаўны мужу над мужамі!
Ці ёсць у дому ў свянцоным?
Ці спіш, ляжыш, ці спачываеш?
Ці з жаною маладою,
Ці з дзеткамі з малалеткамі?
Да калі спіш — бог з табою,
Калі не спіш — моў са мною.
Пане гаспадару, слаўны мужу,
Слаўны мужу над мужамі!
Устань рана-ранюсенька,
Мыйся бела-бялюсенька,
Трыся суха-сухусенька
Да ўчашыся слізюсенька.
Правай ручкай адчыні ваконца,
Адчыні ваконца на ўсход сонца
Да і паглядзі на свой дварок,
Што ў тваім двару да й дзеецца,
Да й дзеецца, лялеецца.
Твой дварочак, як вяночак,
Тынам тынаваны дубовенькім,
Дубовенькім, цісовенькім,
Твой дварочак мастом мошчан,
Вароценькі маляваныя,
Зашчэпачкі пазлацаныя.
Сярод двору шацёр стаіць
Навюсенькі, яснюсенькі,
Злотам крыты, срэбрам літы,
Прыбрамачкі срэбраныя,

Зашчэпачкі залаценькія.
Да ў тым шатры крэсла стаіць,
Крэсла стаіць залатое,
Да ў тым крэсле сам бог сядзіць,
Сам бог сядзіць, ксёнжку дзяржыць.
Кала яго пчолкі лятали,
Пчолкі лятали, мяды збіралі.
Тыя пчолкі, усе святачкі,
Перад богам збіраліся,
Збіраліся, рахаваліся,
Катораму святцу ўперад стаці.
А збор мовіць гаспадару:
— Слаўны мужу над мужамі!
Тваё дзела — на торг ехаць,
Зялеза купляць, нарогі каваць.
Аўдакею дровы сячэць,
А саракі клады кладзець,
Аляксею — сані на плот,
Сані на плот, рыба аб лёд,
Лёд вадою, рыба лускою.
Благавешчанне — [а]раты на ніву,
[А]раты на ніву, сядун на прызбу.
Гаспадару, слаўны мужу,
Слаўны мужу над мужамі!
Вазьмі ж, ваша, нову сошку
Да й коніка варанога,
[Варанога], маладога,
Едзь жа, ваша, ў чыста поле,
У чыстае поле заарываць
З соллю, з хлебам, з белым яйцом,
З белым яйцом, з боскім слаўцом.
Верба свята — нова лята,
Верба пасвіці ў поле гнала.
Дай жа божа
Гэта святца праважаці,
Свята вялічка дажыдаці!
Да й ў радасці, ў весялосці,
Тры дні святца чырвоным яечкам,
[Чырвоным яечкам] разгаўляцца,
Малым дзеткам на вуліцу,
[На вуліцу], на прагулянне.
Гаспадару, слаўны мужу,
[Слаўны мужу над мужамі]!

Маеш сабе чаляданьку.
Загадай, ваша, свайму чалядку,
Няхай возьмець златы ключы,
Златы ключы ад стаенькі,
Няхай ідзець у стаеньку,
Няхай закладаець да й коніка,
Варанога, маладога.
Гаспадару, слаўны мужу,
[Слаўны мужу] над мужамі!
Вазьмі, ваша, солі, хлеба,
Солі, хлеба, чаго патрэба.
Ідзь жа, ваша, да касцёлу,
Да касцёлу пасвянцаці,
Да прывёзшы, спажываці.
Сядзь жа, ваша, на скам'іцу,
Із жаною з маладою,
Із дзеткамі маленькімі,
Шасні, бразні па скам'іцы.
Вазьмі ж, ваша, залаты кубак
Да й пі віно зеляное,
[Віно зеляное] на сваю жану,
Жана твая — на дзетачак,
Дзеткі твае — на сямейку,
А сямейка — на чалядку,
Чаляданька — сама на сябе.
Радаўнічка — яна у бога
Парадніčка, парадзіла
Баранаваці, поле раўняці.
Святы Юрый, боскі ключнік,
Да ідзі ў поле, да у чыстае,
Адамкні зямлю, пусці расу,
Пусці расу на гэту вясну,
Да й мокрую, да й цёплую,
На гэты свет, на ўсякі цвет,
На люд вясёлы, на ўраджай.
Святы Барыс ляды паліць,
Зямлю грэець, ячмень сееexcuse
З поўнай сявенькі, з правай жменькі.
Кінеш рэдка — дасць бог густа.
Дай жа, божа, зарадзі, божа,
Каласіста, ядраніста.
Святы Мікола, старая асоба,
Гарох сеець, па полі ходзіць,

Па полі ходзіць, жытца глядзіць.
Гдзе вымакла, там падсушыць,
Гдзе высахла, там падмочыць.
Святы шоснік — аўсы шастаць.
Гаспадару, слаўны мужу,
[Слаўны мужу] над мужамі!
Закладай, ваша, да й коніка,
Варанога, маладога,
Вязі, ваша, ў чыста поле,
Ў чыста поле авёс сеяць,
Ў еднай кашулі, без шапачкі,
З поўнай сявенькі, з правай жменькі.
Кінеш рэдка — дасць бог густа.
Дай жа, божа, зарадзі ж, божа,
Да й вяцвісты, ядраністы.
Святая сёмка — позна сяўба,
Позна сяўба — грэчку сеець,
На вуліцы стучыць, гручыць,
Гнайкі возіць, папар арэць.
Дзевятушка-памяжаначка
Па межах хадзіла, жытцо абзірала,
Жытцо абзірала да й раўнавала.
Дзесятуха красу давала,
А пяцінка красу здымала,
Красу здымала, пятку стаўляла.
Святы Іван коску правіць,
Лугі пратаць, ў сцірты кідаць.
Святы Пятро — саўсім ядро,
Папар барануець, поле раўнуець,
Поле раўнуець, грунт гатуець.
Шыпілінка ў кузню ідзець,
Ў кузню ідзець, сярпы зубіць.
Гаспадару, слаўны мужу,
[Слаўны мужу] над мужамі!
Збірай, ваша, стары сярпы
Да ідзі ў кузню напраўляці.
Кузнец-маладзец, зубі сярпец!
Табе платы — чырвон злоты,
[Чырвон злоты] табе на боты.
Гаспадару, слаўны мужу,
[Слаўны мужу] над мужамі!
Да ідзі ж дамоў, да аддай жане
Да маладзе новы сярпок.

Няхай ідзець твая жана
Ў чыста поле жытцо жаці
З ячным блінам, з белым сырам,
З белым сырам, з трэцім сынам.
Свята Ілля—старая жняя,
Яна жала, не ўважала,
Што раз зажнець, то сноп звязнець.
Святыя Ганны да помачы сталі,
Вязь вязалі, копы клалі.
Святы Барысе, за мешань бярыся!
Святы спас па полі ходзіць,
Копы лічыць, раскладаець:
Гэта на семя, гэта на емя!
Гаспадару, слаўны мужу,
[Слаўны мужу] над мужамі!
Сядлай, ваша, да й коніка,
Варанога, маладога,
Едзь жа, ваша, ў чыста поле,
Ў чыста поле копы лічыць.
Як на небе звёзды густы,
Гусцей таго ў полі копак.
Прачыстая да большая
Жытцо пасвянцала, засявала.
Да й меншая, дык лепшая,
[Дык лепшая] паненачка
Перад богам кланялася:
— А я ж, божа, не гуляла,
Жытцо пахала, у грань паганяла,
У грань паганяла, яр збірала.
А Ян-сценцель руней сцеліць.
Узвіжанне—унясі ж, божа,
Узнімі, божа, з ільном, з аўсом,
З усім дабром у гуменца.
Святы пакроў пакрыў зямлю
Жоўтым лістом, маладым сняжком,
Ваду лёдам, пчалу мёдам.
Святы Зміцер—ён на ўсё хіцер:
Салады салодзіць, піва робіць,
Сыноў жэніць, дачок выдаець.
Гаспадару, слаўны мужу,
[Слаўны мужу] над мужамі!
Ці ўслых табе наша песенька,
Наша песенька старасвецкая,

Што мы ходзім, бога просім:
— Дай жа ж, божа, зарадзі ж, божа,
У пуні кладам, на таку ўмалотам,
У дзяжы падходам, у печы ростам,
У печы ростам, на стале насытам.
Гаспадару, слаўны мужу,
[Слаўны мужу] над мужамі!
Дары гасцей, не баў, бардзей.
Нашы дары невялікія,
Невялікія—у дзверы не лезуць,
Праз аконца як шыць шыюць.
Дай мерачку за фатыгачку,
Чырвон злоты мне на боты,
Пачынальнічку — капу яек,
Братцам-памагальнічкам — па дзесятачку.
Да й на дварэ ветрык вееуь,
Валачэбнічкам ножкі млеюць;
Да й на дварэ дожджык дыліць,
Валачэбнічкам жывот ныць.
Гаспадару, слаўны мужу,
[Слаўны мужу] над мужамі!
Прасі к сабе гасцей ў хатку,
Сыр на талерку, кварту гарэлкі,
Кварту гарэлкі, пшонны пірог,
К таму пірагу місу тварагу.

Дай жа божа, каб васьмёркай пахалі,
Васьмёркай пахалі, дзевятым ганялі,
А дзесяты падбрыківаў,
А на адзінаццатым у дружкі ездзіць.

## 73

Пахвалёны,
[Зялён явар наш, зялён!]*
Дом свянцоны.
Ішлі, пайшлі
Валачобнікі
Дарогаю
Шырокаю

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Да й зайшліся
К слаўнаму пану
Пад аконца.
Аляксейка
Ці ёсць дома?
Калі дома,
Ці спіць, ляжыць?
Калі спіш жа,
Устань собе
Ранюсенька,
Умывайся
Бялюсенька,
І надзенься
Чысцюсенька,
І сядзь, пане,
За столічак
За часовы.
Перад панам
Кубкі стаяць
Залатыя,
Яны поўна
Налітыя.
Слаўны пане
Аляксейка
Выпіваець
Да да жаны,
Сваю жану
Паздраўляець.
Жана яго —
Да сямейкі.
П'юць, гуляюць,
Бога славяць.
Аляксейка,
Глянь ў ваконца
На ўсход сонца,
На двор чысты,
Двор замчысты.
У тваім дварку,
Як у вянку:
Шацёр стаіць
Тонак, высак,
Срэбрам крыты,
А ў тым шатрэ

Прастол стаіць,
За прастолам
Сам бог сядзіць.
Каля яго
Служкі яго,
Усе святыя,
Збіраюцца
І, як пчолкі,
Злятаюцца.
Яны святца
Падрад ставяць.
Святы ізбор
Упярод ступіць,
Зімку зрадзіць,
Сошку ладзіць.
Благавешчанне
Ў поле едзець
Заворываць
Вараным канём,
Залатой сахой.
А вербніца
Вербу ломіць,
Ў царкву нясуць
І пасвянцаюць.
Чысты чацвер
Чысціць, мыець.
Свята пасха —
Красен, ясен,
З красным яйцом
Паздраўляець.
Святы Юрый,
Божы ключнік,
Бярэць ключы залатыя,
Ідзець у стайню.
Сядлай каня
Варанога,
Едзь у поле
У чыстае,
Адамкні зямлю
На ўсю вясну,
Дробны дождждык
На ўсё летца.
А Мікола

У поле ходзіць,
Як хазяін,
Жытцо смотрыць,
А дзе суха,
Там падмочыць,
А дзе мокра,
Там падсушыць.
Святы шоснік
Колас точыць,
Святы Іван
Гнаёк возіць,
Папар арэць,
Свято Пятро
Поўна ядро
Паспяляець,
Святая Ілля —
Божа жняя.
Гаспадынька,
Як малінка,
Узяла сабе
Хлеба-солі,
Пайшла яна
У чыста поле
Жытцо жаці.
Што раз ступіць —
Копкай будзець,
А дажаўшы
Сваё жытцо,
Села сабе
На мяжыцы.
Барыс з Ганнай
Не гуляець,
Святой Іллі памагаець
Копкі ставіць
Гусценькія.
Святы іспас
Жытцо свенціць,
Прачыстая засяваець
Правай ручкай.
Рэдка кінець —
Густа будзець
Да й граніста,
Каласіста.

Меншая да
Спраўнейшая:
Шахнець, махнець—
З поля звязець,
У сціріы кладзець.
Аляксейка,
Не астанься,
І з снапочкам,
І з платочкам
Вязі дамоў.
Святы пакроў
Пытаецца
Да ў вазвышкі,
Ці ўпахала
У полі жыта.
А я й буду
Да й хадзіці,
Аглядаці,
Ці ўрупіла
У полі жыта,
Зямлю лістом
Засыпаці,
Снегам чыстым
Пакрываці,
Ваду лёдам,
Пчолку мёдам
Надзяляці.
Старых бабак
Кіёчкамі,
Сярэдніх жонак
Сыночкамі,
А дзяўчатак
вяночкамі
Награждаці.
Святы Змітра —
Ён багаты:
Сыноў жэніць,
Дачок аддаець,
Па сто рублей
Пасаг даець,
А сыночкам па канёчку.
Аляксейка,
Выдзь на двор'е,

А на двор'і
Вецер веець,
Валачобнічкам
Ножкі млеюць.
Масці кладку,
Прасі ў хатку.
А мы госці
Нячастыя,
Адзін разок
На ўвесь гадок.
Нашы дары
Невялікі:
Маім мальцам
Па яечку,
А музыку
Хоць на боты,
А мне самому,
Калі ласка,
Хоць паўлітра,
На закуску
Хлеба-солі.
Хазяечка,
Калі сіла,
Хоць паўсыра.
Слаўны пане,
Аддарыся,
Адплаціся.
Жыві сабе,
Весяліся,
Год ад году,
Век ад веку.

## 74

Добры вечар гэтаму дому!
Вясна красна на ўвесь свет! *
Гэтаму дому свянцонаму,
Гаспадарыку вясёламу.
Гаспадарочак, мой сакалочак,
Ці спіш, ці ляжыш, што не пакажашся?

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Ці да цэркаўкі сабіраешся?
Калі спіш, то бог з табою,
Калі маўчыш, моў са мною.
Гаспадарочак, мой сакалочак,
Адчыні вакно цясовае,
Паглядзі ў гумно ў свянцонае.
Што ў тваім гумне за праява,
За праява стала — цэркаў стала,
Меддзю літа, срэбрам крыта.
У той цэркаўцы прастол стаіць,
За тым прастолам сам бог сядзіць,
Сам бог сядзіць, пісьмы піша,
Пісьмы піша, святкі ліча,
Катораму святцу напярод ісці.
Первае раство напярод пайшло,
З новым годам і з васіллем.
Святое кшчэнне ваду ксціла,
Ваду ксціла, свет ачысціла.
Святыя грамніцы свечы сукалі,
Свечы сукалі, ў цэркаў стаўлялі.
Святы Аўдакей бычкоў пое,
Святы Аляксей хамуты строе,
Святыя саракі ў поле саху валаклі.
Благавешчанне ды заворвае
Вараным канём, залатой сошкай,
Правай рукой сошку дзяржыць,
Левай ножкай роль праступае,
Там жа яму бог памагае.
Чысты чацвер вулкі чысце,
Дваркі мяце, слядкі кладзе,
Слядкі кладзе к святому вялічку.
Святое вялічка ды гуляць вяліць
Малым дзеткам з красным яечкам,
Старым мужам — мужываннейка,
Старым бабкам — пагуканнейка,
Маладым малайцам — паляваннейка,
Маладым паненкам — пагуляннейка.
Святы Юрый, з неба ідучы,
З неба ідучы, вазьмі ключы,
Адамкні зямлю сырусеньку,
Пусці расу цяплюсенькую,
Пусці расу на ўсю вясну,
На ўсю вясну, на ціхае лета,

На ціхае лета, ядранае жыта,
На гэты свет, на ўсякі цвет.
Святое ушэсце пшонку сее,
Пшонку сее ў ярной змене.
Святы Мікола па межах ходзе,
Па межах ходзе, жыта аглядае,
Якое малое, тое падымае.
Святая тройца краску накладае,
А дзесятуха жыта паспявае.
Святы Пётра сярпы востра,
Святы Ілля зажынае,
Там жа яму бог памагае.
Што раз разане — вязьмо нажне,
Што другі разок, то і снапок.
Густы-часты на небе зоркі,
Гусцей-часцей на ніве снапы,
Шырок-вялік на небе месяц,
Шырэй-вышэй стагі ў гумне.
Дай жа божа умалоту,
На полі вазамі, у гумне стагамі,
А на таку бальшымі грудамі.
Дай жа божа у прудзе намолу,
У прудзе намолу, у дзяжы спору,
А на стале хлебам, сыццю.

Гаспадарочак, мой сакалочак,
Дары, дары валачобнікаў,
Валачобнікі — не дакучнікі,
Не часта ходзім, не дорага просім,
У гадочак адзін разочак.
Пачынальнічку — рублёвачку,
Падхватнічкам — па палціначку,
А музыку — горкую долю,
Горкую долю — кварту гарэлкі,
Кварту гарэлкі і сыр на тарэлкі.
Механошу — жыта калошу,
Няхай нясе, хоць парвецца,
Хоць жа з яго бог насмяецца.
Гаспадарочак, мой сакалочак,
За бутылачку ды ў клетачку,
У клетачку па гарэлачку.
Гаспадынька-журавінка,
Скавародку ў печ, па яечкі ў клець.

75

Валачобнічкі да й валачыліся,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
Пад вакошачкі да станавіліся,
У вакошачка да пастучыліся.
Ці ты спіш, ляжыш, да і пане хазяін?
Калі ж спіш, дык спі ж, а не спіш — устань.
Устань раненька ды мыйся бяленька,
Мыйся бяленька да й богу памаліся.
Надзень боцейкі да й казловыя,
Надзень шапачку да завіваначку,
А ты і выйдзі да на новы дварок.
А што на тваём да дварку дзеецца,
А тын тынёны, а сад саджоны,
Усё й мяцёнае да ўсё й саджонае.
На тваім дварку, да як у вянку,
Цэркаўка стаіць да й ўсё новая,
А ў тэй цэркаўкі да прастол стаіць,
А на прастоле да госпад бог сядзіць.
Госпад бог сядзіць да кнігу чытаець,
Кнігу чытаець, святы злічаець,
Катораму й святу й напярод ісці.
А йшоў напярод да й святы ізбор,
А святы ізбор — да бяжыць вада з гор,
Бяжыць вада з гор, а рыбінка з нор.
А святы ізбор да й лемяшы купіў.
Святы Яўдакеі зіму рушылі,
Святы саракі — да не йдзі па ракі.
Благавешчанне да заворваець
Вараным канём да залатой сахой,
Залатой сахой да праваю рукой.
Свята вярбіцка да ў цэркаў хадзіла,
У цэркаў хадзіла да вярбу свянціла.
А вялікадня — Хрыстоў дзянёчак.
Кладзі кладачку да заві ў хатачку,
Чарка гарэлкі да сыр на талеркі,
Дай божанька жыць да весяліціся,
Кароў гадаваць, дачок аддаваць,
І сады садзіць, і сыноў жаніць,
Па саду хадзіць да пчолы пладзіць,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Семдзесят калод да ўсе на завод.
А святы Юр'я зямлю адмыкаў,
Зямлю адмыкаў, росы выпускаў,
Росы выпускаў, траву зеляніў,
Траву зеляніў, каровак пагнаў,
Каровак пагнаў і ў поле пускаў.
Спасі, божанька, да тваю скацінку,
Тваю скацінку да 'д худэй прычынкі,
Ад чалавечка да ад нахропнічка,
Ад чалавечка да ад напраснічка.
А святы Барыс бульбу засяваў,
Святы Мікола да поле абсяваў,
А ўзнясеннейка да жыта раўнуець,
Святое Пятро жыта спяліла,
Святая Ілля жыта нажала,
А багародзіца намалаціла,
Святы Макавей бульбы накапаў,
Бульбы накапаў, рабят накарміў.

## 76

Ай, Валодзечка, гаспадарочак,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
Гаспадарочак, а добры панок,
А ці спіш, ляжыш, а ці спачываеш?
А калі ж ты спіш, бог з табою,
А калі не спіш, гукай са мною.
Адчыні вакно ды паглядзі на двор,
У цябе ж на дварэ ды дзіва дзівіцца,
Дзіва дзівіцца ды, вой, касцёл стаіць,
А ў тым касцёле ды, вой, прастол стаіць,
А за прастолам ды, вой, крэсла стаіць,
А у тым крэсле ды сам гаспадзь сядзіць,
Сам гаспадзь сядзіць, і ён кнігу дзяржыць,
Ен кнігу дзяржыць і ён жа чытаець,
А ўсе празнічкі ды ён расчысляіць,
Вой, каторае ды ўпярод пайшло.
Вой, і ражаство ды упярод пайшло.
А й потым таго ды, вой, Новы гадок,
А й потым таго ды святое кшчэнне,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

На ваду ходзячы, ды, вой, асвячаюць.
А й і потым таго ды святы грамніцы
А свечы сучаць, а ў царкву нясуць,
А ў царкву несучы, і пасвянчаюць.
А пасля таго ды, вой, масленіца,
А потым таго ды, вой, святы ізбор,
А святы ізбор, ён гоніць снег з гор.
А яшчэ празніцы ды, вой, Аўдакеі,
А й затым таго ды, вой, і саракі,
А і саракі ды, вой, плятуць смыкі.
А і потым таго ды благавешчанне,
Вой, каня вядуць і саху нясуць,
І саху нясуць і з доўгім дубцом,
І з доўгім дубцом і з божым слаўцом,
Загаварываець, прыгаварываець:
«Памажы, божа, да налета тожа».
А яшчэ празнічак свята вербніца,
А й вербу ж ломячы, а ў пучкі вяжуць,
А ў царкву несучы, і пасвяничаюць.
А й потым таго ды святая пасха,
Святая пасха ды свято вялічка,
Свято вялічка ды красна яечка,
А і з белым сырам ды і з малым сынам,
Кварта гарэлкі ды сыр на тарэлкі.
А потым таго ды, вой, праводніца,
А ўсе ж празнічкі ды, вой, праводзяцца.
А потым таго ды, вой, радаўніца,
Дык жа жывая, дык да й мёртвая.
А й усе ж людцы ды, вой, радуюцца,
А і жывыя, дык жа й мёртвыя.
А й потым таго святоя Юр'я,
А й узяў ключы ды пайшоў у поле,
Ай, зямелечку, ды ён адмыкаець,
А і расіцу ды, вой, выпушчаець.
Ай, после ж таго ды святы й жа Барыс,
Ды святы Барыс і ён ляды паліць,
Ён ляды паліць і ячмяні сеіць.
А яшчэ святы празнічак — святы Мікола,
Святы Мікола, ды правіцель божы,
Пайшоў у поле ды ён жыта радзіць.
Святы ўшэснік — ды, вой, каласіцца,
Святая ж тройца — ды, вой, раўнуецца,
А й дзевятнік — ды, вой, красуецца,

А дзесятуха ды, вой, наліваець,
А святы Іван і ён пятку спяліць,
А святы Пятро ды і паспяваець,
Святая Ілля — ды скорая жняя,
А шахнець, махнець — і, вой, снапок нажнець,
А дзе ж гарушка, дык там снапушка,
А дзе лужочак, там жа й стажочак.
Святыя Ганны снапы звозяць,
А святы іспас, ён гнаі возіць,
А святы Барыс — за мешань бярысь,
А прачыстая ды, вой, засяваець,
А і другая ды краску скідаець.
А святы Сямён — а й сявец дамоў,
А ўзвіжанне ды бульбу капаець,
А святы ж Іван з поля збіраець,
А святы пакроў — ды ўсё з поля далоў,
Усё з поля далоў ды хазяін дамоў.

## 77

— Добры вечар,
[Зялёны сад вішнёвы!] *
Гаспадару.
А хітрачок-
Гаспадарок,
Ці спіш, ляжыш?
Калі ж ты спіш,
Бог з табою,
Калі не спіш,
Гукай з намі.
— Што ж я й буду
Гукаць з вамі?
— Адчыні вакно
Да й глянь на двор.
На тваім двары
Праявачка
Праявілась:
Стаіць касцёл
Мураваны,
Пабяляны.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

У тым касцёле
У правай сцяне
Стаіць крэсла
Залатое.
А ў тым крэсле
Сам бог сядзіць,
Перад ім жа
Прастол стаіць,
На прастоле
Кніга ляжыць.
Ён чытаіць
І празнічкі
Рассылаіць,
Катораму
Упярод пайці.
Свято ражаство
Упярод пашло,
Новы гадок
Павёў радок.
А хрышчэнне —
Ваду хрэсцяць.
А грамнічкі —
Воску ходзяць,
Свечы сучаць.
А грамніцы —
Свечы ў царкву нясуць,
Асвяшчаюць.
Аўдакея —
Первы празнік
Да й вясненскі.
Святы саракі —
Сорак вырай
Вылятаюць.
Святы Аляксей
Лёд ламаець.
Благавешчанне —
Зямелечку
Завараваць.
А вербніца —
Вербу ламаюць,
У царкву нясуць,
Асвяшчаюць.
Свята пасха —

Сам хазяін
З абедні едзіць,
Бога просіць:
— Дай жа, божа,
Разгавеццa
Красным яйкам,
Белым сырам.
Праводніца
Празнічкі праводзіць.
Радаўніца —
Усе людзі
Радуюцца.
Свято Юр'е
К богу едзіць,
Бога просіць:
— Дай жа, божа,
Залаты ключы
Зямелечку
Адамкнуці,
Цёплу расу
Выпусціці.
Святы Мікола,
Яго нет дома,
Пашоў у поле,
Па мяжах ходзіць,
Жыта родзіць,
Дзе вымакла,
Там прасушыць,
Дзе высахла,
Там прамочыць.
Свята тройца
Колас выносіць,
І красуець,
І раўнуець.
А дзевятнік
Пятку ставіць,
Дзесятуха
Зярно поўніць.
Святы Іван —
Краскі свенцюць.
Свято Пятро —
Жыта спеець.
Свята Ілля

Зажынаець.
Святы іспас
Яблыкі свенціць.
Свята прачыста
Жыта свенціць,
Засяваець.
Святы пакроў
Зямелечку засцілаець
Жоўтым лістам,
Белым снегам.

## 78

Гаспадарочак, добры паночак,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
А ці спіш, ляжыш, ці 'дпачываеш?
А калі ты спіш, бог із табою,
А калі не спіш, гукай са мною.
Адчыні вакно, паглядзі на двор,
На тваім двару ява явіцца,
Ява явіцца — цэркаў ставіцца,
Цэркаў ставіцца мураваная,
Мураваная, пазлачаная,
А ў той цэркаўцы пры правай сцяне,
Пры правай сцяне крэслечка стаіць.
А ў тым крэслечку во сам бог сядзіць,
Во сам бог сядзіць, кніжачку дзяржыць,
Кніжачку дзяржыць, пішыць, чытаець,
Пішыць, чытаець, святкі збіраець,
А катораму напярод пайсці.
Свято раждзяство напярод пайшло,
Свято васілле во з Новым годам,
Із Новым годам, із новым шчасцем.
Свято хрышчэнне ваду хрысціла,
Ваду хрысціла, наверх пусціла.
Святы грамнічкі васкі тапілі,
Васкі тапілі, свечы сучылі,
Святы грамніцы ў цэркаў насілі,
У цэркаў насілі, во пасвянцалі.
Святы Еўдакей — веснавы святок,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Веснавы святок — пераступ года.
Пераступілі ў яго слядочкі,
Ў яго слядочкі усе святочкі.
Святы сарак — сорак выраяў,
Сорак выраяў во вылятаюць.
Благавешчанне — свята большае,
І каня вядзець, і саху нясець,
І саху нясець, завораваець.
Шаўковы гужы, божа, памажы,
Божа, памажы дагнаць да мяжы.
Свято вялічка з красным яечкам,
Із красным яйцом, із божым слаўцом.
Краснае яйцо на разгаўлянне,
Божае слаўцо на вымаўлянне.
Свята праводніца святкі праводзіць,
А дай жа божа гэта правясці,
Гэта правясці, другога даждаць.
Святое Юр'е на кані едзець,
На кані едзець і ключы вязець,
І ключы вязець, зямлю адмыкаець,
Зямлю адмыкаець, росы пускаець.
А пусціў расу ды на ўсю вясну,
Ды на ўсю вясну, на ўсё лецечка.
Свято Мікола, нет яго дома,
Нет яго дома, пашоў у поле.
Па межах ходзіць, ён жыта родзіць,
А дзе суханька, там падмачаець,
А дзе мокранька, там падсушаець.
Святы ушэснік колас выносіць,
Святая тройца колас раўнуець,
А святы Іван краскі збіраець,
Краскі збіраець і пасвянцаець.
А свято Пятро — поўнае вядро,
Святая Ілля — крутая жняя.
Свята прачыста — ўсё з поля чыста.
А святы іспас, старэнькі дзядок,
На восець садзіў, жыта малаціў,
А святы пакроў — із поля далоў.

79

Гаспадару,
[Зялёны сад вішнёвы!] *
Слаўны пану,
Устань рана,
Умыйся бела,
Утрыся суха,
Расчашыся,
Прыбярыся,
Надзень шубу
Бабровую,
Надзень боты
Казловыя.
Сядзь пад акенцам
Напроць сонца,
Падзівіся,
Што дзеецца.
У тваім дварку,
Як у вянку,
Усе святочкі
Рыхтуюцца,
Катораму
Упярод ступіць.
Святы ізбор
Упярод ступіў,
Святы ізбор
Гоніць снег з гор.
Аўдакеі
Дровы сякуць,
У клады кладуць.
Аляксею
Сеці садзіць,
Лодкі смаліць,
Рыбу коліць.
А вербніца
Вербу свенціць.
Свято вялічка
Разгаўляець
З красным яечкам,
З божым слаўцом.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Свято Юр'е
Зямлю адамкнуў,
Расу пусціў.
Святы Барыс
Завараваець
Залатой сахой,
Правай рукой.
Святы шоснік
З шастом ходзіць,
Межы раўнуець.

Гаспадару,
Слаўны пану,
Масці кладку,
Заві ў хатку.
Кварту гарэлкі,
Сыр на талеркі.

## 80

А на першы дзень на вялікадня,
А зялёны явар, кудравы! *
Ішлі хлопцы, добрыя малойцы.
Ішлі ж яны дарогаю,
Дарогаю шырокаю,
А ўсё вулкай да мяцёнаю.
Сустрэлі да яны госпада бога,
Госпада бога, духа святога.
— Ах, божа, божа, ўкажы нам дарогу
К стараму сялу, к новаму двару,
К новаму двару, к пану Івану.
— А ці вы ж яго да не знаеце,
Што ў госпада бога да пытаеце?
Яго дварэц знакамісценькі,
Знакамісты й жа дом чысты й жа,
На крыжатку сакол сядзіць,
Сакол сядзіць, рана папявае,
Рана папявае, пана пабуджае:
— Устань, устань, пане Іване,
Адчыні вакно, зірні ў гумно,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Што ў тваім гумне да явілася —
Свянцоная прошча станавілася.
А ў той прошчы ўсе святочкі,
Ўсе святочкі, ўсе празнічкі
Сабіраліся, рахаваліся,
Катораму святу напярод ісці.
Святое ражство напярод пайшло,
Святы вялікдзень з красным яечкам,
Благавешчанне з новаю сахою,
З новаю сахою завораваць.
А ўшэсце жыта ўсыпае,
Святая тройца жыта раўнуе,
Святы дзевятнік жыта красуе,
Дзесятуха краску абівае,
Святы Пятрок пяткі укладае,
Святая Ілля жыта дажынае,
А Барысе — сам бараніся,
Дробныя святочкі, насіце снапочкі.

## 81

Гаспадару, добры пану,
Няхай так будзець! *
А ці спіш, ляжыш, спачываеш?
Ці з жаною маладою,
Ці з дзеткамі маленькімі?
Устань рана, мыйся бела,
Мыйся бела, як папера,
Глянь у ваконца на ўсход сонца,
Што дзеецца, ялеецца.
У тваім дварку, як у вянку,
Сады цвіцяць, пчолкі звіняць.
А ў полі стаіць явор,
[Стаіць] явор шырок, зялён.
Пад яворам прастол стаіць,
За прастолам крэсла стаіць,
На тым крэсле сам бог сядзіць.
Каля яго служкі яго
Лісты пішуць, рассылаюць,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Катораму ўпярод стаці.
Перша свята — божа лета,
Святы ізбор — вадзічку з гор.
А Казімір дровы сячэць,
Дровы сячэць, клады кладзець.
Благавешчань зямлю сушыць,
Зямлю сушыць, жыта рушыць.
Чысты чацвер сошку правіць,
Сошку правіць, каня гладзіць,
Каня гладзіць, заворываець.
Свята пасха яйкі красіць,
Яйкі красіць, разгаўляець.
— Святы Юры, боскі ключнік,
Вазьмі ключы залатыя,
Пусці расу на ўсю вясну.
Радаўніца барануець,
А Мікола, стары сявец,
Ячмень сееиь, засяваець.
Святы Ян, божы каваль,
Косы круціць, сярпы зубіць.
Святы Ілля, стара жняя,
Вышаў у поле у чыстае
З малым сынам, з белым сырам.
Шахнець, махнець — снапок сажнець.
Святы спасік, пільны часік,
Жытцо возіць, бога просіць:
— Перанясі, божа, маё жытцо,
[Маё жытцо] праз гумянцо,
Праз гумянцо да у варуд.
Прачыстая жытцо сееиь,
А меншая ў помач стала,
Жытцо скора запахала.
Святы звіжань дамоў дзвіжэць,
Святы пакроў — саўсім дамоў,
І з скацінкай, і з хлябінкай.
Святы Змітрок, за ўсіх хітры,
Піва варыць, сыноў жэніць,
Сыноў жэніць, пасагі дзеліць,
Сыночку па канёчку,
А дачушцы па кароўцы.
Пакрывае пчалу мёдам,
Пчалу мёдам, ваду лёдам,
Дзеўку вянцом, а бабу чапцом.

Гаспадару, добры пану,
Масці кладку, заві ў хатку,
Не баў гасцей, заві барджэй.
Гэтыя госці не частыя, а гадавыя,
Рэдка ходзяць, мала просяць:
Калі сіла — канец сыра,
Калі змога — паўпірога,
Калі ласка — водкі пляшка,
А індычку — на затычку.

## 82

Добры вечар, гаспадару!
Няхай так будзе! *
Ішлі, пайшлі, сюды прыйшлі.
Гаспадару, слічны пану,
Пахвалёны дом свянцоны.
Гаспадару, слічны пану,
Ці спіш, ляжыш, спачываеш?
Ці ў пярыне у пуховай,
Ці з жаною маладою,
Ці з дзеткамі-малалеткамі?
Глянь ў ваконца супраць сонца,
Праз аконца ветрык веець,
Ветрык веець, павяваець,
Гаспадара пабуджаець.
Гаспадынька, пекна пані,
Устань рана-ранюсенька,
Мыйся бела-бялюсенька,
Глянь, на двары што дзеецца,
Што дзеецца, лялеецца.
У тваім дварку, як у райку,
Сады цвітуць, пчолкі звіняць.
У том у садочку рэчка цячэць,
Каля рэчкі цэрква стаіць,
А ў царкве прастол стаіць,
За прастолам сам бог сядзіць.
Каля яго служкі яго
Шахуюцца, рахуюцца,
Катораму перша святца,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Перша святца і чым заняцца.
Казімірка — дроўцы сячы,
Святы зборы — пусці воды.
Чысты чацвер завараець,
А субота яйкі красіць,
А вялікдзень — дзень вялікі,
Красным яйкам забаўляець.
Благавешчына зямлю сушыць,
Зямлю сушыць, жытцо рушыць,
Сошку ладзіць, каньга гладзіць.
— Святы Юры, божы ключнік,
Вазьмі ключы, ідзі ў стайню,
Вазьмі каня варанога,
А сядзельца залатое,
Едзь у поле у чыстае,
Адамкні зямлю, пусці расу,
Пусці расу на ўсю вясну.
А Мікола, стары сявец,
З левай ручкі засяваець,
Кінець рэдка — расцець метка.
А дзевятнік наліваець,
А дзесятка — ў жыце пятка.
Святы Яне, божы каваль,
Сярпы зубіць, косы правіць.
Святы Пятро — ў жыце ядро,
Святы Ілля — божа жняя.
Пайшла яна дажынаці
З малым сынам, з белым сырам.
Махнець, шахнець — снапок ляжыць.
Дзе сноп ляжыць, бабку ставіць,
Дзе бабачка, там і копачка.
Святы спасік, пільны часік,
Папар строіць, жытцо малоціць.
Прачыстайка засяваець,
А меншая ў помач стала,
Ў помач стала і скончала.
Святы пакроў — саўсім дамоў,
Саўсім дамоў са ўсім дабром.
Будзіць крыць дрэвы траской,
Рыбу луской, ваду лёдам,
Ваду лёдам, пчалу мёдам.
Святы Змітры, за ўсіх хітры,
Піва варыць, сыноў жэніць.

А сыночку па канёчку,
А дачушцы па кароўцы,
Па кароўцы, па бураўцы.
Гаспадару, добры пану,
Бывай здароў, мей сто кароў,
Жыві болей, мей сто коней,
Поўны хлявец белых авец.
Гаспадару, добры пану,
Ці ўслых табе наша песня,
Наша песня велікодна,
Наша песня валачобна?
Калі ж услых, не моў, бардзей,
Не моў, бардзей дары гасцей.
Гэты госці нячастыя,
Рэдка ходзяць, мала просяць:
Пачынальніку — капу яек,
Маім братцам — па дзесятцы,
А музыку-музыканту —
Бутылачку «горкай долі».
Гаспадару, добры пану,
Да скарэй жа ўшахніся,
Каля шафкі павярніся,
Пляшку на стол, гасцей за стол,
Гаспадару, добры пану.

## 83

Ідзём, пайдзём
Няхай так будзе! *
У слаўны дом,
Спяём песню
Таму-сяму,
Пану гаспадару,
Слаўнаму мужу
Із жаною
Маладою.
Пане гаспадару,
Устань рана,
Мыйся бела.
Сядзь пад вакном

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

На ўсход сонца,
Глянь на двор,
Што дзеецца,
Лялеецца.
Ды на двары
Шацёр стаіць
Навюсенькі,
А ў тым шатры
Прастол стаіць,
Ля прастолу
Крэсла стаіць,
А ў тым крэсле
Сам бог сядзіць.
Каля бога
Усе святыя
Шахуюцца,
Рахуюцца,
Катораму святцу
Упярод ступіць.
Ясень красен
Упярод пайшоў,
Пасля таго
Святы Казімір
Дровы сякець
І ў клад кладзець.
Святое благавешчанне
Жытцо рушыць,
Хоць пад сняжком —
З божым душком.
Святая вербніца
Вярбу ломіць,
У касцёл нясець,
Пасвянцаець.
Чысты чацвер
Ачышчаець.
Святы вялікдзень —
Разгаўляюцца
З чырвоным яйкам,
З белым сырам,
З малым сынам.
Святая праводня —
Дай жа божа,
Мае дзеткі,

Гэта святца
Праваджаці
І другога
Дачакаці!
Святая радаўніца —
Садоўніца,
Сады садзяць,
Паліваюць.
Святы Юры,
Божы ключнік,
Асядлаў каня
Варанога,
А сядзельца
Залатое,
Узяў ключы
Залатыя,
Паехаў у поле,
Адамкнуў зямлю,
Пусціў расу
Мядовую,
Расу мядовую,
Траву шаўковую.
Святы Мікола —
З сяўбой у поле,
Святы Барыс —
Збожжа павыш,
Святы шоснік
Колас точыць,
Выплыць хочыць.
Святая тройца —
У лес ідуць,
Май ламаюць,
Май устаўляюць.
Святы дзевятнік
Па межах ходзіць.
Зёлкі ірвець,
Вянкі віець.
Святы дзесятнік —
У жыце пятка,
Святы Іван —
І вам, і нам,
Свято Пятро —
У жыце ядро,

Святы Ілля —
Стара жняя,
Што раз махнець —
Снапок нажнець,
Што снапочак,
То бочачка,
Што бабачка,
То копачка.
Свята прачыста —
У полі ўрачыста.
Святы Змітры,
За ўсіх хітры,
Піва варыць,
Жану поіць,
Сыноў жэніць,
Дачок выдаець,
Пасаг даець,
А сыночку
Па канёчку,
А дачушцы
Па кароўцы.
Святы пакроў —
З поля дамоў,
Зямлю лёдам
Пакрываець,
Пчолку — мёдам,
Дзеўку — вянком,
Бабу — чапцом.
Пане гаспадару,
Масці кладку,
Заві ў хатку.
Гэтыя госці
Нячаста ходзяць,
Мала просяць,
Раз у гадок:
Пачынальніку —
Чырвон злоты
Ды на боты,
А маім братам —
Хоць па дзесятку.

## 84

Ішлі, прышлі валачобнікі,
Іграючы, спяваючы,
Добрага пана шукаючы.
Добры вечар, пане гаспадару!
Чы спіш, чы ляжыш, пане гаспадару?
Калі ж да спіш, бог з табою,
Калі ж не спіш, моў са мною.
Адчыні акно, паглядзі на двор.
На тваім дварэ стаіць шацёр
Навюсенькі, бялюсенькі.
А ў тым шатры залатое крэсла,
На том крэсле сам бог сядзіць.
Перад богам усе святкі
Шыкуюцца, рахуюцца,
Катораму святу наперад пайці.
Святыя саракі наперад пашлі,
Святы Аляксей сохі чэшыць,
Святое благавешчанне заворываець,
Святы вярбіч вярбу пасвянцаець,
Чысты чацвер ячмень засяваець,
Святое вялічка з красным яечкам,
Першы дзень пірагі маюць,
А сярэдні дзень пагуляюць,
А паследні дзень выпраўляюць.
Радаўніца — статак запасаваюць,
Святы Юры, божы пасол,
Да бога пашоў.
А ўзяў ключы залатыя,
Адамкнуў зямлю сырусенькую,
Пусціў расу цяплюсенькую
На белы цвет і на ўвесь свет.
Святы Барыс бабы сеець,
Святы Мікола па межах ходзіць,
[Па межах ходзіць], жыта родзіць.
Урасіўся, умачыўся,
Пад залаты пояс падаткнуўся.
Святы ўшэснік — жыта выплываець.
Святая сёмуха навазы возіць
І бога просіць.
Святы дзевятнік жыта раўнуець,
Святая дзесятуха жыта красуець.

Святы Іван пчолы садзіць
Пад пералазам па шасцёра разам.
Святы Пётра жыта спеліць,
Святы Кузьма сярпы робіць,
Залатыя, новыя і сталёвыя.
Святы Паўлюк граблі робіць,
Святы Дзям'ян сена грабіць,
Святы Ілья — слаўная жняя,
Святы Барыс снапы зносіць,
Святыя Ганны дамоў возяць,
Святы спас жыта пасвянцаець,
Святая прачыстая папары мяшаець
І жыта засяваець,
А другая ёй памагаець.
Святое ўзвіжэнне з поля збіраець,
Святы Міхайла з халодным ветрам,
Святы пакроў зямлю пакрыў,
Зямлю лістом, а ваду лядом.
Святы Юра грудай гвоздзіць,
Святы Мікола снегам мосціць.
Прышлі калядкі — гаспадаром парадкі.
Святая васілля дзяжу мясіла,
Пірагі пякла, і рагатыя, і букатыя.
Святое вадохрышча ваду пасвянцаець,
Людзей пакрапляець.
Святыя грамніцы свечы пасвянцаюць,
Прышлі саракі да другіх саракоў.
Дай жа божа гаспадаром здароўе.
Дай жа божа, каб жыта радзіла
На ніве капамі, а ў гумне сціртамі,
На таку ўмалотам, а ў арудзе спорам,
А ў прудзе намолам,
У дзяжы падходам, а ў печы ростам,
На стале сыццем.
Гаспадарок, дары гасцей,
Не баў, барздзей,
Нашы дары невялічкі:
У дзверы не лезуць, у акно шыюць.
Пачынальніку — капу яец,
А памагальнікам — па дзесятку,
Для механоса — тры грошы.
Музыцкая горкая доля,
Што даюць, бярэць тое.

А не дарыш, прасі ў хату,
Мы на тое прыступаем.
Кварту гарэлкі, сыр на тарэлкі.

## 85

Пайдзём, прайдзём ўдоль вуліцы,
Спявайце, братцы, спявайце! *
Пайдзём, зайдзём у той дварок.
У тым дварку, як у вянку,
Прастол стаіць, сам бог сядзіць.
Каля бога ўсе святыя
Шыкуюцца, рахуюцца,
Катораму ўперад пайсці.
Перша святца — новае летца.
Святы Яня, боскі зданя,
Узяў ключы залатыя,
Адамкнуў зямлю, пусціў расу,
Пусціў расу на ўсю зямлю
І мокрую, і цёплую.
Святы Мікола — стары сявец,
Узяў сяўню, пайшоў ў поле,
Пайшоў ў поле ў яравое.
Пяць раз шагнець, разок сяўнець,
Калі дасць бог — густа будзець.
Святы шоснік колас точыць,
Колас точыць, як сам хочыць.
Святое Пятро — ў жыце ядро,
Святая тройца гнаі возіць,
Святая Ільля, старая жняя,
Ідзець у поле аржаное,
Разок разнець — снапок нажнець,
Снапы вяжыць, копы лічыць.
Святы спасе ў добрым часе,
Святы звіжэнь за ўсіх бліжэй,
Святы пакроў пакрываець
Пчалу мёдам, зямлю лёдам.
Святы пакроў — з усім дамоў,
Із сошачкай, з бароначкай,
З кабылачкай-вароначкай.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Хазяюшка, наш бацюшка,
Калі услух наша песня,
Масці кладку, заві ў хатку,
Заві гасцей, дары барздзей.
Мы госцейкі нячастыя,
Нячаста ходзім, нямнога просім:
Калі змога — хоць паўпірога,
Калі сіла — хоць паўсыра,
Калі ласка — водкі пляшка,
Пару злотых хоць на боты,
Хоць сыру канец, хоць пару яец,
Пачынальніку — хоць парачку,
Маім братцам — па чарачцы.

## 86

Гаспадарочак, слічны паночак,
Зялёны явар, кудравы! *
Ці спіш, ці ляжыш, ці ў акно глядзіш?
А калі ты спіш, дык бог з табою,
А калі не спіш, гавары са мною!
Адчыні акно, паглядзі ў гумно.
А ў тваім гумне ды стаіць шацёр,
А у тым шатры ды сам бог сядзіць,
А каля яго усе святыя,
Усе святыя — яны радзяцца,
Катораму з іх наперадзе стаяць.
А святы Барыс — ён у бога павыш,
Ён коні пасе у зялёных лугах,
У зялёных лугах, у шаўковых травах.
А святы Рыгор спусціў ваду з гор,
Ваду у зямлю, а з зямлі траву.
Святы Мікола — нет яго дома,
Нет яго дома, пайшоў на поле,
Па полі ходзіць, дзе жыта родзіць.
Святое Пятра — усё паспявае.
Святое Ілья — ўсё зажынае
Залатым сярпом, шчаслівай рукой
І белым сырам ды з тваім сынам,
Із красным яйцом, з ласкавым слаўцом.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

А густа-густа на небе звёздаў,
А яшчэ гусцей на ніве снапоў,
Усе святыя ў ток павазілі.
Гаспадарочак, слічны паночак,
А ў тваім таку ўсё прыкладзіста,
У тваім млыне ўсё прымеліста,
У тваёй дзяжы ўсё падыходзіста,
У тваёй пячы ўсё прыпечыста,
На тваім стале ўсё прыкроіста.
Дай капу яец — і песні канец!

## 87

Ой, чалом, чалом да добры вечар!
Ці спіш, ці ляжыш, пан гаспадарок?
Калі ты спіш, пан бог з табою,
А калі не спіш, размоў са мною,
Падымі ты руку да [бяленькую],
Адчыні вакно ты цісовае,
Абалоначку крышталёвую,
Паглядзі на двор ты на новенькі,
А на новенькі, на цісовенькі,
Што на дварэ праява стала:
Стаіць явар тонкі, высокі,
Тонкі, высокі, лісцем шырокі.
Пад яварам столічак стаіць,
Кала століка крэселькі стаяць,
Крэселькі стаяць, святочкі сядзяць.
У адным крэсельку гасподзь бог сядзіць,
Гасподзь бог сядзіць, кнігі чытаіць,
Кнігі чытаіць, святкі збіраіць,
Святкі збіраіць і рассылаіць,
Катораму святцу напярод ступіць.
Святое ражство напярод пашло,
Святое васілле з Новым годам,
Святое кшчэнне з свянцонай вадой,
Святы грамнічкі з свянцонай свячой,
Святы ізбор пусціць воды з гор,
Святы Аўдакей сохі збіраіць,
Святы Аляксей ды напраўляіць,
Святы саракі лемяшы істраць,
Свято благавешчанне завораваіць,

Завораваіць да ў чысты чацвер,
У чысты чацвер вараным канём,
Вараным канём да шоўкавым гужом,
Шоўкавым гужом да залатой сахой,
Залатой сахой да правай рукой.
Святое вялічка з красным яечкам,
Святы Юр'я з цёплай расой,
З цёплай расой, з зялёнай травой,
З зялёнай травой, з залатым ключом,
З залатым ключом зямлю адмыкаіць,
Зямлю адмыкаіць, расу пускаіць.
О, дай жа божа росы цёплыя,
Росы цёплыя, годы добрыя.
Святы Мікола па жыце ходзіць,
Па жыце ходзіць, ён жыта глядзіць,
Дробным дождыкам прамачаваіць,
Ціхім ветрыкам прасушаваіць.
Святая тройца жыта раўнуіць,
Святы дзевятнік у пукі бярэць,
Святое ўшэсце да высыпаіць,
Святая дзевятуха жыта красуіць,
А святы Іван да наліваіць,
Святое Пятро да пасняваіць,
Святая Ілля да зажынаіць,
Меншы святочкі носяць снапочкі,
Святы Ганны ба́бкі стаўляюць,
Святы Барыс ба́бкі злічаіць,
Святы спас у гумно вязець,
Больша прачыстая снапкі падаець,
Менша прачыстая снапкі складаіць,
А святы пакроў стагі укрываіць,
Святы Зміцер стагі злічаіць.

## 88

Ішлі, прайшлі валачобныя,
Зялён явар, зялёны! *
Іграючы, спяваючы,
Багатага двара шукаючы.
Па чым пазнаць ды багаты двор,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Багаты двор, жалезны тын?
А вароцікі ды чысовыя,
Падваротнічка — рыб'я костачка.
А лясь, пабразь у вакеначка:
Ці не пачуе нас пан гаспадар?
Ці не возьме залатыя ключы?
Ці не адамкне залатыя замкі?
Ці не пусце гасцей на двор?
На двор ідучы, лістамі сцялю,
Пад акном іду — чалом даю,
Чалом даю, пане гаспадар.
Ці спіш, ці ляжыш, ці не акажашся?
Ці да цэркаўкі сабіраешся?
А калі спіш, бог з табою,
А калі не спіш, гавары са мною.
Адчыні вакно высокае,
Паглядзі ў гумно далёкае,
Што ў тваім гумне за праява стала,
За праява стала, праявілася:
Там цэркаўка станавілася.
У той цэркаўцы прастол стаіць,
Каля прастола залатое крэсла.
На тым крэсле сам бог сядзіць,
Пяро дзяржыць, сняткі піша,
Катораму напярод пайсці.
Святое раждзяство напярод пайшло,
Новы гадок — за ім услядок.
Святы крашчэннік ваду пасвянцае,
Святыя грамніцы свечы сучаць,
Святая масленіца бліны пячэ,
Святое благавешчанне заворвае,
Чысты чацвер ячмень сее.
Святое вялічка з красным яечкам,
З красным яечкам, з цёплым лецечкам.
На первы дзень пірагі маеш,
А на сярэднім дні пагуляеш.
Святы Юрый — божы пасол,
Божы пасол за мора пайшоў.
Адтуль ідучы, узяў ключы,
Узяў ключы залатыя,
Адамкнуў зямлю сырэнькую,
Пусціў расу цяпленькую,
Пусціў расу на ўсю вясну,

На ўсю вясну, на ўсё лецечка,
На ўсё лецечка, на ўсё цёплае.
Святы Мікола па межах ходзя,
Па межах ходзя і ўсё родзя,
І траву расціць, і скот пасціць.
Святое ўшэсце жыта раўнуе,
Святая тройца жыта красуе,
Святая дзевятка — у жыце пятка,
Святы Пятро — у жыце ядро,
Святая Ілля жыта зажынае
З белым сырам, з малым сынам.
Іллёва жана — добрая жняя:
Што раз разне, то і сноп нажне.
Сноп ад снапа — паўтара ступня,
Капа ад капы — толькі дзве ступні.
Дай жа божа, каб было спорна,
На таку ўмалотам, а ў млыну намолам,
А ў дзяжы падходам, а ў печы ростам,
А на стале сыццю — к добраму жыццю!

Гаспадарочак, мой паночак,
Вазьмі сітца, насып жытца,
Дзяржы роўна, насып поўна.
Не будзем клясці, што цяжка нясці,
А будзем хваліць, што ўмееш дарыць.
Запявальнічку — капу яечак,
Памагальнічку — дзесятачак,
А механошу — жыта калошу.
А музыкі — горкая доля,
А што даюць, бярэ і тое,
Кварту гарэлкі, сыр на тарэлцы.
А мы госцейкі нехаджалыя,
Нехаджалыя, небывалыя.
Мы нячаста дакучаем,
А ў гадочку па разочку.
Дзякуй табе, пане, за добрыя дары.
Каб дажыць да лета ды лепей за гэта,
Каб вы добра жылі і лепей нас дарылі.

## 89

Ідзём, пайдзём дарожкаю,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
Далёкаю, шырокаю,
Пад ваконца слаўну мужу.
Ці спіш, ляжыш у пярыне ў пуховае
Із жаною маладою?
Ты прачніся, прабудзіся, прыбярыся
Ды прыдзі ж ты пад ваконца,
[Пад ваконца], на ўсход сонца.
Ды паглядзі ж ты ў ваконца,
Што ў тваім садзе-вінаградзе
Шацёр стаіць шаўковы.
Ды ў тым шатру крэсла стаіць,
Не простое — залатое.
Ды ў тым крэсле сам бог сядзіць,
Каля бога ўсе святыя
Шахуюцца, рахуюцца,
Каму ўперад на работку выходзіць.
Аўдакая, перва святца,—
Вясна ўсходзе,
Ды саракі дровы рубюць,
[Дровы рубюць], клады кладуць.
Благавешчанне ды жытачка парухаець,
Хоць пад сняжком — з цёплым душком.
Вялік чвартак — гаспадар едзець у поле
З сівым канёчкам ды із плужочкам,
Пачынаець поле араць яравое.
Велькане́ц — вяліксвятца,
Велькаочна з гаспадынькай
Ды садзяцца ды за столік
За дубовы, абрусікі бялёвыя.
Разгаўляюцца ды з яечкам,
Ды з хлебам, з соллю,
Ды з добрым здароўем.
Разгавеўшыся, ды сваіх дзетак малюсенькіх
Ды з яечкам з чырвоненькім забаўляюць.
Святы Юр'я едзець ў поле
Ды зямельку адмыкаець,
Ды расіцу пускаець,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Ды й цёплую, малочную, няўрочную.
Святы шоснік колас точыць,
Дзевятка, дзесятка — у жыце пятка.
Святы Яне папар арэць, барануець,
Святы Пятро спяліць ядро,
Святы Данат коскі точыць,
Сянцо косіць, бога просіць:
«Ды дай, божа, ды на нашу
На работку ды пагодку».
Святы Ілля — стара жняя.
Гаспадынька ідзець у поле
З хлебам, з соллю зажынаць,
Ды з маленькім сыночкам,
Ды з сярэбраным сярпочкам.
Святы спас едзець у поле,
Ды зямельку ён мяшаець, прыгатаўляець.
Свята прачыстая ды жытачка засяваець.
Гаспадар ідзець у свіран
Ды жытачка у мяшочак насыпаець.
Ідзець у поле ды з мяшочкам,
[Ды з мяшочкам] з бялюсенькім,
Ды жытачка ў лубачку насыпаець,
Правай ручкай засяваець, бога просіць:
«Дай жа, божа, каб жытачка
Усё чыста усхадзіла бы,
[Усхадзіла бы], урадзіла бы».
Святы пакроў — саўсім гатоў,
Пакрываець зямлю лістам,
Ваду лёдам, пчалу мёдам.
Святы Дзмітры, за ўсіх хітры,
Чаны парыць, піва варыць,
[Піва варыць], сыноў жэніць.
Кажнаму па канёчку,
А дачушкам па кароўцы.
Гаспадар, ды прыдзі ж ты,
Ды сядзь жа ты ў крэсла,
Ды паслухай нашай песні.
Наша песня велканочна нячаста бываець,
У гадочак адзін разочак.
Гэты госці нячаста бываюць,
[Нячаста бываюць], нямнога просяць:
Пачынальнічку — капу яек,
А маім брацця̇м — па дзесятак,

Музыканту — чэрвен злоты на боты.
Гаспадынька, масці кладку,
[Масці кладку], заві ў хатку,
Дый на дзіва — бочку піва,
Вядро гарэлкі, сыр на тарэлку.
А калі ласка — на закуску кумпяк мяска.
Гаспадынька, ды дай божа здароўя.
Калі ласка — дай кілбаскаў,
Калі змога — дай пірога.
Вашы дары ды бальшыя,
Ды праз дзверы не лезуць,
А праз ваконца, як шыць шыюць.

## 90

Добры вечар,
[Зялён явар наш, зялён!]*
Пане гаспадару,
Ці спіш, ляжыш,
Ці адпачываеш
У белым ложы
З маладой жаной,
З малымі дзеткамі?
Калі не спіш —
Адтвары вакно,
Паглядзі на двор.
На тваім двары
Што дзеецца,
Што паводзіцца:
Царква стаіць,
Да й саборная,
Багамольная.
А ў тэй царкве
Прастол стаіць,
За прастолам
Сам бог сядзіць,
Вокал бога
Усе святыя,
Між сабою
Яны рахуюцца,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Што каму рабіць.
Первы празнік
Святы ізбор
Пусціць ваду з гор,
Рыбку са ставу.
Благавешчанне
Жыта рушыць.
Чысты чацвер
Хлебам-соллю,
Заараўшы
Вараным канём,
Залатой сахой,
Маладым сынам.
Свят Хрыстоў дзень —
Стасуюцца
Красным яечкам,
Божым славечкам.
Радаўніца
Сталы засцілаіць,
Дзядоў памінаіць.
Вот Ягорый
Пусціў расу
На ўсю вясну.
Святы Барыс
Па межах ходзіць,
Поле дзеліць.
Святы Мікола
Гарох засяваіць.
Свята вазнясенне
Жыта пучыць.
Святая троіца
Жыта каласуіць.
Святы Пётра
Жыта наліваіць.
Святы Ілля
Жыта зажынаіць
Хлебам-соллю,
Залатым сярпом.
Святы Макавей
З поля сабіраіць.
Святы іспас
Жыта пасвяшчаіць.
Прачыстая багародзіца

Жыта засяваіць.
Свят пакроў дзень
Укрываіцца,
Зямлю — лістом,
Ваду — лядом,
Рыбу — луской.
Святы Мітрый —
Чаны парыць,
Піва варыць.
Святы Міхайла —
Сына жаніць,
Дачку 'ддаваць.
Начынальнічку —
Капу яец,
А нам, браткам,—
Па дзесятачку,
Бутылачку гарэлкі,
Сыр на талеркі.

## 91

Па вуліцы па шырокай,
[А зялёны сад вішнёвы!]*
Ішлі, брылі валачобнічкі,
Прышлі яны [illegible] аднаму двару.
Па чом пазнаць, што хазяйскі двор?
Вароцікі цясовыя,
А столбікі залачоныя,
Вярэюшкі тачоныя,
Закладачка серабраная,
Падваротніца — рыб'я костачка,
Рыбняй касцёй увесь двор змашчон,
Кругом двара ўсё зялезны тын,
Сірэдзь двара стаіць грыдня,
Кругом яе а ўсе святыя
Сабіраліся, салучаліся,
Катораму святу напярод ісці.
Святое ражство напярод пашло,
Васілійка васлед уступіў,
А кшчэнніка ваду свяціла,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Святы Іван храсты змываў,
Храсты змываў, кашу варыў,
А саракі ільды дралі,
Ільды дралі, птушак напушчалі.
Благавешчанне колле правіць,
Колле правіць, сані кідаіць.
Святое Ягор'е, боскі ключнік,
Узяў ключы, адамкнуў зямлю,
Адамкнуў зямлю, пусціў расу.
— Святэй Ілья, адкуль ідзеш?
— Па лугах хадзіў — траву расціў,
Па палях хадзіў — жыта радзіў.
Святэй Пётра талаку збіраў
Копы сена вазіць, стагі мятаць.
Прачыста маць ішла зажынаць
Ў чыстае поле з пшонным пірагом,
З пшонным пірагом, з залатым сярпом.
У левай руцэ пшонны піражок,
У правай руцэ залатэй сярпок:
«Я раз разну— я сноп нажну,
Я і два разну— я капу нажну!
Сноп ад снапа — на валовішча,
Капа ад капы—паўтараста шагоў!»
Святэй пакроў стагі пакрыў:
Першы стажок дранічкамі,
Другі стажок саломкаю,
Трэці стажок белым снегам.

## 92

Пахвалёны,
Дом свянцоны,
Благаслаўлёны.
Пане гаспадару,
Ці спіш-ляжыш,
Ці адпачываеш?
Ці з жаною
Маладою,
Ці з дзеткамі
Малалетнімі?
Калі жа спіш,
Бог з табою,

Калі не спіш,
Бог са мною.
Да ўстань рана,
Мыйся бела,
Да ўбярыся,
Надзень шаты
Дарагія.
Сама пані —
Кунню шубу
Аж да долу.
Адчыні акно
На ўсход сонца,
Да й глянь на двор,
Што на двору
Да й дзеецца,
Лялеецца.
Стаіць явар
Шырок, зялён,
На тым явары
Стаіць крэсла
Залатое.
На тым крэсле
Сам бог сядзіць,
Каля яго
Служкі яго
Шыкуюцца,
Рахуюцца,
Катораму святцу
Упярод стаці.
Перша свята —
Нова лета.
Святы Ізбор
Упярод ступіў,
Ваду пусціў.
Святы Казімір
Дровы сячэць,
Клады кладзець.
Благавешчанне
Жытцо рушыць,
Зямлю сушыць.
Свята вербніца
Сошкі правіць.
Чысты чацвер

Заворываіць.
Бел моладзец
Вараным канём,
Новай сахой,
Белай рукой.
Святы вялікдзень
Разгаўляіць,
Красным яечкам
Старых, малых
Забаўляіць.
Радаўніца
Барануіць
Чыста поле
Яравое
Да й раўнуіць.
— Святы Юрай,
Божы ключнік,
Вазьмі ключы
Залатыя
Да йдзі ў поле
У чыстае,
Адамкні зямлю,
Пусці расу
На ўсю вясну,
Да й цёплую,
Да й мокрую.
Раса росна,
Вясна цёпла.
Святы Барыс
Ляды паліць,
Ячмень сеіць.
Святы Мікола,
Стары сявец,
Узяў сявеньку
Да й паехаў
На пашаньку,
Яр засяваіць.
Кініць рэдка —
Усходзіць густа.
Дай жа божа
Усюды роўна.
Святы шоснік
У полі ходзіць,

З богам рондзіць.
Свята сёмка
Гнаі возіць,
Свята тройца
Папар арэць.
Святы дзявятнік
Красу даець.
Свята дзесятка —
У жыце пятка.
Святы Іван,
Божы каваль,
Косы круціць,
Сярпы рубіць.
Святы Пятро—
У жыце ядро.
Свята Ілля,
Божа жняя,
Упярод ішла,
Сярпок знайшла
Залаценькі.
Шахнець-махнець —
Снапок нажнець,
А дзе вяжыць —
Копка ляжыць.
Святыя Ганны
Памагалі
І канчалі.
Святы спас —
Пільненькі час,
Ён мяшаіць.
Прачыстая
Урачыстая
Жыта пасвянцаіць,
Засяваіць
Да й мяшаці
Памагаіць
Да й канчаіць.
А ўзвіжанне
Сцеліць лянок.
Святы пакроў
Прышоў дамоў
З усім дабром.
Як на небе

Часты звёзды,
Часцей таго
У тваім гумне
Копкі стаяць,
Сцірты ляжаць.
Пакрый, божа,
Зямлю лістом,
Ваду лёдам,
Рыбу луской,
Дрэва карой,
Птаху пяром,
Дзеўку чапцом.
Святы Змітры,
Яны хітры,
Піва вараць,
Сыноў жэняць,
Дачок аддаюць,
Пасаг дзеляць.
Да й сыночкам —
Па канёчку
Па вараненькім,
Па сядзёлцу
Па залаценькім,
А дачушкам —
Па кароўцы
Што найлепшай.
Гаспадару —
Ўсё дамоўства.
Жыві здароў,
Мей сто кароў,
Век да веку,
Рок да року.

## 93

Не мак, рожа расцвітаець —
Белы малойцы наступаюць.
[Вясна красна на ўвесь свет!]
Ішлі ж яны па вуліцы,
Па вуліцы па шырокай,
Па вуліцы па шырокай,
Па травушцы па зялёнай.

[Вясна красна на ўвесь свет!]
Ішлі ж яны і шаталіся,
Багатага мужа пыталіся.
[Вясна красна на ўвесь свет!]
Ці ёсць ў доме багаты муж?
Хоць ёсць, хоць няма,
Да не акажацца —
І ў новай каморы прыбіраецца.
[Вясна красна на ўвесь свет!]
Надзяець штаны замшовыя,
Панчошачкі бялёвыя,
Сапожкі казловыя,
Рубашачку кумачовую.
[Вясна красна на ўвесь свет!]
Прыбраўшыся і ўмыўшыся,
Сеў ён за столік
Насупіўшысь, надуўшыся,
Алі скора стаў весяленек.
[Вясна красна на ўвесь свет!]
Стаяць прад ім тры кубачкі
І тры новенькія бутылачкі.
[Вясна красна на ўвесь свет!]
У адной бутылачцы зеляно віно,
У другой бутылачцы пшанное піва,
У трэцяй бутылачцы саладок мядок.
[Вясна красна на ўвесь свет!]
Зялёна віно — дзеля яго самога,
Пшанное піва — дзеля жаны яго,
Саладок мядок — дзеля дзетак яго.
[Вясна красна на ўвесь свет!]
А чый то двор трашчон, машчон,
Медзяны вароты, падваротніца,
[Падваротніца]—рыб'я костачка?
[Вясна красна на ўвесь свет!]
Пасярод таго двара стаіць рыдля,
[Стаіць рыдля] рысаваная,
А ў той рыдлі усе святачкі,
Усе празнічкі сабраліся.
[Вясна красна на ўвесь свет!]
Ўсе святачкі, ўсе празнічкі сабраліся,
Самі сабой пралічыліся,
Да трох святцаў не далічыліся.
[Вясна красна на ўвесь свет!]

Першае святца — святы Юр'я,
Другое святца — святы Мікола,
Трэцяе святца — святы Ілля.
[Вясна красна на ўвесь свет!]
Прачыста маць ля бога сядзіць,
Ля бога сядзіць і шчаты дзяржыць.
[Вясна красна на ўвесь свет!]
У Пятра і Паўла успрашываіць:
— Скажы, Пётра, скажы, Паўле,
Скажыце шчыру праўду,
Гдзе Юр'я прабываіць?
[Вясна красна на ўвесь свет!]
— Пасець кароў ў чыстым полі.
[Вясна красна на ўвесь свет!]
Прачыста маць ля бога сядзіць,
Ля бога сядзіць і шчаты дзяржыць.
[Вясна красна на ўвесь свет!]
У Пятра і Паўла дапрашываіць:
— Скажы, Пётра, скажы, Паўле,
Скажыце шчыру праўду,
Гдзе Мікола прабываіць?
[Вясна красна на ўвесь свет!]
— Мікола ў чыстым полі коні пасець.
[Вясна красна на ўвесь свет!]
Прачыста маць ля бога сядзіць,
Ля бога сядзіць і шчаты дзяржыць.
[Вясна красна на ўвесь свет!]
У Пятра і Паўла дапрашываіць:
— Скажы, Пётра, скажы, Паўле,
Скажыце шчырую праўду,
Гдзе Ілля прабываіць?
[Вясна красна на ўвесь свет!]
— Святы Ілля ў чыстым полі яр дасяваіць,
Яр дасяваіць, жыта зараджаіць,
Яр зараджаіць, жыта зажынаіць,
[Вясна красна на ўвесь свет!]
Маладых жнеек паганяіць.
Гдзе раз разнець, там жменю кладзець,
Гдзе жменю кладзець, там сноп вяжыць,
Гдзе сноп вяжыць, там капу ставіць.
[Вясна красна на ўвесь свет!]
Часты-густы звёзды на небе,
Часцей-гусцей копы на полі,

Прыгож, высок месяц на небе,
Прыгажэй, вышай стог на гумне.
[Вясна красна на ўвесь свет!]
У Ляксея ў гумне накладзіста,
У Ляксея на асеці насадзіста,
Ў кругу навесіста, ў дзяжы падходзіста.
[Вясна красна на ўвесь свет!]
А пагэтаму, хазяін, не кажы таміць,
А кажы нас шчадро дарыць:
Зачынальнічку — чырвон залаты,
Громкім пявунам — гарнец гарэлкі,
Гарнец гарэлкі і сыр на тарэлкі.
[Вясна красна на ўвесь свет!]
Мы ў цябе госці недакучныя,
Бываем у гадочак усяго разочак.
[Вясна красна на ўвесь свет!]
Калі дарыш — будзь здароў,
Калі не дарыш — палупі кароў,
Пажыві болі, палупіш коні.

## 94

Благавешчанне,
[Зялёны сад вішнёвы!]*
Жыта парушаіць.
Хоць пад сняжком —
З божжа душком,
А вербніца
Вербу свенціць,
Свята пасха
Разгаўляіць,
А радаўніца —
Божжа памочніца.
— Свято Юр'е,
Вазьмі ключы,
Адамкні зямлю,
Пусці расу
На ўсю вясну,
І цёплую,
І мокрую.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

А ўзнясенне —
Божжа уступленне.
Святы Барыс
Барануіць
У тры тройкі,
На адной толькі.
А Мікола,
Стары хазяін,
Па межах ходзіць,
Жыта раўнуіць.
Дзе высахла,
Дзе вымакла,
Зраўнуй, божа,
Усюдых роўна.
Свята тройца
Май стаўляіць,
Старых памінаіць.
А дзесятнік
Гнаі возіць.
Дзесятуха косы точыць,
Касіць хочыць.
Свято Пятро —
У жыце ядро.
Свята Ілля,
Божжа жняя,
Жыта зажынаіць,
У копы стаўляіць.
А прачыста —
З поля чыста,
Жыта свенціць.
Святы пакроў —
З поля дамоў.
Святы Змітры,
Мудры-хітры,
Сыноў жэніць,
Дачок даець.
Свято ражство
З калядой ходзіць,
А Новы год
Устрачаюць,
Успіваюць.
Свято хрышчэнне
Дамы хрысціць,

А масленіца —
Катаюцца.
А грамніцы —
Свечкі свенцяць.
Ты хазяін,
Ці ёсць дома?
Выйдзі на двор,
Спяём песню
І гасподню.

### 95

А на вуліцы на шырокай
І на мураве на зялёнай
Білі палі залатыя,
Масцілі масты ўсё сярэбраныя.
Тудым ехала прачыстая,
Яна ехала шасцьма канямі,
Шасцьма канямі ўсё буланымі,
Карэтамі маляванымі,
Каточкамі ўсё кованымі.
Святы Юрый за павознічка,
Святая Мікола за лагоднічка,
А святы Ілля вядзець каня.
— Святы Ілля, вярні ж каня,
Вярні каня к слаўнаму пану,
К слаўнаму пану, [пану] Пятру.
У слаўнага пана, [пана] Пятра
Ёсць клетачкі і паветачкі,
Караватачка цясовая,
На той каравацы сама спажа,
Сама спажа палажылася,
Палажылася, абрадзілася.
Чэсную паню за куму брала,
Чэсную паню, [паню] Дар'ю.
— Ты кума мая, ты душа мая,
Вазьмі ж маё дзіцятачка,
Вазьмі яго, спавей яго,
Спавей яго ў пялюшачкі,
Ў пялюшачкі ў бялёвыя,
Ў паясочкі шаўковыя.
Да нясі ж яго да цэркаўкі,

Да царкаўкі да божае,
Да божае, да духоўнае.
Палажы яго на прастоле,
А сама стань ля прастола.
Сабіраліся паны дзякі,
Паны дзякі, чарнакніжнікі.
Як сталі яны чытаць-пісаць,
Чытаць-пісаць, думаць- гадаць,
Што дзіцяці за імя даці...
Патом таго чэсны пане,
Чэсны пане, [пане] Пётра,
Святога благавешчаня дажыдаючы,
Святога благавешчаня — яровыя пчоўкі.
Святога благавешчаня праваждаючы,
Святога вялічка дажыдаючы,
Святое вялічка з красным яечкам.
Святое вялічка праваждаючы,
Юр'е-Ягор'е дажыдаючы,
Святы Юрый з расіцаю.
Святога Юр'я праваждаючы,
Святую Міколу дажыдаючы,
Святая Мікола па межах ходзіць,
Па межах ходзіць, жыта родзіць.
Святую Міколу праваждаючы,
Святога ўшэсця дажыдаючы,
Святое ўшэсце са кірмашамі.
Святое ўшэсце праваждаючы,
І духа з тройцай дажыдаючы,
Святы жа дух з зялёным маем.
Святога духа праваждаючы,
Святое Іллі дажыдаючы,
Святое Іллі з новым хлебам.
Святога Іллю праваждаючы,
Святога спаса дажыдаючы,
— Святый жа спас, памілуй нас,
Святый жа спас з вінаградам.
Святога спаса праваждаючы,
Святое прачыстае дажыдаючы,
Святая прачыстая са канунамі,
Са канунамі, са праскурамі.
Святую прачыстую праваждаючы,
А другія дажыдаючы,
Святая прачыстая са прысеўкамі,

Са прысеўкамі са асенскімі,
Са асенскімі, са аржанымі.
Святую прачыстую праваждаючы,
Святога пакрова дажыдаючы,
Святы пакроў са ўсім дабром.
Святы пакроў, пакрый мяне,
Пакрый маю й галовачку,
І галовачку, і дамовачку,
І сямеечку, і пашоначку!
Потым таго, слаўны пане,
Слаўны пане, [пане] Пётра,
Да ўжо ж вам песня спета.

## 96

Ішлі, брылі валачэбнічкі
Па цямной начы да па гразкай гразі,
Валачыліся да й абмачыліся,
Шаталіся і баўталіся,
К багатаму дому пыталіся.
Не па чом пазнаць багатырскі дом,
Яго двор машчон, яго тын трашчон,
Вароцькі яго ўсё цясовыя,
Падваротніца — белая рыб'я косць.
Прыйшлі ж яны пад вакошачка,
Чалом, здароў пад вакошачкам.
Ці ёсць, ці нет гаспадар дома,
Гаспадар дома Раманухна?
— Наш паночак, гаспадарочак Раманухна!
Прачыні вакошка, паглядзі ж ты,
[Паглядзі ж ты] ў чыстае поле,
У чыстае поле, на сіняе мора,
Што ж у полі да сінееццa,
Да сінееццa да чарнееццa,
Да сінееццa да краснееццa.
Прачыстая маць на пахаць едзець,
Васьмі канямі да ўсё варанымі,
Трыма слугамі да ўсё вернымі,
Святы Ягор'я на козлах сядзіць,
Святы Ілля на запятках сядзіць,
А святы Мікола пасярэдзіне.
Пад'язджаюць яны к чэснаму мужу,

К чэснаму мужу, к багатаму дому,
К багатаму дому к Раманкінаму.
Самачэсны муж Раманухна!
Выдзі на сустрэчу прачыстай маці,
Прачыстай маці, багародзіцы.
Ён жа вышаў на сустрэчу
Прачыстай маці багародзіцы
Са свячамі да са ярымі,
Са свянцонымі праскуркамі,
Са свянцонымі праскуркамі,
Са салодкімі канунамі.
Прачыстая маці багародзіца
Ваз'язджаець к яму на падворайка.
Серадзі двара гараць тры вогнішчы,
Тры вогнішчы, тры калінавыя,
А ідуць душкі ўсё малінавыя.
Прачыстая маці багародзіца,
Яна ў яго ўсё спрашываіць:
— Раманічка, самачэсны муж!
Нашто табе тры вогнішчы,
Тры вогнішчы, тры калінавыя,
А ідуць душкі ўсё малінавыя?
Ці ты, [Раманічка], гарэлку гоніш?
Ці ты будзеш сыночкаў жаніць,
Ці дачушак замуж выдаваць?
— Прачыстая маці багародзіца!
Мае сыночкі пажанатыя,
А дочачкі замуж павыдадзены.
Прачыстая маці багародзіца!
Я не піва вару, не гарэлку ганю,
Не гарэлку ганю, не зелена віно куру,
Дажыдаю сабе трох празнічкаў,
Трох празнічкаў, трох угоднічкаў,
Трох угоднічкаў, велікоднічкаў,
Первага свята — святога вялікдзень,
Свят вялікдзень з красным яечкам,
Другога свята — свята Юр'я,
Трэцяга свята — свята Міколу.
Святы вялікдзень з красным яечкам,
Святы Юрый з зялёнай травой,
З зялёнай травой, з цёплай расой,
Святы Ілля з новым хлябцом.
Серадзі двара да Раманкіна

Стаіць рэя недарубленая,
Недарубленая, недавершаная.
Сабіраліся ўсе святцы, ўсе празнічкі,
Прачыстая маці іх лічала,
Лічала, лічала, не далічалася
Трох святцоў, трох празнічкаў:
Першага свята — святога Юр'ю,
Другога свята — святога Міколу,
Трэцяга свята — святога Іллю.
Ідзець, брадзець святы Юрый,
Святы Юрый з чыстага поля,
Урасіўся, умачыўся — макрошанек.
Прачыстая маці багародзіца,
Яна ў яго ўсё пытаіць:
— Святы Юрый! Гдзе ж ты бываў,
Гдзе ж ты бываў, гдзе ж ты прабываў?
— У самачэснага мужа ў Раманічка
Я кароў пасціў і запасаў,
Я, запасціўшы, дамоў прыганю,
Дамоў прыганю, ў хлеў заганю,
У хлеў заганю, слаўцо згавару.
Гэтаму статку не будзіць упадку
Ні ад мядзведзя, ні ад нарову,
Ні ад гада бягучага,
Ні ад змея лятучага.
Ідзець, брадзець святы Мікола,
Святы Мікола з чыстага поля,
Урасіўся, умачыўся — макрошанек.
Прачыстая маці яго пытаіць:
— Святы Мікола! Гдзе ж ты бываў,
Гдзе ж ты бываў, гдзе ж прабываў?
— Прачыстая маці багародзіца!
Я ў чэснага мужа ў Раманічка
Коней пасціў да запасаў,
Я, запасціўшы, дамоў прыганю,
Я дамоў прыганю, ў хлеў заганю,
У хлеў заганю, слоўца згавару.
Гэтаму статку не будзець упадку
Ні ад мядзведзя, ні ад нарову,
Ні ад гада бягучага,
Ні ад змея лятучага.
Ідзець, брадзець святы Ілля,
Святы Ілля з чыстага поля,

Урасіўся, умачыўся — макрошанек.
Прачыстая маці багародзіца,
Яна ў яго ўсё пытаіць:
— Святы Ілля! Гдзе ж ты бываў,
Гдзе ж ты бываў, гдзе прабываў?
— Прачыстая маці багародзіца!
Я ў чэснага мужа ў Раманічка
Па межах хадзіў, жыта радзіў,
Жыта, пшаніцу, ўсякую пашніцу.
Прачыстая маці багародзіца,
Яна ў яго ўсё пытаіць:
— Святы Ілля! Ці густа жыта,
Ці густа жыта, ці ядраніста,
Ці ядраніста, ці каласіста?
— Прачыстая маці багародзіца!
Густа жыта і ядраніста,
Ядраніста і каласіста,
Каласіста і палажыста.
Прачыстая маці багародзіца!
У чэснага мужа ў Раманічкі
Жыта зажынаў залатым сярпом,
Залатым сярпом, сярэбраным крастом,
Што раз разну, то сноп связну.
Часты-густы звёзды на небе,
Часцей-гусцей снапы на ніве,
Шырок-высок месяц на небе,
Шырэй-вышэй стагі на гумне,
Стагі на гумне на Раманенькім.
Святы пакроў, пакрый стагі,
Пакрый стагі ў тры рады:
Первы рад саломаю,
А другі рад бярозаю,
А трэці рад белым сняжком.
— Раманічка, самачэсны муж!
Прыказаў таміць, прыкажы дарыць.
Нашы дары не вялікія і не малыя:
Пачынальнічку...

## 97

На першы дзень на вялікдзень
[Вясна красна на ўвесь свет!] *

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Ішлі валачоўнікі, ішлі яны дарогаю,
Мураўкаю да зялёнаю,
Сустракалі госпада бога,
Сустракалі, укланіліся.
Пакланіўшыся, памаліліся,
Памаліўшыся, дапыталіся
Слаўнага сяла Жылінцаў.
Й а пыталіся чэснага мужа,
Чэснага мужа пана Грыгоркі.
Ён дома, да не [а]кажацца —
Да цэркаўкі сабіраецца,
Да цэркаўкі да божай.
Абувае боты казловыя,
Надзявае світку ліссю, саболлю,
Падпяразае пояс сырцовы,
Надзявае шапку бабровую.
Толькі ён у цэркаў выходзіць,
Дзяржыць шапачку ў правай ручцы,
Кланяецца нізкім паклонам,
Укланіўшыся, упрашаецца,
Упрашаець частай долі,
Частай долі да тры радасці,
А тры радасці, тры вясёлыя,
Тры вясёлыя да харошыя:
Першая радасць — у яго дамоўцы,
А другая радасць — у яго худобцы,
Трэцяя радасць — у чысценькім полі.
Ў чыстым полі ядрано жыта,
Што ў яго дамоўцы дробныя дзеці,
Да яго худобцы коні вараныя,
Коні вараныя, валы палавыя.
Дробнымі дзецьмі пасылаць будзе,
Варанымі коньмі паязджаць будзе,
Палавымі валамі пахаць будзе,
Ядрано жыта спажываць будзе,
Госпада бога спамінаць будзе,
Валачобнікаў спазываць будзе.
— Й а патом [таго], чэснага мужа,
Чэснага мужа пана Грыгорка,
А чым жа ты аславіўся?
Ці сваім гумном, ці сваім дваром,
Ці дзеткамі, ці сямейкаю?
— Я аславіўся да сваім дваром,

Да сваім дваром, да сваім дабром,
Да дзеткамі, да сямейкаю,
Да сямейкаю весяленькаю.
Да ў яго жа двара да жалезны тын,
Жалезны тын, медзяны вароты,
Медзяны вароты, цясовы замёты,
Падваротнічка — рыб'я костачка.
Цераз яго двор да Дунай цячэ,
Да Дунай цячэ ўсё ціхусенька,
А на том Дунаі біты палі,
Да біты палі ўсё дубовыя,
Мошчаны масты ўсё цясовыя.
Па тых мастах ўсё вазы ішлі,
Усё вазы ішлі да цяжолыя,
За тымі вазамі ехала карэта,
Муляваная, вызлачаная,
То ж а ў той карэце сама спожа.
Сама спожа, матка божжа,
Матка божжа і прачыстая,
Яна прыязджала, сама павітала,
Да на конічку на буланенькім,
А святы Юры за павознічка,
Святая Мікола за памочнічка.
Сустрэўшы, укланіліся,
Укланіўшыся, памаліліся.
— Валачобнічкі, белыя малойцы!
Чы не відзелі, чы не бачылі
Бога сваяго, сына маяго!
Да адзін кажа: «Я ж не бачыў».
Да другі кажа: «Я ж не відзеў».
А трэці кажа: «Да я сам там быў».
Да сядзіць божа ў чэснага мужа,
[У] чэснага мужа пана Грыгоркі,
За столічкам за цясовенькім.
Перад ім стаіць чэсны муж.
Да яго жа двор на пагорачку,
На пагорачку, на сярэдачку.
На яго дварэ да й агонь гарыць,
Каля таго агня да сталы стаяць,
А на тых сталах усё скацерці,
На тых скацерках да ўсё кубачкі,
Усё кубачкі да ўсё поўныя.
Да [ля] тых сталоў да ўсё крэслічкі,

Да на тых крэслічках да ўсё празнічкі
Рахаваліся, сабіраліся,
Аднаго празнічка не дажздаліся.
Якога празнічка? — Святога Міколу.
Каго сыскаць па Міколу пасладзь?
Петрыка сыскаць па Міколу пасладзь.
Петрык ім адказывае:
— Я каня не маю, Міколу не знаю.
Ну каго сыскаць па Міколу пасладзь?
Іллю сыскаць па Міколу пасладзь.
Ілля жа ім адказывае:
— Я каня не маю, Міколу не знаю.
Аславіўся святы Юры:
— Я коніка маю, Міколу знаю.
Толькі Юры каня сядлае,
Коніка сядлае, з двара з'язджае,
З двара з'язджае, Міколу стракае.
— Гдзе жа ты, Мікола, прызабавіўся?
— А па полю хадзіў да расу расіў,
Я па межах хадзіў, жыта радзіў,
А па бару хадзіў да раі садзіў.
— Й а патом таго, чэсны муж,
Адчыні акно, зірні ў гумно,
Адчыні другое, зірні ў поле.
Да што ж у полі рана гаманіла?
Гаманіла ў полі ядрано жыта.
Ядрано жыта гаспадара кліча:
«Да ты, гаспадару, адведай мяне,
Адведай мяне ў скарадзе,
Адведай [мяне] ў усыпанне,
Адведай мяне ў красаванне,
Адведай мяне ў палаванне,
Як пойдзеш жанцоў нанімаць».
Нанімалі жанцоў — усё маладыя,
Да кавалі сярпы ўсё сталяныя,
Да жанец разне — да снапок нажне,
На ступень ступіць — да капу кладзе.
Да ўрадзі, божа, ядрано жыта!
Ядро з вядро, снапок з піражок,
Снапок з піражок, а зярнятка з арэшак,
У полі капамі, а ў гумне стагамі,
Штоб так густа, як на небе звёзды,
Яр і пшаніцу, ўсякую пашніцу.

Да патом таго, чэсны мужу,
Ці ўслух табе, чэсны мужу,
Ці ўслух табе наша песенька?
Да калі ж не ўслух, дак слухай здароў,
Да калі жа ўслух, не вялі таміць,
Не вялі таміць, прыкажы дарыць.
Да нашы жа дары невялікія,
Нашы жа дары велікодныя:
Пачынальнічку — чырвон злоты,
А нашым братам — хаця па дзесятцы,
А механошу — капу яец,
Да капы ж яец да той негдзе ўзяць,
Да дзесятачак да то можна ж даць.
Нашаму музыку горкая доля,
Горкая доля — кварта гарэлкі,
Кварта гарэлкі, сыру на тарэлкі.
Кварта гарэлкі то для смеласці,
Сыру на тарэлкі то для крэпасці.
Да бывай здароў, май сто кароў,
Май сто кароў, пяцьдзесят канёў,
Май пяцьдзесят канёў, сем сох валоў,
Сем сох валоў, паўтараста раёў.
Будзь [жа] здароў, як зімою вада,
Да будзь жа багат, як улетку зямля,
Да із дзеткамі, да з сямейкаю,
Да з сямейкаю весяленькаю,
Проціў новага лета песенька спета ..

## 98

Ой, на першы дзень да на вялікдзень
Вясна красна на ўвесь свет! *
Ой, збіраліся, рахаваліся
Маладыя хлопцы — добрыя малойцы.
Ой, ішлі ж яны, ды й пайшлі ж яны
Ўсё дарогаю да шырокаю,
Ўсё іграючы да гуляючы,
Лявецкага сяла да шукаючы,
Слаўнага мужа гаспадара Йвана,
Вапрашаючы, ўсё пытаючы.
— Ой, чаго ж вы мяне да пытаеце,
Ці майго двара вы не знаеце?
Ой, да мой жа двор знакамісценькі,
Да вярэечкі шчыразлотныя,
А засовачкі ўсё цясовыя.
На маім дварэ да й агонь гарыць,
Што й агонь гарыць ўсё калінавы,
А дымочак ідзе ўсё малінавы.
Кала таго агню ўсе святыя сядзяць,
Ўсе апосталы шчыталіся,
Шчыталіся, рахаваліся,
Ой, каго ж гэта тутака нету?
Між намі нету да святога Юр'я!
Ой, каму ж ехаць па святога Юр'я?
— Ты, святы Ілля, асядлай каня,
Асядлай каня да бягай па Юр'я!
Ілля са двара, а Юрай на двор.
Ён парасіўся, ўвесь намачыўся.
— Ой, і дзе ж ты бываў, да святы Юрай?
— Я па полі хадзіў, людзям жыта расіў,
Бацьку бога прасіў: «Радзі, божа, жыта!
Радзі, божа, жыта на новае лета

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Ражаістае, каласістае».
Я па хатах хадзіў, бацьку бога прасіў,
Ўсім здароўе дарыў, яго людзям дзяліў.
Я па хлёвах хадзіў, бацьку бога прасіў,
Людзям шчасце насіў, усім статак пладзіў.
Я па бору хадзіў, людзям пчолкі садзіў,
Ўсё ім пчолкі садзіў, бацьку бога прасіў:
«Да ўнясі, божа, пчалінуюю матку
І раістую і мядзістую».
— Ой ты, гаспадару, ой ты, слаўны мужу!
Ой, ці дома ж ты? Не 'дзываецца —
У новай каморы прыбіраецца.
Ён надзяе боты ўсё чырвоныя,
Да надзяе шубу атласовую,
Да надзяе шапку ўсё бабровую.
Ой ты, гаспадару, ой ты, слаўны мужу!
Ой, устань, не ляжы да гумно паглядзі,
На тваім гумне ўсе святыя ходзяць.
Ой, первы святок — то святы Юрай,
А другі жа святок — святая Мікола,
А трэці святок — то святы Пятрок,
Чацвёрты святок — то святы Ілля,
А пяты святок — то святы іспас.
Ой, святы Юрай статак запасае,
Святая Мікола яр засявае,
А святы Пятрок пчолкі насаджае,
А святы Ілля жыта зажынае,
А святы іспас жыта засявае.

## 99

Ідзём, брыдзём,
[Зялён явар наш, зялён!] *
Прышлі, сталі,
Запялі:
— Устань, хазяін,
З сваёй жаной,
З сваім дзеткам.
У вашым садзе

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Стаіць царква,
У той царкве
Чуда чудзіць.
У той царкве
Стаіць прастол,
На прастоле
Ляжыць кніга,
У той кнізе
Ўсе празнічкі.
Первы празнік —
Васкрасенне,
Дзе што дзелаць,
Хрыста славіць.
Яшчэ празнік —
Свят Ягор'я,
Бяры вярбу,
Гані ў поле
Без убытку.
Яшчэ празнік —
Святы Мікола,
Бяры аброцце,
Братай коней,
Вядзі ў поле.
Яшчэ празнік —
Вазнясенне,
Зямлю мочыць,
Корань точыць.
Свята тройца —
Зацвітаець.
Яшчэ празнік —
Пётра-Павел,
Наліваець.
Свята Ілля —
Зажынаюць.
Дары, хазяін,
Нашы дары
Невялікі:
Механошу —
Яец сорак,
Запявале —
На бутылку,
А механошу —
Пірог з локаць.

## 100

Вокала двора зялезны тын,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
Зялезны тын, медзяныя вароты,
Падваротнічкі з рыбяй костачкі.
А сярод двара стаіць столічак,
А ў тым столічку да тры празнічкі:
Адзін празнічак — святога Юр'я,
Другі празнічак — святога Міколы,
Трэці празнічак — святога Іллі.
Святы Ілля у полі арэць,
Святы Юр'я яр засяваіць,
Яр засяваіць да белы гарох,
Белы гарох і ячмень-шасцярын,
Ячмень-шасцярын, авёс-барадач,
Авёс-барадач, грачыху чарну,
Грачыху чарну, сачыўку драбну.
Пашоў гаспадар у поле глядзець,
А сустрач яму сам Ілля ідзець,
Сам Ілля ідзець, урасіўшыся,
Урасіўшыся, умачыўшыся.
— Дзе Ілля была? — За гарой была,
За гарой была, снапы лічыла.
Дзе была гара, там жытца капа,
А дзе быў лажок, там сянца стажок.

*Віншаванне:*
Ото ж табе, пане гаспадару,
Песня спета напроць лета,
Тэн рок правадзіці,
Другога дачакаці
Ў радосці, весялосці,
У боскай апатшносці.
Каб багат быў
Ды нас не забыў.

## 101

Пойдзем, братцы, па вулачцы,
Зялёны явар, зялёны! *

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Па вулачцы па шырокай,
Пойдзем, зайдзем у хазяйскі двор.
Хазяйскі двор шырок, вясёл,
Шырок, вясёл, на сем сажон,
На сем сажон тыном тынён.
Каля тыну трава расцець,
Трава расцець шаўковая,
На ёй раса мядовая.
— Хазяюшка, наш бацюшка,
Ты спіш, ляжыш ці ўсё чуеш?
Устань, прачніся, глянь ў аконца,
Глянь у аконца на ўсход сонца,
У тваім двары што дзеецца,
Што дзеецца, лялеецца.
У тваім двары звязда спала,
Звязда спала — царква стала.
А ў той царкве прастол стаіць,
За прастолам сам бог сядзіць.
Каля бога ўсе празнічкі —
Шыкуюцца, рахуюцца,
Катораму ўперад ступіць.
Першы празнік — святы Юра,
Святы Юра ўперад пайшоў,
Асядлаў каня варанога
І паехаў аж да бога.
Узяў ключы залатыя,
Адамкнуў зямлю, пусціў расу,
Пусціў расу на ўсю вясну,
Вільготную, выгодную.
Другі празнік — святы Мікалай,
Святы Мікалай яр засяваў:
Авёс-барадач, ячмень-шасцярэнь,
Грэчку-чарнушку, святую іллюшку.
Трэці празнік — святы Андрэй,
Святы Андрэй, за ўсіх мудрэй,
Саху ладзіць, каня гладзіць.
Чацвёрты празнік — святая Ілля,
Святая Ілля, крутая жняя,
Пайшла ў поле жыта жаці,
Жыта жаці, зажынаці
З белым сырам, з белым сынам.
Што раз махне, то сноп кладзе,
Снапы вяжыць, ў мыдлі ставіць,

У мыдлі ставіць, копы лічыць,
Копы лічыць, на воз кладзець,
На воз кладзець, ў гумно вязець,
У гумно вязець, у тарпы кладзець.
Адна тарпа — на семечка,
А другая — на емечка,
А трэцяя — піва варыць,
Піва варыць, сыноў жаніць,
Дачок замуж аддаваці,
Дай божа і нам даждаці!

Хазяюшка, наш бацюшка,
Ці спіш, ляжыш, ці ўсё чуеш?
Ці [illegible] жаною маладою,
Ці з дзеткамі маленькімі?
Калі з жаною, дык бог з табою.
Устань, прачніся, глянь у акно,
У тваім двары што дзеецца.
У тваім двары гасцей многа.
Гэтыя госці нехаджалыя —
У гадочку адну ночку.
Масці кладку цясовую,
Прасі ў хату у новую.
Калі змога — паўпірога,
Калі ласка — водкі пляшка,
Калі сіла — дык паўсыра.
Гэта «хрыстос» хазяіну,
Песня спета проці лета,
Каб камары не кусалі,
Каб жанчыны абымалі.

## 102

На вялікадня да на першы дзень,
Чырвоны цвет на ўвесь свет! *
Валачоўнічкі сабіраліся,
Сабіраліся й рахаваліся.
Пашлі ж яны ўсё дарогаю,
Ўсё дарогаю, ўсё шырокаю.
Сустрэлі ж яны госпада бога.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

— Госпадзі божа, укажы нам дарожку,
Укажы нам дарожку, куды ж нам пайці,
Куды ж нам пайці, куды нам зайці.
— Да ідзіце ж вы ў слаўнае сяло,
Ў слаўнае сяло, к слаўнаму мужу,
К слаўнаму мужу к пану Захарку.
— Пане Захарка, адчыні вакно,
Адчыні вакно, паглядзі ў гумно,
Што ў тваім гумне праявілася —
Новая цэркаўка станавілася.
А ў той цэркві да прастол стаіць,
За прастолам сам бог сядзіць,
Сам бог сядзіць, святкі лічыць,
Лічыў, лічыў да памыліўся,
На святога Юр'ю прызабыўся.
Пакуль Юрай у вароцечка,
А Мікола з вароцечкаў.
— Святы Мікола, дзе ж ты бываў,
Дзе ж ты бываў, што ж ты відаў?
— Па мяжы хадзіў, жытца глядзеў,
Да ў коласе каласісценька,
А ў корані каранісценька,
Із вяршочка будзе жыта бочка.

## 103

Ай, у нядзельку на вялікадня,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
Ай, ішлі, брылі валачобнікі,
Ай, ішлі ж яны ўсе дарогаю,
Сустрэлі яны госпада бога,
Госпаду богу памаліліся,
Памаліліся, пакланіліся,
Пакланіўшыся, папыталіся
Слаўнага сяла (назва),
А ў том сяле слаўнага пана,
Слаўнага пана, пана гаспадара.
А пан гаспадар прыбіраецца,
Ён, прыбраўшыся, да і сеў сабе,
Ай, сеў сабе за столікам.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Перад ім стаяць тры сыночкі яго,
Тры сыночкі яго да ўсё пісарочкі.
Ай, не ластавіца то палятуе,
Сама гаспадыня пахаджуе,
А сваіх служак ўсё пабуджае:
«Служкі мае вярненькія,
Устаньце ж вы, не ляніцеся,
Не ляніцеся да памыйцеся,
Ай, памыйцеся, прыбярыцеся,
А йдзіце вы да цэркаўкі,
Да цэркаўкі богу маліцца,
Богу маліцца, Хрысту кланяцца.
А з цэркаўкі да стаенкі,
А ў стаенцы божая радасць,
Божая радасць праявілася —
Сорак кабылак жарабілася,
А яшчэ столькі назначылася.
А цяпер ідзіце да кароўнічку,
А ў кароўнічку божая радасць —
Сорак каровак ацялілася,
А яшчэ сорак назначылася».
А патом таго, слаўны пане!
А чым жа ён славен, ці сваім дабром,
Ці сваім дабром, ці сваім гумном?
А славен жа ён да сваім дваром,
А ў яго на двару прастол стаіць,
На прастоле сам бог сядзіць,
Сам бог сядзіць, святкі ліча,
Аднаго святка да не далічыўся,
А не далічыўся да святога Юр'я.
А каму ж ехаць Юр'я шукаці?
— Ехаць шукаці благавешчанню.
— Я каня не маю, Юр'я не знаю.
— Ехаць шукаці святому вялічку.
— Я каня не маю, Юр'я не знаю.
— Радаўніцы ехаць Юр'я шукаці.
— Я каня маю, Юр'я знаю.
Толькі радаўніца за вароты,
Святы Юрай у вароты.
— Чалом, чалом, святы Юрай,
Дзе святы Юрай прызабавіўся?
— Па мяжах хадзіў, пашню радзіў,
Ярую пшонку святому вялічку,

Святому вялічку на белы піражкі.
— Святы Юрай, а гдзе болей хадзіў?
— Па барах хадзіў, пчолкі садзіў,
На сто калод насадзіў,
А яшчэ на сто нагатовіў.
— А патом таго, слаўны мужу,
Адчыні вакно, палядзі ў поле,
Па тваёй ніве сам бог ходзе,
Сам бог ходзе, пяць асоб водзе:
Першая асоба — святы Юрай,
Другая асоба — святы Мікола,
Трэцяя асоба — тройца святая,
Чацвёртая асоба — святы Пятро,
Пятая асоба — святы Ілля.
А святы Юрай са расіцаю,
Са расіцаю жыта зараджае.
А святы Мікола з шаўковай травой,
Шаўковай травой скот напасае.
Тройца святая жыта высыпае,
А святы й Пятро з дробным дажджом,
А святы Ілля з залатым сярпом,
З залатым сярпом жыта зажынае,
Жыта зажынае, пана гукае:
«А куй сярпы залаценькія,
Сабірай жнеі маладзенькія!»
Часты-густы да на небе звёзды,
Часцей-гусцей да на ніве копы,
А й высок да вялік ясен месяц,
А вышай таго ў гумне стагі,
У гумне стагі ў пана гаспадара!
А патом таго, слаўны й пане,
Не кажы таміць да кажы дарыць.
А нашы дары не вялікія,
Не вялікія і не малыя:
Пачынальнічку — чырвоны злоты,
А ўспявальнічкам — па капеечцы,
А механошу — чвэртка жыта,
А музыкава горкая доля —
Кварта гарэлкі, сыр на тарэлкі.

## 104

А ці ўдому, дому пане гаспадару?
Ды віно ж маё зеляно! *
Калі ўдому, адгукніся.
Няма ўдому, пайшоў ў роўна поле,
У роўна поле жыта паглядзеці,
Жыта паглядзеці, чым бог давядзеці.
Ён спаткаўся з святым Юр'ем.
— Куды ідзеш, пане гаспадару?
— У роўна поле жыта паглядзеці.
— Тваё жыта агледжана
І пальчыкам абведзена.
Зверху каласіста, знізу караніста.
Усё ў трубы яно пакруцілась,
У адзін бачок яно пахілілась.
Ды пара ўжо жыта зажынаці,
Жыта зажынаці, жнеек нанімаці.
Пайшла яго жонка жыта жаці,
Разок махне — снапок нажне,
Шаг прыбаве — копы ставе.
Сам бог ходзе, копы ліча,
Гаспадара к сабе кліча.
На полі капамі, а ў гумне тарпамі,
А ў арудзе спорам, у дзяжы падходам,
У дзяжы падходам, а у печы ростам,
А у печы ростам, а на стале сыццем —
Нашым гаспадарам на доўгае жыцце.

## 105

На вялікдзень да на божы дзень,
Зялён явар, кудравы! *
Да збіраліся валачобнікі,
Да збіраліся, рахаваліся,
Слаўнага сяла да пыталіся,
Слаўнага сяла, слаўнага мужа Івана.
Ой, чым жа ён да уславіўся?
Ці сваім гумном, ці дубовым дваром?
І сваім гумном, і дубовым дваром.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

— Адчыні вакенца, паглядзі ў гуменца,
Што ў тваім гумне райска ўецца,
Райска ўецца да й шацёр стаіць.
Пад тым шатром сам бог з Пятром,
Сам бог з Пятром да святых лічыць.
Ой, лічыў, лічыў да й не далічыўся,
Да святога Юр'я спамыліўся.
— Святая Мікола, сядлай каня,
Сядлай коня да ступай у поле,
Да ступай у поле Юр'ю шукаці.
Мікола на коня, а Юрай у варота.
— Юр'ю, Юр'ю, да чаго ж ты пышан?
— Я ж не пышан, да толькі прызабавен,
Я па полі хадзіў да я бога прасіў:
«Радзі, божа, жыта на многае лета,
Каласістае, ядраністае,
Каласок — з бічок, зярно — з вядро».

## 106

Добры вечар, пане гаспадару!
Да віно ж наша зеляное! *
Да ці ёсць удома, ці акажашся?
Да няма дома, да ў горадзе,
Да ў горадзе да суды судзіць,
Суды судзіць, перасуд бярэ,
Да бярэ грошы да не лічачы,
Срэбра-злота да не важачы.
Бярэ каня з вараной стады,
З вараной стады даехаць дахаты.
Прыехаў ён да й дадоменьку,
Пастаўляў сталы ўсё цясовыя,
Панакрываў сталы ўсё й кітайкамі,
Пасаджаў святкі у тры радкі:
— І садзіцеся, і лічыцеся.
І садзяцца, і лічацца,
Аднаго святка не далічацца.
Якога святка? — Святога Юр'я.
— Святая Мікола, сядлай каня,
Сядлай каня, едзь па Юр'я.

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Мікола — на каня, Юра — ў варота.
— Дзе ж ты бываў, святы Юр'ю?
— Па гарах хадзіў, жыта, пшаніцу радзіў.
Дзе Юра ступае — жыта вылягае,
А дзе Юра ходзіць — усё збожжа родзіць,
Дзе Юра нагою — там жыта капою.

## 107

А на першы двень да на вялікдзень,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
А збіраліся ўдалыя малойцы,
Сабраўшыся, рахаваліся,
Сабраўшыся, зрахаваўшыся,
Пашлі яно ўсё дарожкаю,
Ўсё дарожкаю, ўсё шырокаю,
Ўсё мураўкаю, ўсё зялёнаю.
Сустрэлі яны госпада бога
З усімі святымі і з прачыстаю.
Госпаду богу пакарыліся,
Пакарыліся, пакланіліся,
Слаўнага сяла да пыталіся,
Слаўнага сяла Пятроўскага,
Слаўнейшага Паўлоўскага,
А ў тым сяле слаўнага мужа,
Слаўнага мужа пана Сцяпана.
А чым жа ён уславіўся,
Ці сваім гумном, ці сваім дабром?
Ці сваёй жаной, ці сваімі дзецьмі?
Не сваім гумном, не сваім дабром,
Не сваёй жаной, не сваімі дзецьмі.
Ой, тым жа ён уславіўся,
Што ў яго на дварэ агні гарацъ,
Агні гарацъ ўсё ціхонькія,
А дымы дымяцъ ўсё сіненькія,
А вісяцъ катлы ўсё мядчаныя,
А вараць піва ўсё пшанічнае,
А гоняць гарэлку-акавітачку,
А к сяму, к таму, к святому вялічку.
Ён к сабе гасцей спадзяваецца,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

А якіх гасцей? — Валачобнічкаў,
Валачобнічкаў з госпадам богам,
Госпада бога з усімі святымі
З усімі святымі і з прачыстаю.
Ці ўсе святцы пазбіраліся?
Аднаго нету — святога Іллі.
Каго абабраць па Іллю паслаць?
Толькі ж Пётра да на коніка,
Да на коніка, за вароцечкі,
Аж святы Ілля і сам ідзе,
Урасіўшыся, умачыўшыся.
— Гдзе ж ты, Ілля, прызабавіўся?
— Па межах хадзіў, жыта радзіў,
Па бару хадзіў, пчолкі садзіў.
Радзі, божа, жыта, жыта і пшаніцу,
Жыта і пшаніцу, усякую пашніцу.
Каласом каласіста, ядром ядрыста,
Сноп ад снапа на дзве стапы,
Капа ад капы на чатыры стапы.
З аднаго коласа бочка жыта,
З другога — другая, з трэцяга — трэцяя.
Аднаей бочкай [поле] засяваці,
А другой бочкай таргаваці,
А трэцяй — дзеткі гадаваці.
Садзі, божа, пчолкі ў вулі, у сасёнкі,
І раістыя, і мядзістыя.
Ото ж табе, пане гаспадару,
Песня спета проці нова лета,
Проці нова лета і вясёлага,
Як салавейка на каліначцы.
Калі любіш гасцей, то заві ў хату,
А не любіш гасцей, кажы дар даці,
А нашы дары невялікія:
У дзверы не лезуць, у акно, як шыюць,
Пачынальніку — чырвон злоты,
А маім пяўцам — па дзесятнічку,
А музычына горкая доля —
Кварта гарэлкі дзеля пасядзелкі,
Сыр на талерку дзеля закускі,
Жытні пірог дзеля коласу,
Пшонны пірог дзеля голасу.

*Падзяка:*
А нуце, братцы, не ляніцеся,
Госпаду богу пакарыцеся,
Пану гаспадару пакланіцеся,
За яго сталы ўсё цясовыя,
Сталы ўсё цясовыя, абрусы шаўковыя,
За яго хлябы пытляваныя,
За яго лыжкі пасрабраныя,
За яго талеркі фарфуровыя,
За яго келішкі крышталёвыя.

## 108

Цераз поле шырокае,
Цераз межы залаценькія
Ішлі тудою валачэднічкі,
Ішлі яны іграючы, прыпяваючы,
Яснага пана да пытаючы.
Якога ж пана? — Пана гаспадара.
— Дзень добры дзень, пану гаспадару!
Калі ўдому, акажыся,
К святому дню прыбярыся,
К святому дню, ■ вялікадню.
Халоднаю вадзіцаю умывайся,
Чыстым палаценцам уціpайся,
У новыя лапці абувайся,
Ў белую світку адзявайся.
Замятай двары да павым пяром,
Усё павым пяром, залатым крылом.
Пастаўляй сталы ўсё цясовыя,
Ўсё цясовыя, папісоныя.
Засцілай сталы ўсё кітайкаю,
Кітайкаю да зялёнаю.
Стаўляй кубкі срабляныя,
Налівай кубкі зялёным вінoм,
Зялёным вінoм, чорным півам,
Чорным півам, саладкім мядком.
Зялёна віно — пану гаспадару,
Чорнае піва — для яго жаны,
Саладок мядок — для яго дзетак.
Да чым наш пан аславіўся,
Чым гаспадар падарыўся?

Пасадзіў святкоў па застоллейку,
Сталі святкі ўсе лічыціся,
Яны ўсё лічацца да лічацца,
Аднаго святка не далічацца,
Таго святка — святога Юр'я.
Трэба слаці Юр'я шукаці.
— Святы Ілля, сядай на каня
Да бягай ты ў поле,
Да шукай там Юр'я.
Не ўспеў Ілля сесць на каня,
Як Юрай на двор
Да кулем за стол.
Не далі Юр'ю разабраціся,
Сталі ў Юр'я пытаціся,
Дзё ён бываў, што ён чуваў.
Святы Юрай па палях хадзіў
Да жыта радзіў.
Дзе гара, там жыта капа,
Дзе лужок, там сена стажок,
Дзе лагчынка, там жыта сціpта.
Як на небе звёзды часты,
Так на полі копы густы.
З каласочка жыта бочка,
Жыта бочка, рэшата мякіны.
На гумне з умалотам,
У дзежачцы з падходам,
А ў бохане з кроем.
А ў хлевушках — каровушкі,
А ў стайні — вараныя коні,
У аўчарушках — авечачкі,
Па катушках — усё свінушкі.
Конікі ўсё вараненькія,
Каровушкі рагастыя,
Свінушкі віхрастыя,
Авечачкі касмастыя,
Курачкі чубастыя,
Гусачкі храшчастыя.
Гаспадар ты наш з гаспадыняю!
Не тамі нас доўга,
Падары нас борзда,
Не вялікім скарбам — чырвоным яйцом.
Са двара пойдзем прыпяваючы,
Пана гаспадара велічаючы.

Вот і песня спета проціў лета,
Што гаспадару па полі хадзіці,
Жыта жаці і нас памінаці.

## 109

А з-пад лесу, лесу цёмнага,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
А з-пад гаю, гаю зялёнага
Ішлі, брылі добрыя людзі,
Добрыя людзі — валачобнічкі.
Ішлі яны, шаталіся,
Слаўнага сяла пыталіся,
Слаўнага сяла, багатага мужыка.
Слаўнае сяло — Уллянавічы,
А багаты мужык — Мікалаечка,
А зялезны тын, медзяныя вароты,
Рыб'я костачка ў падваротніцы.
А сярод двара стаіць гара,
А ў той гары стаіць рыдля,
Не дарыдленая, не дарубленая.
А ў тую рыдлю сабіраліся, савяшчаліся
Усе святцы, усе празнічкі,
Аднаго Юр'я не далічыліся.
— Святы Юр'я, а дзе ж ты бываў?
А дзе ж ты бываў, а што ж ты відаў?
— У чыстым полі кароў запасаў.
— Святы Мікола, а дзе ж ты бываў,
[А дзе ж ты бываў], а што ты відаў?
— На зялёных лугах коней запасаў.
— Святы Ілля, а дзе ж бываў,
[А дзе ж бываў], а што ж ты відаў?
— У чыстым полі жыта зажынаў,
Дзе жменю рэжаць — там сноп вяжаць,
Дзе сноп вяжаць — там копы ставіць.
— Ну, здароў, здароў, Мікалаечка!
Ці спіш, ці ляжыш, што не кажашся?
Адчыні вакно, паглядзі ў гумно.
У тваім гумне сам бог ходзіць,
Копы лічыць, стагі ставіць.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

У тваім гумне а навезена,
У тваіх згародах а навернена,
У тваёй клеці а насыпіста,
У тваіх жорнах а намеліста,
У тваёй дзяжы а падходзіста,
А ў тваёй печы а буханіста.
Мікалаечка, ты злічны панок!
А прымі гасцей харашэнечка.
Ты пастаў пшоннае півачка
І салодкі мёд, і гарэлачку,
Кварту гарэлкі і сыр на тарэлку,
На стол палож, каўбасой аблож,
А мы ж госці недакучныя,
Нашы дары невялікія:
У дзверы не лезуць, а ў вакно падаюць.
Ну за гэтым, наш Мікалаю,
Жыві здароў, май сто кароў,
Пажыві болей, май сто коней!

## 110

Ой, ды на вялікдзень, ды на першы дзень,
Ды віно ж, віно зеляно! *
Ой, ды ўсе святкі ды гуляць пайшлі,
Адно адзін Юрый ды гуляць не йшоў.
Ды на яго матка зажурылася.
— Не журыся, матка, не журыся, родна,
Я па межах хадзіў ды жыцечка радзіў!
— Чыё, сынку, будзе найлепшае жыта?
— Пана Мікалая найлепшае жыта,
Край зямлі карчыстае, па краях сцяблістае,
А дзе горачка — там жыта копачка,
А дзе даліночка — там жыта сціірточка.
З аднаго снапочка будзе жыта бочка,
А із каласочка — поўная мярочка.
Выйдзі, выйдзі, пане, ды на сваё поле!
Ды што там рыжэецца, ды што там бялеецца,
Ды што там бялеецца, ды што там сінеецца?
Ды рыжэецца ды буйнае жыцечка,
Ды бялеюцца маладыя жнейкі,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Ды сінеюцца сталёвыя сярпы.
Родная матуля жыта зажынала,
Жыта зажынала, у тры радочкі клала:
Першы радочак дзеля засявання,
А другі радочак дзеля спажывання,
А трэці радочак сыночка жаніці,
Сыночка жаніці, дочак аддаваці.

## 111

Цераз поле ды шырокае,
Ды віно ж маё зеляное! *
Ішлі, беглі валачобнічкі,
Валачыліся, памачыліся,
К слаўнаму пану прыбіліся.
Чым пан гаспадар праславіўся?
Перад каралём з вараным канём
Падмятаў двары ўсё павым пяром,
Усё павым пяром, залатым крылом.
Стаўляў сталы ўсё цясовыя,
Усё цясовыя, папісоныя.
Засцілаў сталы ўсё кітайкаю,
Усё кітайкаю ды бяленькаю,
Стаўляў кубкі ўсё мядзяныя,
Усё мядзяныя, падзіманыя,
Наліваў кубкі зеляным віном,
Зеляным віном, чорным півам,
Чорным півам, салодкім мядком.
Чорнае піва — для самога пана,
Зеляно віно — для яго жаны,
Салодкі мядок — для яго дзяток.
Саджаў святкі па застоллейку.
Сталі святкі лічыціся,
Аднаго святка не далічацца.
Якога святка? — Святога Юр'я.
Каго пасылаці Юр'я шукаці?
— Святы Ільля, сядай на каня,
Бегай у поле, шукай Юрыя.
Святы Ільля — на конічка,
Святы Юрый — у вароцечка.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Не далі Юрыю разабраціся,
Сталі ў Юрыя пытаціся:
— Святы Юрый, дзе ж ты бываў?
— Па палях хадзіў, жыта радзіў,
Жыта, пшаніцу, ўсякую пашніцу.
Дай табе божа, пане гаспадару,
Дзе горачка — жыта копачка,
Дзе лагчынка — пшаніцы сцірта,
Дзе лужочак — сена стажочак!
Дай табе божа, пане гаспадару,
І ў каморы, і ў аборы,
А на стайні — вараныя коні,
Конікі касаты, цялушкі рагаты,
Авечкі лахматы, свіначкі віхраты,
Гусачкі хрaшчаты, курачкі чубаты.
— Пане гаспадару, не цягні доўга,
Не цягні доўга, падары борзда!
Вынесь, вынесь, пане гаспадару,
Копу яец на паўміску,
Каўбасою абкружыўшы,
Белым сырам налажыўшы,
На вяршочак — хаця піражочак!
А мы пойдзема, папяваючы,
Пана гаспадара велічаючы,
А мы выйдзема на лужочак
Ды пасядзема усе ў кружочак,
Тыя дары мы раскоціма,
Мы раскоціма ды палічыма,
Пана гаспадара узвялічыма!
Дай табе божа, пане гаспадару,
Курэй падпечак, яец засечак,
Яец засечак, дзетак запечак!

## 112

Лугам, лугам зеляненькім,
Ды віно ж маё зеляное!
Сцежкамі дратаванымі,
Ой, зялёны явар, вінаград! *

* Рэфрэны «Ды віно ж маё зеляное!» і «Ой, зялёны явар, вінаград!» паўтараюцца па чарзе праз адзін радок.

Ішлі лугам валачобнікі,
Гуляючы, спяваючы.
А ў нашага пана у дварочку,
У дварочку, як у вяночку,
Вырас дубок тонак, высок.
Пад той дубок сабіраліся,
Сабіраліся, рахаваліся,
Зрахавалі Юр'е, святое Мікола.
— Святое Мікола, сядлай коня,
Сядлай коня варанога!
Мікола на коня — Юр'е у вароты.
— Дзе ж ты, Юр'е, прызабавілася?
— Я у таго пана па мяжы хадзіў,
Па мяжы хадзіў, жыта радзіў,
Жыта, пшаніцу, ўсякую збажыцу.
Дай жа божа на пpыродачак.
На полі капамі, у таку тарпамі,
У таку тарпамі, у свірне арудам,
У свірне арудам, у печы прысушам,
У печы прысушам, у млыне прымолам,
У млыне прымолам, у дзяжы падходам,
У дзяжы падходам, а на стале сытна!
Дай жа божа за год дачакаці
Ды гаспадара панам назваці!
— Гаспадынечка-журавіначка,
Падстаўляй драбінку, лезь па сланінку.
Вісіць абод — калясо будзе,
Пазаві у хатку — харашо будзе,
Кварту гарэлкі, сыр на талерку!

## 113

На вялікдзень, на першы дзень,
Ды віно маё зеляное! *
Збіраліся ўсе святыя,
Збіраліся, рахаваліся:
— Да каго ж мы на двор зайдзём?
Зайдзём жа мы да святога Юр'я!
Святога Юр'я дома не засталі,
Судасілі ў калінавым мосце:

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

— Дзе ж ты бываў, святы Юр'ю?
— Па полі хадзіў, жыта глядзеў,
Карчыстае, сцяблістае!
— Да каго ж мы на двор зайдзём?
Зайдзём жа мы да святой Міколы!
Святое Міколы дома не засталі,
Судасілі ў калінавым мосце:
— Дзе ж ты бываў, святы Мікола?
— Я дома не быў, па полі хадзіў,
Па полі хадзіў, жытка расіў!
— Да каго ж мы цяпер на двор зайдзём?
Зайдзём жа мы да святога Пётры!
Святога Пётры дома не засталі,
Судасілі ў калінавым мосце:
— Дзе ж ты бываў, святы Пётра?
— Я дома не быў, па полі хадзіў,
Па полі хадзіў, жытка зажаў,
Жытка зажаў, снапок звязаў,
Снапок звязаў, у копку зложыў!
— Да каго ж мы цяпер на двор зайдзём?
Зайдзём жа мы да святога Льяшкі!
Святога Льяшкі дома не засталі,
Судасілі ў калінавым мосце:
— Дзе ж ты бываў, святы Льяшка?
— Я дома не быў, па полі хадзіў,
Па полі хадзіў, копкі глядзеў:
А із каласочка будзе жыта бочка,
А із другога — больш як з тога!
Дай табе божа, пане гаспадару,
Жыці-быці, копкі вазіці,
Копкі вазіці, вазы паламіці,
Вазы паламіці, коні патаміці,
Піва варыці, сынкі жаніці,
Сынкі жаніці, дочкі аддаваці!

## 114

На вялікадня ды на першы дзень,
[Вясна красна на дварэ!] *
Сабіраліся валачобнікі,
Валачобныя — людзі добрыя,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Ды пашлі ж яны дарогаю,
Ды дарогаю ды шырокаю.
Сустрэлі ж яны госпада бога.
Госпаду богу памаліліся,
Памаліліся, укланіліся.
— Ды каму ж ехаць па Іллю?
— Вялікадню ехаць па святога Іллю.
Вялікдзень богу адмаўляе:
— Каня не маю, Іллі не знаю.
— Дык каму ехаць па святога Іллю?
— Юру ехаць па святога Іллю.
Юра богу адмаўляе:
— Я каня маю, а Іллі не знаю.
— Дык каму ехаць па святога Іллю?
Мікола богу адмаўляе:
— Я каня не маю, Іллі не знаю.
— Дык каму ехаць па святога Іллю?
— Ўшэсцю ехаць па святога Іллю.
Ўшэсце богу адмаўляе:
— Я каня не маю і Іллі не знаю.
— Дык каму ехаць па святога Іллю?
— Тройцы ехаць па святога Іллю.
Троіца богу адмаўляе:
— Я каня не маю, Іллю знаю.
— Дык каму ехаць па святога Іллю?
— Івану ехаць па святога Іллю.
Іван богу адмаўляе:
— Я каня не маю, Іллі не знаю.
— Дык каму ехаць па святога Іллю?
— Пятру ехаць па святога Іллю.
Пятро богу адмаўляе:
— Я каня маю, Іллю знаю.
Ды святы ж Пятро коніка сядлае,
Ды за вароцечкі й выязджае.
Ды святы Ілля сам прыбывае,
І ўрасіўшыся і ўмачыўшыся.

## 115

На вялікадня да на першы дзень
[Вясна красна на ўвесь свет!] *

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Да ішлі ж, гулі валачобныя,
Да ішлі ж яны ўсё дарогаю,
Ўсё дарогаю, ўсё шырокаю.
Да стрэлі яны госпада бога,
Госпада бога, духа святога.
Станьце ж, браты, не пышыцеся,
Госпаду богу памаліцеся.
Памаліўшыся, пакланіцеся,
Пакланіўшыся, папытайцеся
Да таго-сяго вялікага сяла,
Вялікага сяла, багатага двара,
Багатага двара, слаўнага мужа,
Слаўнага мужа пана Сцяпана.
Вон яго хата на пагорачку:
Медзяны вароты, залаты замкі,
Падваротнічкі — з рыбы костачкі.
Вой, прышлі ж яны к слаўнаму мужу,
К слаўнаму мужу пану Сцяпану.
Падышлі ж яны пад акенечка
Да пытаюцца слаўнага мужа,
Да ці дома, дома слаўны мужу.
Ён жа дома, да не кажацца —
У каморачцы прыбіраецца,
У казловыя боты абуваецца,
У бабровую шубу надзяваецца,
Шаўковаю хусткай падпяразуецца,
Лісюю шапку на сябе кладзе.
Як прыбраўся, так і адазваўся,
Да й сеў жа ж ён да на покуце,
Ля яго села да жана ж яго,
Ля жаны яго дзеткі яго,
Каля дзетачак яго служачкі.
Да стаіць ля іх да тры кубачкі,
Да тры кубачкі усё роўныя
Да налеяныя яны поўныя.
У адным кубку — яравое піва,
У другом кубку — да віно зеляно,
У трэцім кубку — да салодкі мёд.
Да віно зеляно — для самога яго,
Яравое піва — для жаны яго,
Салодкі мёд — то для дзетачак,
Недапітачкі — то для служачак.
На яго ж двары тры выгоды сталі:

Первая выгода — белая бяроза,
Другая выгода — прастол стаіць,
Трэцяя выгода — сам бог сядзіць,
Сам бог сядзіць, святкі лічыць.
Лічыў, лічыў да не далічыўся,
На святога Міколу да прызабыўся.
Да каго слаці Міколу шукаці?
Юр'я слаці Міколу шукаці.
Толькі Юра й за вароцечкі,
А Мікола й на вароцечкі,
Парасіўшыся, памачыўшыся.
— Дзе ж, Мікола, валачыўся,
Да што ж ты так намачыўся?
Ці па лесе хадзіў, пчолкі садзіў,
Ці па полі хадзіў, жыта радзіў?
— Я па полі хадзіў, жыта радзіў,
Я па лесе хадзіў, пчолкі садзіў,
Да па пяцерка, па дзесяцерка,
Слаўнаму мужу да па сто раёў,
Слаўнаму мужу пану Сцяпану.

## 116

Да на першы дзень
На вялікадня
Усе святкі
Пазбіраліся,
Пазбіраліся
І рахаваліся.
Аднаго святка
Да нямашака.
А якога святка
Да нямашака?—
Святога Міколы.
— Святы Юрай,
Сядлай каня,
Едзь па Міколу.
Толькі Юрай
Да на коніка —
Святы Мікола
У вароцейка.
Вот яны

Паўстрачаліся,
Адзін з адным павіталіся.
— Святы Мікола,
Дзе ж ты бываў,
Што ж ты чуваў?
— Па мяжах хадзіў,
Жытцо радзіў.
Па барах хадзіў,
Пчолкі садзіў.
Урадзі, божа,
Жыта і пшаніцу.
Пабі, божа,
Кукаль і мятліцу.
Урадзі, божа,
Пчалінную матку,
Раістую
І медзяністую.
Вот і пчолкі гудуць,
Валачобныя ідуць.
Ішлі ж яны
Да вулачкаю
Да вузенечкаю,
Да дарожкаю
Зеляненечкаю.
Ішлі ж яны
Да гукаючы,
Слаўнага сяла
Пытаючы,
А ў том сяле
Пана Івана.
— А што ж вы мяне
Да пытаеце,
А ці ж вы мяне
Да не знаеце?
А мой жа дом
Да знакамісценькі.
Падвароцейка —
Рыпіць костачка,
А на маём двара
Стаяць сталбы
Мураваныя,
Вісяць катлы
Выліваныя,

Сядзяць дзядкі
Старэнькія,
Варaць васкі
Жаўценькія,
Сучуць свечы
Трайчастыя,
Зажыгастыя.

### 117

Валачыліся валачоннікі,
Да зялён явар ў дуброве! *
Да прывалакліся к пану, гаспадару.
А ў нашага пана, пана гаспадара
Да сярод двара высока гара.
[Й] а на той гарэ прастол стаіць,
А на том прастоле сам бог сядзіць,
Перачытвае, перапісвае.
Аднаго святка да й не дачытаўся,
Да й не дачытаўся, да й не дапісаўся.
Да якога святка? — Да святога Юр'я.
— Святая Мікола, сядлай коня,
Сядлай коня, едзь па Юр'я.
Мікола й на коня — Юр'я у варота.
— Ой, дзе ж ты бываў, ой, што ж ты чуваў?
Дзе ты валачыўся, дзе ты намачыўся?
— Я па полі хадзіў, людзям жыта радзіў,
А па садзе хадзіў, людзям пчолкі пладзіў.
Я па хлевах хадзіў, людзям худобку пладзіў.
Я па хатах хадзіў, людзям здароўе дзяліў.

### 118

Ды ішлі жа мы дарогаю,
Вясна красна на ўвесь свет! *
Дарогаю шырокаю,
Пыталіся пана Івана.
— Што вы мяне ды не знаеце?
Мая хата на гарэ стаіць,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

А ў той хаце агонь гарыць,
Агонь гарыць, прастол стаіць,
За прастолам сам бог сядзіць,
Святачкі ліча, празнічкі кліча.
Первы празнік — ды вялікадня,
Другі празнік — святы Юрай,
Трэці празнік — святы Мікола.
Свята вялікадня з красным яечкам,
Святы Юрай з ранняй расою.
А што ў лесіку там стукае?
Там Іванька вуллі путае.
Дзе дубочак — там раёчык,
А дзе хвоечка — там троечка,
А дзе ёлачка — там чэцвера.

## 119

Пойдзем, братцы, мы дарогаю,
Вясна красна на ўвесь свет! *
Іграючы, успяваючы,
Слаўнага мужа да пытаючы.
А ў яго на дварэ да стаяць тыны,
Да стаяць тыны, тынаваныя.
А ў яго на дварэ да шацёр распят,
Пад тым шатром сам госпад сядзіць,
Сам госпад сядзіць і пісемца дзяржыць.
Станьма, братцы, і аблічымася,
Ці ўсе вы, братцы, і сабраліся.
Ой, нету, нету святога Міколы.
А каго ж ба, братцы, каго паслаці?
— А ты, Юр'ічка, да й на конічка.
Сядлай каня, паязджай у поле,
Паязджай у поле па святога Міколу.
Толькі Юр'ічка да на конічка,
А святы Мікола да і сам ідзе,
Урасіўшыся, умачыўшыся,
Сюда-туда пахіліўшыся,
Залатым кап'ём апіраўшыся.
— А святы Мікола, дзе ж ты бываў?
Дзе ж ты бываў, што ж ты відаў?

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Я па полі хадзіў, я жыцечка радзіў,
А па хлявах хадзіў, я цяляткі расціў,
Я па хатах хадзіў, я сіротак расціў.

## 120

А у полі у чысценькім,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
Стаіць шацёр бялюсенькі.
Пад тым шатром сам бог з Пятром,
Сам бог з Пятром, усе празнічкі,
Усе празнічкі, усе святачкі.
Сталі ж яны шчытавацiся,
Шчытавацiся, радавацiся.
Каго нету?— Святое Міколы.
— Каму ехаць Міколу шукаці?
— Пятру ехаць Міколу шукаці.
Пётра кажа: «Я каня не маю,
Яшчэ к таму Міколы не знаю».
Юр'ю ехаць Міколу шукаці.
А Юр'я кажа: «Я каня маю і Міколу знаю».
Толькі Юр'я на коніка —
Аж Мікола ў вароцікі.
— Здароў, здароў, святое Мікола,
Дзе Мікола прыбывала?
— Па саду хадзіла, пчолак вадзіла,
Па полі хадзіла, пшонку радзіла,
Па лесе хадзіла, ножкі расіла.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## ДЗІУНЫЯ ПРАЯВЫ У ДВАРЫ, ВЯЛІКІ ПРЫБЫТАК ГАСПАДАРУ І ГАСПАДЫНІ

### 121

А ці дома, дома пане гаспадару?
А няма ж дома, да ў горадзе,
У горадзе суды судзіць,
А суды судзіць, перасуд бярэ,
Перасуд бярэ да да жаны шле.
А яна да яго лісты піша:
— А павернешся да свайго дому,
Агледзь жа ты ў сваём дому,
А ў тваём дому добра дзеецца:
Чатыры кароўкі ацяліліся,
Чатыры кабылкі жарабіліся,
А жана твая абрадзілася.
— Не вярнуся я дадому,
Прышлю табе падаруначак:
А калі сына — каня варанога,
А калі дачку — то катаначку.

### 122

Чы не ластаўка ў акно б'ецца,
Чы не гаспадара пабуджаець:
— Устань, устань, пане гаспадару,
Устань, устань ранюсенька
І умыйся бялюсенька,
А выйдзі, выйдзі у канюшню:
Восем кабыл ажарабілася,
Восем жарабят нарадзілася.
Чы не ластаўка ў акно б'ецца,
Чы не гаспадыньку пабуджаець:
— Устань, устань, пані гаспадынька,
[Устань, устань ранюсенька
І умыйся бялюсенька],

Выйдзі, выйдзі на кароўнічак:
Восем кароў ацялілася,
Восем цялят нарадзілася.

## 123

Дзень добры таму, хто ў гэтым даму!
Вясна красна, зялёна! *
А ў гэтым даму гаспадарочак,
Гаспадарочак — слічны паночак.
Ці спіш, ці ляжыш, ці спачываеш?
А калі ты спіш — бог жа з табою,
А калі не спіш — гукай са мною.
А ўстань раненька, умыйся бяленька,
Умыйся бяленька да й прыбярыся,
Надзень боцікі ўсё й казловыя,
Надзень шубачку да й бабровую,
Надзень шапачку-сібіраначку,
Вазьмі ліхтарок, схадзі у хлявок,
Што ў тваім хляўку добра дзеецца,
Добра дзеецца, багацеецца:
Трыста каровак ацялілася,
А ўсе кароўкі, ўсе драмушачкі,
А ўрадзіліся ўсе цялушачкі.
Сто кабылачак ажарабілася,
Жарабілі яны па жарабочку,
Па жарабочку па вараненькім.
Ах, вы сыночкі, вы сакалочкі,
А вазьміце ж вы а па 'бротачцы,
Забрытайце ж вы па кабылачцы,
А вядзіце ж вы да коні ў поле,
А коні ў поле на юру расу,
На юру расу, на красну вясну,
А вы, дачушкі, да вы, шчабятушкі,
А вазьміце ж вы па даёначцы,
Падаіце ж вы па каровачцы.

А мы госці небывалыя,
Небывалыя, нехаджалыя,
Часта не ходзім, многа не просім,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

А ў гадочак адзін разочак:
Пачынальнічку — хоць сорак яец,
А падхватнічкам — па дзесятачку,
А механошу — жыта калошу,
Кварту гарэлкі, сыр на талерку,
Нашага музыкі горкая доля:
Жонка не любіць да й не галубіць,
Што й пацалуіць — назад адплюіць.

## 124

Дзень добры таму, хто ў гэтым даму!
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
А ў гэтым даму — гаспадынечка,
Гаспадынечка й, журавіначка й,
Ці спіш, ці ляжыш, ці адпачываеш?
А калі ты спіш — бог жа з табою,
А калі не спіш — гукай са мною.
А ўстань раненька, умыйся бяленька,
Умыйся бяленька, ўтрыся й сухенька,
Ўтрыся сухенька, ой, прыбярыся.
Вазьмі ліхтарок, ідзі ў хлявок,
У тваім хляўку добра дзеецца,
Добра дзеецца, багацеецца,
Сорак каровак ацялілася,
А каровачкі ўсе драмушачкі,
А ўрадзіліся ўсе цялушачкі.
Ах, вы дачушкі, вы шчабятушкі,
А вазьміце ж вы па даёначцы,
А падаіце ж па каровачцы.
Ах, вы сыночкі, вы сакалочкі,
А вазьміце ж вы да й па дубчыку,
А й па дубчыку па вярбовенькім,
А й ганіце ж вы кароў у поле.
Кароў у поле, на юру расу,
На юру расу, на красну вясну.
Ці кажы дарыць, ці ў хатку бяры,
А мы ж госцікі небывалыя,
Небывалыя, нехаджалыя,
Часта не ходзім, многа не просім:

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Пачынальнічку — сорак яечак,
А падхватнічку — хоць па дзесятак,
Нашаму механошу — жыта калошу,
Кварту гарэлкі, сыр на талеркі,
Нашаму музыку горкая доля:
Жонка й не любіць і не галубіць,
Хоць пацалуіць — назад адплюіць.

## 125

Гаспадарочак, слышны паночак,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
Ці спіш, ці ляжыш, ці 'дпачываеш?
А калі ты спіш — гасподзь з табою,
Калі так ляжыш — гукай са мною.
Масці кладачку, заві ў хатачку.
Палі свечачку да бяры фанарок,
Бяры фанарок, ідзі у хлявок.
У тваім хляўку да ёсць праявачка,
Ёсць праявачка, праявілася:
Сорак каровак да ацялілася
Тваім дачушкам на пасажачкі.
Гаспадынечка-журавіначка,
Ці спіш, ці ляжыш, ці адпачываеш?
А калі ты спіш — бог із табою,
Калі так ляжыш — гукай са мною.
Палі свечачку, бяры фанарок,
Бяры фанарок, ідзі у хлявок.
А ў тваім хляўку ёсць праявачка,
Ёсць праявачка, праявілася:
Сорак кабылак жарабілася
Тваім сыночкам да на паяздочкі.

## 126

Чалом, чалом, добры вечар,
А зялён явар, кудравы! *
І добры вечар добраму мужу,
Добраму мужу пану Валодзьку.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Ці ты спіш, ці ляжыш, ці адпачываеш?
А калі спіш — бог з табою,
А не спіш — гавары са мною.
Устань жа ты ранюсенька,
Умыйся ты бялюсенька.
Запалі свечку грамнічную,
Ідзі ў хлявочак, паглядзі ў куточак,
Што ў цябе ў куточку за праяванька,
За праяванька праявілася:
Сорак каровак ацялілася.
Радзілі яны па цялушачцы,
Па цялушачцы, па рабушачцы,
Сабе самому на пацешаньку,
Тваім дачушкам на пасажаньку.

## 127

Да на першы дзень на вялікдзень,
Вясна красна на ўвесь свет! *
Валачоўныя сабіраліся,
Сабіраліся, рахаваліся.
Да ішлі ж яны ўсё дарогаю,
Усё дарогаю, ўсё шырокаю.
Да пойдзем жа мы к вялікаму полю,
Да зойдзем жа мы і к пану Карнею.
— Ой, пан Карней, адчыні вакно,
Адчыні вакно, паглядзі ў гумно.
Ой, што ў тваім гумне праявілася:
Дзевяць кароў ацялілася,
А дзесятая на цяленнейку.

## 128

Гаспадарочак, слічны паночак,
Сад зялёны вішнёвы!
Чаго спіш, ляжыш, вылягаешся,
Зялён явар, кудравы!**

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.
** Рэфрэны «Сад зялёны вішнёвы!» і «Зялён явар, кудравы!» паўтараюцца па чарзе праз адзін радок.

З сваёй жоначкай абдымаешся?
Устань раненька, вымыйся бяленька,
Вазьмі ліхтарок, ідзі у хлявок!
У тваім хляве праява стала,
Праява стала, праявілася:
Восем каровак ацяліласл,
Яшчэ столькі пазначылася.
Вазьмі свечачку, ідзі ў клецечку,
Ідзі ў клецечку памаленечку,
Памаленечку па гарэлачку.
Гарэлку на стол, госцікаў за стол.
А мы госцікі нехаджалыя —
Толькі ў гадок адзін разок.

## 129

Гаспадынечка-журавіначка,
Устанься раненька, мыйся беленька,
Мыйся беленька, ўтрыся чысценька.
Запалі свечку найяснейшую,
Разбудзі служку найвярнейшую,
Нех бярэць ліхтарок і йдзець у хлявок.
У вашым хляўку праява стала,
Праява стала, праявілася:
Дзесяць кабылак ажарабілася,
Пяць жаробачак, пяць жарабочкаў.
Тыя жарабочкі на паяздочкі,
А жаробачкі — на прыплодачкі.
Гаспадынечка-журавіначка,
Устанься раненька, мыйся беленька,
Мыйся беленька, ўтрыся суханька,
Запалі свечку найяснейшую,
Разбудзі служку найвярнейшую,
Нех бярэць ліхтарок, ідзець у хлявок.
У вашым хляўку праява стала,
Праява стала, праявілася:
Капа каровак ацялілася,
Трыццаць бычкоў, трыццаць цялушак.
Тыя бычкі на пажытачкі,
А цялушачкі — на прыплодачкі.
Песеньцы канец — дзесяць пар яец.

## 130

На вялікадня й на першы дзень,
Зялёны явар, зялёны! *
Гаспадынечка-журавіначка,
Уставай раненька, мыйся бяленька,
Мыйся бяленька, ўтрыся сухенька,
Бяры фанарок, ідзі у хлявок.
У тваім хляўку праява стала,
Праява стала, праявілася:
Сорак каровак ацялілася,
Сорак цялятак, сорак бычанкоў.
Тыя цяляткі на прыплодачкі,
Тыя бычанкі на пажытачкі.
Гаспадынечка-журавіначка,
Бяры фанарок, ідзі у хлявок.
У тваім хляўку праява стала,
Праява стала, праявілася:
Сорак авечак акацілася,
Сорак ягнятак, сорак баранкоў.
Тыя баранкі на пажытачкі,
Тыя ягняткі на прыплодачкі.
Гаспадынечцы добрае слова,
Добрае слова, падары скора.

## 131

Гаспадынечка-журавіначка,
О сад зялёны вішнёвы! *
Устань раненька, не спі позненька,
Бяры фанарок, ідзі у хлявок.
У тваім хляўку цуда сталася:
Сорак каровак ацялілася,
Сорак цялушак нарадзілася,
Сорак бычэчкаў прылучылася!
Бяры свечачку, ідзі ў клецечку,
Падстаў драбінку, лезь па сланінку.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 132

Валачобныя — людзі добрыя,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
Валачыліся, намачыліся.
А й чый то двор на гарэ стаіць?
А і то ж то двор пана Стахвана.
А ідзі-тка ж ты й а ў канюшаньку:
Дзевяць кабыл жарабілася,
Дзесятая на пачаве.
А ідзі-тка ж ты й а ў кароўнічак:
Дзевяць кароў да цялілася,
Дзесятая на пачаве.
А ідзі ж ка ты й а ў аўчарнічак:
Дзевяць авец акацілася,
Дзесятая на пачаве.
А ідзі ж ка ты й а ў свінарнічак:
Дзевяць свіней парасілася,
Дзесятая на пачаве.

## 133

Гаспадынечка-журавіначка,
Зялёна елка, зялёна! *
Устань раненька, умыйся бяленька,
Умыйся бяленька, утрыся сухенька,
Запалі свячу ўсё яснюсенькую,
Запалі ліхтарэц, схадзі ў хлявец.
Што ў тваім хляўцу за праявачка,
За праявачка праявілася:
Дзевяць каровак ацялілася,
А дзесятая назначылася.
Пацяліліся ўсе дравушачкі,
Параджаліся ўсе цялушачкі,
А на пасагу ўсё дачушачкам.
Дачок аддаваць — свіран вымятаць,
А сыноў жаніць — дык свірны паўніць.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 134

— Гаспадынечка-журавіначка,
Зялён явар, кудравы! *
А што ж ў тваім доме за навіначка?
— Краўцы шылі, шубу падоўжылі,
Я ў той шубе дворык падмятала,
Дворык падмятала, дзетак пабуджала:
«Устаньце, дачушкі, верныя служкі,
А што ж ў нашым доме парабілася:
Бурая кароўка ацялілася.
Дай жа божа млекі густыя,
Млекі густыя, сыры таўстыя».
Песня спета на ўсё лета,
Дайце плату кварту гарэлкі,
Кварту гарэлкі, сыр на талеркі.

## 135

Валачобныя — людзі добрыя,
Вясна красна, дзень цёплы! *
Пане гаспадару, адчыні вакно,
Адчыні вакно, паглядзі ў гумно,
Што там у гумне паявілася:
Сорак кароў ацялілася,
А шчэ столькі назначылася.
Пане гаспадару, адчыні другое,
Адчыні другое, паглядзі у поле,
Што ў цябе ў полі рана гаварыла:
Рана гаварыла ядраное жыта,
Ядраное жыта ў полі снапамі,
Ў полі снапамі, у таку тарпамі.

## 136

Гаспадынька,
[Зялён явар, кудравы!] *
Маладая,
Уставай рана,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Мыйся бела,
Бяры ключы
А залатыя,
Ідзі да хлява,
Запры дзверы.
Ў тваім хляве
Праявачка
Явілася:
Сорак кароў
Цялілася.
Гаспадынька
Маладая,
Ўставай рана,
Мыйся бела,
Бяры ключы
А залатыя,
Ідзі да хлява,
Запры дзверы.
Ў тваім хляве
Праявачка
Явілася:
Сорак свінак
Парасілася.
Гаспадынька
Маладая,
Ўставай рана,
Мыйся бела,
Бяры ключы
А залатыя,
Ідзі да хлява,
Запры дзверы.
Ў тваім хляве
Праявачка
Явілася:
Сорак авечак
Акацілася.
Гаспадынька
Маладая,
Ўставай рана,
Мыйся бела,
Бяры ключы

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

А залатыя,
Ідзі да хлява,
Запры дзверы.
Ў тваім хляве
Праявачка явілася:
Сотня курак
Апладзілася.

## 137

А ў сенечках галубок гудзець,
У свяцёлачку галасок нясець:
«Чаму нашы сені не мецены,
Чаму наша пані не весела?»
У нашае пані краўцы былі,
Краўцы былі маладзенькія,
Шылі шубачкі даражэнькія,
Шылі яны да падоўжылі,
Нашай пані не ўнаровілі.
Наша пані па двару ходзіць,
Па двару ходзіць, след замятаець,
След замятаець, слуг пабуджаець:
«Уставайце, слугі, абувайцеся,
Ідзіце на Дунай, умывайцеся,
Шаўковай хустай уцірайцеся,
А ідзіце ж вы, паглядзіце ж вы,
Ва канюшнічку божая ява,
Божая ява праявілася:
Сорак кабылак ажарабілася,
Яшчэ столькі назначылася».
Патом таго, слаўная пані,
Слаўная пані, [пані Люба],
Да ўжо ж вам песня спета,
Песня спета проціў лета,
Проціў лета, лета краснага,
Ў добрай ласцы, ў добрай згодзе,
У добрай згодзе, нам пець годзе.

## 138

Цераз поле шырокае,
Да віном, віном зялёным! *
Цераз мора глыбокае
Ляжыць кладка шырокая.
Ішлі тудой валачэўнічкі,
Іграючы, спяваючы,
Слаўнага двара пытаючы,
Слаўнага двара, слаўнай гаспадынькі.
Да гаспадынькі госці прыйшлі.
Першыя госці — краўцы былі,
Другія госці — валачэўнічкі.
Краўцы былі, шубу шылі,
Шубу шылі гаспадыні.
Гаспадынька пахаджае,
Сваіх дзетак пабуджае:
«Устаньце, дзеткі, прачніцеся,
Па дворыку прахадзіцеся.
У нас сягоння дзіва дзівілася:
Восем каровак ацялілася,
А яшчэ восем назначылася».
Дай жа божа, пані гаспадынька,
За год прыждаці і паняй назваці.

## 139

Чый то домік на прыгорачку?
Да віно ж, віно зялёнае! *
Залаты тыночак, зыбкія варотцы.
Каля тыну пчолкі гудзяць,
Каля застрэшку галубкі шумяць,
А ў каморы краўцы сядзяць,
Краўцы сядзяць, шубу шыюць,
Шубу шыюць самой пані,
Самой пані, пані гаспадыні.
Сукна многа, шуба доўга,
Наша гаспадынька расхадзілася,
Па бруку ходзіць, брук падмятае,
Сваіх дзетак рана пабуджае:

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

«Устаньце, дзеткі, ранюсенька,
Умыйцеся бялюсенька,
Пойдзем жа мы ў новую абору,
У новай аборы яў з'явілася:
Сорак кароў ацялілася,
А й шчэ стольќі назначылася».
Як па небе зорачка пакацілася,
Наша гаспадынька расхадзілася.
Шубу на 'пашак і ў кішэню пляшак,
Сыру на талерку закусіць гарэлку,
Скавародку ў печ, па яечкі ў клець.
Вот табе, гаспадынька,
Песня спета процi лета,
Велікодная — то угодная,
Вельканоцная — то памоцная.
Жыві, гаспадынька, у раскошы
І мей катух грошай,
Хлеба й солі,
Каб бяды не было ніколі.

## 140

Вечар добры, пані гаспадыня!
Віном, віном зялёным! *
У нашай пані краўцы шылі,
Краўцы-немцы із Крулеўца.
Пані шубу шылі, падоўжылі,
Пані па покоях пахаджае,
Свае служкі пабуджае:
«Ўстаньце служкі, ўстаньце сакалочкі,
У нас навіна случылася:
Дзевяць кароў ацялілася,
Дзесята цяліца маніцца цяліцца».
Гаспадыня-вутка, шавяліся хутка,
Прыстаўляй драбіну да лезь па саланіну,
Мала, многа — з абалону,
Будзем пячы, як варону!
Проша, пані гаспадыня,
Не таміць гасцей, абдарыць бардзей!
Песня спета процi лета,
Процi лета, процi цёплага.

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 141

Чэраз поле шырокае,
А віно ж, віно зялёнае! *
Чэраз мора глыбокае
Ішлі, гулі валачэўнікі,
Співаючы, іграючы,
Слаўнага сяла пытаючы.
— Добры вечар, гаспадынечка!
— На здароўе, валачэўнічкі!
У нас сягоння краўцы былі,
Краўцы былі, шубу шылі,
Шубу шылі, падоўжылі...
— Гаспадынька-кветка,
Спраўляйся метка:
Шубу — на апашку,
У кішэні — пляшку,
Скавародку — ў печ,
Па смятанку — ў клець.
Яечкі ў гаршчочку
Стаяць у куточку,
Кілбаскі у свірне
Вісяць на пруточку,
Толькі сцеражыся
Хаця не зваліся .

## 142

У нас сягоння краўцы былі,
Зялёнае жыта ў дуброве! *
Гаспадыні шубу шылі.
Пашла ж яна падмятаючы,
Сваіх дзетак абуджаючы:
«Ўстаньце, дзеткі, умыйцеся,
Умыйцеся, ўчашыцеся.
У нас сягання праяў стала,
Праяў стала, праявілася:
Сорак каровак ацялілася,
Дваццаць цялушак, дваццаць бычэчкаў.
Цялушачкі на прыбытачак,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

[А] бычэчкі на пажытачак».
— Гаспадынька, як малінка,
Запалі ты свечку найяснейшую,
Пабудзі служку найвярнейшую.
У нас сягання праяў стала,
Праяў стала, праявілася:
Сорак авечак акацілася,
Дванцаць баранаў, дванцаць авечак.
Баранчыкі на пажытачак,
Авечачкі на прыбытачак.
Гаспадынька, як малінка,
Даруй гасцей, не баў, бардзей.
Чырвен злоты нам на боты,
Саракоўку на падкоўку,
Пару злотых на падноскі,
Паўрубельчык на халявы.
Паднясі гарэлкі і сыр на талеркі,
Капу яек на паўміску,
Не лічачы, не мыслячы.
Тыя яйкі мы палічым,
Гаспадыньку павялічым.

## 143

Ў гаспадыні краўцы былі,
Чырвона рожа, сад зялёны вішнёвы! *
Краўцы былі, шубу шылі,
Шубу шылі, ўкарацілі,
Сінім шолкам надтачылі.
Гаспадыня па двару ходзіць,
Па двару ходзіць, двор падмятаіць,
Сваіх дочак пабуджаіць:
«Устаньце, дачушкі, верныя служкі».

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## СЛАЎНАЯ ПАНІ ГАСПАДЫНЯ

### 144

Да чыя жана была гаспадыня,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
Да на ціхі Дунай па ваду хадзіла?
Да брала яна вёдры да ўсё новыя,
Да пачопачкі атласовыя,
Да каромысел — яваравы корань.
Да прыходзіць к ціхаму Дунаю,
Да што раз махне — серабра займе,
Другі раз махне — да то золата.
Да й прыходзіць к свайму дому
Да й хваліцца свайму мужу:
«Вот цяпер будзем да мы пахаджаці,
Да мы пахаджаці, да на мшы даваці».
Будзь здаровая, як у моры вада,
Будзь багатая, як сырая зямля.
Да ў моры вада да халодная,
Слаўная жана да надобная.
Хоць яна ростам невялічкая,
Калі ж яна роду да харошага,
Калі ж яна бацькі да багатага,
Калі ж яна маткі да разумнае.
Калі любіш гасцей, дык заві ў хату,
Дык заві ў хату ды садзі за стол,
Пасадзі за стол і пірог на стол,
І пірог на стол і кусок сала,
І кусок сала і кварту гарэлкі,
І кварту гарэлкі і сыр на талеркі.
Сыр на талеркі закусіць гарэлку.
Да кусок сала — то для голасу,
А пірог жытны — то для коласу.
Да за гэту ж песню заплаціць трэба,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Да капы ж яек да нельга ўзяці,
Да тры-чатыры сорам даці,
А дзесятачак трэба пашукаці.

## 145

Па вуліцы па шырокай,
Па мураве па зялёнай
Ішлі, брылі валачобнікі.
Валачобнікі — людзі добрыя,
Шаталіся, валяліся,
Таго двара пыталіся.
А дзе ж той двор,
Што жалезны забор,
Медзяныя вароты,
А шулле точанае,
Шулле точанае, пазалочанае?
На тым двара тры кладачкі,
Тры кладачкі, тры калодзежы.
А у першым — чыста золата,
А у другім — чыста серабро,
А у трэцім — салодкі мёд.
Выходзіла хазяюшка,
Вынасіла вядзёрушкі,
Вядзёрушкі цісовыя,
Пачопачкі шаўковыя,
Каромысел кіпарысны.
Размахнула, пачарпнула,
Панясла яна у святліцу,
Паставіла на скаміцу,
Сама пашла мужа будзіць:
«Уставай, мужа, не спі дужа,
Даў жа нам бог дабра многа,
Што мы будзем з дабром дзелаць?»

## 146

Ды ляцела пава цераз паплавы,
Вясна красна на ўвесь свет! *
Села пава ды на купіне,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Вывіла пава ды гняздзечачка.
Знесла ж пава тры яечачкі,
Вывела ж пава тры дачушачкі,
Тры дачушачкі, тры Настусечкі.
Первую аддала ды за чорна арла,
А другую аддала ды за сокала,
А трэцюю аддала ды за каршуна.
Пайшла ж і пава к первай дачушцы.
— Дзень добры, дачушка, дзень добры, Настуська.
— Дзень добры, мамачка, дзень добры, павачка.
— І скажы, дачушка, як жывецца.
— Без піва не лягу, без мёду не ўстану.
Пайшла ж і пава к другой дачушцы.
— Дзень добры, дачушка, дзень добры, Настуська.
— Дзень добры, мамачка, дзень добры, павачка.
— І скажы, дачушка, як жывецца.
— Без мёду не лягу, без віна не ўстану.
Пайшла ж і пава к трэцяй дачушцы.
— Дзень добры, дачушка, дзень добры Настуська.
— Дзень добры, мамачка, дзень добры, павачка.
— І скажы, дачушка, як жывецца.
— Без кія не лягу, без палкі не ўстану.
Каршун вочы павыдзіраў, каршун рукі павыламаў.

## 147

Стаяла верба вілаватая,
Слаўная пані чараватая,
Слаўная пані, [пані] Дар'я.
Зачэрылась на трох сыноў,
На трох сыноў, як сакалоў.
Першы сынок — той пашнічок,
А другі сынок — той канюшок,
Трэці й сынок — малады земчык.
Пашнічок бога просіць:
— Зарадзі ж, божа, маё жыта,
Да маё жыта ў чыстым полі.
Канюшок бога просіць:
— Пасі ж, божа, маіх коні,
Маіх коні ў чыстым полі,
Ў чыстым полі, у юр'евых росах,
Ў юр'евых росах, у мікольскіх травах.

Земчык ў садзе бога просіць:
— А раі ж, божа, мае пчолкі,
Да мае пчолкі ў вішнёвым садзе.
Патом таго, слаўная пані,
Слаўная пані, [пані] Дар'я,
Да ужо ж вам песня спета,
Песня спета проціў лета,
Проціў лета, лета краснага,
У добрай ласцы, ў добрай згодзе,
У добрай згодзе, нам пець годзе.

## 148

Да звіла пава гняздзечка,
Да павіна душа ў рай пайшла.*
Да знесла пава яечка,
Да знесла пава другое,
Да знесла пава трэцяе,
Да вывела пава тры сыны.
Адзін сынок — пахарык,
А другі сынок — бортнічак,
А трэці сынок — пастушок.
Пахарык у полі бец да бец,
Бортнічак у лесе стук да стук,
Пастушок у лесе ну да ну.

## 149

Пад клеткаю, пад паветкаю,
А зялёны явар, кудравы! *
Там ластаўка звіла гняздзечка,
Звіла гнядзечка, знесла яечка.
Што з тых яечкаў будзе два сыночкі.
Першы сыночак будзе бортнічак,
Прынясе мёду ды к вялікадню,
Ды к вялікадню, ды к святому дню.
Другі сыночак будзе рыбалоўнік,
Ды наловіць рыбкі ды к вялікадню,
Ды к святому дню, ды к вялікадню.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 150

Ды лятала пава ды на поплаве пала,
Вясна красна, зялёна! *
А яна лятала, пер'ейка збірала,
Звіла гнядзечка і знесла яечка,
Знесла яечка, знесла і другое,
Знесла другое да і знесла трэцяе.
Да вывела пава сабе тры сыночкі.
Першы й сыночак — да й пахарнічак,
А другі сынок — да й рыбалоўнічак,
А трэці сынок — да й водчычак.
Вот яны кажуць: «Сабярэмцеся,
Сабярэмцеся, парахуймася».
Рыбалоўнік кажа: «Наварэмце рыбы
К святому сьвяту благавешчанню».
А водчычак кажа: «Насыцім сыты,
Насыцім сыты к тайнай вячэры».
Пахарнічак кажа: «Пірагоў напячэм
К святому святу вялікадню».

## 151

Лятала пава па сенажаці,
То ж была пава-харашуха! *
Збірала пава траякае зелле,
Звіла пава да тры гняздзечкі,
Знесла пава да й тры яечкі,
Выседзела пава да й тры сакалочкі.
Першы сакалочак — малады Іванка,
Другі сакалочак — малады Васілька,
Трэці сакалочак — малады Сымонка.
Ажаніўся Йванка з маладой Галечкай,
Ажаніўся Васілька з Янечкай,
Ажаніўся Сымонка з маладой Волечкай.

## 152

Да ляцела пава да цераз паплавы,
Да зялёны явар, зялёны! *

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Да ўраніла пава тры перынкі,
Да звіла пава да сабе гняздзечка,
Да й знесла пава тры яечкі,
Да вывела пава тры паўлёначкі.
Дала ім пава няроўную долю:
Да аднаму дала сільнае багацтва,
А другому дала вяліка калецтва,
А трэцяга ўзяла ў моры ўтапіла.

153

Ой, лятуць, лятуць два галубочкі,
Сад зялёны вішнёвы! *
Ой, нясуць, нясуць два жалудочкі.
Адзін галубок кінуў жалудок,
Ды кінуў ён пасярод двара,
Пасярод двара маладога Пятра.
Вырас дубок тонак, высок.
З-пад таго дубка узышла зорка,
З-пад той зорачкі ўзышлі звёздачкі.
Ёсць той дубок — Іванка-сынок,
Ёсць тая зорачка — яго жоначка,
Ясныя звёзды — яго дзетачкі.

154

Наша гаспадыня, дабрадзейка наша,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
Проша слухаць песні, кеды ласка ваша.
Слічны ў пані дзеткі, як у полі кветкі.
Што ў пані ў гародзе, то ўшыстка зародзе,
Цыбуля, буракі, пятрушка і макі,
Агуркі, гарбузы, як у вядро дужы,
Лён зародзе доўгі, доўгі, галаўчысты,
Будзе кулямі густа пастаўляны.
Слічны ў пані кроўкі, як цэбры мядоўкі,
Будзеш масла біці, сырыкі рабіці,
Будзе на праданне і для сябе стане.
Слічны ў пані дзеткі, як у садзе кветкі,
Яны ўсе дастойны, хоць не багамольны.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

*Віншаванне:*
Была зіма, цяпер вясна,
Дай божа, каб у пані цурэчка расла,
Прэнтка замуж пашла.
А мы ўсе здаровы былі,
На вяселле каб прыбылі,
Віншавалі, злотам даравалі,
Вянок з рукі каб падалі,
Маладой паняй назвалі.

## 155

Ляцела сава ды, ой, кала сяла,
Зялёны сад вішнёвы! *
Гэта сава Зіначку ўзяла.
Валодзька бяжыць ды на саву крычыць:
— Гэта сава ды ўсё пералётніца,
Мая Зіначка ды ўсё й работніца.

## 156

Ляцела пчолка чэраз наша сёлка,
[Вясна коасна на ўвесь свет!] *
Ухапіла пчолка Якімаву жонку.
Бяжыць Якім, полы падкасаўшы,
[Полы падкасаўшы] і шапачку зняўшы.
— Пастой, пчолка, аддай жонку!
Мая жонка недакушная,
Раненька ўстаецъ і тоненька прадзець,
Часценька тчэць і бяленька беліць,
І бяленька беліць, хораша ходзіць,
Хораша ходзіць, хазяйства водзіць.

## 157

Ой, ляцела сойка ды на пераплоты.
Зялён явар, дуброва! *
Ой, ухапіла суседзькаву жонку.

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

А суседзька за ёй з качаргою:
— Ах ты, сойка-свавольніца,
Мая жонка — работніца,
Яна ткала, звонка прала,
Бела бяліла, у золаце хадзіла.

## 158

А ляцела сойка цераз чыста поле,
Вясна красна, дзень цёплы! *
Ды яна схапіла Іванаву жонку.
А бяжыць жа [Іванька], шапку зняўшы,
Шапку зняўшы, галаву задраўшы.
— Сойка, сойка, аддай маю жонку,
Мая жонка — тонкая пралля,
Тонкая пралля, звонкая ткалля,
Тонка прала, беленька бяліла,
Кашулечкі шыла і мяне любіла.

## 159

Да ляцела сойка цераз нова сёлка,
Вясна красна на ўвесь свет! *
Да яна схапіла Іванаву жонку.
Да Іванька бяжыць, галоўку задраўшы.
— Сойка, сойка, сойка, аддай маю жонку,
Мая жонка рана, рана уставала,
Рана уставала, тонка, тонка прала.

## 160

Да кацілася да кацёлачка,
Вясна красна на ўвесь свет! *
Да кацілася да й па мосце,
Да пытала слаўнага сяла,
Слаўнага сяла, дзіўнага двара.
Да й у тым дварэ да жыве пані,
Да жыве пані, да пані Хвядора,
Да ў пані Хвядоры сталы засланыя,
Сталы засланыя, госці зазваныя,
Госці зазваныя, кубкі налітыя.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 161

Ой, шлі, брылі валачобнікі,
Зялёны сад вішнёвы! *
Ішлі ж яны, валачыліся,
Валачыліся, памачыліся.
А йшлі ж яны па цёмнай начы,
Па цёмнай начы, па гразкай гразі.
Ішлі ж яны, шаталіся,
Вялікага сяла пыталіся,
Вялікага сяла, багатага пана.
— Багаты пан, пан Ляксейка,
Масці кладку, заві ў хатку.
Чарку гарэлкі, сыр на талерку,
А з тупым нажом да па сала йдзі,
А не атрэжаш — увесь нясі,
Кальцо кілбас, пайдзём ад вас,
Па дзесятку яец, нашай песні канец.

*Як нічога не даюць:*
Не хочаце надзяляць,
Хадзі з намі жабраваць,
Не дасі кока — вырві сабе вока,
Не дасі яец — аблупі авец,
Пажыві болей — аблупі коней.

*Як падараць:*
А бывай здароў, мей сто кароў,
А жыві болей, мей сто коней,
Хадзі каля рэчак, мей сто авечак,
Хадзі каля лядак, мей сто цялятак,
Хадзі каля нівак, мей сто свінак.
А мы госцікі недакучныя,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Недакучныя да нячастыя,
А ў гадочак раз-разочак,
На вялікі дзень, на вялікдзень.

### 162

Добры вечар, пане арандару!
Да віно ж, віно зеляно! *
Да ці ўдома пан арандар?
Ўдома не ўдома, не адзываецца —
На залатом крэслі абуваецца.
Яго боты казловыя,
Яго майткі шаўковыя,
Яго халат атласовы.
У нашага арандара залатая камора,
У той каморы тры аконцы.
На адном аконцы харошыя кветкі,
Ў другом аконцы ясны месяц,
Ў трэйце аконца свеціць ясна сонца.
Чырвень злоты нам на боты,
Чтэры саракоўкі на срэбны падкоўкі,
Сорак яек да на палуміску,
Белым сыркам завяршыці,
Проша даці да не жалаваці,
Каб было за цо падзенкаваці.
А мы пойдзем да гукаючы,
Пана арандара звелічаючы.
Ясны месяц — пан арандар,
Яснае сонца — жонка яго,
Харошыя кветкі — то яго дзеткі.
А цяпер пану песня спета.
Песня спета проціў лета,
Проці лета, проці Юр'я
Пану арандару на здароўе.
А цяпер, паня, проша надарыці.
— Дзянькуе пану! Дай божа,
Каб пан за рок дачакаў,
Каб здароў дзеткі гадаваў.
— Дзянькуе за добра слова вам!
Каб вы здаровыя спажылі
І зноў за рок хадзілі.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 163

Гаспадару, слаўны пане,
Вясна красна на дварэ! *
Ці спіш, ці ляжыш, спачываеш
Із жаною маладою,
Із дзеткамі маленькімі?
Калі ж ты спіш — бог з табою,
А не спіш — моў са мною.
Масці кладку, прасі ў хатку,
Маім хлопцам — хоць дзесятку,
Музыканту — пальчатачкі,
Каб любілі дзяўчатачкі.
Досіць маніць, пара дарыць.

## 164

Валачобныя — людзі добрыя,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
Валачобнікі валачыліся,
[Валачыліся], памачыліся.
Каждаму пяўцу — хоць па яйцу,
Начальнічку дай парачку.
Скамарохава горкая доля:
Чарку гарэлкі, пірог на тарэлкі.
Нашаму механошу — пірог за калошу,
А нашаму скамароху — рэшата гароху.

## 165

Да ты, гаспадару, знай сваё дзела,
Вясна красна на ўвесь свет! *
Да бяры барэлкі, ідзі па гарэлку.
Да ты, гаспадынька, знай сваё дзела:
Скавародку — ў печ, па яечкі — ў клець.
Да цяпер жа табе, пане гаспадару,
Песня спета праціў лета,
Да праціў лета ўрадлівага,
Да праціў году шчаслівага.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Ой, як многа да на небе зорак.
Зарадзі ж, божа, да на ніве копак.
Ад поля да мяжы — хоць серп залажы.
Ад снапочка — то жыта бочка,
Ад другога — то ніланога.

## 166

Няхай будзе пахвалёны
Зялён явар малады! *
Гаспадару, падыміся,
Падыміся, прыбярыся
Ды паглядзі ў акенечка:
У тваім двары явар стаіць.
Гаспадынька-журавінка,
Масці кладку, прасі ў хатку,
Калі ласка — віна пляшка,
Калі змога — хоць пірога,
Чырвоны злоты — ды на боты,
Дзве саракоўкі — на падкоўкі,
Бо мы боты патапталі,
Вашай паненцы жаніха шукалі!

## 167

А хадзяечка, ты не сердзіся,
Вясна красна на ўвесь свет! *
Скавародку ў печ, па яечка ў клець,
Сыр на тарэлку, ў клець па гарэлку.
Прынясі ж ты нам кілбасы з шастом,
Кілбасы з шастом да свінню з хвастом.

## 168

А й Ніначка,
[Зялёны сад вішнёвы!] *
Ці спіш, ляжыш?
[Як спіш, ляжыш],
Як адпачываеш,
Як тваё здароўе?

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Паздраўляем
З святой паскай.
Да чым можаш
Дары ж ты нас.
Чарка гарэлкі,
Пара яечак —
І нам хваціць.
Ідзём далей.

## 169

Ці ўдома пані гаспадыня?
Віно да віно, віно зялёнае! *
Гаспадыня прутка, сабірайся хутка,
Кажушок на 'пашку, на стол пляшку.
Кілбасы ў куточку вісяць на пруточку,
Падстаўляй драбінку, лезь па сланінку,
Карэц яец нялічаных,
Мы гэтыя яйкі самі пералічым,
Гаспадыньку падвялічым.

*Прыгаворка:*
Дай жа божа пані гаспадыні
Жыці, быці і дзетак пажаніці
І не забыці нас пазваці.

## 170

Валачобнікі валачыліся,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
Прышлі ў вёсачку, памачыліся.
Зайшлі ў хатачку, пасушыліся.
Нашы дары невялікія:
Хоць каня-варанца, хоць быка-палаўца.
Механошу — рэшата жыта,
Няхай нясець парываецца,
Хай над ім жа людзі насміхаюцца.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 171

Чуваць, зверы равуць,
Нас у хату пазавуць.
Вясна красна на ўвесь свет! *
Сыр на талерку
Закусіць гарэлку,
Сем пар кілбас —
Дык і хваціць для нас.
Парася з хвастом
Валачы на стол.
Па шклянцы піва
Для свайго дзіва.
Па шклянцы рому
Для свайго дому.
Чуваць, хату мятуць,
Нас у хату пазавуць.

## 172

Валачобныя — людзі добрыя,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
Дзень добры таму, хто ў гэтым даму!
Не мары сына, дары сыра,
Масці кладку, заві ў хатку,
Кварту гарэлкі, сыр на талеркі,
А мы госці недакучныя,
Мы ў гадочку адну ночку,
Нашы дары невялікія:
Пачынальнічку — паўкапы яец,
Памагальнічкам — па дзесятачку,
А музыку-небараку —
Чырвоны злоты на табаку.
Механошава горкая доля,
Механошу — жыта сіта.
Хай ён нясець, нарываецца,
У зямлю носам наківаецца.
Не дасі яец — палупі авец,
Не дасі солі — палупі коні,
Не дасі сыроў — палупі кароў.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

16. Зак. 1108

## 173

Гаспадынечка-журавіначка!
Дзень добры табе, гаспадынечка!
Не кажы таміць, кажы дарыць,
Не дасі яец — палупіш авец,
Не дасі болі — палупіш коні.
Бывай здароў, лупі ты кароў.
Цяляткі гладкі, хвасты, як бічы,
Хвасты, як бічы, за хвост валачы.
Не дасі кока — вылезіць вока,
Не дасі другое — вылезіць і тое,
Ляжы ў пасцелі аж да нядзелі.

## 174

Валачобнікі — людзі добрыя,
Вясна красна на ўвесь свет! *
Валачыліся, намачыліся,
Зайшлі к Сымону, пасушыліся.
А хадзяічка сваё дзела знаіць:
Скавародку ў печ ды па яйкі ў клець.
І возьміць нож крывілу рэзаць.
А капу яец дзе ж іх узяці?
А дзесятачак можна даці.
А дай яечак на плод авечак,
І дайце саланіны на плод свініны.
А не дасце яйца — здохніць аўца,
Паедзеш на поле — саху паламаеш,
Прыедзеш з поля — жонку пахаваеш.

## 175

Да дзянькую пану за яго сталы,
За яго сталы за цясовыя,
За яго абрусы сурватовыя,
За яго тарэлкі фарфуровыя,
За яго пячонкі за сыцюсенькія,
Да за яго сыры да бялюсенькія,
За яго калбаскі ды крываменькія,
За яго бутылкі да віновыя,
За яго стаканы маліновыя.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 176

Гаспадарочак, мой сакалочак,
Вясна красна на ўвесь свет! *
А бяры лубку хоць чорную,
А насып яе хоць поўную.
Няхай механош падарвецца —
Гаспадарочак насмяецца.
Дай табе божа, гаспадарочак,
І ў каморы, і ў аборы.
А дзе гара — там жыта капа,
А дзе лагчынка — там жыта сцірта,
А дзе лог — там сена стог.
Дай табе божа, гаспадарочак,
Піва варыці, сына жаніці,
Гарэлачку гнаці, дачку аддаваці.

## 177

Валачобнікі валачыліся,
Ды зялёны сад вішнёвы! *
Валачыліся, памачыліся,
Зайшлі ў хату, пасушыліся.
А ці дома, дома сам хазяін?
А калі дома, пакажыся.
Ды з хазяінам павіталіся,
Ды хазяюшку павесялілі,
Дабра шчасця ім нажываць.
А дарыце ж нас, не марыце ж нас,
Хоць па яечку ды па цэламу,
Хоць ды па стаканчыку ды па поўнаму.
А музычанькі горка долечка:
Чарка гарэлкі, сыр на тарэлкі.
Механошава горкая доля,
Хай нясець ён парываецца,
Тоўстым кіем папіхаецца.
А бывай здароў ды гадуй кароў,
Каб на тваім полі зарадзіла
Жыта, пшаніца, чычаніца
І ў дадатак усякае збожжа,
Каб хазяіну жыць было можна.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Каб з хазяечкай весяліліся,
Між сабою не сварыліся,
На сваіх дзетак любаваліся,
Валачобнікаў дажыдаліся.

## 178

Пане гаспадару!
Свята дачакаўшы,
А віно ж, віно зялёнае! *
Пана павіншуем,
Далей павандруем.
Каб сыноў пан гадаваў
І двары будаваў.
Дачок замуж каб аддаў,
Пасаг ім прыгатаваў.
Каб у пана ніва
Была ўся ўрадліва:
Гарох, чачавіца,
Ячмень і пшаніца,
Авёс, жыта, грэчка —
З кожнай капы бочка.
Падцёлкі скакалі,
Пана пацяшалі.
Хай конь пасля працы
І той добра скача.
Сыр, масла да тога
І то свянцанога,
Па кілішку водкі,
Для нашай паводкі.
Пана павіншуем,
Далей павандруем.

## 179

Дай бог вам жыць у раскошы,
Мець торбу грошай,
Бяды не знаць ніколі
І смерці недаволі,
Каб багатыя былі
І сто год жылі.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага двухрадкоўя.

## ТРЫ «НАДАБКІ» ДЛЯ ПАНЕНКІ

### 180

У гародчыку на трасоччыку,
Ды віно ж, віно зялёнае! *
Не мак, рожа расцвітала —
Красна паненка пахаджала.
Яна тую рожу сашчыпала,
Сашчыпала, у фартушок склала.
Панесла яна ды да злотнічкаў,
Да злотнічкаў, трох работнічкаў.
— Вы злотнічкі, тры работнічкі,
Скуйце мне тры надоб'ечкі:
Першае надоб'е — залаты кубак,
Другое надоб'е — срэбны персцень,
Трэцяе надоб'е — руцвян венчык.
Руцвян венчык — вянчаціся,
Срэбны персцень — мяняціся,
Златы кубак — мёд, віно піці,
Мёд, віно піці, нас надарыці.
Не тамі гасцей, надары бардзей.
Нашы дары невялікія:
Дзвярыма не ходзяць, акном лезуць.
Пляшку гарэлкі, сырок на талерцы,
Кілбасою акружыці, яечкамі завяршыці.

### 181

Сіва, раба да й зязюленька,
Ой, віно ж, віно зеляно! *
Усе лясочкі пааблётала,
У адным лясочку да не бывала.
А ў тым лясочку стаіць кузенька,
А ў той кузеньцы тры кавальчыкі.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Выйшла, выбегла красна дзеўчына:
— Вы кавальчыкі, тры брацейкі,
Выкуйце мне тры радасці:
Перша радасць — залаты персцень,
Друга радасць — залаты вянец,
Трэцяя радасць — залаты кубак.
— Дзяўчыначка, наша панначка,
Дорым табе мы тры радасці:
Залаты персцень — з мілым мяняцца,
Залаты вянец — з мужам вянчацца,
Залаты кубак — мёд, віно піці,
Мёд, віно піці, свёкра дарыці.

Просім, паненкі, не згардзіцца,
Айцу й матцы пакланіцца,
Каб яны намі не згардзілі,
Харашэнька заплацілі:
Сорак яек на талерачку,
А каўбаскаю акружыці,
Пшонным піражком налажыці,
Белым сырцам завяршыці.

## 182

Сіва, раба і зязюленька, віно,
А віно ж, віно зеляно! *
Усе садочкі пааблетвала, віно,
У адным садзіку да й не бывала, віно.
А ў тым садзіку стаіць кузенька, віно,
А ў той кузеньцы тры кавальчыкі, віно.
— Тры кавальчыкі, родны брацейкі, віно,
Скуйце мне да тры радасці, віно,
Першая радасць — залаты вянок, віно,
Другая радасць — срэбраны персцень, віно,
Трэцяя радасць — залаты кубак, віно.
Залатым вянком вянчаціся, віно,
Срэбраным пярсцёнкам абручаціся, віно,
Залатым кубкам запіваціся, віно.

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 183

Да ў гародзе, да на пераходзе,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
Стаіць вярба карчыстая
Да на ёй раса залацістая.
Наляцелі птушкі, усё шчыкітушкі,
Хочуць тую росу да абабраці.
Вышла, выбегла красна паненка,
Красна паненка слічна Зоська,
Шоўкаў хвартух да разаслала
Да тую росу да абабрала.
Перадам я росу злотнічку.
— Да злотнічку, да пераборнічку,
Зрабі мне ты тры надобніны:
Перша надобніна — залаты кубак,
Друга надобніна — залаты персцень,
Трэця надобніна — руцвяны вянок.
Я ў кубачку запівацца буду,
У пярсцёначку красавацъ буду,
А ў вяночку шлюбавацъ буду.

## 184

У чыстым полі ды на кургане
Там стаяла бела бяроза,
А на той бярозе віселі росы.
Адкуль узяліся чорныя галкі,
Яны тую расу абабілі,
Абабілі і абкалацілі.
Адкуль узялася красавіца Ганька,
Яна тую расу пазбірала,
Пазбірала, ў рукавец паклала,
З рукаўца брала, вяночкі вязала,
Звязаўшы вяночак, пашла у таночак,
З танка вышла, замуж пашла
За злотнічка-залатарнічка.
— Да скуйце ж мне тры пярсцёначкі,
У адным персні заручаціся,
У другім персні вянчаціся,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

А ў трэцім персні — жыці-быці,
Жыці-быці, ўсё й добрае меці.
З гэтым словам бывайце здаровы!

## 185

Стаіць вярба сярод двара,
Лалым-лалым-лалым! *
На той вярбе залатая раса.
Прыляцелі марскія птушкі,
Залату расу абцерушылі.
Вышла, выбегла красна дзяўчына,
Шаўкову хустку разаслала,
Залатую расу падабрала
І панясла да злотнікаў.
— Вы злотнічкі-надобнічкі,
Вы выліце тры надабкі:
Перва надабка — златы персцень,
Друга надабка — парловы вянок,
Трэця надабка — шаўковы каберац.
Златы персцень — на ўпадабанне,
Парловы вянок — на заручэнне,
А шаўковы каберац на шлюбаванне.

*Рэчытатывам:*
Прашу, паненка, нас адараваць,
Паўкапы яец для нас афарбаваць,
Сыр на талерку, кварту гарэлкі.
Не хочаш даваць, ідзі з намі свет вандраваць.

## 186

Ды стаяла вярба пасярод сяла,
Ды віно, віно зеляно! *
Карчыстая, шамрацістая,
На ёй раса залацістая.
Наляцелі птушкі, птушкі-сакалушкі,
Крыллямі змахнулі, расу атрахнулі.
Выйшла, выбегла красная паненка,
Красная паненка на імя Аленка,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Разаслала ды хусцінаčку,
Падабрала ды расіначку
Ды панесла да злотнічка.
— Мой злотнічку, мой надобнічку,
Ды парадзь мне тры надобачкі:
Першы надобак — ды залаты кубак,
Другі надобак — ды залаты персцень,
Трэці надобак — ды звянчальнічак.
Просім мы цябе да нас выйсці,
Нам за песню заплаціці:
Сорак яек ды на паўмісак,
Каўбасою аблажыці,
Белым сырам завяршыці.

*Віншаванне:*
Дай божа, каб узрасла, ўскрасла,
За харошага малайца замуж пайшла.
Проша даць, не жалаваць,
Каб было за што падзенькаваць!

## 187

Ды ў канцы сяла ды стаяла верба,
Ды віно ж, віно зеляно! *
А на той жа вербе кара пазлацíста,
Кара пазлаціста, раса шамраціста.
Наляцелі птушкі ды заморскія,
Крыльцамі струхнулі, расу абабілі.
Выйшла, выбегла красная паненка,
Хвартух разаслала, кару пазбірала,
Ой, занясла яе ды да злотнічка.
— Ах ты, злотнічку-залатарнічку,
Ды зрабі жа ты мне тры надобачкі:
А першы надобак — ды залаты кубак,
А другі надобак — ды залаты персцень,
А трэці надобак — руцяны вяночак.
А залаты кубак — дзеля запівання,
А залаты персцень — дзеля абручання,
Руцяны вяночак — то дзеля вянчання.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

*Прымоўка:*
Сорак яек ды на паўмісак,
Сорак не сорак, а паўкапы мала,
Каўбасою аблажыці,
Белым сырам налажыці,
Божым дарам завяршыці.
Проша даць, не жалаваць,
Каб было за што падзенькаваць.
Больш не просім, як пар восем,
А менш не бярэм, як пар сем.

## 188

А ў матулькі адна дочка,
Сад зялёны вішнёвы! *
Як вішанька у садочку.
Пайшла ж яна у садочак,
У садочак пагуляці,
Сабе грушку выбіраці.
Ды выбрала сабе грушку
Ды такую высокую,
На ёй сучча срэбранае,
На ёй лісце залатое.
Як напалі сільны ветры —
Сучча й лісце абарвалі.
Паненачка рана ўстала,
Умылася бялюсенька,
Зачасалася слізюсенька.
Пайшла ж яна у садочак,
Гэту шкоду забачыла,
Шоўкаў платок разаслала,
Сучча, лісце пазбірала,
У пучочкі павязала.
Пайшла яна да злотнічкаў:
— Вы злотнічкі-работнічкі,
Ды зрабіце мне тры выгоды:
Перша выгода — злоты кубак,
Друга выгода — злоты персцень,
Трэцяя выгода — злоты венец.
Злоты кубак — віно піці,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Злоты персцень — на мянянне,
Злоты венец — на вянчанне.
— Паненачка, не будзь горда,
Не будзь горда, будзь пакорна,
На малойцаў агляніся,
Нам, малойцам, аддарыся:
Ці серабром неважоным,
Ці золатам незлічоным,
Добрым часам, перад кірмашам!
Серабро сваё мы зважым,
Мы паненку не зняважым,
А золата самі злічым,
Мы паненку падвялічым.
Чырван злоты нам на боты,
Бо мы боты патапталі,
Пакуль панну дапыталі.
Паненачка, не будзь горда,
Не будзь горда, будзь пакорна,
Татку з мамкай пакланіся,
Нам, малойцам, адгадзіся.
Як не хочаш аддарыцца,
Пойдзеш з намі валачыцца.
Нашы сцежкі далёкія,
Нашы росы халодныя,
Нашы рэкі глыбокія,
Заросішся, замочышся.
Тады ты нам аддорышся,
Нейдзе ж нанач папросішся.
Паненачка, не будзь горда,
Не будзь горда, будзь пакорна,
На малойцаў агляніся,
Нам, малойцам, аддарыся:
Сыр на талерку, водкі бутэльку,
Пірог на стол і нас за стол.

## 189

Вечар добры,
[Зялён явар, кудравы!] *
Паненачка!

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Гадуешся
Ў таткі, ў мамкі
На выгодзе,
Як садочак
На пагодзе.
Паненачка,
Папрасіся
Ў таткі, ў мамкі
Ў сад зялёны
Пагуляці.
Паненачка,
Вот хадзіла
Па садочку,
Выбірала
Сабе дрэўца.
Да й выбрала
Зялён явар,
Да й хацела
У явора
І сарваці
Тры лісточкі,
Не магла жа
Да дастаці.
Як махнула
Да й платочкам,
Разбудзіла
Буйных ветраў.
Як павеіць
Буйны вецер
І пасыпіць
Дробны дожджык —
Абабілі тры лісточкі.
Паненачка
Да й сабрала
І ў платочак
Увязала.
Пайшла яна
Каля мора
Да і пусціла
Тры лісточкі
На мора
Злотнічкам-работнічкам.
— Вы зрабіце

Мне й маладзе
Тры выгоды.
Першаю —
Злата кальцо,
А другую —
Пярлоў венчык,
Трэцюю —
Златы кубкі.
Пярлоў венчык —
Для вянчання,
Злата кальцо —
Для мянsocial,
Златы кубкі —
Любым госцям.
Паненачка
Як глянула
Да й на мора,
А й на моры
Не дым дыміць,
Не агонь гарыць —
Аж там едзіць
Цар-царэвіч,
Каралевіч,
Пытаецца:
— Калі будзеш,
Панна, мая,
Моў са мною,
А не будзеш —
Бог з табою.
Паненачка
Да й мовіла:
— Мне не ровен
І радні маёй,
Едзь жа сабе.

Паненачка,
Аддарыся,
Адплаціся.
Нашы дары
Небальшыя:
Маім мальцам —
Па яечку,
А музыку —

Хоць на боты,
А мне самому,
Пачынальніку,—
Хоць паўлітра
Гарэлачкі,
А для панны —
Добра хлопца.

### 190

А ў лузе, ў лузе,
[Зялён явар кудравы!] *
Да ў зялёным
Там лятала
Шэра пава
Да ўраніла
Злоты пёры.
Там хадзіла
Слічна панна
Марусечка
Да збірала
Злоты пёры,
Да ўвівала
Пярлоў венчык,
Да ўскладала
На галоўку
На буйную.
Пашла ж яна
Дарогаю
Шырокаю,
А ўвідзела
Бярозачку.
На бярозцы
Злота лісце
І шышачкі.
Наляцелі
Дробны пташкі,
Сталі яны
Шышкі кляваць.
Марусечка
Тых пташачак

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Адагнала,
Шоўкаў платок
Разаслала,
Злота лісця
Нашчыпала.
Пашла ж яна
Да злотнічкаў.
— Вы злотнічкі-
Работнічкі,
Вы зрабіце
Тры угоддзі.
Я за тое
Падзянькую.
Мае ўгоддзі
Мне патрэбны:
Пярлоў венчык —
Да вянчання,
Срэбны кубак —
На вітанне,
Злоты й персцень —
На мянянне.
Да зрабілі
Тры угоддзі,
Аддалі ёй
На ручанькі.
Марусечка,
Слічна панна,
Пашла яна
Па кладачцы,
А кладачка
Ззыбнулася,
Марусечка
Злякнулася
Да ўраніла
Тры угоддзі.

### 191

Ой, ляцела сойка сакацістая,
Віно да віно ж, віно зялёнае! *

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Пагубляла пер'е залацістае.
Вышла, выцекла красна паненка,
Красна паненка малада Марылька.
Шаўкоў платок разаслала,
Тое пер'е падабрала
Ды злотнічкам паказала.
— Вы злотнічкі, вы работнічкі,
Да скуйце ж мне тры надоб'ейка:
Першае надоб'е — залаты вянец,
Другое надоб'е — залаты персцень,
Трэцяе надоб'е — залаты кубак.
Залаты вянец — павянчацїся,
Залаты персцень — памяняцїся,
Залаты кубак — мёд, віно піці,
Мёд, віно піці, з мілым гаварыці.
— А што ж ты нам за дар дасі?
— Дам я дары вам вялікія:
За першага сама пайду,
За другога сястру выдам,
За трэцяга — таварышку.

## 192

Ляцела пава размашыстая,
Пасыпала пер'е пазлацістае.
Хто ж тое пер'е сабіраць будзець?
Слічна паненка сабіраць будзець.
Яна тое пер'е падабрала,
Панесла ж яна да злотнікаў.
— Вы злотнічкі, вы работнічкі,
Да скуйце ж мне чатыры угоддзі:
Первае угоддзе — пярловы венчык,
А другое ўгоддзе — медзяны кубак,
Трэцця ўгоддзе — золат персцень,
Чацвёртае ўгоддзе — да кован пояс.
Пярловы венчык — на вянчанніка,
А золат персцень — на мянянніка,
А кован пояс да сама знашу.
— Патом таго, слічна паненка,
Слічна паненка Дар'я Пятроўна,
Да ўжо ж вам песня спета.

## ТРЫ ВЯНКІ ДЛЯ ПАНЕНКІ

### 193

Ляцела пава размавістая,
Сад зялёны вішнёвы! *
Пусціла пер'е пазлацістае,
Выйшла, выбегла красна паненка,
Красна паненка малада Галенка,
Хусту разаслала, пер'е пазбірала.
Як пайшла яна ды дарогаю,
Ды дарогаю ды шырокаю,
Дагнала яна ды трох кавалёў.
— Вы кавальчыкі, мае брацеткі,
Скуйце ды звіце мне тры вяночкі:
Адзін вяночак з руты-мяты,
Другі вяночак з чырвонай ружы,
Трэці вяночак з пад'яленчыку.
З руты-мяты — у шлюбе стаці,
З чырвонай ружы — на пасад сесці,
З пад'яленчыку — к свякроўцы ехаць.

### 194

Ляцела пава сакацістая,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
Пушчала пер'е пазлацістае.
Вольгачка ішла, перынку нашла
Да й увязала яе ў платочак,
Панясла яна да кавалёчкаў:
— Вы кавалёчкі, мае браточкі,
Да звіце ж мне да тры вяночкі:
Адзін вяночак з чырвонай рожы,
Другі вяночак да з руты-мяты,
Трэці вяночак з усяго зелля.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

З чырвонай рожы — жаніх прыгожы,
Да з руты-мяты — свёкар багаты,
З усяго зелля — на ўсё вяселле.

*Віншаванне:*
Каб паненка велька росла,
На то лета замуж пошла,
Каб і намі не гардзіла —
На вяселле папрасіла.
А мы будзем малайцамі,
Будзем дарыць чырванцамі.

## 195

Ой, ляцела пава павістая,
Сад зялёны вішнёвы! *
Папускала пер'е бахмістае.
Выйшла, пайшла млода дзевачка,
Яна тое пер'е пазбірала,
У шаўкову хустачку ўвязала,
Сама пайшла на высок церамок,
На высок церамок да трох кавалёчкаў.
— Скуйце, звіце мне тры вяночкі:
Першы вяночак з пад'яленейку,
З пад'яленейку, што к вяселейку.
Другі вяночак з руты, з мяты,
З руты, з мяты, каб свёкар багаты.
Трэці вяночак з чырвонай рожы,
З чырвонай рожы, каб быў міл прыгожы.

## 196

Ляцела пава цераз паплава,
Іграйце, малойцы, гуляйце! *
Яна ляцела, пер'е раніла,
Пала пер'ейка да на каменнейка.
Хто ж тое пер'е сабіраць будзе?
Й абазвалася слічна панначка,
Слічна панначка, панначка Ганначка,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Да [illegible] тое пер'е да й сабірала,
Да й сабірала, у рукавец клала,
З рукава брала, вяночкі віла.
Ой, звіла сабе да тры венчыкі:
Першы венчык — на заручанкі,
Другі вяночак — на вянчаннейка,
Трэці вяночак — жыці да быці.

## 197

А ў гародзе на пераходзе,
Да вінам, віно зеляно! *
Стаіць канапелька зеляненька.
Пад тою канапелькаю
Стаіць крэсла залатое,
А ў тым крэсле — красная паненка
Віе вянок з трох зялеек:
Першая зёлка — зялёная рута,
А другая зёлка — божае дрэўка,
А трэцяя зёлка — пінацейка.
Віла, віла — пазалаціла
І да маткі пакаціла.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 198

Цераз гаёк зеляненькі
[Лёлі-лёлі, лёлі-лёлі, лёлі-лёлі!] *
Бяжыць конік вараненькі.
На тым кані сядло ляжыць,
На тым сядле турак сядзіць,
На тым турку дзевяць рагоў,
На тых рагах свечы гараць,
Гараць, гараць, пажыхаюць.
Там дзевачка дары крое,
Дары крое, сільна плача:
— Дары ж мае таненькія,
Дары ж мае таненькія,
Слёзкі мае драбненькія.
Не за гадок я напрала,
Не за другі я наткала,
Не за трэці набяліла,
За чацвёрты накачала,
За чацвёрты накачала,
За мінутку нарэзала
Сяму-таму падарачкі:
А свёкарку на сарочку,
А свякроўцы на сукенку,
Сваціцы на другую,
А залвіцы на спадніцу,
А дзеверу на куртачку,
А дзеверу на куртачку,
А мілому на портачкі.
Жыві, паненка, ў раскошы,
Каб камары не кусалі,
Каб панічы цябе абнімалі.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

199

У канцы сяла стаіць вярба, гэй, лолам!
У канцы сяла стаіць вярба, лолам!
Тая вярба карчыстая, гэй, лолам!
Тая вярба карчыстая, лолам!
Яе лісце злацістае, гэй, лолам!
Яе лісце злацістае, лолам!
Наляцелі пташкі-дрatшкі, гэй, лолам!
Наляцелі пташкі-драшкі, лолам!
Тое лісце ашчыкіталі, гэй, лолам!
Тое лісце ашчыкіталі, лолам!
Тудэма ішла красна панна, гэй, лолам!
Тудэма ішла красна панна, лолам!
Тое лісце пазбірала, гэй, лолам!
Тое лісце пазбірала, лолам!
Да ў пучочкі павязала, гэй, лолам!
Да ў пучочкі павязала, лолам!
Да занесла да матулі, гэй, лолам!
Да занесла да матулі, лолам!
Да падала праз акенка, гэй, лолам!
Да падала праз акенка, лолам!
— Злічы, матко, згадай, матко, гэй, лолам!
Злічы, матко, згадай, матко, лолам!
Колькі ў хустаньцы лісточкаў, гэй, лолам!
Колькі ў хустаньцы лісточкаў, лолам!
Каб мне толькі падарочкаў, гэй, лолам!
Каб мне толькі падарочкаў, лолам!
І толькі трэба паясочкаў, гэй, лолам!
І толькі трэба паясочкаў, лолам!
— Было, донька, доўга не спаць, гэй, лолам!
Было, донька, доўга не спаць, лолам!
Было прасці танюсенька, гэй, лолам!
Было прасці танюсенька, лолам!
Было ткаці гусцюсенька, гэй, лолам!
Было ткаці гусцюсенька, лолам!
Было бяліць бялюсенька, гэй, лолам!
Было бяліць бялюсенька, лолам!
Было рэзаць даўгусенька, гэй, лолам!
Было рэзаць даўгусенька, лолам!
— Буду дарыць кажнюсенька, гэй, лолам!
Буду дарыць кажнюсенька, лолам!
Ад старшага да меншага, гэй, лолам!

Ад старшага да меншага, лолам!
А сватанька найпершага, гэй, лолам!
А сватанька найпершага, лолам!
Самых старшых падаркамі, гэй, лолам!
Самых старшых падаркамі, лолам!
Серадольшых ручнікамі, гэй, лолам!
Серадольшых ручнікамі, лолам!
Самых меншых паяскамі, гэй, лолам!
Самых меншых паяскамі, лолам!
Ото ж табе, красна панна, гэй, лолам!
Ото ж табе, красна панна, лолам!
Песня спета проціў лета, гэй, лолам!
Песня спета проціў лета, лолам!
Лета не жджы, замуж ідзі, гэй, лолам!
Лета не жджы, замуж ідзі, лолам!
Песню спелі — не залгалі, гэй, лолам!
Песню спелі — не залгалі, лолам!
Як салаўі шчабяталі, гэй, лолам!
Як салаўі шчабяталі, лолам!
Як салаўі у садочку, гэй, лолам!
Як салаўі у садочку, лолам!
Як мы ў панны на падворачку, гэй лолам!
Як мы ў панны на падворачку, лолам!

## 200

Кала двара вярба,
Вярба карчыстая,
На ёй вецце злацістае,
Наляцелі пташкі-рашкі,
Тое вецце абламалі.
Тудой бегла красна панна:
— Шугі-ругі, не ламеце!
Не ламеце маё вецце,
Бо мне вецця многа трэба,
Усім сваткам па кветачцы,
А старасце найболей.

## 201

А што ж гэта за пан едзе?
Да віно ж маё зялёнае! *

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Трасцінаю апіраецца,
Ён паненкі ўсё пытаецца:
— А ці ўдому красна паненка,
А ці ўдому, ці акажацца?
— Хоць і ўдому, не акажацца,
Яна ўдому, у святліцы
Падарачкі кроіць ды гаворыць:
«Татулечку на кашулечку,
Матулечцы на хустачку,
А сястрыцы на другую».

## 202

Пасеяла лешку лёну,
Эй, лолам, пасеяла лешку лёну.

Лешка лёну не ўрадзіла,
Эй, лолам, лешка лёну не ўрадзіла,

Падарачкі ўкарнаціла,
Эй, лолам, падарачкі ўкарнаціла.

Пасеяла руту-мяту,
Эй, лолам, пасеяла руту-мяту.

Наляцелі шугі-лугі,
Эй, лолам, наляцелі шугі-лугі.

— Шугі-лугі, чорныя каўкі,
Эй, лолам, шугі-лугі, чорныя каўкі,

Не дзярыце руту-мяту,
Эй, лолам, не дзярыце руту-мяту,

Бо мне руты многа трэба,
Эй, лолам, бо мне руты многа трэба:

А чашнічкам да шапачкі,
Эй, лолам, а чашнічкам да шапачкі,

А мне, младой, вянок звіці,
Эй, лолам, а мне, младой, вянок звіці,

Вянок звіці, замуж выйсці,
Эй, лолам, вянок звіці, замуж выйсці!

## 203

Там на даліне царкву рубілі,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
З трыма вакнамі, з чатырма вугламі.
У адно вакно сонейка ўвайшло,
А ў другое вакно сакол уляцеў,
А ў трэцця вакно сам бог паглядзеў,
Сам бог паглядзеў, на прастоле сеў,
На прастоле сеў, слёзачку ўраніў.
А з тае слязы рэкі пацяклі,
Рэкі пацяклі ды рэкі быстрыя,
Рэкі быстрыя, беражыстыя.
На той рэчачцы кладачка ляжыць,
На той кладачцы слічна паненка,
Слічна паненка млода Аленка
Кубачкі мыла, персцень згубіла.
Устрэціла яна трох рыбаловаў.
— Рыбалоўчыкі, ды мілыя мае,
А закіньце ж вы ды шаўковы сеці,
Шаўковы сеці па быстрай рэчцы,
А злавіце мне ды залато кальцо.
Дарам не хачу, я вам заплачу.
Аднаму я дам шаўковы платок,
Другому я дам белую руку,
Трэцяму я дам залато кальцо.
Шаўковы платок — на ўціраннейка,
Белая рука — на свіданнейка,
Залато кальцо — на вянчаннейка.

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

А ў ляску, ляску на жоўтым пяску
Зялёна ёлка, зялёна! *
Салаўі гудуць, цэркву будуюць,
З трыма вакнамі, чатырма ўгламі.
У адно акно сонца увайшло,
У другое вакно месяц увайшоў,
У трэцяе вакно сокал уляцеў,
Сокал уляцеў, слязу ураніў.
А з тае слязы рэчанькі пашлі,
Рэчанькі пашлі усё быстрыя,
Рэкі быстрыя, беражыстыя.
Па той рэчаньцы павінька плыла,
Павінька плыла распавістая,
Раняла пер'е пазлацістае.
Млода Аўдотка да й статак гнала,
Да й статак гнала, пер'е збірала,
Пер'е збірала, ў рукавок клала,
З рукаўка брала, вяночак віла,
Вяночак звіла, да й прышпіліла,
А прышпіліўшы, у танец пашла,
У танец пашла, пахілілася,
Сваім вяночкам пахвалілася:
«Майго вяночка вятры не знімуць,
Вятры не знімуць, дажджы не змочуць».
Як узняліся дробныя дажджы,
Дробныя дажджы, буйныя вятры
Да й сахвацілі парловы вянок,
А сахвацілі і пакацілі
У чыстае поле, на сіне мора.
Пашла Аўдотка ўсё шукаючы,
Усё шукаючы, ўсё пытаючы.
Спаткала Аўдотка трох рыбаловаў.
— А рыбаловы вы маладыя,
Ці не відзелі, ці не бачылі
Майго вяночка парловенькага?
Адзін гаворыць: «Я не відзеў».
Другі гаворыць: «Я не бачыў».
Трэці гаворыць: «Што за перайма?»
— А дам аднаму шоўкаву хусту,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Другому я дам кованы пояс,
Трэцяму я дам залаты кубак,
Залаты кубак да белу ручку,
А за ручкай — я сама малада.
Аднаму буду я суседачка,
Другому буду я нявестачка,
Трэцяму буду жана малада.

## 205

А ў ляску, ў ляску на жоўтым пяску,
Зялёна траўка-мураўка! *
А там молайцы цэркву рубілі.
З трыма вакнамі, з чатырма ўгламі.
Ў адно ваконца ўкацілась сонца,
Ў друго ваконца сакол уляцеў,
У трэцця ваконца сам бог паглядзеў,
Сам бог паглядзеў, слёзачку ўраніў.
А з тае слязы рэкі пацяклі,
А ўсе быстрыя, беражыстыя,
А па тых раках пава плавала,
Пава плавала павучыстая,
Раняла пер'е пазлацістае.
А там хадзіла слічна паненка,
Слічна паненка млода Ганначка,
Яна хадзіла, пер'е збірала,
Пер'е збірала, ў рукавок клала,
З рукаўка брала, вяночак віла,
Вяночак віла, на галоўку клала,
На галоўку клала і прышпіліла.
Пашла ў садочак, стала ў радочак,
Пахілілася, пахвалілася:
«А ніхто майго вянка не сарвець».
Як узняліся шуры да буры,
Сарвалі венчык да й пакацілі,
Лужком-беражком на сіне мора.
А пашла ж яна а шукаючы,
А шукаючы, а пытаючы.
Спаткала яна трох рыбаловаў.
— Вы рыбаловы, мілыя мае,
А закіньце ж вы шаўковыя сеці,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

А паймайце ж мне залаты венчык.
Дарма не хачу, я вам заплачу.
Аднаму я дам шаўковы платок,
Другому я дам залаты персцень,
А трэцяму дам белую руку.
Шаўковы платок — на ўціраннейка,
Залаты персцень — красаваннейка,
Белая рука — на вянчаннейка.

## 206

А ў ляску, ў ляску ды там пры даліне,
Зялёна ёлачка, зялёна! *
Там пры даліне царкву (і) рубілі
З чатырма ўгламі да з трыма акнамі.
А ў адно акно да сонца ўзыйшло,
А ў другое акно да сокал уляцеў,
У трэцяе акно сам бог паглядзеў,
Сам бог паглядзеў, на прастоле сеў,
На прастоле сеў, слёзачку ўраніў.
А з тае слязы рэкі пацяклі,
Рэкі быстрыя да беражыстыя.
Па той рэчачцы пава плавала,
Пава плавала да павуцістая,
Пушчала пер'е пазлацістае.
А там жа ішла да слышна паненка,
Слышна паненка да млода Верачка.
А яна ішла, пер'е збірала,
Пер'е збірала, ў карманок клала,
У карманок клала, вяночак віла,
Вяночак віла, на галоўку клала,
На галоўку клала да й прышпіліла,
На вулку вышла да й пакланілася,
Пакланілася да й пахвалілася:
«Ніхто не сарвецъ пярловы вянок».
А дзе браліся шуры да буры,
Сарвалі ж яны пярловы вянец.
А пашла ж яна ўсё шукаючы,
Усё шукаючы да ўсё пытаючы.
Сустрэла яна да трох рыбаловаў.
— Вы рыбаловы, вы братцы мае,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Ці не відзелі пярловы вянец?
Адзін кажыць: «Яго не відзеў».
А другі кажыць: «Яго й не бачыў».
А трэці кажыць: «Я ў руках дзяржаў,
Я ў руках дзяржаў ды ў платок ўвязаў,
У платок увязаў, на мора пускаў».
— Вы рыбаловы да вы братцы мае,
А закіньце ж вы шаўковыя сеці,
А дастаньце ж вы да пярловы вянок.
Я й дарма не хачу, да я вам заплачу.
Аднаму я дам шаўкову хусту,
Другому я дам залаты персцень,
Трэцяму я дам белую ручку.
Шаўкова хуста — на ўціраннейка,
Залаты персцень — да на вянчаннейка,
За белай ручкай да я сама пайду.

## 207

А на моры, моры, на сінім Дунаі,
Да віном, віном зялёным! *
Ляжыць кладка мураваная,
Мураваная, маляваная.
На той кладцы красная паненка,
Красная паненка, маладая дзеўка
Бель бяліла, ручкі мыла,
Залаты персцень ураніла.
Пашла ж яна каля рэчкі,
Каля рэчкі, каля быстранькай,
Ташнуючы, бядуючы,
Спаткала яна трох малойцаў.
— Вы ж малойчыкі-рыбалоўчыкі,
Вы закіньце шоўкаў невад,
Вы злавіце шчуку-рыбку,
Адбярыце залаты персцень,
А я вам буду у вялікай прыгодзе,
[У вялікай прыгодзе], ў вялікай адгодзе:
За першага сама пайду,
За другога сястру ж аддам,
А за трэцяга — таварышку.

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Сама ж пайду у золаце,
Сястру аддам у атласе,
Таварышку — ў аксаміце.
Сама ж буду панаваці,
Сястра будзе пасцель слаці,
Таварышка — жыта жаці.

## 208

На сінім Дунаі, на белым камені,
Ой, віно ж, віно зялёнае! *
Красная панна, слічна маладзенька,
Маладая Зіначка ручкі мыла,
Ручкі мыла, персцень ураніла.
Пашла яна каля беражку,
Каля беражку па жоўтаму пясочку,
Устрэла ж яна трох рыбалоўнічкаў.
— Вы рыбалоўнічкі, вы брацікі,
Закіньце ж мне шоўкаў невад,
Злавіце ж мне срэбран персцень.
Буду вам ў адгодзе, ў вялікай прыгодзе:
За аднаго сама пайду,
За другога сястру аддам,
За трэцяга — хоць таварышку.
Сястру аддам у золаце,
Таварышку — у аксаміце,
Сама пайду у розуме.
— Маладая Зіначка, не тамі гасцей,
Не тамі гасцей, падары бардзей,
Не вялікім дарам, бітым талярам.
Наш дар невялік, дзвярмі не ходзіць,
[Дзвярмі не ходзіць], праз акно шые.
З вялікіх паноў — па сто рублёў,
З маленькіх паноў — хоць па трыццаць рублёў.
Пачальнічку — па дзесятнічку,
А механосу — па тры грошу,
А музыцы — горкая доля,
Горкая доля, кварту гарэлкі,
Сыру на тарэлку, пірог на закуску.
Гаспадыня, тва рэч — скавараду [ў] печ,
А па сланінку ў клець.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 209

На возеры на сіненькім,
Да віно ж маё зялёнае! *
На камені на беленькім
Красная паненка бель бяліла,
Бель бяліла, ручкі мыла,
Ручкі мыла, пярсцён ураніла.
Плывуць, плывуць тры чаўночкі,
У тых чаўночках — рыбалоўнічкі.
— Рыбалоўнічкі-валачоднічкі,
Вы закіньце шоўкаў невад
Да злавіце залаты пярсцён.
— Красная паненка, што за дар будзе?
— За дар будзе дарагі тавар:
За першага сама пайду,
За другога сястру аддам,
За трэцяга — таварышку.
Сама буду панаваці,
Сястра будзе шынкаваці,
Таварышка — жыта жаці.

*Віншаванне:*
Вот табе, паненка, песня спета,
Песня спета проці лета,
Залацістага, каласістага.
Каб паненка расла,
Скора замуж пашла,
І каб мы былі,
На вяселле прыбылі,
Гарэлку пілі,
Каб па барадзе цякло,
А ў рот не папало.

## 210

Цякла рэчка край млыночка, гэй, віно!
А другая — край Дуная, віно!

Красна панна хусце прала, гэй, віно!
Хусце прала, бель бяліла, віно!

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Злоты персцень ураніла, гэй, віно!
Шчука-рыба ухваціла, віно!

Шчука-рыба — азярэчкам, гэй, віно!
А дзяўчына — беражочкам, віно!

Напаткала тры малойцы, гэй, віно!
Тры малойцы-рыбалоўцы, віно!

— Ой, закіньце шоўкаў невад, гэй, віно!
Шчуку-рыбу вы паймайце, віно!

Ой, паймайце, расхвастайце, гэй, віно!
Злоты персцень вы дастаньце, віно!

— Што ж нам, панна, за дар дасі, гэй, віно?
Што ж нам, панна, за дар дасі, віно!

— Дам аднаму руцян вянок, гэй, віно!
А другому — злоты персцень, віно!

А трэцяму — сама млада, гэй, віно!
Сама млада, як ягада, віно!

Як ягада баравая, гэй, віно!
Як вішанька садавая, віно!

## 211

На кладачцы на гібенькай,
Ды віно ж маё зеляно! *
Там дзяўчына бель бяліла,
Бель бяліла, персцень ураніла.
Ішлі малойцы, тры рыбалоўцы.
— Ах вы, рыбалоўцы, красны малойцы,
Вы закіньце шоўкаў невад
Ды злавіце залаты персцень.
— Што ж ты нам, дзяўчыначка, за дар дасі?
— За першага аддам суседачку,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

18. Зак. 1108

За другога — швагерачку,
За трэцяга сама пайду.
Да суседкі агню пайду,
Да швагеркі ў госці паеду,
З табой, мілы, жыці буду,
Жыці буду, пажываці,
Малых дзетак гадаваці!

## 212

Да на рэчачцы, да на быстранькай,
Да зялёны явар, зялёны! *
Да на кладачцы, да на гібенькай
Да там дзеўка бель бяліла,
Бель бяліла, персцень ураніла.
Да там хлопчыкі-рыбалоўчыкі
Сеці насілі, рыбу лавілі.
— Да вы хлопчыкі-рыбалоўчыкі,
Да закіньце сеці цераз быстры рэкі,
Да злавіце ж мне й залаты пярсцён,
Падару ж я вам усім па падарку:
Першы падарак — залаты пярсцён,
Другі падарак — шаўкова хуста,
Трэці падарак — сама малада.
Залаты пярсцён — заручаціся,
Шаўкова хуста — абвянчаціся,
Сама маладая — пацяшаціся.

## 213

А на моры, на Дунаі,
Да віно ж, віно зялёнае! *
Ляжыць кладка малявана.
На той кладцы красна паненка,
Красна паненка малада Аленка
Бель бяліла, ручкі мыла,
Злоты персцень ураніла.
Пашла ж яна каля рэчачкі,
Каля рэчачкі, каля быстрай,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Спаткалася з трыма хлопцамі.
— Мае вы хлопчыкі-рыбалоўчыкі,
Да закіньце шоўкаў невад,
Да злавіце злоты персцень.
Я вам буду у адгодзе:
За першага сама пайду,
За другога сястру аддам,
За трэцяга — таварышку.
Сама буду панаваці,
Сястра будзе жыта жаці,
Таварышка — слугаваці.
Сама буду ў чыстым срэбры,
Сястра будзе ў золаце,
Таварышка — у вадбаі.

Вот табе, паненка,
Песня спета проці лета
Велікодная — то угодная.
Вельканоцная — то памоцная,
Жыві паненка, у раскошы,
Мей катух грошы,
І рок ад року,
Каб сёлета ляжаў панічык пры боку.

## 214

Красен-ясен,
[Зялёны сад вішнёвы!] *
У небе месяц
Красней яго
Ды дзевачка.
Гадуецца
У татулькі,
У матулькі.
Пышна ходзіць,
Гарда мовіць,
Пашла ж яна
Бяллё мыці,
Бель бяліці,
Стала ж яна

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

На кладачку,
А кладачка
Гібнулася.
Ай, дзевачка
Злякнулася,
Ураніла
Злоты персцень.
Там рыбалоўцы
Рыбу лавілі.
Пашла ж яна
К рыбалоўцам.
— Рыбалоўцы,
Мае братцы,
Я ўраніла
Злоты персцень.
А каторы
Да й дастанець,
За таго я
Сама пайду.

## 215

Да на дошчачцы, да на гібенькай,
Вясна красна на ўвесь свет! *
Там дзевачка бель бяліла,
Бель бяліла, персцень ураніла.
Да пашла ж яна краем Дунаем,
Да стрэла яна трох рыбалоўцаў.
— Ах вы, рыбалоўцы, маладыя малойцы,
Кіньце, закіньце шоўкавыя сеці
Да злавіце залаты пярсцён.
Я ж вам ўсім тром па падарку дам:
Першаму рыбалоўцу — шоўкавая хуста,
А другому — залаты пярсцён,
А трэцяму — сама маладзенька.
Шоўкавая хуста — заручаціся,
Залаты пярсцён — вянчаціся,
Сама маладзенька — век векаваці,
Век векаваці, дзеці гадаваці.

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 216

А на рэчачцы, а на быстрае,
Вясна красна, дзень цёплы! *
Там дзевачка кубкі мыла,
Залаты персцень абраніла.
Там рыбалоўцы рыбку лавілі.
— Ох вы, хлопцы, удалыя малойцы!
Не лавіце рыбкі, а лавіце персцень.
— Ты, дзевачка малада, што дасі перайма.
— Першаму перайма — залаты персцень,
Другому перайма — шоўкавы платок,
Трэцяму перайма — я сама, малада.

## 217

Кала рэчунькі, кала быстрае,
Жаркая сонца ў ваконца! *
Там дзяўчонка кубкі мыла,
Золат персцень ураніла.
Пашла яна кала рэчунькі,
Кала рэчунькі, кала быстрае,
Сустракаець трох малойцаў.
— Малойчыкі-рыбалоўчыкі,
Вы закіньце шаўковы сеці,
А ўлавіце золат персцень.
Я ж вам, малада, знадабна буду:
Першаму буду суседачка,
Другому буду нявестачка,
Трэцяму буду мілая жана.
Суседачка — цяпла брацці,
Нявестачка — піць падаваці,
Мілая жана — пасцель слаці,
Пасцель слаці, з табой спаці.

## 218

Там на моры на каменю,
Да віно ж, віно зялёнае! *

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Там паненка бель бяліла,
Бель бяліла, сыгмант ураніла.
— Ой вы, рыбалоўцы, маладыя хлопцы,
Закідайце сетку за быструю рэчку.
Ці не найдзеце вы мае згубы?
А як найдзеце, то я вам заплачу:
Першаму заплачу да злотны сыгмант,
Другому заплачу — сама жаной стану.

*Віншаванне:*
Віншую паненку
Чырвонай суkенкай,
Каб паненка расла
І хутка замуж пашла.
І ганаровай не была
І мяне на вяселле запрасіла,
А я каб здароў быў
І на вяселле прыбыў.

## 219

Тонка, тонка канапелька,
Канапелька, лолам!
Да танчэйша красна панна,
Красна панна, лолам!
Хусты мыла, бель бяліла,
Бель бяліла, лолам!
Злоты персцень да зраніла,
Да зраніла, лолам!
— Вы малойцы-рыбалоўцы,
Рыбалоўцы, лолам!
Да закіньце шалкоў невад,
Шалкоў невад, лолам!
Да злавіце злоты персцень,
Злоты персцень, лолам!
— Красна панна, што за дар дасі,
Што за дар дасі, лолам!
— Аднаму будзе злоты персцень,
Злоты персцень, лолам!
А другому — шалкова хустка,
Шалкова хустка, лолам!

А трэцяму — сама млода,
Сама млода, лолам!
Сама млода, як ягода,
Як ягода, лолам!
— Красна панна, не падзелімся,
Не падзелімся, лолам!
Злоты персцень пераломіцца,
Пераломіцца, лолам!
Шалкова хустка да зносіцца,
Да зносіцца, лолам!
Сама млода, як ягода,
Як ягода, лолам!
Да на век доўгі,
На век доўгі, лолам!
Да на быт добры,
На быт добры, лолам!

## 220

Тонка, велька канапелька,
Эй, лолам, тонка велька канапелька!

Найтанчэйша красна паненка,
Эй, лолам, найтанчэйша красна паненка!

Красна паненка Ясюленька,
Эй, лолам, красна паненка Ясюленька

Хусты мыла, бель бяліла,
Эй, лолам, злоты персцень ураніла,

Шчука-рыба ухваціла,
Эй, лолам, ухваціла і паплыла.

— Эй, вы, хлопцы-рыбалоўцы,
Эй, лолам, вы спаймайце шчуку-рыбу,

Вы спаймайце, распластайце,
Эй, лолам, злоты персцень вы дастаньце!

З шчукі-рыбы абед будзе,
Эй, лолам, злоты персцень ўзамен пойдзе!

## 221

Песня дзеўцы з-пад акенца,
Зялён рамон, кудравы! *
Што ў чырвоненькай сукенцы,
А хустачка шаўковая.
Дзяўчыначка талковая.
Пашла ж яна каля рэчкі,
Каля рэчкі, каля быстранькай.
Яна ж тамка бель бяліла,
Злоты персцень ураніла.
Там плавалі два малойцы,
Два малойцы-рыбалоўцы.
— Ох вы, хлопцы-рыбалоўцы!
Да спаймайце злоты персцень.
Я вам буду у адгодзе,
У адгодзе, вялікай прыгодзе...
За першага сястру аддам,
За другога сама пайду.

## 222

Добры вечар, паненачка,
Роза, аленькі цвяток! *
Паненачка да й Ганначка
Жыла-была ў свайго таткі,
У свайго таткі, ў сваёй мамкі.
Ты у татачкі жывеш,
Як юргіненька цвіцеш,
Сады садзіш, паліваеш.
Удаецца ўсё у садзе,
Тваім садзе-вінаградзе.
Удалася адна ігрушка,
Срэбна віцце, злота лісце.
Узнялася шура-бура,
Пакрышыла, паламала
Срэбна віцце, злота лісце.
Лісце ў хустачку звязала,
Татку з мамкай паказала.
Ганначка плацце мыла,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Злоты персценьураніла.
Пашла ж яна, ручкі ламя,
Да к малойцам-рыбалоўцам.
— Вы малойцы-рыбалоўцы,
Зробце мне з гэтай шкоды тры выгоды:
Першая выгода — срэбны кубак,
А другая — злоты персцень,
А трэцяя — пярлоў венчык.
І ўлавіце мне злоты персцень,
А я вам да прыгаджуся:
Аднаму хоць кумачкай,
А другому суседачкай,
А трэцяму — сама млода,
Сама млода, як ягода.

## 223

Лятала пава па чыстым полі,
Раняла пер'е ў траву зеляну.
А там хадзіла млода Уллянка,
Яна хадзіла, пер'е збірала,
Пер'е збірала, ў рукавок клала,
З рукаўка брала, вяночак звівала,
Звіўшы вяночак, да прышпіліла,
Да прышпіліла, ў таночак пашла,
У таночак пашла, пахваляяся:
«Ніхто не сарвець пярловага вянца».
А гдзе ўзяліся буйныя ветры,
Буйныя ветры, дробныя дажджы,
Сарвалі, паняслі на сіне мора,
На сіне мора, на глыбока азёра.
Пашла ж яна яго шукаці.
Спаткала ж яна трох рыбаловаў.
— Вы рыбаловы мілыя мае,
Закіньце ж вы шаўковую сець,
Знайдзіце мой пярловы вянец.
— А што ж ты дасі за перайма?
— Аднаму я дам шаўкову хусту,
Другому я дам залаты персцень,
А трэцяму дам белую ручку.
Шаўкова хуста — на дараванне,
Залаты персцень — то на мянянне,
Што ручку дала — то сама пашла.

224

Ай, рана, рана [пава лятала],
Пава лятала, пер'е раняла.
Спявайце, малойцы, спявайце! *
Красна Маланька пер'е збірала,
[Пер'е збірала], ў рукавок клала,
З рукаўка брала, вяночак пляла,
Звіўшы вяночак, да на галоўку,
Пайшла на вулку пахваліціся:
«Ніхто майго вянка не знімець,
Ні буйны ветры, ні дробны дажджы».
Адкуль узяўся буйны дожджык,
Панёс ён вяночак пярловенькі
У чыста поле, на сіне мора.
Пашла Маланька плача і тужа́,
[Плача і тужа], ручанькі ламя.
Паслала яна сваю мамухну
Вяночка іскаць пярловага.
Мамухна пайшла, вянка не найшла.
Паслала яна свайго татухну
Вянка іскаць пярловага.
Татухна прыйшоў, вянка не найшоў.
Пайшла Маланька вянка іскаць,
На ўстрэчу ёй тры рыбаловы.
— Вы рыбаловы мілыя мае,
Чы не чулі вы, чы не відзелі
Майго вяночка пярловага?
Адзін кажыць: «Я чуў, відзеў».
Другі кажыць: «Я ў руках дзяржаў!»
Трэці кажыць: «А вось у мяне!»
— Красна Маланька, чым будзеш дарыць?
—Аднаму я дам шаўкову хустку,
Другому я дам залаты персцень,
За трэцяга сама пайду.

225

Рана, рана сонца ўсхадзіла,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Раней таго пава лятала,
Пава лятала, пер'е збірала.
Панна Сахвейка раненька ўстала,
Пер'е збірала, ў рукавок клала,
З рукаўка брала, вяночак віла,
Вянок віла, на галоўку клала.
Звіўшы вяночак, пашла ў таночак.
Адкуль узяліся густыя вятры,
Густыя вятры, дробныя дажджы,
Схапілі яны павін вяночак,
Як схапілі, так пакацілі
У чыста поле, у сіне мора.
Як пашла ж яна, заплакаўшы,
Усё шукаючы, усё пытаючы.
Стрэла яна трох малойцаў,
Трох малойцаў-рыбалоўцаў.
— Мілыя мае вы рыбалоўцы,
Ці не чулі ж вы, ці не відзелі
Павін вяночак панны Сахвеі?
Адзін кажыць: «Я чуў і відзеў».
Другі кажыць: «Я ў руках дзяржаў».
Трэці кажыць: «А вось у мяне,
А вось у мяне ды й на правай руцэ».
— Што ж ты нам дасі, панна Сахвея?
— Аднаму я дам шаўковы платок,
Другому я дам залаты пярсцянёк,
А за трэцяга я сама пайду,
Я сама пайду і вянок найду!
— А за гэтым жыві здарова,
Жыві здарова, будзь багата,
Із бацюшкай, із матушкай,
Із матушкай і са ўсёй сям'ёй.

## 226

Ой, рана, рана соўнейка грала,
Зялён явар, зялёны! *
А раней таго пава лятала.
Пава лятала павуцістая,
Ураніла пер'е пазлацістае.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

А там ішла слічна паненка,
Слічна паненка, малада дзеўка.
Тое пер'е да й пазбірала,
Зайшла ў садок ды звіла вянок,
Ды звіла вянок з ліпавых цвятоў,
З ліпавых цвятоў, з кляновых лістоў.
Ды й надзела на галовачку.
Адкуль узялася шура да бура,
З маладой дзеўкі венчык сарвала
І панесла з гары на гару,
З гары на гару — к новаму двару.
А насустрэчу яму тры малойчыкі,
Тры малойчыкі-рыбалоўчыкі
Той венчык ды й падабралі.
— Ой вы, хлопчыкі-рыбалоўчыкі,
Вы аддайце мой вяночак.
Перваму буду за суседачку,
Другому буду за братовачку,
Трэцяму буду сама малада.
Да суседа я агню пайду,
А свякроўку разуваць буду,
А міламу пасцель слаці буду.
Ой вы, хлопчыкі-рыбалоўчыкі,
Вы аддайце мой вяночак!
Першы кажа: «Я ідзець ідзеў,
Я ідзець ідзеў, а ў рукі не браў».
Другі кажа: «Хоць у рукі браў,
Хоць у рукі браў — на зямлю кідаў».
Трэці кажа: «Я і ў рукі браў,
Я і ў рукі браў і на галовачку клаў».

## 227

А рана, рана сонца зайграла,
Ляй-лё, ляй-лё, лі-ляй-лё! *
А раней таго пава лятала,
Пава лятала пухавістая,
Пер'е раняла пазлацістае.
А там ды ішла слічна паненка,
Слічна паненка паня Мар'ічка.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Пер'е збірала, ў рукавок клала,
З рукаўка брала, вяночак віла,
А звіўшы вянок, пайшла у танок,
А ў тану, ў тану пахвалялася:
«Ніхто не садмець, ніхто не сарвець
Пярловы вянок пухавісценькі,
Пухавісценькі, пазлацісценькі».
Як узняліся ды шуры-буры,
І здулі, змялі пярловы вянок,
Пярловы вянок пухавісценькі,
Пухавісценькі, пазлацісценькі.
І пайшла ж яна каля Дунаю,
Каля Дунаю, вянка шукая.
Устрэла ж яна ды трох малойчыкаў,
Трох малойчыкаў-рыбалоўчыкаў.
— Вы малойчыкі-рыбалоўчыкі,
Ці не чулі вы, ці не відзелі
Пярловы вянок пухавісценькі,
Пухавісценькі, пазлацісценькі?
Адзін жа кажа: «Не чуў, не відзеў».
Другі жа кажа: «І чуў і відзеў».
А трэці кажа: «У руках дзяржаў
Пярловы вянок пухавісценькі,
Пухавісценькі, пазлацісценькі».
— Слічна паненка паня Мар'ічка,
А што ж будзе нам і за перайма
Пярлова вянка пухавісценька,
Пухавісценька, пазлацісценька?
— Аднаму будзе шоўкавы платок,
Шоўкавы платок з буйнай галавы.
Другому будзе лента галуба,
Лента галуба з русае касы.
Трэцяму будзе кальцо залато,
Кальцо залато з правае рукі.
За правай рукой я сама пайду.
Аднаму буду я суседачка,
Другому буду верная слуга,
Трэцяму буду родная жана.

228

А у луве ды ў зялёным,
Зялёны явар, маладыі *
Там лятала шэра пава
Ды ўраніла злоты пёры.
Там хадзіла слічна панна,
Слічна панна Ульяначка,
Ды збірала злоты пёры,
Ды звівала перлаў венчык,
Ды ўскладала на галоўку.
Пайшла яна дарогаю,
Дарогаю шырокаю,
Ды ўбачыла бярозачку.
На бярозцы злота лісце,
Злота лісце і шышачкі.
Наляцелі дробны птушкі,
Сталі яны шышкі кляваць.
Ульяначка тых птушачак,
Ды тых птушак адагнала,
Шаўкоў платок разаслала,
Злотых лісцяў нашчыпала.
Пайшла ж яна да злотнічкаў:
— Вы злотнічкі-работнічкі,
Вы зрабіце тры надоб'і,
Я за тое падзякую.
Ды зрабілі тры надоб'і,
Аддалі ёй на ручанькі.
Ульяначка, слічна панна,
Пайшла яна па кладачцы,
А кладачка ззыбнулася,
Ульяначка злякнулася
Ды ўпусціла тры надоб'і.
Пайшла ж яна каля рэчкі,
Ташнуючы, бядуючы.
Там спаткала трох малойцаў,
Трох малойцаў-рыбалоўцаў.
— Вы малойцы, мае братцы,
Ды закіньце шоўкаў невад,
Ды злавіце тры надоб'і,
Бо надоб'і мне патрэбны:

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Перлаў венчык — да вянчання,
Срэбны кубак — да вітання,
Злоты персцень — да мянянне.
Я за тое падзякую:
Аднаму буду суседачка,
А другому — братавачка,
А трэцяму — міла жонка.
Ды злавілі тры надоб'і,
Аддалі ёй на ручанькі.
Пайшла ж яна да пакоя,
Села яна за скам'ёю,
За скам'ёю пад аконцам,
Стала яна лісты пісаці
Ды к міламу пасылаці.
Піша, піша ды пагляне,
Ды пагляне праз аконца,
Адкуль едзе яе мілы,
Сам дзевяты, конь пяльчаты.
Яны з коней пассядалі,
Ульяначку прывіталі,
За белую ручку ўзялі.
Песня спета проці лета,
Досыць барыць, пара дарыць:
Мне самому — паўрублёўку,
Маім братам — капу яек,
А дудару — чэрвен злоты.

### 229

Ходзіць пава па вуліцы, гэй, віно!
Ходзіць пава па вуліцы, віно!

Сцеле пер'е па мураўцы, гэй, віно!
Сцеле пер'е па мураўцы, віно!

А за ёю красна панна, гэй, віно!
Красна панна млода Ганна, віно!

Пер'е бярэ, ў хвартух кладзе, гэй, віно!
Пер'е бярэ, ў хвартух кладзе, віно!

А з хвартушка вянок віе, гэй, віно!
А з хвартушка вянок віе, віно!

Звіўшы вянок, пайшла ў танок, гэй, віно!
Звіўшы вянок, пайшла ў танок, віно!

Скуль жа ўзяўся буйны вецер, гэй, віно!
Скуль жа ўзяўся буйны вецер, віно!

Звеяў венец ў быстры Дунай, гэй, віно!
Звеяў венец ў быстры Дунай, віно!

Пайшла Ганна беражочкам, гэй, віно!
Беражочкам за вяночкам, віно!

Напаткала тры малойцы, гэй, віно!
Тры малойцы-рыбалоўцы, віно!

— Ах, мае ж вы малойчыкі, гэй, віно!
Вы закіньце сеці-невад, віно!

Вы закіньце сеці-невад, гэй, віно!
Ды злавіце павін венец, віно!

— Што ж нам, панна, за дар дасі, гэй, віно!
Што ж нам, панна, за дар дасі, віно!

— А старшаму — павін венец, гэй, віно!
А другому — злоты персцень, віно!

А трэцяму — сама млода, гэй, віно!
Сама млода, як ягода, віно!

## 230

Ходзіць пава ды па вулачцы
Ды мовіць, віно ж, віно зеляно! *
Роніць пер'е ды па мураўцы.
А за ёю красная паненка
Пер'е бярэ ды ў хвартушок кладзе,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

З хвартушка бярэ ды ў вяночак віе,
Звіўшы вянок, ды пайшла ў танок.
А скуль быўшы, ды буйны вецер,
Ой, і звеяў з паненкі вянок,
Ой, завеяў на быстры Дунай.
Плыве вянок ды Дунаёчкам,
Бяжыць панна ды беражочкам,
Сустракае тры рыбачанькі.
— Тры рыбачанькі, ўсе тры браценькі,
А закіньце ды шоўкаў невад,
А спаймайце ды з панны вянок!
— А што ж, панна, ды за дар дасі?
— А першаму — ды з панны вянок,
А другому — ды шчуку-рыбу,
А трэцяму — ды сама млода,
Сама млода, як ягода,
Як ягадка ды баравая,
Як вішанька ды садавая!
Як салаўі ды ў садочку,
Так мы ў панны ды на дварочку!
Як салаўі ды гнёзды вілі,
Так мы да панны праўду гаварылі!
Гэта песня табе спета,
Песня спета проціў лета.
А што, панна, за дар дасі?
Сорак яек па паўміску,
Каўбасою абкружыўшы,
Белым сырам завяршыўшы!

## 231

Ходзіць пава па вуліцы, гэй, лолым!
Ходзіць пава па вуліцы, лолым!
Роніць пер'я па мураўцы, гэй, лолым!
Роніць пер'я па мураўцы, лолым!
А за ёю красна панна, гэй, лолым!
А за ёю красна панна, лолым!
Пер'е брала, ў хустку клала, гэй, лолым!
Пер'е брала, ў хустку клала, лолым!
З хусткі брала, вянец віла, гэй, лолым!
З хусткі брала, вянец віла, лолым!
Звіла вянец, пашла ў танец, гэй, лолым!

19. Зак. 1108

Звіла вянец, пашла ў танец, лолым!
Скуль нашоўся буйны вецер, гэй, лолым!
Скуль нашоўся буйны вецер, лолым!
Зарваў вянец на Дунаік, гэй, лолым!
Зарваў вянец на Дунаік, лолым!
Плыне вянец Дунаічкам, гэй, лолым!
Плыне вянец Дунаічкам, лолым!
Бяжыць панна беражэчкам, гэй, лолым!
Бяжыць панна беражэчкам, лолым!
Спаткала тры рыбалоўцы, гэй, лолым!
Спаткала тры рыбалоўцы, лолым!
— Рыбалоўцы, ўсе тры малойцы, гэй, лолым!
Рыбалоўцы, ўсе тры малойцы, лолым!
Ой, закіньце шаўкоў невад, гэй, лолым!
Ой, закіньце шаўкоў невад, лолым!
А злавіце павін вянец, гэй, лолым!
А злавіце павін вянец, лолым!
— Што ж нам, панна, за дар дасі, гэй, лолым!
Што ж нам, панна, за дар дасі, лолым!
— А аднаму — павін вянок, гэй, лолым!
А аднаму — павін вянок, лолым!
А другому — злотны персцень, гэй, лолым!
А другому — злотны персцень, лолым!
А трэцяму — сама млада, гэй, лолым!
А трэцяму — сама млада, лолым!
Сама млада, як ягада, гэй, лолым!
Сама млада, як ягада, лолым!
Як ягада баравая, гэй, лолым!
Як ягада баравая, лолым!
Як вішанька садавая, гэй, лолым!
Як вішанька садавая, лолым!

*Арацыя:*
Што ж нам, панна, за дар дасі?
Копу яек на паўміску,
Злотам, срэбрам акружона,
Белым сырам завяршона.
Жэб та панна прэндка росла,
В тым року замонж пошла,
Ні за еднэго, то за другего
Альбо тэж за мне младэго.

## 232

Ходзіць пава па вуліцы, гэй, віно!
Ходзіць пава па вуліцы, віно!
Роніць пер'е па мураўцы, гэй, віно!
Роніць пер'е па мураўцы, віно!
А за ёю панна красна, гэй, віно!
А за ёю панна красна, віно!
Пер'е брала, ў хустку клала, гэй, віно!
Пер'е брала, ў хустку клала, віно!
З хусткі брала, вянец віла, гэй віно!
З хусткі брала, вянок віла, віно!
І ўпусціла ў Дунаечкі, гэй, віно!
І ўпусціла ў Дунаечкі, віно!
Ішлі тры рыбакі, усе тры брацці, гэй, віно!
Тры рыбакі, ўсе тры брацці, віно!
— А закіньце шоўкаў невад, гэй, віно!
А закіньце шоўкаў невад, віно!
І ўлавіце з павы венец, гэй, віно!
І ўлавіце з павы венец, віно!
— А цо ж пані за дар дае, гэй, віно!
А цо ж пані за дар дае, віно!
— А еднэму — злоты персцень, гэй, віно!
А еднэму — злоты персцень, віно!
А другему — з павы венец, гэй, віно!
А другему — з павы венец, віно!
А тшэцему — сама млода, гэй, віно!
А тшэцему — сама млода, віно!
Сама млода, як ягода, гэй, віно!
Сама млода, як ягода, віно!
Як вішанька садавая, гэй, віно!
Як вішанька садавая, віно!
Як ягадка баравая, гэй, віно!
Як ягадка баравая, віно!

## 233

Ляцела пава павучыстая,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
Пушчала пер'е пазлацістае.
А там дзевачка каровы гнала,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Каровы гнала, пер'е збірала,
Пер'е збірала, ў рукавок клала,
З рукаўка брала, вяночак віла.
Звіўшы вяночак, да й прышпіліла,
А прышпіліўшы, пахілілася,
Свайму татульку пахвалілася:
— А ніхто майго вянка не сарвець.
Як узняліся шуры да буры,
А як сарвалі да й пакацілі.
Пайшла дзевачка да й шукаючы,
Да й шукаючы, а й пытаючы.
Рыбаловыя рыбу лавілі.
— Рыбаловыя, добрыя людзі,
Ці не відзелі пярловы вянок?
Ой, адзін кажыць: «А я не відзеў».
А другі кажыць: «А я не бачыў».
А трэці кажыць: «Я ў руках дзяржаў,
Я ў руках дзяржаў, на мора пускаў».
— Рыбаловыя, добрыя людзі,
А закіньце ж вы шаўковы шацень,
А дастаньце ж вы парловы вянок,
Парловы вянок, залаты вяршок,
Дарма не хачу, я вам заплачу.
Аднаму я дам шаўкову хусту,
Другому я дам персцень залаты,
Трэцяму я дам белую руку.
Белая хуста — то свёкарка мой,
Залаты персцень — то дзеверка мой,
Белая рука — то міленькі мой.

## 234

Лятала пава ды павучыстая,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
Раняла пер'е ды пазлацістае.
Гнала Ніначка ды статачак ў поле,
Статачак гнала ды пер'е збірала.
Большае пяро клала ў рукавок,
Меншае пяро клала ў падалок,
З падалка брала ды вяночак віла,
З рукаўка брала ды давівала.

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Звіла вяночак, пайшла ў таночак.
Пайшла ў таночак, пакланілася,
Роднаму татку ды пахвалілася:
— Ніхто не сарвецъ пярловы вянец,
Ветры не звеюць, дажджы не змыюць.
Як узняліся ды шуры-буры,
Як сарвалі ды пярловы вянец,
Як сарвалі ды й пакацілі
На сіне мора ды на лукамор'е.
Пашла Ніначка ды ўсё шукаючы,
Ўсё шукаючы ды пытаючы.
Спаткала яна да трох рыбалоўчыкаў.
— Рыбалоўчыкі, ды вы братцы мае,
Ці не відзелі ды пярловы вянец?
Адзін жа кажыць: «А я не відзеў».
Другі жа кажыць: «А я не бачыў».
Трэці жа кажыць: «А я ў руках дзяржаў,
Я ў руках дзяржаў, на мора пускаў».
— Рыбалоўчыкі, ды вы братцы мае,
А закіньце ж вы да шаўковую сець,
А злавіце ж вы ды пярловы вянец.
Дарма не хачу, ды я вам заплачу.
— А што ж ты дасі, млода Ніначка?
— Аднаму я дам белую хусту,
Другому я дам белую руку,
Трэцяму я дам залаты персцень.
Што хусту дала, ды то на ўціранне,
Што руку дала, ды то на вітанне,
Што персцень дала, ды то на мянянне.
Што хусту дала, то свёкарка мой,
Што руку дала, то дзеверка мой,
Што персцень дала, то міленькі мой.

## 235

Ляцела пава размавістая,
[Вясна красна на ўвесь свет!]*
Раняла пер'е пазлацістае,
Раняла пер'е ў зялёну траву.
А там хадзіла слічна паненка,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Слічна паненка малада Галечка.
Пер'е збірала, у хвартушок клала,
З хвартушка бярэ, вяночак віе.
Звіўшы вяночак,— на галовачку,
А й пашла ж яна пахваляючыся:
«А ніхто ж майго венчыка не сарве».
А ўзняліся ды шуры ды буры
А сарвалі ж яны пярловы вянок,
А заняслі ж яны ды на сіне мора,
На сіне мора ды на сіне [а]зёра.
А пашла ж яна сільна плачучы,
Ручкі ломячы, слёзкі ронячы,
Да татулечкі а да роднага.
— А ідзі ж, пайдзі, мой венчык найдзі.
Татулька пайшоў, венчык не найшоў.
А пашла ж яна а й заплакаўшы.
А пашла ж яна на сіне мора,
На сіне мора, на сіне [а]зёра.
Ой, там рыбаловы рыбу лавілі.
— А вы рыбаловы, вы братцы мае,
А закіньце вы шаўковы сеці,
А паймайце ж вы пярловы вянок.
— А якая ж будзе нам заплатачка?
— Аднаму я дам белу хустачку,
Другому я дам да белу ручачку,
А за трэцяга я сама пайду.

## 236

А ляцела пава разманістая,
Зялён явар, кудравы! *
Папушчала пер'е залацістае.
Хто ж тое пер'е падбіраць будзе?
Падбірала маладая Танька.
Яна падбірала, ў рукавок клала,
З рукаўка брала вянок завівала,
Савіла вяночак, пайшла й ў таночак.
А схваціліся буйныя вятры,
Буйныя вятры, дробныя дажджы.
А схапілі ў яе з галоўкі вяночак.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Як пайшла ж яна лужком-беражком,
Лужком-беражком вяночка шукаці.
А стрэла ж яна трох рыбалачак.
— Вы рыбалачкі, мае братачкі,
Ці не бачылі вы майго вяночка?
Адзін кажа: «Я ж яго бачыў».
Другі кажа: «Я ж яго лавіў».
Трэці кажа: «Я ж яго паймаў,
Я ж яго паймаў, ў рукавок паклаў».
— Вы рыбалачкі, мае братачкі,
Да й аддайце ж мой вяночак.
— Тады й аддам, як будзеш мая.

## 237

Лятала пава з сяла да саду,
Зялёны сад вішнёвы!*
Раняла пер'е ў зялёну траву.
А там Ніначка да кароў ганяла,
Кароў ганяла, пер'е збірала,
Пер'е збірала, ў рукавок клала,
З рукаўка брала, вяночак віла.
Звіўшы вяночак, пашла ў таночак,
Пашла ў таночак пахваляяся:
«А ніхто, ніхто вянок не сарвець,
Ні шуры-буры да ні буйны ветры».
Як узняліся, ай, шуры-буры,
А як сарвалі да пярловы вянок,
А як panяслі да на сіне мора.
Там рыбаловы да рыбу лавілі.
А пашла ж яна к тым рыбаловам.
— Ай, рыбаловы, да вы братцы мае,
Ай, закідайце ж вы сеці свае,
Ай, улавіце да пярловы вянок.
Дарма не хачу, я вам заплачу.
— А што, Ніначка, за плату дасі?
— Аднаму я дам залаты кубак,
Другому я дам шаўковы рушнік,
Трэцяму я дам белую руку,
За белай рукой я й сама пайду.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Аднаму буду да я суседачка,
Другому буду я швагерачка,
Трэцяму буду я братовачка,
А чацвёртаму да верная жана,
Верная жана да вечная слуга.

## 238

Ляцела пава па саду, саду,
Зялёна ёлка, зялёна!*
Пушчала пер'е ў зялёну траву.
А там Танечка каровак гнала,
Каровак гнала, пер'е збірала,
Большае пер'е—у прыпалочак,
Меншае пер'е—у рукавочак.
З прыпалка брала, вяночак віла,
А з рукаўка брала дый надвівала.
Завіла вяночак дый пуховенькі,
Пуховенькі дый руцявенькі.
Пайшла ў садок к дзеўкам у радок,
Усім дзеўкам пакланілася,
Пакланілася дый пахвалілася:
— А мой вяночак вятры не знясуць,
Вятры не знясуць, дажджы не змочуць.
А як пайшлі буйныя дажджы,
А як узняліся буйныя вятры,
І падхвацілі, і пакацілі
У чыста поле, на сіне мора.
Ідзець Танечка, ручанькі ломіць,
Ручанькі ломіць, рыбаловаў просіць:
— Рыбалоўчыкі, вы малойчыкі,
Закіньце ж вы невад шаўковы,
А злавіце мне вянок пуховы.
— А што ж ты нам за гэта дасі?
— Я так не хачу, я вам заплачу.
Аднаму я дам кубак медзяны,
А другому дам рушнік бялёвы,
А за трэцяга я й сама пайду.
Кубак медзяны — умывацціся,
А ручнік бялёвы — уціраціся,
А са мной, з маладой, павянчаціся.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 239

Ляцела пава распавістая,
Раняла пер'е пазлацістае.
А там Галечка статачак гнала,
Статачак гнала, пер'е збірала,
Пер'е збірала, у рукавок клала,
З рукаўка брала, вяночак віла,
А звіўшы, ды пакаціла,
А пакаціўшы, і пазлаціла,
А пазлаціўшы, і прышпіліла,
А прышпіліўшы, на вулку пайшла,
На вулку пайшла, пахвалілася,
Добрым молайцам паручылася:
— Ніхто ў мяне вянка не сарвець.
Як узняліся ветры ды буры
І сарвалі вяночак із галавы.
Пайшла Галечка лужком-беражком,
Лужком-беражком вянка шукаці.
Спаткала яна трох рыбаловаў.
— Рыбаловы, мілыя мае,
А закіньце вы шаўковыя сеці,
А ўлавіце мне пярловы вяночак.
Дарма не хачу, усім тром заплачу.
Аднаму я дам шаўковую хустку,
Другому я дам залато кальцо,
Трэцяму я дам белу руку.
Шаўковы платок—на ўціранейка,
А залато кальцо—на вянчанейка,
А бела рука—навек на жыццё,
Навек на жыццё, на багацейка.
Затым, Галечка, бывай здарова,
А будзь багата, як сыра зямля,
А будзь здарова, як сільна вада,
А будзь красіва, як ясна сонца.

## 240

Ляцела пава цераз паплава.
Яна летучы пер'е раняла.
Раняла пер'е да й на карэнне.
Ой, туды ішла слічна панначка,

Слічна панначка, панна Волечка,
Тое пер'ейка да й пазбірала,
Да й пазбірала, на скам'ю клала,
А з скам'і брала, вяночак пляла.
Звіла вяночак, пайшла ў садочак.
Адкуль ўзяліся буйныя вятры,
Вох, як падулі, вяночак здулі.
Ой, пайшла ж яна да й гукаючы,
Да й гукаючы, да й шукаючы.
Ой, сустрачае тры малойчыкі.
— Ой, мілы ж мае тры малойчыкі,
Ці не бачылі руцвян вяночак,
Руцвян вяночак, залаты пярсцёнак?
Ой, адзін кажа, што я не бачыў,
А другі кажа, што ■ й чуць не чуў,
А трэці кажа: «Слічна панначка,
Слічна панначка, панна Волечка,
Панна Волечка, што абяцаеш?»
— Ой, я першаму—руцвян вяночак,
А я другому—залаты пярсцёнак,
Ой, я трэцяму—сама малада.

## 241

Тонка лёнка-канапелька,
Гэй, віно, тонка лёнка-канапелька!*
Яшчэ тоньша Гандзюленька,
Паву пасе, пер'е бярэ,
Што сабярэ, то—ў хвартушок,
А з хвартушка вянок віе,
Віе, віе, перавівае,
Да галоўкі прышчапляе.
Скуль жа ўзялісь буйны ветры
І звеялі павін вянец,
І панеслі ў быстры Дунай.
Да Дунаю сцежка ідзе,
На той сцежцы камень ляжыць,
На камені — тры малойцы.
— Ах, мае ж вы малойчыкі,
Закідайце шоўкаў невад,

---

* Кожны радок паўтараецца з рэфрэнам «Гэй, віно!»

Выцягніце павін вянец!
— Што ж нам будзе за награда
За шаўковага невада!
— А першаму — павін вянец,
А другому — злоты персцень,
А трэцяму — сама млода,
Сама млода, як ягода,
Як ягадка ў буйным лесе.
— А ты, Гандзя, будзь вясёла,
Вазьмі персцень і да стола,
А ад стола — да парога,
Ад парога — да каморы:
Сем пар яек на паўміску,
Сырам, маслам завярнуўшы,
Каўбаскаю абкружыўшы!
Каб ты, Гандзя, замуж выйшла,
На вяселле папрасіла,
За гадок сыночка мела
І нас кумамі пабрала!

*Прымоўка:*
Ваша курка чубасценька
Нясе яйка часценька,
Ваша курка чорна
Нясе яйка ў жорна!

### 242

А Манечка,
[Зялён явар, наш, зялён!]*
Маладзенька
Па саду хадзіла,
Розу садзіла,
Палівала,
Бога прасіла:
— Да дай божа,
Гэта роза
Да ўдалася,
У вяночкі
Павілася,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Татку з мамкай
На пацеху,
А мне, млодзе,
На пакрасу.
Гэта роза
Да ўдалася,
У вяночкі
Павілася
Да пусціла
Златы венчык
У сіне мора.
Ішлі, пайшлі
Тры малойцы-
Рыбалоўцы
Да спаймалі
Златы венчык.
Самаму старшаму —
Адзін цвяточак,
А сярэдняму —
Весь вяночак,
А меншаму —
Сама млода.

### 243

У гародзе, у частаколе,
Да віно ж наша зеляное!*
Да не мак-роза расцвітала,
Да не мак-роза — белая бяроза.
На той бярозе ўсялякія кветкі,
І зялёныя, і чырвоныя.
Там хадзіла слічна паненка,
Слічна паненка малада Марыська.
Яна хадзіла, кветкі сашчыпала,
Кветкі сашчыпала, у скрыначку клала,
З скрыначкі брала, вянкі віла,
Вянкі віла, на галоўку клала.
Прышла ж яна да на вулачку,
Стала ж яна да на ганачку.
Да ўсхадзіліся ветры буйныя,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Ветры буйныя, дажджы дробныя,
Той вяночак да й раздзьмула,
Да й раздзьмула, да і разгнятло.
Пашла ж яна да гукаючы,
Свайго венчыка да шукаючы.
Ідзе поле, ідзе другое,
На трэцяе сасупае,
Трох малойцаў сустракае.
— Вы кукольнічкі, вы малойчыкі,
Раскажыце мне, дзе вяночак мой.
— Мы табе загадаем сем загадак,
Адгадаеш — наша будзеш,
Не адгадаеш — айцова будзеш.
Да што бяжыць без повада?
Да што расце без кораня?
Да што цвіце жоўтым цветам?
Да што гарыць без полымя?
Да што раба не рабячы?
Да што бела не белячы?
Яна стала, адгадала:
— Вада бяжыць без повада,
Камень расце без кораня,
Рута цвіце жоўтым цветам,
Рожа гарыць без полымя,
Дзяцел рабы да не рабячы,
Лебедзь белы да не белячы.

## 244

А ў бару, бару там дзяўчына коні пасціла,
Зялёны сад вішнёвы!*
Коні пасціла ды пагубляла,
А шукаючы заблудзіла.
Прыблудзіла к сіняму мору,
Там рыбаловы рыбу лавілі.
— Рыбаловы мае мілыя,
А ці відзелі вы маіх коней?
Адзін кажа: «Шчэ я не відзеў».
А другі кажа: «Шчэ я не бачыў».
А трэці кажа: «Шчэ я відзеў».

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

— А што ж нам будзець да за платачка?
— Аднаму буду я суседачка,
А другому буду я нявестачка,
Трэцяму буду мілая жана,
Мілая жана, гаспадынечка.
Я суседу віно паднясу,
А я свёкарку ножкі разую,
А я міламу пасцель пасцялю,
Пасцель пасцялю, яго накрыю.

## МІЛЫ ЗНАХОДЗІЦЬ ДЗЯУЧЫНЕ ПЯРСЦЕНАК

### 245

А ў ляску, ляску на жоўтым пяску,
Зялёны явар, дуброва!
Стаіць святліца з трыма акнамі,
Спявайце, братцы, спявайце! *
У адно аконца ўсходзіць сонца,
У друго аконца ўсходзіць месяц,
У трэцце аконца прыляцеў сокал.
Прыляцеў сокал, ураніў слёзку,
А з той слязінкі ручаёк паплыў.
Пайшла Марылька кубачкі мыці,
Кубачкі мыла, кальцо згубіла.
А пайшла ж яна да свайго дому,
А ўпала ж яна татачку ў ногі:
— Татачка, ідзі, калечка знайдзі!
Татачка пайшоў, кальца не знайшоў.
А пайшла ж яна да свайго дому,
А ўпала ж яна мамачцы ў ногі:
— Мамачка, ідзі, калечка знайдзі!
Мамачка пайшла, кальца не знайшла.
А пайшла ж яна да свайго дому,
А ўпала ж яна Іваньку ў ногі:
— Іванька, ідзі, калечка знайдзі!
Іванька пайшоў, калечка знайшоў,
У правай ручаньцы калечка нясець
За леву ручаньку Марыльку вядзець.

### 246

А на рэчаньцы на быстранькай,
Зялён явар, зялёны! **

---

* Рэфрэны «Зялёны явар, дуброва!» і «Спявайце, братцы, спявайце!» паўтараюцца па чарзе праз адзін радок.
** Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

На кладачцы на гібчанькай
Там дзевачка бель бяліла,
Бель бяліла, хустку мыла,
Золат персцень ураніла.
Прыйшла дамоў — татульку чалом:
— Едзь, татулька, па золат персцень.
Татулька кажа: «Я не паеду:
Мой конічак не кованы,
На бел камень ён не станіць,
На сіне мора ён не ўзгляніць,
Золат персцень не дастаніць».
Прыйшла дамоў — міламу чалом:
— Табе, мілы, ехаць па золат персцень.
Мілы кажа: «Я й паеду:
Мой конічак падкованы,
На бел камень ён жа станіць,
На сіне мора ён узгляніць,
Золат персцень ён дастаніць».

## 247

Да на рэчцы, рэчцы,
Да на гібкай кладцы,
[Вясна красна на ўвесь свет!]*

Там паненка бель бяліла
І персня забыла.

— Да паедзь, паедзь, мой брацейка,
Да па мой персцень залаценькі,

Да па мой вянок,
Да руцвяненькі.

Брацейка да едзе,
Да персня не вязе.

— Да паедзь, паедзь,
Да мой міленькі,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага двухрадкоўя.

Да па мой персцень,
Да залаценькі,

Да па мой вянок,
Да руцвяненькі.

Міленькі едзе,
Персцень вязе.

## 248

А на моры, моры, моры сіненькім,
А зялён явар, кудравы!*
Да на кладачцы, да на гібенькай
А там дзевачка белю бяліла,
Белю бяліла, персцень ураніла.
А каму ж ехаць персніка шукаці?
А татачку ехаць персніка шукаці.
А татачка кажа: «Я каня не маю,
Я каня не маю, персня не знаю».
А братачку ехаць персніка шукаці.
А братачка кажа: «Я каня не маю,
Я каня не маю, персня не знаю».
А міламу ехаць персніка шукаці.
«Я каня маю, персьнік я знаю».

## 249

А на морыцы
[Зялён явар наш, зялён!]*
А на сіненькім
Млода паненка
Бяльё бяліла,
Залаты пярсцён
Яна ўтапіла.
А пашла ж яна
Татачку прасіць:
— А мой татачка,
А мой родненькі,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

20. Зак. 1108

Запражы каня,
А паедзем мы
На сіне мора,
А дастанем мы
Залаты пярсцён.
— Дачушка мая,
Мае конікі
Неубраныя,
Неўкаваныя.
А схадзі ж ты
К міламу свайму,
Яго конікі
І убраныя,
І ўкаваныя,
А паедзеце ж
На сіне мора,
А дастанеце
Залаты пярсцён.

## 250

Малада Манечка скуты бяліла,
Зялёна елка, сасонка!*
Скуты бяліла, ключы згубіла.
Як дала чалом за мамачкай дамоў:
— Маманька, хадзі, ключыкі знайдзі!
Маманька пайшла, ключы не знайшла.
Як дала чалом за татанькам дамоў:
— Татанька, ідзі, ключыкі знайдзі!
Татанька пайшоў, ключы не знайшоў.
Як дала чалом за міленькім дамоў:
— Міленькі, хадзі, ключыкі знайдзі!
Міленькі пайшоў, ключыкі знайшоў.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 251

За сеньмі да й за новымі,
У агародзе на пагодзе
Не мак-роза расцвітала.
Там дзевачка пахаджала,
Рабы хвартух рассцілала,
Тую розу сашчыпала,
Бела ліцо украшала.
— Каб маё ліцо [такое] было,
Як [гэта] рожа чырвоная,
То я не пашла б ні за селяніна,
[Ні за селяніна], ні за двараніна,
А пашла б за крулёва сына,
Ён па полі паязджае,
Ён з коніка не злязае,
Нікому шапкі не здымае,
Із стрэмені ногі не вымае.
Цераз поле едзе — поле ззяе,
Цераз места едзе — места йграе.
Павыходзілі усе мяшчаначкі,
Сталі таму дзіву дзівавацiся:
— Добра таму, чый сын едзе,
А лепей таму, чый зяць будзе.

## 252

Ва гародністку да на тачыльнічку,
Да віно ж наша зялёнае! *
Там мак-рожа расцвітала.
Там Танечка пахаджала,
Тую мак-рожу сашчыпала,
К свайму лічыку раўнавала:

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

— Каб маё ж ліцо да тако было,
Як гэта мак-рожа чырвоная,
Не пашла б я ні за селяніна,
Ні за селяніна, ні за двараніна,
Ды пашла б я за крулёва сына,
Што з коніка не ссядае
Мяча з пляча не знімае.
Цераз поле едзе — поле ззяе,
Цераз места едзе — места йграе.
Павыходзілі ўсе паненачкі,
Усе паненачкі, ўсе мяшчаначкі,
Сталі таму дзіву дзівавацїся.
Адна кажа: «Слаўны, ды чый жа сын будзе».
Друга кажа: «Яшчэ слаўней, чый зяць будзе».
Трэця кажа: «Яшчэ слаўней, чый муж будзе».

## 253

Ў гародчыку зеляненькім,
Зялён явар, кудравы!*
Стаіць ружа чырвоная.
Выйшла, выйшла красна паненка
Красна паненка малада Аленка,
Тую ружу пашчыпала,
К свайму ліцу раўнавала:
— Каб я была, як ружова кветка,
Як ружова лісцінaчка,
Была ж бы я крулёвачка,
Ездзіла ж бы шасцьмі канямі,
З фурманамі, з малайцамі!

## 254

У гародзе, ў частым частаколе,
Вясна красна на ўвесь свет!
Не мак-ружа расцвітала,
Зялён явар, кудравы! **

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.
** Рэфрэны «Вясна красна на ўвесь свет!» і «Зялёны явар, кудравы!» паўтараюцца па чарзе праз адзін радок.

Наляцелі птушкі з-за сіняга мора,
Яны ж тую ружу абшчыкаталі,
Абшчыкаталі ды параскідалі.
Выйшла, выплыла маладая Галя,
Яна ж тую ружу пазбірала,
Пазбірала, к ліцу раўнавала:
— Каб я така была, як гэтая ружа,
Не пайшла б я ні за селяніна,
Ні за селяніна, ні за двараніна,
А пайшла б я за такога пана,
За такога пана, як я сама,
Што з коніка не ссядае,
З плеч шабелькі не знімае.
Мы ж табе пелі, мы шчабяталі,
Як салавейка ў ціхім лузе,
У ціхім лузе ды на каліне.
Ты ж каліна, не ззыбніся,
Маладая Галя, не ўлякніся,
Выйдзі-выйдзі ды на ганачак,
Вынесь-вынесь ды падарачак,
Ды падарачак — копу яечак,
Копу не копу, а паўкапы мала,
Тры тысячы не лічачы!
Мы ж твае дары самі пералічым,
Маладую Галю самі падвялічым.
Два-тры злоты нам на боты,
Мы ж свае боты самі патапталі,
Маладой Галіне жаніха шукалі!
Песня спета проці лета,
Проціў новага і здаровага,
І здаровага і вясёлага!

## 255

Тынам, тынам, ды не частаколам,
Ды віно ж маё зеляно!*
Край частакола ды вырасла ружа.
Выйшла, выбегла красная паненка,
Красная паненка на імя Аленка,
Тую ружу сашчыпала,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

К свайму лічку меркавала:
—Ой, дай, божа, мне такое лічка,
Як чырвона гэта ружа!
Не пайшла б я ні за селяніна,
Ні за селяніна, ні за двараніна,
А пайшла б я за такога пана,
Што на кані раз'язджае,
З страмён ножак не вымае.
Просім цябе да нас выйсці,
Нам за песню заплаціці:
Сорак яек ды на паўмісак,
Каўбасою абкружыці,
Белым сырам завяршыці.

*Віншаванне:*

Дай божа, каб узрасла, ускрасла,
За харошага малайца замуж пайшла,
Проша даць, не жалаваць,
Каб было за што падзенькаваць!

**256**

У агародчічку на тачыльнічку,
Зеляно віно, зеляно!*
Там мак-ружа расцвітала,
Там дзеванька пахаджала,
Тую мак-ружу сашчыпала,
Сашчыпала, ў рукавец клала,
К свайму ліцу прыкладала.
— Каб маё ліцо такаво было,
Як мак-ружа, прыгожае,
Не пайшла б я ні за двараніна,
Ні за двараніна, ні за шляхцяніна,
А пайшла б я за такога пана,
За такога пана, як я сама,
Што з коніка не ссядае,
З плеч шабелькі не знімае,
Цераз поле едзе — поле ззяе,
Цераз места едзе — места гаворыць:
«Добра таму бацьку, чый сын будзе,
Яшчэ таму лепей, чый муж будзе!»

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 257

Да ў вагародзе на пераходзе,
Вясна красна на двара!*
Там жа рожа зацвітала,
Слаўная паненка рожу сашчыпала,
Сашчыпала, ў рукаве склала,
З рукава вымала, к ліцу раўнавала.
— Каб маё ліцо гэтакае была,
Не пашла б я за селяніна,
Ні за селяніна, ні за дваранiна,
Да пашла б я за такога пана,
За такога пана, як і́ я сама,
Што з конічка не ссядае,
З страмень ножак не вымае.
Да яго конічак сільна бяжыць,
Капыткамі зямельку сячэ,
А вочкамі зоркі лічыць,
А вушкамі вайну чуе.

## 258

У гародзе да на пераходзе,
Чырвоны цвет на ўвесь свет!*
Там дзевачка пахаджала,
Чырвоную рожу пашчыпала,
К свайму ліцу прыраўняла.
— Каб маё ліцо да было такое,
Не пашла б я замуж ні за кога,
Толькі б пашла за таго пана,
Што з коніка не ссядае,
Ножак з страмён не вымае,
Повад з ручак не пускае.

## 259

Між клеткамі, між новымі,
Эй, то-то, да між клеткамі,
Ло-ло, між новымі, ло-ло!

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Расце рожа чырвоная,
Эй, то-то, да расце рожа,
Ло-ло, чырвоная, ло-ло!
Туды бегла красна панна,
Эй, то-то, да туды бегла,
Ло-ло, красна панна, ло-ло!
Вышчыкнула з рожы кветку,
Эй, то-то, да вышчыкнула,
Ло-ло, з рожы кветку, ло-ло!
Раўнявала к свайму лічку,
Эй, то-то, да раўнявала,
Ло-ло, к свайму лічку, ло-ло!
— Каб такое ліцо было,
Эй, то-то, да каб такое,
Ло-ло, ліцо было, ло-ло!
Як гэтая з рожы кветка,
Эй, то-то, да як гэтая,
Ло-ло, з рожы кветка, ло-ло!
Не пашла б я за селяніна,
Эй, то-то, да не пашла б я,
Ло-ло, за селяніна, ло-ло!
Да пашла б я за двараніна,
Эй, то-то, да пашла б я,
Ло-ло, за двараніна, ло-ло!
Ён коніка асядлае,
Эй, то-то, да ён коніка,
Ло-ло, асядлае, ло-ло!
Па постаці паязджае,
Эй, то-то, да па постаці,
Ло-ло, паязджае, ло-ло!
Каньчука з рук не пускае,
Эй, то-то, да каньчука,
Ло-ло, з рук не пускае, ло-ло!
Сорак работ прыганяе,
Эй, то-то, да сорак работ,
Ло-ло, прыганяе, ло-ло!
Ў селяніна з постам бацвінне,
Эй, то-то, да ў селяніна,
Ло-ло, з постам бацвінне, ло-ло!
А у двараніна арох, сланіна,
Эй, то-то, а у двараніна,
Ло-ло, арох, сланіна, ло-ло!
Ён без порцы есць не сядзе,

Эй, то-то, да ён без порцы,
Ло-ло, есць не сядзе, ло-ло!
Без дзеўчыны спаць не ляжа,
Эй, то-то, без дзеўчыны,
Ло-ло, спаць не ляжа, ло-ло!

## 260

А ў гародзе ды на пераходзе
Стаіць ружа чырвоная,
Віно ж маё, віно зеляно! *

Выйшла, выбегла красная паненка,
Красная паненка на імя Аленка,

Вышчыкнула з ружы кветку
Ды меркавала к свайму лічку:

— А дай, божа, такое лічка,
Як із ружы гэта кветка,

То пайшла б я за садавода,
Бо садавод сады садзіць.

Перщы садок ды вішнёвы,
Другі садок ды чарашнёвы,

Трэці садок краснае паненкі,
Краснае паненкі маладой Аленкі.

Гэта песня табе спета,
Песня спета проці лета.

А што панна, за дар дасі?
Сорак яек на паўміску,

Каўбасою абкружыўшы,
Белым сырам завяршыўшы.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнай страфы.

261

За клеткаю за новаю,
Да лалым, лалым, гэй, лалым!*
Расла рожа зялёная.
Выйшла паненка
Тонка, бяленька,
Тую рожу зашчыпала,
К свайму ліцу раўнавала.
— Каб маё ліцо такое стала,
Не пайшла б я ні за кога,
Ні за двараніна, ні за мешчаніна,
Да пайшла б я за такога пана,
Што ў Варшаве прабываець,
Суды судзіць, перасуд бярэць.
Туды ляцелі два галубочкі,
Выкінулі яны па жалудочку,
На тых жалудочках расцець па дубочку,
Залатое лісце, срэбная раса.
А хто ж тое лісце зломіць?
А хто ж тую расу струсіць?
Маладая паненка расу струсіць,
Расу струсіць і лісце зломіць.
Маладая паненка, даруй гасцей,
Даруй гасцей, не баў, бардзей.
Гэтыя госці не часта ходзяць,
Не часта ходзяць, не па многа просяць:
Чырвен злоты на талерку,
Валоўнікам на гарэўку,
Чырвен злоты — нам на боты,
Гарнец піва — нам на дзіва,
Гарнец мёду — на выгоду.
Красна панна, даруй гасцей,
А не хочаш даравацi —
Хадзі з намі вандравацi.
Даўшы дары, будзь здарова,
Будзь весела, будзь багата,
А налета — сама пята.
Будзь так красна, як бы вясна,
Восені не жджы — замуж ідзі.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 262

У гародчыку-частакольчыку,
Яркае сонца ў ваконцы!*
Чырвона рожа расцвітала,
А туды ж пашла слічна паненка,
Яна тую рожу сашчыпала,
К свайму ліцу раўнавала:
— Каб маё ліцо такаво было,
Такаво было, як гэтая рожа,
Як гэта рожа, чырвона, прыгожа,
Не пашла б я за мужыка замуж,
А пашла б я за таго пана,
За таго пана, што ў Магілёве,
Што ў Магілёве суды судзіць,
Суды судзіць, перасуд бярэць,
А мне, моладзе, ўсё падаркі шлець:
Майму татульку — стольны горад,
Маёй матульцы — лісюю шубу,
Маім братулькам — ды па шапачцы,
Маім сястрыцам — ды па венчыку,
А мне, моладзе,— залаты персцень,
Залаты персцень у паперачцы,
У паперачцы, на талерачцы.

## 263

У гародчыку, у красотчыку,
Вясна красна на ўвесь свет!*
Чырвона роза расцвітала.
Там паненка ўмывалася,
Свайму ліцу дзівілася:
— Каб маё ліцо, як гэта роза,
Не пайшла б я ні за селяніна,
Ні за тога дваровага сына,
А пайшла б я за таго пана,
Што суды судзіць, перасуджвае.
Купіў бы пан жане да шубачку,
А дачушцы — да сукеначку,
А сыночку — да коніка.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Жана ў шубцы пахаджаць будзе,
Дачушка ў сукенцы танцаваць будзе,
Сынок на коніку паязджаць будзе.

## 264

А ў гародзе на пагодзе,
Ды віно ж маё зеляно!*
Стаіць ружа ружавая.
Вышла, выцекла красна паненка,
Тую ружу сашчыкнула,
Свайму ліцу меркавала.
— Каб маё ліцо такавое было,
Як та ружа ружавая,
Не пашла б я ні за кога,
Ні за двараніна,
Ні за мешчаніна.
Вот пашла б я за такога пана,
Што ў Варшаве суды судзе,
Суды судзе, перасуд бярэ,
Сваёй жане гасцінцы шле,
Сваім дочкам — па вяночку,
Па вяночку залаценькім,
Сваім сынкам — па канёчку,
Па канёчку вараненькім,
Па сядлочку залаценькім.

## 265

Добры вечар, панянэчка!
Да й но ж віно зеляно! *
Проша 'дэмкнуць акянэчка,
Да паненкі велька справа,
Каб ты быстра замуж вышла.
Ой, там хлопцы-рыбалоўцы,
Закінулі доўгі невад,
Закінулі доўгі невад,
Вылавілі ж вельку шчуку,
А на рыбе луска залаціста.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

А хто ж луску абдзіраць будзе?
Прыгожа паненка, млода дзеўка.
—Я луску ды абдзірала,
К свайму твару раўнавала.
Ой, дай, божа, мне лічка такое,
Як на гэтай рыбе луска залацістa.
Копу яек на падарак,
Ой, як копу, а паўкопы мала.
Проша даваць, не жаловаць,
Будзем табе бардза дзеньковаць.

## 266

А над морам да над беражочкам,
Да віно ж, віно зеляно!*
Красна паненка бель бяліла,
Залаты персцень утапіла.
— А пайду ж я да рыбалоўцаў,
Рыбалоўцы — добрыя хлопцы.
Яны мяне паслухалі,
Шаўкоў невад закідалі,
Залаты персцень даставалі
Да злапалі шчуку-рыбу.
На той рыбе луска залацістa.
А хто ж яе сабіраць будзе?
Красна паненка маладая Аленка.
Яна тую луску сабірала
Да у сваю хустачку завівала,
Да к свайму ліцу раўнавала:
— Да дай, божа, мне такое ліца,
Як гэта луска залацістая.
Просім паненку слаўнаю быці,
Атцу і матцы спакарыцца,
Харашэнька расплаціцца.
Наша плата невяліка:
Сорак яек на паўмісак,
Кілбасою акружыці,
Белым сырам завяршыці,
Саракоўку на падкоўку.
Эх, выйдзем мы да на вулачку,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Да пасядзем мы на горачку,
Да раскоцім па яечку,
Да раскоцім да палічым,
Млоду Аленку да звялічым,
Што Аленка слаўная была,
Харашэнька заплаціла.
Каб на праваднoй нядзелі,
За сталом госцікі сядзелі,
Мёд і віно папівалі,
Млоду Аленку замуж аддавалі.
З добрым бытам,
З буйным жытам!
З млодым жаўнерам,
З найлепшым кавалерам!

## 267

Ляцела пава папялістая,
Да віно ж маё зеляное! *
Паслала пер'е пазлацістае.
Вышла, выбегла красна паненка,
Яна тыя пёры пабірала,
Пабірала, ў хвартух клала,
Свайго ліца раўнавала:
— Каб маё ліцо роўна было,
То не пайшла б я ні за каго,
Ні за двараніна, ні за мешчаніна.
Толькі пашла б за такога,
Што з Варшавы не выязджае,
Перад крулем шапкі не здымае.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## ВАЛАЧОБНІКІ НЯСУЦЬ НАВІНЫ ПАНЕНЦЫ

### 268

Добры вечар, паненачка!
Проша адэмкнанць акеначка,
Проша адэмкнанць і аглёндаць,
Ці тэн едзіць, каго жондаш.
Едзіць паніч не тутэйшы,
Не тутэйшы — загранічны,
Загранічны, пекны, слічны.
Сам панічык маладзенькі,
Пад ім конік вараненькі,
На ім шуба шоўкам шыта,
Пад ім сёдла злотам літа.
Злотам літа, вылівана,
Да паненкі прысылана.
Панянэчко Марынечко,
Даруй гасцей, не баў, бардзей.
А чым будзеш даравацi,
Было б за што дзенькавацi.
Нам [піражок] невялічак,
Сорак яек на паўмісак,
Не лічачы, не мыслячы.
Тыя яйкі мы палічым,
Паненачку павялічым.
Ото ж, панянэчка, пекна Марынечка,
Песня спета процiў лета.
Рок пры року, кавалер пры боку,
Каб вялікая расла,
Да зялёных святак замуж пашла,
Вясёлая была, намі не гардзіла.
Каб мы былі малайцамі,
Падарылі б чырванцамі.

## 269

Добры вечар, паненачка, гэй, віно!
Добры вечар, паненачка, віно!

Адчыні нам акеначка, гэй, віно!
Адчыні нам акеначка, віно!

Чаму ж ты не выглядаеш, гэй, віно!
Бо той едзе, што жадаеш, віно!

Недалёкі, заграні́чны, гэй, віно!
Паніч надта палітычны, віно!

Пад ім конік борзда скача, гэй, віно!
Пад ім конік борзда скача, віно!

Пад ім сядло злотам біта, гэй, віно!
Злотам біта, шоўкам шыта, віно!

І перламі высаджона, гэй, віно!
Пэўна ж, будзеш яго жона, віно!

Бо ты ў гусце, бо ты ў сэрцы, гэй, віно!
Пэўна, станеш на каберцы, віно!

## 270

Паненачка наша, як се маш, кахана?
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
Не спі, умывайся, добра прыбірайся,
Будзеш госці мела, якіх і не знала,
Едуць з Украіны да цябе, дзяўчыны.
Адзін кракавячак, а другі палячак,
Кракавяк з Кракова, а паляк з Вяльбова.
Пазнаш кракавяку па сівым каняку.
Добрае убранне — то перша каханне,
Поляк на каштане — то друге каханне.
Сам ён роду кракоўскего,
На ім сукня французкего,
Пенькны і прыстойны, аліганцен, гойны.

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 271

Добры вечар, ой, пад акянэчка,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
Да ці тут жые сама панянэчка,
Проша адэмкнуць нам і акянэчка,
Проша паслухаць нашае навіны.
Што гадзіна, то й навіна,
Слічны кавалер на паненкі очы,
Слічны, пенькны, дастатэчны,
Для паненкі бардзо гжэчны.
Проша, паненка, нас не таміці,
Проша, паненка, нас надарыці,
Наш падарак — сорак яек.
Сорак яек сорам даваці,
Пятага дэсятка проша пашукаці,
Да дзве саракоўкі нам па падкоўкі.
Да мы пойдзем да гукаючы,
Паненчыны дары сухваляючы.

*Віншаванне:*
Была зіма, тэраз вёсна,
Жэбы паненка велька росла,
А мы здрові былі,
На вясэле прыбылі,
Паненцы рут вянак звілі,
Надзелі на глован,
Назвалі паннон млодан.
Ад року да року
Каб мела мужа пры боку,
З чорным вусам, белым ліцам,
Сам дастатэчны,
Для паненкі мілы, гжэчны.

## 272

А дзень добры, паненачка,
Слічна, пекна паненка! *
Проша адчыніць акеначка,
Проша высці к нам на ганак,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

21. Зак. 1108

Проша вынесць нам падарак,
Нам падарак — капу яек,
Капу не капу, сарачэньку,
Каб усім малойцам
Па яечку стала.
Проша вынесць срэбра, злота,
Срэбра, злота не лічачы,
Срэбра, злота не важачы.
Срэбра, злота самі пераважым,
Мы паненку не зняважым,
Срэбра самі пералічым,
Мы паненку узвялічым.
Мы паненцы кавалера падсватаем,
Сам з Кракова, конь з Альбова,
На ём касцюм сукном біты,
На ём боты за сто злоты,
На ём шапка — злота кветка.
Ехаў цераз мястэчка,
Усе мяшчане дзівуюцца,
Што паненка з ім шлюбуецца.

### 273

Добры вечар, паненачка,
Слічна, пекна паненка! *
Проша з намі прывітацца,
Праз навіны папытацца.
Нашы вясёлыя навіны.
Спадзявайся, паненка, штогадзіны,
Ён прыедзе у абедзе.
У яго конік злотам крыты,
У яго боты за сто злоты.
Палажы кладку да кліч у хатку.
Сыр бяленькі для голаду,
Літар водкі для гонару,
Літар не літар, а паўлітра мала,
Каб усім малойцам весялей стала.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 274

А ў Гэлечкі двор шырокі,
Зялёны явар, зялёны! *
Там Гэлечка трэсачкі збірае,
Трэсачкі збірае, сватоў дажыдае —
А ці з юга, ці з вастоку,
Ліж бы толькі іздалёку.
Едзе паніч маладзенькі,
Пад ім конік вараненькі,
Сядло чорным сукном крыта,
Аксамітам, срэбрам біта.
На ім шапачка, як жар, гарыць,
На ім боцікі лакавыя,
На ім світка атласовая,
На ім штаны саціновыя.
Ён паўсюды паязджае,
Красных дзевак выбірае,
На Гэлечку заглядаецца.
Пэўна, будзеш яго жаною.
Дзяўчыначка, не пужайся,
Выйдзі з хаты павітайся.

Табе, Гэлечка, песенька спета,
Песенька спета напроць лета,
Напроць вясны — жаніх красны,
Каб камары не кусаліся,
Каб хлопчыкі уцяшаліся,
А з валачобнікамі расшчыталіся.

## 275

Добры вечар, паненачка!
Да віно ж маё зялёнае! *
Проша адэмкнуць акянэчка,
Проша выйсці на ганэчак,
Проша спуйжыць на вянэчак.
Тэн вянэчак лямантуровы,
Акурат прыпадне да паненкі гловы.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Хочам паненкі запытаці,
Ой, ці ўдому айцец, маці,
Ой, ці пазволяць нас даруваці?
Нашы дары невялічкія:
Пачынальнічку — капу яек,
Падхватнічкам — па дзесятачку.

Дай божа цёпла вёсна,
Жэбы паненка велька росла,
Увосень замуж пошла,
Не за мне самога —
За рыцежа за спраўнога.
Дай божа, жэбы паненка багата была,
Двадзесьце пеньць гарцуў віна гатовіла
І мне на вяселле папрасіла.

## 276

Добры вечар пад акеначка!
Да зялёны явар, дуброва! *
Да ці тут жыве да паненачка?
Проша адамкнуць нам акеначка,
Проша паслухаць нашых навінаў.
Што й гадзіна, то й навіна.
Да няма часу, ўжо наскочыў
Харошы кавалер на нашы вочы.
Ён жа пекны і статэчны,
Да паненкі бардзо гжэчны.
Ён паехаў да Кракова,
Яго кракавянкі як увідалі,
Сам ён млоды, конь яго вроны,
На коніку сядло шоўкам шыта,
Шоўкам шыта, золатам абліта.
Як уз'едзе на яе дворык,
Заржэ, заржэ яго конік.
Да выйдзі, выйдзі, панна, на ганак,
Да вынесь, вынесь нам падарак.
Наш падарак бардзо гжэчны:
Сорак тысяч сорам даці,
Да тысячу рублёў трэба пашукаці.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 277

Вечар добры, паненачка!
Да віно ж зялёнае! *
Проша адэмкнуць акеначка,
А калі спіш, адачхніся,
Адчыхайся, пенкна ўбірайся,
Пенкна ўбірайся, з намі прывітайся,
Прывітайся з намі, то мы паспявамы.
Чаму часта не паглёндаш,
Юж тэн едзе, каго жондаш,
Такі слічны, сімпатычны,
Не тутэйшы, загранічны,
Сам з Кракова, конь з Вяльбова.
Як ён ехаў праз Варшаву,
Варшавянкі жалю мелі,
Такога пана не відзелі:
Сядло сукном біта,
Струмя злотам літа,
Пас злацісты, ус закруцісты.
Даруй, даруй, красна паненка
Маладая Марысенька.
Сорак яек на падарак,
Каўбасою акружыцці,
Сырам з маслам завяршыцці.
Віншуя панну Марысеньку,
Як прэндка вырасла,
Жэбы так прэндка замуж пошла
І намі не гардзіла,
На вяселле папрасіла,
Будзем піці і гуляці
І золатам даравацці.

## 278

Добры вечар, да паненачка!
Вясна красна на ўвесь свет! *
Проша адэмкнуць нам акеначка,
Проша паслухаць нашай навіны,
Што й гадзіна — то й навіна.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Момант часу — юж наскочыў
Слаўны кавалер да на яе вочы.
Ён жа славен да статэчны,
Да кахання бардзо гжэчны.
Ён прыехаў да Кракова,
А ў Кракове кракавяначкі.
Ён на іх да не ўглядаецца,
К цесцю дарожку да пытаецца.
Як пад'ехаў пад яе дворык,
Заржэ, заржэ малады конік.
Як пад'ехаў пад яе ганак,
Заспявае малады кавалер.
Выйдзі, паненка, к нам на ганачак,
Вынесь, вынесь нам падарачак.
Твой падарак бардза маленькі.
Мы прымаем ад паненкі
Тры тысячы да не лічачы,
Срэбра, злота да не важачы.
Тры тысячы самі пералічым,
Мы маладу паненку самі павялічым.

## 279

Добры вечар, паненачка!
Сад зялёны вішнёвы! *
Проша адэмкнуць акеначка,
Проша адэмкнуць і выглёндаць,
Юж тэн едзе, каго жондаш.
Сам [illegible] Аршава, конь са Льбава —
Для паненкі гонар, слава
І для вшысткіх час радосці.
А мы прышлі не на госці,
А мы прышлі пад акенка,
Жэбы познаць тон паненку.

## 280

Добры вечар, ды паненачка!
Зялён явар, зялёны! *

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Просім адамкнуць нам акеначка,
Просім пабачыць свайго каханага.
Твой жа каханы на коніку едзе,
На коніку едзе, бліжай пад'язджае,
Бліжай пад'язджае, тры падаркі мае:
Першы падарак — руцвяны вянок,
Другі падарак — срэбраны кубак,
Трэці падарак — залаты персцень.
Руцвяным вянком павянчаціся,
Срэбраным кубкам мёд, віно піці,
Мёд, віно піці — не ўпіваціся,
Залатым перснем абмяняціся.
Просім выйсці к нам на ганачак,
Просім вынесці нам ды падарачак:
Сыр на тарэлку — закусіць гарэлку,
Парася з хвастом валачы на стол.
Слаўная паненка, бывай здарова,
Бывай здарова, жыві багата!

## 281

Добры вечар, панна!
Ці здрова, васанна?
Да віно ж, віно зеляно! *

Калі спіш, прабудзіся,
Калі не спіш, да нас адзавіся.

Прасі, паненка,
Да нас пад акенка.

Мы панну відзелі,
Сабе ў густ ўзелі.

Пакуль да паненкі дапыталі,
Свае боты патапталі.

Даруй, даруй нас, паненка,
Наша даравізна невялічка:

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнай страфы.

Чырвоны злоты
Нам на боты,

Паўзалатоўкі
Для нас на падкоўкі.

Ў нядзелю рана
Ўставай, панна,

Бела ўмывайся,
Харашо ўбірайся,

[Харашо ўбірайся],
Гасцей спадзявайся.

Прыедуць госці
З чужой валосці,

Адзін на булану,
Другі на каштану,

Трэці на мышастым,
Сам архірасты.

## 282

Добры вечар, паненачка!
Адчыні нам акеначка.
Адчыніўшы, адзавіся,
Харашэнька прыбярыся,
Пакланіся маме й тату,
Хай паклічуць нас у хату.
Прывітаюць хлебам-соллю
І пасадзяць па застоллю.
Мы на свеце вандравалі,
Васкрасенне велічалі,
Многа вестак назбіралі.
Перша вестка: пан багаты
Да паненкі едзе ў сваты.
Паненачка, не пужайся,
На вяселле сабірайся.
Будзеш з панам панаваці,
Сваіх дзетак гадаваці.

## 283

Добры вечар, ды паненачка! *
Вясна красна на дварэ! **
Проша адчыніці нам акеначка,
Проша адчыніці ды пагаварыці.
Што гадзіна — то й навіна,
Для паненкі ўсё ядына.
Выйдзі, выйдзі к нам на ганачак,
Вынесь, вынесь нам падарачак.
А які падарак — сорак яек.
Сорак яек сорам даці,
Сорам даці, сорам паказаці,
Да пяцідзесяці трэба дакладаці.
Каб наша паненка была пенкна,
Гэта лета замуж выйшла.
А мы малойцы былі,
На вяселле прыбылі.

## 284

Аленачка, паненачка,
Вясна красна на ўвесь свет! **
Адчыні ж ты акеначка.
Ці не твой кавалер папераду ходзіць,
Папераду ходзіць, перады заводзіць,
Перады заводзіць, песню запявае.
Масці кладку да заві ў хатку.
Парася з хвастом цягні на стол,
Гарнец мёду дзеля голасу,
Кварту гарэлкі дзеля пасядзелкі.

## 285

Добры ж вечар, да паненачка!
Да зялёны явар, дуброва! **
Проша адчыняць нам акеначка,
Проша паслухаць нашае навіны.

---

* Кожны радок спяваецца два разы.
** Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Што й гадзіна, — то й навіна.
Выйдзі, выйдзі да на ганачак,
Вынесь, вынесь да падарачак.
Сорам, сорам тры, чатыры дацi,
Тры тысячы трэба пашукаці,
Тры тысячы да не лічачы.

## 286

Ідзём, пайдзём па вуліцы,
Спявайце, братцы, спявайце!*
Па вуліцы ў дзяўчынскі двор.
Дзяўчынскі двор на сем акон.
— Добры вечар, дзяўчыначка!
Ці спіш, ляжыш, адпачываеш?
Калі ты спіш, устань з ложку
Устань з ложку, абуй ножку,
Прычашыся гладзюсенька
Да падыдзі блізюсенька,
Сядзь пад акном на ўсход сонца.
Проці акна зялёны сад,
А ў тым садзе-вінаградзе
Кветкі цвітуць, расквітаюць,
Птушкі пяюць, распяваюць!

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## ДЗЯУЧЫНА ВЫБІРАЕ САБЕ МІЛАГА

### 287

Чэраз Дунай гібка кладка,
А зялёны явар, кудравы!*
Маляваная, габляваная.
Па той кладцы ходзіць паненка,
Ходзіць паненка малада Агапка,
Нясець яна ў правай руцэ залаты кубак,
А ў левай руцэ шаўкову хусту.
За ёй ходзіць купецкі сын,
Просіць у яе залатога кубка,
Залатога кубка умываціся,
Шаўковай хусты уціpацiся.
— Купецкі сын, не хадзі за мной,
Не хадзі за мной, ты не ровен мне,
Не дам табе залатога кубка умывацiся,
Не дам табе шаўковай хусты уціpацiся.
Чэраз Дунай гібка кладка,
Маляваная, габляваная.
Па той кладцы ходзіць паненка,
Ходзіць паненка, малада Агапка,
А за ёй ходзіць каралеўскі сын,
Просіць у яе залатога кубка умывацiся,
Просіць у яе шаўковай хусты уціpацiся.
— Каралеўскі сын, не хадзі за мной!
Не дам табе залатога кубка умывацiся,
Не дам табе шаўковай хусты уціpацiся.
Чэраз Дунай гібка кладка,
Маляваная, габляваная.
Па той кладцы ходзіць паненка,
Ходзіць паненка, малада Агапка,
А за ёй ходзіць малады сужанькі,
Просіць у яе залатога кубка умывацiся,
Просіць у яе шаўковай хусты уціpацiся.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

— Малады сужанькі, хадзі за мной!
Дам я табе залатога кубка умываціся,
Дам я табе шаўковай хусты уціраціся.

### 288

На рэчаньцы ды на быстранькай,
[Вясна красна на ўвесь свет!]*
На кладачцы ды на гібенькай,
Там Танечка кубкі мыла,
Кубкі мыла і перамывала,
Шаўковай хустай перацірала,
Туды ж ба йшоў ды цыгански сын.
— Дай, Танечка, з кубка умывацца,
З кубка умывацца, хустай уціраццa.
— Не дам табе, ты не ровен мне.
На рэчаньцы ды на быстранькай,
На кладачцы ды на гібенькай,
Там Танечка кубкі мыла,
Кубкі мыла і перамывала,
Шаўковай хустай перацірала,
Туды ж ба йшоў ды мужыцкі сын.
— Дай, Танечка, з кубка умывацца,
З кубка умывацца, хустай уціраццa.
— Я й дам табе, ты ровен мне.

### 289

У чыстым полі — стадоланька,
А зялёны сад вішнёвы!*
У стадоланьцы — карчоманька,
У карчоманьцы — краватанька,
На кравацi — слічна паненка,
Слічна паненка панна Ганна.
У яе стаіць тры малойцы,
Тры малойцы, ўсе тры маладыя:
Першы й малодзец пан Сымонька,
Другі малодзец пан Халімонька,
Трэці малодзец пан Мялянька.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Сымонька стаіць проці ручак,
Халімонька стаіць проці галоўкі,
Мялянька стаіць проці ножак.
Сымонька стаіць з зяляным віном,
Халімонька стаіць з пшонным пірагом,
Мялянька стаіць з горкай гарэлкай.
Сымонька кажаць: «[Панна] Ганулька,
Скаштуй майго зяляна віна».
Халімонька кажаць: «[Панна Ганулька],
Скаштуй майго пшоннага пірага».
Мялянька кажаць: «[Панна Ганулька],
Скаштуй маёй горкай гарэлкі».
— Ад усіх піці — п'янай быці,
Усіх любіці — нежывой быці.
Піць не піць зеляна віна,
Любіць не любіць маладога Сымонькі.

## 290

Добры вечар, дзяўчыначка!
Зялёны явар, маладыі!*
Ідзе пара тая, што сваты едуць.
Да цябе, Марылька, зараз чацвёра:
Першы — морынец, што гаршкі лепіць,
А другі — жыжэмец, што сам піва варыць,
Трэці — крывіцкі, што ў шарачку ходзіць,
Чацвёрты з-за Нёмна — багатыр у лапцях,
А пяты без свата прыйдзе к табе, сядзе,
Сядзе пагаворыць, возьме пацалуе.
Сама дагадайся, хто такі гэта,
Бо ён з гэтай вёскі, твой сусед блізкі.
А цяпер, Марылька, заплаці за песню,
Мы простыя людзі — невяліка плата:
Па дзесяць яечак на кожнага брата,
Па кілішку водкі дык будзе аж надта,
Калі няма водкі, пацалуй салодка!

*Віншаванне:*
А цяпер, дзяўчына, раскажу прычыну,
Чаго мы валочымся, ў кожнай хаце просімся,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Каб нас паслухалі, каб яйка парухалі.
Прыйшла пара́ тая, кожны па́ры шукае,
Ды кожна дзяўчына хоча замуж выйсці,
А сваты не едуць, трэба воўкам выці.
А табе, Марылька, мы пяцёх насваталі:
Не захочаш першага, дык палюбіш пятага.
Зробіш ты вяселле, справіш нам музыкі,
Каб табе, Марылька, быў мужык вялікі,
Не такі вялікі, але каб харошы,
Каб цябе ўбіраў, не шкадаваў грошай,
Каб да цябе добры, каб не біўся моцна,
Каб дзяцей паболей ды харошы дочкі,
Каб хлопцы любілі, пярсцёнкі дарылі.
Але досыць брахаць, трэба далей ісці.
А ты, Марылька, барзджэй яйка нясі,
Бо ў нас языкі доўгія —
Умеем пасватаць, а калі нядобра...
Але болей не скажу!

### 291

Няхай бэндзе пахвалёны,
Да віно ж маё зялёнае!*
Дзень дзісейшы весялёны.
Красна паненка млода Ганулька
Па двору хадзіла, платочкам махала,
Такога малойца нідзе не відала.
Не стой у браме, едзь у падвор'е,
Злязай з каня, ссядай з сядла.
Ох, мы, братцы, барзда паслушны,
Адвядзем каня да у канюшню,
А канюшні панагатаўляны,
Ярага пшана панасыпана,
Крынічнай вады паналівана.
Сцежка ў камнату шоўкам выбівана,
Ружным цветам абсаджана.
Прышоў у хату і сеў на лаўку,
Паставіў на стол віна карапку.
Твой татуля надта разумны,
Віна карапку распечатуе,
Стакан наліваіць,
К шлюбу благаслаўляіць.

### 292

Ой, па даліне,
Ой, па шырокай,
Зялёны явар, дуброва! **

Раслі красачкі
Ружовенькія.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.
** Рэфрэн паўтараецца пасля кожнай страфы.

А ніхто туды
З канём не ўз'едзе,

З канём не ўз'едзе,
Пяшком не ўзыдзе.

У нядзельку рана
Дзевачка ўстала,

Дзевачка ўстала,
Столік заслала,

Столік заслала,
Шклянкі стаўляла,

Сама малада
У красачкі пайшла.

Нарвала красачак
Цэлы фартушак,

Прыйшла дадому
І села за стол.

Прыехалі да нас
Здалёку госці,

Вельмі здалёку,
З чужога боку!

Квартачку на стол,
Госцікі за стол.

Першую чарку —
Пану гаспадару,

Другую чарку —
Пані гаспадыні,

Трэцюю чарку —
Ды нам, госцікам!

## 293

У агародчыку-частакольчыку,
Ой, вырасла кветка
Ружовага цвету.
Ох, мы гэту кветку
Хочам сарваці
Ды вашу паненачку
Ад вас забраці.
Калі пан багаты —
За вала й дахаты.
Пляшку гарэлкі,
Сыр на талеркі,
А мы вып'ем, падзякуем
Ды і далей пойдзем.

## 294

А за лясамі за зялёнымі,
[Вясна красна на ўвесь свет!]*
А за садамі за вішнёвымі
Растуць красачкі нашай панначкі,
Нашай панначкі маладой Іанначкі.
А пайшла ж яна красачкі шчыпаць,
Красачкі шчыпаць, зёлачкі капаць.
А пайшлі ж яе ужо заручаць.
— Не хачу я знаць, як чужая маць,
А чужая маць не лепша сваёй,
А ёсць у мяне красны панічок,
Красны панічок млоды Базылёк,
Учора з вячора спаць палажыла,
Сягоння рана яго будзіла:
— А ўстань, устань, красны панічок,
Красны панічок млоды Базылёк.
А паедзем мы к татульку ў госці,
А мой татулька далёка жывець,
За сінім морам, за роўным полем.
А ў майго таткі коні сівыя,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Коні сівыя, быкі рабыя.
А ў майго таткі сядло златое,
А ў маёй мамкі шуба да долу.

## 295

Ляцеў сокал су гароду,
Сад зялёны вішнёвы!*
А як даўся ў новы сені.
— Чаму сені не мяцёны?
Чаму паненка засмучона?
— А як жа мне смутнай не быць,
Штодзень сваты па два, па тры,
А ў суботу разам чатыры.
Татку з мамкай упаілі,
Мяне, млоду, засмуцілі.

## 296

За гарою лады звоняць,
Да віно ж, віно зялёнае!*
Да Тэсячкі сваты едуць,
А Тэсячка маладая
Сама браму адчыняе,
Сваю мамку разбуджае:
— Устань, мамка, ранюсенька,
Пакланіся нізюсенька,
Бо я еду за граніцу,
Там я буду за царыцу.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## У ПАНЕНКІ ГРОЗНЫ БАЦЬКА, ГРОЗНА МАЦІ

### 297

Ой, шлі-беглі валхоўнічкі, гэй, віно!
Ой, шлі-беглі валоўнічкі, віно!

Пыталіся нова двара, гэй, віно!
З нова двара — ды паненкі, віно!

А ў тым двары тын тыновы, гэй, віно!
Тын тыновы, сад вішнёвы, віно!

Вароцечкі букавыя, гэй, віно,
Вароцечкі букавыя, віно!

А замочкі ўнутраныя, гэй, віно!
А ключыкі залатыя, віно!

Красна пані адмыкала, гэй, віно!
Валхоўнічкі упускала, віно!

— Ціха, ціха, валхоўнічкі, гэй, віно!
Не стукайце боцечкамі, віно!

Не стукайце боцечкамі, гэй, віно!
Не бразгайце падкоўкамі, віно!

Бо мой айцец вельмі грозны, гэй, віно!
У ложы ляжыць, грозу дзяржыць, віно!

У ложы ляжыць, грозу дзяржыць, гэй, віно,
Мне, маладой, пагражае, віно!

На музычкі не пускае, гэй, віно!
Каб з хлопцамі не гуляла, віно!

## 298

Ясна-красна да на небе зорка,
Вясна красна к нам прыйшла!*
Яшчэ красней слічная паненка,
Па сенях ходзіць — усе сені ззяюць.
Да выйшаў, выйшаў слічны панічак.
— Сядзьма, паненка, да пагаворым.
— Ой, рада б я з вамі пагаварыці,
Да баюся ж я да пана айца,
Да пана айца і пані мамачкі.
— Мы пана айца да перапросім,
Паню мамачку да зусім згодзім.

## 299

Ясна-красна ды на небе зорка,
Ды зялёны явар на дварэ!*
Ясна-красна ды дзевачка ў мамкі,
Па сенечках ходзіць — ды сенечкі ззяюць,
Перад ёю хлопцы шапкі здымаюць:
— Проша сесці з намі ўмесці.
— Села бы я з вамі, ды баюся бацькі.
— Мы ж твайго бацьку самі перапросім,
А мамачку паравелічаем,
А цябе, паненачка, павелічаем.
Выйдзі, паненка, з намі распрашчайся,
Выйдзі, выйдзі ды на ганачак
Вынесь, вынесь пару яек,
Пару яек сорам даці,
Пяці дзесяткаў проша пашукаці.

## 300

Мала, тонка канапелька,
Яшчэ танчэйшая красна панна.
Яна бель бяліла,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Ў плаў пусціла.
— А мае ж вы рыбалоўчыкі,
Злавеце ж маю белку,
Мая белка бардза бела,
Мая матка бардза грозна.
Яна сядзіць на покуці,
Трымае покат для пояса,
Што замахне, то не ўдарыць,
Што зазяхне, то не скажа.
Замахнене горш ударэня,
Зазяхане горш сказаня.

## 301

А ў гародзе пад лебядою,
Зялёны сад вішнёвы!*
Стаіць калодзеж із вадою.
Туды пайшла слічна паненка,
Слічна паненка малада Тацянка.
За ёй пайшло тры малойцы,
Тры малойцы-рыбалоўцы.
Сталі із ёй жартаваці,
З вядзёр ваду выліваці.
— Ай, малойцы-рыбалоўцы,
Вы са мною не жартуйце.
У мяне ў доме няродная маці
Будзе мяне з вадою ждаці,
З вадою ждаці, мяне ругаці.
Мы цябе, Тацянка, ілгаць наўчым:
Прыляцелі тры галубы,
Усю ваду замуцілі,
Я ж, молада, пастаяла,
Пакуль вада светлая стала.

## 302

Да на рэчцы, рэчцы, да на кладачцы,
Вясна красна на ўвесь свет!*
Там дзевачка лыжкі мыла,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Мамчыну лыжку ўзяла да згубіла.
Прышла дадому — мамка набіла.
— Да не бі мяне, да не лай мяне,
Як прыедзе хлопчык, аддавай мяне.

# ПАНЕНКА ПРЫГОЖАЯ І УМЕЛАЯ

## 303

Ай, ясен-красен мак у гародзе,
Спявайце, малойцы, спявайце!*
Ай, ясней-красней Дарутка ў мамкі.
Па двару ідзець, як пава плывець,
У сені ідзець, саяны лушчаць,
У хату ідзець, баяры сядзяць,
Баяры ўсталі, шапачкі знялі,
Слічну паненку пад рукі ўзялі.
Павялі яе і за столікі,
І за столікі за цясовыя,
І за скацеркі за бялёвыя,
І за кубачкі за мядовыя.
Ў вадным кубачку — зеляно віно,
Ў другім кубачку — саладок мядок,
Ў трэцім кубачку — горка гарэлачка,
Зеляно віно — 'ля друга майго,
Саладок мядок — 'ля баярачак,
Горка гарэлка — 'ля хазяечак.

## 304

Ох, і ў полі далінушка.
Пад калінай паненачка,
Маладая Ганулечка,
Бела лічка умывала,
Гладка галоўку часала.
А пашла ж яна дахатачкі,
Сваёй матулі пакланілася:
— Дзякуй, матуля, за твае дары,
Мяне, маладую, саўсім прыбралі.
А пашла ж яна ў павулачак,

---
* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Павулачак выдыгаючы,
Табун хлопцаў спатыкаючы.
Красныя хлопцы яе спатыкалі,
Такой паненкі нідзе не відалі.

## 305

У гэтым доме ест паненка,
[Вясна красна на ўвесь свет!]*
Яна на ўсё абучана,
Шоўкам платкі вышываці.
Яе шуба бабровая,
Чаравічкі шаўровыя,
А панчошкі шаўковыя.
Па пакоі пахадзіці,
Фурманчыкаў пабудзіці:
— Фурманчыкі, уставайце,
Пару коней закладайце.
Фурманчыкі ускачылі,
Пару коней залажылі,
Пад ганачак падагналі,
Паненачку вызывалі:
— Выйдзі, выйдзі, млода паненачка,
Мы паедзем да царкоўкі.
Гэта табе, паненачка,
Песня спета напроць лета,
Напроць лета дажджлівага,
Напроць году шчаслівага,
Каб камары не кусалі,
Каб хлопчыкі цалавалі.

## 306

У гэтым доме пасвянцоным,
Чырвон ружа, сад зялёны вішнёвы!*
Ёсць Валечка красівая
На ўсё добра вывучана:
Шыці-мыці, вышываці,
І чытаці, і пісаці.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

На вялікдзень рана ўстала,
Умылася, учасалася,
Харашэнька прыбралася,
Татку з мамкай скланілася,
Пагуляці прасілася
Ў чыста поле і даліну
Пад чырвоную каліну.
Там з міленькім спаткалася,
Паціхеньку віталася.
— Пойдзем, мілая, са мною,
Дам калінкі на вяночак,
Мой садочак над вадою,
— Вот пашла бы ды баюся,
Я з кладачкі звалюся.

## 307

У новай каморы — што там стучала?
Сад зялёны вішнёвы!*
Малада паненка абрусы ткала,
Абрусы ткала, сталы засцілала,
Сталы засцілала, сватоў дажыдала.
Ой, вы сваточкі, вы галубочкі,
Прыязджайце ў гэту ночку.

## 308

А на морачку ды на сіненькім,
Жаркае сонца ў аконца!*
А ў каморы у новенькай
Там дзяўчынка каўры ткала,
Па цэркаўцы пасцілала.
Ад чаго гэта цэркваззяець?
Ці ад [каруны] залатэя,
Ці ад дзевачкі маладэя?
Не ад [каруны] залатэя,
Ад дзевачкі маладэя.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

А ў лясочку на верасочку,
А зялёны сад вішнёвы!*
Там сталяры царкву рубілі,
Царкву рубілі з трыма вакнамі.
У адно аконца свеціць сонца,
У другое аконца свеціць месяц,
А ў трэцяе аконца сам бог глядзіць,
Сам бог глядзіць, слязінку раняець.
А з той слязінкі ручаінка бяжыць,
Па той ручаінцы пава плывець,
Пава плывець, перайкі раняець.
Малада Марыйка ваду брала,
Яна тыя перайкі сабірала,
Перайкі збірала, ў рукавок клала,
З рукаўка брала, вянок віла,
А звіўшы вянок, на галоўку клала,
На галоўку ўсклаўшы, ў царкаўку пашла,
У царкаўку пашла — царкаўка сіяець.
Вокала яе людзі да дзівіліcь,
Адчаго ж гэта царкаўка сіяець.
Аль ад месяца, аль ад сонца,
Аль ад маладой нашай Марыйкі?
А не ад месяца, не ад сонца,
Ад маладой нашай Марыйкі.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 310

Добры вечар, дзяўчыначка,
Кудравая, малада!
Просім цябе пад акеначка,
Ох ты, мілая мая!

Шлі здалёку, заблудзілі,
Кудравая, малада!
Да Ганулькі прыблудзілі,
Ох ты, мілая мая!

Добра Ганначка сказала,
Кудравая, малада!
Нам дарожку паказала,
Ох ты, мілая мая!

Праз садочак зеляненькі,
Кудравая, малада!
Шлі дарожкай да паненкі,
Ох ты, мілая мая!

Мы паненку прывіталі,
Кудравая, малада!
І замужам пацяшалі,
Ох ты, мілая мая!

А замужам трэба знаці,
Кудравая, малада!
Позна легчы, рана ўстаці,
Ох ты, мілая мая!

А як пойдзеш сена грабіць,
Кудравая, малада!
То не трэба хлопцаў вабіць,
Ох ты, мілая мая!

## 311

Ляцеў сокал кругам, кругам,
Ды віно, віно зеляно!*
Махнуў крылом над каморай.
— Што ж ты, камора, чыста не мяцёна,
Што ж ты, дзяўчына, смутна, невясёла?
— А як жа мне вясёлай быці?
Прыйдзе вечар, цёмная ночка,
Я заўсёды адзіночка!
— Ты не бойся, мілы не пакіне!
Спяём радасць мы прадвечну,
Пойдзеш замуж гэту весну.
Шчасця мы табе жадаем,
На вяселлі пагуляем!

## 312

А ў гародзе на пагодзе,
Чырвона рожа, сад зялёны вішнёвы!*
Стаіць вішня чырвоная.
Там дзяўчына вішні рвала
І на сонца паглядала,
А ўжо ж сонца невысока,
Скора сонца за лес зойдзець,
Скора мілы ка мне прыйдзець.
— Прыйдзі, мілы, не пазніся,
Бо сам знаеш, што любленне,
Што любленне горш балення.

## 313

Быстрая рэчка ды калінавы мост,
Зялёны сад вішнёвы!*
А там хлопец дзеўку нёс.
Пыталіся хлопца: «Ці не цяжка табе?»
— Хоць цяжка не цяжка — не буду качаць,
Я сваю дзеўку не буду кідаць.
Калі кіну, то ў мякіну,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

А з мякіны — у салому,
А з саломы — мне самому.

### 314

Да за гумном авёс зелен,
Да віно ж, віно зялёнае!*
Авёс зелен позна сеян.
А ў тым аўсе стада курапатак,
Пасярэдзіне шэра вутачка.
А у Ганначкі у ганачку
Там стаяла многа дзяўчат,
Пасярэдзіне млода Ганначка.
Скуль узяўся млоды малойчык
Да шапачку зняў, «дзень добры» даў.
«Дзень добры» даў, за ручку ўзяў.
Ты да дзевак не прыстанеш,
На каберцы стаяць будзеш,
На каберцы стаяць будзеш,
Пярсцёначкі мяняць будзеш.

### 315

Да на моры, моры, да на сіненькім,
Вясна красна на ўвесь свет!*
Там плавала качанят стада,
Між тых качанят — чорная галка.
А дзе ні ўзяўся да чоран воран,
Да паразганяў качанят стада,
Чорную галку і к сабе узяў.
Да на мураўцы, да на зялёнай,
Там гуляла да дзевак тынок.
Між тых дзевак — малада Волечка.
Адкуль узяўся да парыч-паніч,
Да паразганяў да дзевак танок,
Маладу Волечку к сабе узяў.
Узяў яе у вяночку,
А пусціў яе да й у хустачцы.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

316

У гародзе на пагодзе,
Віно ды віно ж, віно зялёнае!*
Там хадзіла курапат стада,
Між тых курапат — сіня вутачка.
Скуль узяўся селезень зеляненькі,
Усе курапаткі паразганяў,
Сіню вутачку к сабе узяў.
Узяў яе, павёў яе,
Павёў яе ў нову клетачку,
Пасадзіў яе ў новай клетачцы.
— Сядзі, сядзі, сіня вутачка,
Я да цябе прылятаць буду,
Я ды цябе карміць буду,
Карміць буду пшанічанькай,
Паіць буду расічанькай.
У Валожыне на ганачку
Там стаяла табун дзевак.
Між тых дзевак — красна паненка,
Красна паненка малада Аленка.
Скуль узяўся красны панічык,
Красны панічык малады Іванька,
Усім дзеўкам «добры дзень» даў,
А перад Аленкай шапачку зняў,
Шапачку зняў, за ручку ўзяў,
За ручку ўзяў, павёў яе,
Павёў яе ў нову камору,
Пасадзіў яе ў новай каморы.
— Сядзі, сядзі, малада Аленка,
Я да цябе прыязджаць буду,
Я ды цябе карміць буду,
Я ды цябе паіць буду,
Карміць буду пірагамі,
Паіць буду мёдам, віном!
Вось табе, Аленка, песня спета,
Песня спета проці лета,
Проці лета, проці цёплага,
Проці цёплага, велікоднага.
Красна Аленка, не тамі гасцей,
Не тамі гасцей, надары барзджэй:

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Карэц яец нелічоных,
А мы тыя яйкі самі пералічым,
Красну Аленку самі падвялічым.
Каб цябе, Аленка, камары не елі,
Камары не елі, мошкі не кусалі,
Мошкі не кусалі, хлопцы цалавалі!

## ДЗЯЎЧЫНЕ ЗАГАДВАЮЦЬ ЗАГАДКІ

### 317

Ой, у агародзе ды на пераходзе,
Траўка-мураўка зялёная!*
Слічна паненка ячмень жала,
Ячмень жала, грэчку вязала.
Ды прышоў да яе кавалер яе,
Ды заказаў сем загадак.
— Еслі адгадаеш, то мая будзеш:
Што то чорна ды не чэрнячы,
Што то раба ды не рабячы,
Што то бела ды не белячы,
Што то плача ды без слёзачак,
Што то бяжыць ды без ножачак,
Што то расце ды без кораня,
Што то гарыць ды без полымя?
— Воран чорны ды не чэрнячы,
Дзяцел рабы ды не рабячы,
Лебедзь бела ды не белячы,
Скрыпка плача ды без слёзачак,
Вада бяжыць ды без ножачак,
Кітай гарыць ды без полымя,
Камень расце ды без кораня.

### 318

А ў гародзе на пагодзе
Ды віно ж маё зеляно!*
Стаіць вішанька ростам нізенька,
Пад той вішанькай слічна паненка,
Слічна паненка млода Надзечка
Вішанькі шчыпіць, у кішанёк сыпіць.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Прышло да яе два царэвічы,
Два й царэвічы-каралевічы,
Загадалі ёй сем загадачак.
— Калі адгадаеш — за сябе вазьму,
Калі не адгадаеш — за слугу сваю:
А й што й, што гарыць да без полання,
А й што й, што расцець да й без кораня,
А й што й, што бяжыць да без повада,
А й што й, што чорна да й не чарнёна,
А й што й, што бела да не бялёна,
А й што й, што шэра, вой, не шарона,
А й што й, што сіне да й не сінёна?
— А была ж бы я не татулькава,
Не татулькава, не мамульчына,
Каб сем загадак не адгадала.
А гарыць зара да й без полання,
А й бяжыць вада да й без повада,
А й расцець камень да й без кораня,
А й сіне мора да й не сінёна,
А белы лебедзь ён не бялёны,
А й чорны воран ён не чарнёны,
Шэра зязюля, вой, не шарона.
А дай жа божа нам тройцы даждаць,
Нам тройцы даждаць, панечкай назваць.
Ці кажы дарыць, ці ў хату бяры.
А мы ж госцікі небывалыя,
Небывалыя, нехаджалыя,
Часта й не ходзім, многа не просім,
А ў гадочак адзін разочак:
Пачынальнічку — сорак яечак,
А падхватнічку — хоць па дзесяток,
А механошу — жыта калошу,
Кварту гарэлкі, сыр на талеркі.
Нашага й музыкі горкая доля:
Жонка й не любіць да й не галубіць,
Што й пацалуіць, назад адплюіць.

23. Зак 1108

# ПРА ДАЧУШКУ І НЯВЕСТКУ

## 319

Ой, на небе сонца разыгралася, рана,
Вясна красна, дзень цёплы!*
А сіняе мора скалыхнулася, рана,
Ай, там жа малодка белле бяліла, рана,
Белле бяліла, белле ўпусціла, рана,
За белаю беллю сама ўтанула.
Ой, сышлі жа весці ўсё й да свёкаркі,
Што твая нявехна белле бяліла,
Белле бяліла, белле ўпусціла, рана.
— Ой, не жаль жа мне да й нявехначкі,
Ох, і жаль жа мне белае белле.
А ў мяне нявеста другая будзе, рана.
А белыя беллі павек не будзе, рана.
Ой, сышліся весці ўсё й да татачкі, рана,
Што твая дачушка белле бяліла,
За белаю беллю сама ўтанула, рана.
— Ох, не жаль мне белыя беллі,
Ох, і жаль жа мне ўсё й дачушачкі, рана.
А ў мяне белле другое будзе, рана,
А дачушачкі новае не будзе.

## 320

Ой, цякла, вілася **
Рэчачка Мядзёлка.

А ў той рэчачцы
Малойчык утонуў,

Малойчык утонуў
З залатымі ключамі.

А за ім матуля
Упагон летучы,

Упагон летучы,
Ключы клянучы:

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.
** Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

— Бадай вы, ключыкі,
Да на дно камянём,

А каб мой сыночак
Да наверх перыной.

Ой, цякла, вілася
Рэчачка Мядзёлка,

А ў той рэчачцы
Нявестка ўтанула.

А за ёй свякроўка
Упагон летучы,

Упагон летучы,
Нявестку клянучы:

— Бадай жа ты, нявестка,
Да на дно камянём,

А каб вы, ключыкі,
Да наверх перыной.

## 321

Каля горада вада йшла,
Слаўны горад мінула.
Там нявеста ўтанула,
Залаты ключы ўпусціла.
Пайшлі весці свякроўцы,
Што нявеста ўтанула.
— Не жаль мне нявесты,
Ды жаль мне ключыкаў:
Нявестачак поўны свет,
А ключыкаў у свеце нет.
Каля горада вада йшла,
Слаўны горад мінула.
Там дачушка ўтанула,
Залаты ключы ўпусціла.
Пайшлі весці да маці,
Што дачушка ўтанула,
Залаты ключы ўпусціла.
— Не жаль мне ключыкаў,
А жаль жа мне дачушкі:
Я ключыкі дараблю,
А дачушкі не знайду.

## НАПАМІНАК ПРА ДАРЫ ВАЛАЧОБНІКАМ

### 322

Копу яец абяцаці,
Да віно ж, віно зеляно!*
А паўкопы мусіш даці,
На палуміску палажыці,
Каўбаскаю акружыці,
Сырам белым завяршыці,
Пірог доўгі дзеля коласу,
Гарнец водкі дзеля голасу,
А шэсць злоты — то на боты,
Бо мы боцікі патапталі,
Покуль панну апыталі.
Багаславім панну добрым бытам,
Добрым бытам, ядроным жытам,
Каб да року было кала боку,
А за двое каб са трое.

### 323

Добры вечар, да паненачка!
Вясна красна на ўвесь свет!*
Проша адэмкнуць да акеначка,
Проша выйсці да на ганачак,
Проша вынесці нам падарачак.
На падарак сорак яек,
Да сорак яек да сорам даці,
Пяць дзесяткаў проша пашукаці,
Тры тысячы да не лічачы,
Срэбра-золата да не важачы,
Тры тысячы самі пералічым,
Мы вашу паненку самі павялічым.
Той падарак бардзо маленькі

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Мы прымаем ад вашай паненкі.
Сагні вобад — калясо будзе,
Пазавуць у хату — харашо будзе.
Кварту гарэлкі, сыр на тарэлкі,
Парася з хвастом прынясуць на стол.

**324**

Пакуль да паненкі дапыталі
Мы свае боты патапталі.
Паненачка ў сваёй хаце,
Дай жа нам па дукаце,
Чырвень злоты нам на боты,
Тры саракоўкі нам на падкоўкі,
Тры траячкі нам на цвячкі,
Капу яек нам на падарак,
Кілбасою акружыці,
Белым сырам завяршыці.

## ДАСЦІПНЫЯ РАЗМОВЫ ДЗЯЎЧЫНЫ З ХЛОПЦАМ

### 325

Ішлі, гулі валачоўнічкі,
Ішлі яны да дарогаю,
Пыталіся слаўнага сёла,
[Слаўнага сёла], чэснага двора.
Зайшлі яны к чэснаму мужу.
Чы дома, дома, чэсны муж[у]?
Ён дома, дома, да не кажацца —
У чырвоны боты абуваецца,
Да цэркаўкі сабіраецца.
Чэраз яго двор на Дунай цячэ,
На гэтым Дунаі да біты палі,
Усе дубовыя, усе дубовыя,
У яго варота маляваныя,
А падваротнічкі яго — рыб'і костачкі.
Чэраз гэты мост [ехала карэта],
Ехала карэта маляваная,
А ў гэтай карэце красная панна,
Красная панна сядзіць з панічамі,
А мы думалі, што спожа, аж матка божжа,
Яна сустракала валачоўнікаў,
Валачоўнікаў, добрых малайцоў.
А у лесе, ў лесе да на верасе,
Там Іванька да конікі пасе,
Яму дзевачка абед нясе.
— Сядзем мы, Іванька, паабедаем,
Скажу табе дзіўнае дзіва,
Што ў святым ражстве да рожа цвіла.
Я ж там сама была, ўсё яе шчыпала,
І шчыпала, вянкі віла,
Вянкі віла, на галоўку клала,
На галоўку клала, злотнічкам давала.
— Вы злотнічкі, вы работнічкі!
Скуйце мне тры надобачкі:

Первы надобак — залаты кубак,
А другі надобак — шаўковая хуста,
Трэці надобак — залаты персцень.
У залатым кубку умывацiся,
Шаўковай хустай уціраціся,
[Залаты] персцень — вянчацiся.
А у лесе, ў лесе да на верасе,
Там дзевачка да валы пасе,
А ёй Іванька да абед нясе.
— Сядзьма, дзевачка, паабедаем,
А скажу табе дзіўнае дзіва:
А ў святым Пятрэ да Дунай замёрз,
Я ж сам там быў да каня паіў,
Конь ваду піў, капытом лёд біў.

## 326

Да у лесе, ў лесе да (й) на верасе,
Да зялёны явар, зялёны!*
Малады малойчык да коніка пасе,
Маладая дзевачка да й абед нясе.
— Сядзьма хлопчычак, ды паабедайма,
Да паабедаўшы, пагаворым жа.
Я ж табе раскажу дзіва дзіўненька,
Дзіва дзіўненька, ўсё праўдзівенька.
— Не кажы ж ты мне, я і сам там быў,
Я і сам там быў, сякерaю лёд біў,
Сякерaю лёд біў і коніка напаіў,
І коніка напаіў і вядзерца пабіў.

## 327

А ў лужку, лужку, ой, на беражку,
[Вясна красна на ўвесь свет!]*
А там Васечка конікаў пасець,
Яму Надзечка абедаць нясець.
Селі абедаць, разгукаліся,
'Дзін у ваднаго папыталіся:
— Ці ў памяць табе, ды мой Васечка,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Як у пятроў пост ды Дунай замёрз?
— Чаму ж не ў памяць, мая Надзечка,
А я сам там быў, шабелькай лёд біў,
Шабелькай лёд біў, конікаў паіў.
Ва лужку, лужку, ой, на муражку,
А там Васечка конікаў пасець,
Яму Надзечка абедаць нясець.
Селі абедаць, разгукаліся,
'Дзін у ваднаго папыталіся:
— Ці ў памяць табе, мая Надзечка,
Як у калядны пост роза расцвіла?
— Чаму не ў памяць, ды мой Васечка,
Я там сама была, розу шчыпала,
Розу шчыпала, вяночкі віла.

## 328

Вой, у лузе, у лузе да на поплаве,
А зялёны явар, кудравы!*
Там Мішачка да каня пасе,
Яму Валечка да абед нясе.
— Сядзьма, Мішачка, да паабедайма,
Скажу табе дзіва да дзіўненькае,
Што каля Пятра мора замерзлае.
—Не кажы ж ты мне, малада Валечка,
Я і сам там быў, чабатом лёд біў,
Чабатом лёд біў, як каня паіў.
Раскажу ж табе дзіва да дзіўненькае,
Што кала ражства рожа расцвітала.
— Не кажы ж ты мне, малады Мішачка,
Я й сама там была і вяночак віла.

## 329

А ў лесе, лесе ды а й на верасе,
[Вясна красна на ўвесь свет!]*
А там Іванька ды конікаў пасець,
Яму й Манечка ды абедаць нясець.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Селі абедаць ды разгукаліся:
— Ці ў памяць табе, ды а мой Іванька,
Як у Пятровы дзень а й Дунай замёрз?
— Чаму ж не ў памяць, ды мая й Манечка,
А [redacted] ж там і быў ды коніка паіў,
Коніка паіў ды і Дунай прабіў.
А ў лесе, лесе ды а й на верасе,
А там Манечка ды каровак пасець,
А ёй Іванька ды абедаць нясець.
Селі абедаць ды разгукаліся:
— Ці ў памяць табе, ды мая Манечка,
Ў калядны сняткі ды расцвілі цвяткі?
— Чаму не ў памяць, ды а мой Іванька,
А я ж там была й ды цвяткі шчыпала,
Цвяткі шчыпала ды вяночак віла.
Песеньцы канец ды дзве пары яец.

## 330

А у лесе, лесе ды на верасе,
Вясна красна на ўвесь свет!*
Малады там хлопчык ды валы пасе,
А яму дзяўчынка ды абед нясе.
— Сядзьма разам, хлопчык, паабедайма,
А я па абедзе скажу табе дзіва,
Скажу табе дзіва найдзіўнейшае:
Гэтаю вясною пабярэмася.
Мужам і жаною застанемася.

## 331

Са вуліцы сакалы ляцяць,
А са другія — ўсё саколачкі.
А са церама — добры маладзец,
А са другога — красна дзевіца.
— Пастой, маладзец, пастой, красненькі,
Загадаю табе я загадачку,
А загадачка — ўсё неадгадачка,
Што сярод лета ды Дунай замёрз.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

— Праўда, дзевіца, праўда, красная,
Я там учора быў ды каня паіў.
Са вуліцы сакалы ляцяць,
А са другія — ўсё саколачкі.
А са церама — добры маладзец,
А са другога — красна дзевіца.
— Пастой дзевіца, пастой, красная,
Загадаю табе я загадачку,
А загадачка — ўсё неразгадачка,
Што сярод зімы рожа зацвіла.
— Праўда, маладзец, праўда, беленькі,
Я там была, краскі шчыпала,
Краскі шчыпала і вянок віла.

## 332

Ранні авёс — позні авёс, гэй, лолам!
Ранні авёс — позні авёс.
Найпазнейшы зелянейшы, гэй, лолам!
Найпазнейшы зелянейшы.
А ў тым аўсе камень ляжыць, гэй, лолам!
А ў тым аўсе камень ляжыць.
На камені змяя сядзіць, гэй, лолам!
На камені змяя сядзіць.
Тудым і ехаў бел малойчык, гэй, лолам!
Тудым і ехаў бел малойчык.
На коніку вараненькім, гэй, лолам!
На коніку вараненькім,
На сядэлку залаценькім, гэй, лолам!
На сядэлку залаценькім.
Хацеў цяці, голаў зняці, гэй, лолам!
Хацеў цяці, голаў зняці.
Стала змяя прасіціся, гэй, лолам!
Стала змяя прасіціся:
— Не тні мяне, бел малойчык, гэй, лолам!
Не тні мяне, бел малойчык,
Стану я табе ў прыгодзе, гэй, лолам!
Стану я табе ў прыгодзе.
Пушчу сынкі ў часнічкі, гэй, лолам!
Пушчу сынкі ў часнічкі,
А дачушкі у сванечкі, гэй, лолам!
А дачушкі у сванечкі,
А старога за старосту, гэй, лолам!
А старога за старосту,
Сама стара за кухарку, гэй лолам!
Сама стара за кухарку.
Убяру сынкі ў бела злота, гэй, лолам!
Убяру сынкі ў бела злота,
А дачушкі ў аксаміты, гэй, лолам!

А дачушкі ў аксаміты,
А старога ў кажушышча, гэй, лолам!
А старога ў кажушышча,
Сама стара ў раднішча, гэй, лолам!
Сама стара ў раднішча.
Перавязу цераз мора, гэй, лолам!
Перавязу цераз мора,
Каб конікаў не ўтапілі, гэй, лолам!
Каб конікаў не ўтапілі,
Каб сукенак не ўмачылі, гэй, лолам!
Каб сукенак не ўмачылі.

## 333

Кругла балотца невялічкае,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
На том балотцы ляжыць камень,
На том камені да сядзіць змійка.
Тудэю едзе душа-сужонка,
Хоча змійка застрэліці.
— Не стрэль, не стрэль, душа-сужонка,
Буду ў годзе, ў вялікай прыгодзе.
Сам буду табе за свацейка,
Жонку пушчу за сванечку,
Сына пушчу за дружчатка,
Нявестку пушчу за каравайначку,
Дачку пушчу за спявачку.
Сам буду дарыць палавым валом,
Сын будзе дарыць вараным канём,
Вараным канём, залатым сядлом,
Жонка будзе дарыць кароўкаю цялячаю,
Нявестка будзе дарыць авечкаю ягнячаю,
Дачка будзе дарыць паяскамі, ручнічкамі.

## 334

Шурым-бурым, аўсы сеюць,
Да віно ж, віно зеляно!*
Чым ранейшы, тым буйнейшы,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Чым пазнейшы, зелянейшы.
Серад аўса камень ляжыць,
На камені змяя сядзіць,
Змяя сядзіць, дзеці корміць.
Тудэю ішоў бел малойчык,
Хацеў змяю мечам цяць,
Мечам цяць і голаў зняць.
Стала змяя прасіціся:
— Не бі й мяне, не тні мяне,
Стану табе я ў прыгодзе,
У прыгодзе, у вялікай згодзе.
Як ты будзеш жаніціся,
Пушчу сынкі ў чашнічкі,
А дачушкі ў сванечкі,
Сама буду за кухарку,
За кухарку, за пякарку.
Спяку каравай, як месячык,
А гусачкі, як зорачкі.
Будуць людзі дзівіціся,
Чый сын едзе жаніціся.
Таму добра, чый сын едзе.
А таму лепш, чый зяць будзе.

## 335

На балоце, на кракоце,
Ды віно ж маё зеляное!*
Ляжаў камень бялюсенькі,
На камені сядзела змейка.
Дзесь узяўся красны панічык,
Красны панічык малады Андрэйка,
Хацеў змейку бічом цяці,
Бічом цяці, ёй галоўку зняці.
Яна стала прасіціся:
— Мой панічу, мой каралевічу,
Не сячы мяне, не рубай мяне.
Як ты будзеш жаніціся,
Пушчу сынка за чашнічка,
А донечку за сваценку,
Сама прыйду за кухарачку!

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Як прыйшло да тога, то няма нікога:
Не пусціла сынка за чашнічка,
А донечку за свацечку,
Сама не прыйшла за кухарачку.

## 336

За варота кругла балота,
[Вясна красна на ўвесь свет!]*
На том балоце да ляжыць камень,
На том камені сядзіць турак.
Тудэма ехаў слічны панічык,
Хацеў ён турка застрэліць.
— Не стрэль мяне, слічны панічу,
Я ж табе буду сам ў адгодзе.
Як ты будзеш да жаніціся,
Я ж табе буду першым сватам,
Жонка мая — свацеяю,
Дачка мая — дружачкаю.
Я ж буду дарыць вараным канём,
Жонка мая — палавым валом,
Дачка мая — скрынкі, пярынкі.
Ото ж табе, слічны панічу,
Песня спета проці лета,
Проці лета урадлівага,
Проці году шчаслівага.

## 337

Ляцела сава з чыстага поля,
Нясла жолуд на крылочку.
Кінула жолуд на багаты двор,
На багаты двор, на салодкі мёд,
На салодкі мёд, на жалезны тын.
А з таго жалуда вырас дубок,
Вырас дубок тонак, высок,
Тонак, высок, падгалісты.
А на тым дубу чоран арол,
Чоран арол гняздзечка ўець,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Гняздзечка уець, яечкі нясець.
Тудым ішоў слічны панічу,
Слічны панічу [імя],
Цэліць-меціць, забіць хочаць,
Тугі й лучок нацягіваець,
Залатую стрэўку напраўляець,
А чарон арол адказываець:
— А не бі мяне, не губі мяне,
Слічны панічу [імя]!
Ах, я ж табе знадоблюся,
Як і будзеш ты да жаніцісяя.
Ах, і будзеш ты сабе дзеўку браць
За рэкамі во за быстрымі,
Да не будзець табе а ні пераходу,
А ні пераходу, а ні пераезду.
Ох, і я тады перавязу цябе,
Пасаджу цябе пасярод сябе,
А жану тваю — каля цябе,
Маршалачак — на крылочку,
Музычанек — на хвосціку.
Коні твае уплынь пушчу,
Уплынь пушчу, перасвішчу.
Да ужо ж табе песня спета.

## 338

Ў садзе, ў садзе ў зеляненькім,
[Вясна красна на ўвесь свет!]*
Бегаіць конік вараненькі.
Ніхто каня не паймаіць,
І не паймаіць, не забратаіць.
А выскаўся слічны панічак,
Ён таго каня паймаіць,
Паймаіць і забратаіць,
І забратаіць і асядлаіць.
Ён, асядлаўшы, сеў да паехаў,
За вароцікі за цясовыя,
У чыста поле на прагулянне,
На прагулянне да на паляванне.
Ехаў поле, ехаў другое,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

На трэцце поле ён ўз'язджаіць —
Стаіць дрэўца тонка, высока,
Тонка, высока, лісцем шырока,
А тым дрэўцы сядзіць пташка,
Сядзіць пташка да сізы арол.
Ён жа бярэць каменну стралу,
Ён таго арла хочыць убіць,
Хочыць убіць да й застраліць,
Хочыць убіць з каменнай стралы.
Стаў яго арол упрашываці:
— Слічны панічак Васіленька!
Не убій мяне з каменнай стралы,
Я табе прыгаджуся і прынараўлюся.
Будзеш ты жаніціся,
Будзеш ты брацъ за рэкамі,
За рэкамі, за крутымі гарамі,
За крутымі гарамі, за шырокімі марамі,
Возьмеш ты панну Ганну,
Панну Ганну, каралеўску доч.
Будзіць табе перапуцейка,
Перапуцейка — быстрая рэчка.
Не будзіць табе ні пераходу, ні пераезду,
А я ж там цябе перамышлю,
Перамышлю і перапраўлю,
Самаго цябе — на шыенцы,
А жану тваю — на спіненцы,
Дружыну тваю — на хвосціку.
— Слічны паніч да Васілюхна!
Прыказаў таміць, прыкажы дарыць,
Нашы дары не вялікія і не малыя.

## 339

А лугі, лугі усё зялёныя,
Спявайце, малойцы, спявайце!*
Хадзілі коні ўсё варо́ныя,
Шоўкам яны ўсё запутаны,
Серабром яны пазамузданы.
Ніхто тых коней не паймаіць,
Не паймаіць, не замуздаіць,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Не замуздаіць, не распутаіць,
Не распутаіць, не асядлаіць,
І не асядлаіць, і не паедзіць.
Адкуль ўзяўся круты Пахомак,
Круты Пахомак, панскі дзіцёнак,
Панскі дзіцёнак паніч Міхалутка.
Ён і паймаіць, і замуздаіць,
І замуздаіць, і асядлаіць,
І асядлаіць, сядзіць, паедзіць.
Едзіць ён поле, едзіць другое,
Уз'язджаючы ён на трэцце.
На трэцім полі стаіць дрэва,
Тонка, высока, лістам шырока.
На тым жа дрэве сядзіць жа пціца,
Арол жа пціца, жоўта лісіца.
Хацеў жа ён яе застрэліці,
Стала яна яму да гаварыці:
— Паніч Міхалачка, да не страляй мяне!
Да я к табе да прыгаджуся.
Будзеш жа ты да й жаніцца,
Будзеш ты браці і за водамі,
І за водамі, і за рэкамі,
А я цябе да й перавязу,
Дружку тваю — на сізым хвасту,
Дзеваньку тваю — на левым крылу,
Цябе, малойца, — на правым крылу.

## 340

А стаіць дубок, ён тонак, высок,
Вясна красна, зялёна!*
Ён тонак, высок, лісцейкам шырок.
А на тым дубку да й сядзіць арол,
А й сядзіць арол, шышачкі клюець,
Шышачкі клюець, расу абіваіць,
Расу абіваіць, праўду гукаіць.
А й туды ж ішоў молад Колечка,
А й меціць, меціць арла застрэліць.
— Не страляй мяне, молад Колечка,
Некалі буду знадобен табе.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

А як будзеш ты а й жаніцїся,
Твая ж дзевачка а й за ракою,
А й за ракою, а й за вадою.
Не будзіць табе ні пераезду,
Ні пераезду, ні пераходу.
Я млода цябе — на правым крыле,
Тваю дзевачку — блізка ды ля цябе,
Тваю дружыну — на серадзіну,
Тваіх сваточкаў — ой, на хвасточку,
Тваіх конікаў усіх ўплыў пушчу,
Тваіх сабакаў ўсіх перасвішчу,
Тваіх музыкаў — хоць на языку.
Мы ж цяпер пяём, панічком завём.
А дай жа божа восені даждаць,
Восені даждаць, паночкам назваць.
Ці кажы дарыць, ці ў хатку заві,
А мы ж госцікі небывалыя,
Небывалыя, нехаджалыя,
Часта й не ходзім, многа не просім,
А ў гадочак адзін разочак:
Пачынальнічку — хоць сорак яец,
А падхватнічкам — па дзесятачку.
А механошу — жыта калошу,
Кварту гарэлкі, сыр на талеркі.
Нашага музыкі горкая доля:
Жонка й не любіць да й не галубіць,
Што й пацалуе, назад адплюе.

## 341

А ў агародзе да на пераходзе,
[Вясна красна на ўвесь свет!]*
Да стаяў дубок зелянёсенькі,
А сярод арол чарнёсенькі,
А тудэю ішоў малады Сярожка,
А хацеў арла застрэліці,
А стаў арол да прасіціся:
— А не бі ж мяне, не страляй мяне,
Як будзеш ты да жаніціся,
Ты будзеш браці далёкую панну,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

За лясамі за высокімі,
За марамі за глыбокімі.
Ты будзеш клікаць перавознікаў,
А будзеш клікаць — не даклічашся,
А я ж цябе, маладога, я ж сам перавязу,
Цябе з паннай — у новым чаўночку,
Тваю бяседачку — да на чараночку.
А будзеш ехаць да цераз места,
А будзе места дрыгавацціся,
Будуць мяшчане дзівавацціся.
Добра таму будзе, чый сын едзе,
Слаўна таму будзе, чый зяць будзе.
Вот табе, паня, песня спета,
Песня спета проці нова лета.
Богу на славу, а вам на здароўе.

### 342

Слічны паніч пан Васілька,
Устань рана, умыйся бела,
Пачашы галоўку гладзюсенька,
Надзень кашульку бялюсеньку,
Надзень штонікі гернатовыя,
Панчошачкі бялёвыя,
А боцікі казловыя,
Надзень сукню саятовую,
Падпаяшы пояс залачоны,
Надзень шапку парловую,
Вазьмі ключы сталёвыя,
Ідзі ў стайню мураваную,
Выбірай сабе, ой, коніка,
Ой, коніка найлучшага,
Найлучшага, варанога,
А сядзельца залатое,
А уздзечку сярэбраную,
А падпружачку саятовую,
Вазьмі хартоў бялюсенькіх,
Вазьмі стральбу мечавую,
Вазьмі шаблю сталёвую,
Слічны паніч пан Васілька,

А едзь жа ты у чыста поле,
У чыста поле палявацi,
Палявацi, долi шукацi,
У чыста поле, чысцюсенька
Ляціць сокал яснюсенькі.
Слічны паніч, пан Васілька
Хартоў пусціў — не дапусціў,
Шабляй махнуў — не дамахнуў.
— Слічны паніч пан Васілька,
Не бі ж мяне, а я ж табе,
А я ж табе прыгаджуся,
Ой, к рэчаньцы, ой, к быстранькай
А я цябе пераплаўлю.
Тваіх сватоў перавязу
Чэраз тую, чэраз рэчку
А ў чаўночку маляваненькім,
А вясельцы пазлачаныя.
Ой, там жа, за рэкамі за быстрымі,
Слічна паненка — крулёва найяснейша.
Слічны паніч пан Васілька,
Пан Васілька — круль найяснейшы.
Ой, там жа вы пастаялі,
За ручаньку падзяржалі,
Залаты персні памянялі.
Слічны паніч пан Васілька,
Жыві здароў да й будзь багат
І з татулькай, і з матулькай.

### 343

У полі, ў полі конікі ходзяць,
З тых коней да адзін конік,
Да адзін конік сіў невялічак,
А касаценькі, валасаценькі.
Хто ж таго каня да й паймае?
Да і абазваўся малады паніч,
Малады паніч малады Андрэйка,
Ён таго каня да паймае,
Да і паедзе ў чыста поле,
Чыстае поле да на паляванне,

Да на паляванне сакала страляці.
Толькі ён жа к явару прыязджае,
А на явары да сакол сядзіць.
Цэліцца-меціцца сакала страляці,
А сакол [яму] адказывае:
— Ты не бі ж мяне, не страляй мяне,
Я ж табе буду вялікай прыгодай,
Як будзеш ты да жаніціся,
Да будзеш браці за вадамі,
Да за вадамі, да за марамі,
Да прыедзеш ты к сіняму мору,
Да будзеш клікаць да перавозьнічкаў,
Да будзеш клікаць, не даклічашся,
Я ж цябе, маладога, да і перавязу,
Цябе, маладога,— да на правым крыле,
Што тваю жану — поплеч з табой,
Да тваіх сватоў — да на левым крыле,
А пpыданак — на сярэдзіне,
Я музычаньку — на шыенцы,
Я падружанек — да на хвосціку,
Твайго коніка да ўплыў пушчу.
Перавязу цябе на той бок Дунаю,
На той бок Дунаю да к беламу цару.
— Выйдзі, выйдзі, белы цар!
Мы з табою павітаемся,
Паспрабуем ваяваці.
Да каму ж тут бог паможа,
Ці табе, царычу, ці мне, панічу?
Да табе, царычу, бог не паможа,
А мне, панічу, бог да паможа.
Да белы цар да не выходзіць,
Да яго да падаркі шле.
Да які падарак?— Каня варанога.
Да паніч таго не прынімае.
Да які паніч? — Малады Андрэйка.
Ён не прынімае, назад адсылае,
К сабе белага цара вызывае.
Да белы цар да не выходзіць,
Да яго да падарак шле.
Да які падарак? — Залаты кубак.
Малады паніч таго не прынімае.
Да які паніч? — Малады Андрэйка.
Ён не прынімае, назад адсылае,

Белага цара да вызывае.
Белы цар да не выходзіць,
Ён да яго падарак шле.
Да які падарак? — Залаты пярсцёнак.
Да паніч таго да не прынімае,
Ён не прынімае, назад усылае,
К сабе белага цара вызывае.
Да белы цар да не выходзіць,
Да ён да яго падарак шле.
Да які падарак? — Красную панну.
Да паніч тое да прымае,
Да [прымае], назад не ўсылае.
Да які паніч? — Малады Андрэйка.
Ў залатым кубку умываецца,
Шаўковай хусткай уціраецца.
Залаты персцень — вянчаціся,
Вараны [конік] — праязджаціся,
Кованы пояс — красаваціся,
Красная панна — век векаваці,
Век векаваці, дзетак дажыдаці.
Да дзякуй, дзякуй, белы цар,
Да дзякуй, дзякуй за красную панну.
Да патом таго, малады паніч,
Малады паніч малады Андрэйка!
Ці ўслух табе наша песенька?
Да калі ўслух, не вялі таміць.

## 344

У нашага пана да на падвор'і
А стаіць явар зелянюсенькі,
А на ім сакол яснюсенькі.
Малод паніч і цікаецца,
Цікаецца і туляецца,
[Сакала страляць цаляецца].
Стаў ён у яго прасіцца:
— А не бі ж мяне, не страляй мяне,
Я ж табе буду да знадобненек.
Будзеш малод да жаніціся,
Будзеш браць паненку за рэкамі,
За рэкамі, за Дунаямі,
Не будзе ў цябе перавозічка,

Я ў цябе буду перавозьнічкам.
Цябе, маладога, — на крылочку,
Тваю паненку — у чаўночку,
Твае конікі да ўплаў пушчу,
Твае харты перасвішчу.
Збіраліся слаўныя панове,
Збіраліся, рахаваліся,
Чым таго паніча да дарыць будзем.
Будзем дарыць жытам-бытам,
Жытам-бытам да усім дабром,
Усім дабром, жытнім дабром.
Не трымай гасцей да дары бардзей.

*Хор:*
Нашы дары невялікія:
Пачынальніку — чырвон злоты,
Яго дружыне — па грошыку,
Механосу — карэц яец,
А музыцы — добрая доля,
Добрая доля — кварта гарэлкі,
Кварта гарэлкі — то ля голасу,
А пірог пшонны — то ля коласу.
Валачобнічкі-недакучнічкі,
У год хадзіце, бога прасіце.
Яны пяюць, як салавейкі,
Як салавейкі ў лузе на каліне.
Стой, калінка, стой, не хіліся,
Слаўная й пані, развесяліся.

## 345

Ай, ляціць, ляціць арэхаўка,
[Вясна красна на ўвесь свет!]*
Ай, нясець, нясець ў дзюбе жалуд.
А ўраніла жалуд ды пасярод двара,
Пасярод двара ды Толічкавага.
З таго жалудка ды, вой, вырас дубок,
Ай, вырас дубок, ды ён тонак, высок,
Ён тонак, высок ды на лісце шырок,
На лісце шырок ды каранём глыбок.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

На тым жа дубку ды, вой, сядзіць галубок.
Вышаў Толічак, ён узяў руж'ё,
Ён меціў-меціў галубка стрэліць,
А той галубок а начупырыўся,
А і Толічку ды ён адгукнуўся:
— Пастой, не страляй, й молад Толечка,
А я ж табе ды, вой, знадоблюся.
А як будзеш жа ты да жаніціся,
Перайму ж тваю ды ўсю дружыначку,
А ўсю дружыну — ды на серадзіну,
Цябе ж, малайца,— ды на самы пярод,
А й музыканта — ды, вой, на крылейка,
Тваю сваціцу — ды на самы хвасток,
А і панясу ды стромка, высака,
А каб дружына ды ганарылася,
А і галубком ды пахваліласся.
Ай, буду лятаць, ай, будзець відаць.
А сяду, паду ды ў цесця на двару,
Як будуць вітаць, я буду стаяць.

## 346

Ай, лятуць, лятуць ды два галубкі,
Зялёна траўка-мураўка!*
Ай, нясуць, нясуць ды два жалудкі.
Ой, вышаў, вышаў млоды панічок,
Млоды панічок млоды Ванечка,
Ой, вынес, вынес стрэльбачак пучок,
Ой, меціць, меціць галубку убіць.
— Млоды панічок, млоды Ванечка,
Не страляй мяне — прыгаджуся табе.
Ды будзеш жа ты ды жаніціся,
Будзеш браць паненку ды аж за вадою,
Я тваіх сватоў усіх перавязу,
Тваіх сваточкаў — на караблёчку,
Цябе з паненкай — ў новым чаўночку,
Твайго музыку — хоць на языку,
Твайго вазілу — хоць на хвасцілу.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 347

Па сенажаці, па поплаве,
Зялён явар, кудравы!*
Там хадзіла стада курапатаў,
Між тых курапатаў —шэрая зязюлька.
Адкуль, адсюль сіні селязенька
Усіх курапат паразганяў,
Шэрую зязюльку да сябе ўзяў.
Стала яна ў яго ды прасіціся,
Ды прасіціся, ды маліціся.
Адкуль, адсюль молад Іванка
Хацеў яго ды застрэліці,
Застрэліці ды забіці.
Стаў ён у яго ды прасіціся:
— Не бі мяне, не страляй мяне,
Я табе, молад, знадоблюся.
Будзеш, молад, ды жаніціся,
Будзеш панну браці за гарамі,
За гарамі ды за вадамі,
Будзеш клікаць перавознікаў,
Будзеш клікаць, не даклічашся,
Я к табе, шэры, сам прылячу,
Коні твае ўплаў пушчу,
Дружыну тваю перасвішчу,
Свата на галовачцы павязу,
А музыку — на хвасточку,
Тваю маладую — побач з табою.

## 348

У лузе, лузе у зялёненькім
Стаіць стаенка мураваная.
У той стаенцы стада конікаў,
Стада конікаў варанюсенькіх,
Хурманочак маладзюсенькі.
Ён не гуляець, каня сядлаець,
Каня сядлаець для паніча.
Едзець панічок да і лужочкам,
Да і лужочкам, крутым беражочкам,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Каля Дуная, каля ціхага.
А на Дунаю, а на ціхім
Плывець вутачка, плывець шэрая.
Меціць, цэліць вутачку забіць.
Яна ў панічка папрасілася:
— Не мець, не цэль, молад панічок,
Я маладому спадобна буду,
Спадобна буду, як будзеш жаніцца.
Ваша паненачка дужа далёка,
За водамі за глыбокімі.
Я маладога і перавязу,
Пасаджу ж я вас на сізым крыле,
А паненачку — поплеч цябе,
А дружыначку — хоць на хвасце.
Конікаў вашых уплаў паганю.
Песеньцы канец, пяць пар яец.

## 349

Ой, у мяжы, ў мяжы бел камень ляжыць,
Іграйце, малойцы, гуляйце!*
Пад тым камянём — лютая змяя.
Хто ж тую змяю пасячэ, парубае?
Ой, абазваўся слічны панічык,
Слічны панічык, панічык Іванка:
— Я ж тую змяю пасяку, парублю.
— Ой, прашу ж цябе, не страляй мяне,
Як ты будзеш жа да жаніціся,
Брацьмеш ты сабе слічну панначку,
Я ж цябе перавязу да й да святліцы.
У той жа святліцы мёд, віно піці,
Мёд, віно піці, добра з паннай жыці.

## 350

Ой, ў полі, ў полі шырока мяжа,
Іграйце, малойцы, спявайце!*
А на той мяжы бел камень ляжыць,
Пад тым каменем да змяя сядзіць.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Ой, туды ішоў слічны панічык.
Слічны панічык, паніч Іванка
Стружачкі стружа, стрэльбу набівае,
Стрэльбу набівае, у змяю цаляе.
— Паніч Іванок, не страляй мяне,
Не страляй мяне, не фугай мяне.
Ой, як ты ж будзеш да й жаніціся,
Будзеш жонку браць да й за ракою,
Да й за ракою, да й за быстраю,
Я й твае сватоўе да й перавяду,
Твае свашачкі да й перавязу.
Цябе з паннаю да й перанясу.

## 351

Чыстым у полі на вадапоі,
[А зялён дубе у дуброве!]*
Чыстым у полі да табун коней,
А ў том табуне конь вараненькі,
Ніхто яго не паймае, не асядлае.
Дзе б узяўся паніч маладзенькі,
Ён таго каня спаймае,
І спаймае і асядлае.
А паедзе на ём жаніціся —
Перавязе яго чэраз ночы цёмныя,
Ночы цёмныя, рэкі быстрыя.
А стаіць явар тонкі, кудравы,
На том явары сядзіць сакол.
Ён на таго сакала ускладаецца.
А і той сакол слова прамовіў:
— Не бі мяне, паніч маладзенькі,
Буду табе ў вялікай прыгодзе,
А паедзеш ты да жаніціся,
А будуць табе ночы цёмныя,
Ночы цёмныя, рэкі быстрыя,
Рэкі быстрыя, беражыстыя,
Я цябе перавязу на галовачцы,
А дружыну тваю — на крыллейку,
Цынбал тваіх — на хвасцічку.
А патом, панічу, не кажы казніць,
Не кажы казніць, а кажы дарыць.

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 352

Добры вечар, добрыя людзі!
Вясна красна на ўвесь свет!*
Ой, чый жа то двор, што зялезны тын,
Што зялезны тын, медзяныя варата,
Падвароцейка пазалочанае?
Ой, на том двара да стаіць явор,
Ой, на том явары да сядзіць сакол.
Па двару ходзя молад Якаўка,
Па двару ходзя, лучок падымае
Лучок падымае, хоча сокала убіць.
— Молад Якаўка, да не бі ж ты мяне,
Да не бі ж ты мяне, не губі ж ты мяне.
Знадаблюсь ■ табе пры ліхой гадзіне,
Як будзеш ты да жаніціся,
Маладую жану з-за сіня мора браць,
Перанясу ж я цябе да на крыллейку,
А жану тваю да на хвосцічку.

## 353

У чыстым полі, чысцюсенькім
Ляжыць камень бялюсенькі,
Пад тым каменем — люта гадзіна.
Тудым ішоў слаўны паніч,
Слаўны паніч [молад Пятрунька],
Цэліць-мецiць, забіць хочэць,
Тугі й лучок нацягіваець,
Залатую стрэлку напраўляець.
Люта гадзіна адмаўляець:
— Ох, не бі мяне, не губі мяне,
Не губі мяне, слічны панічу,
Слічны панічу [молад Пятрунька],
Вот скажу я табе тры радасці,
Тры радасці, тры весялосці:
Первая радасць — цябе бог завець,
Цябе бог завець, долю даець;
Другая радасць — цябе пан завець,
Цябе пан завець, зямлю даець;

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Трэцяя радасць — цябе цар завець,
Цябе цар завець, дачку аддаець.
Патом таго, слаўны панічу,
Слаўны панічу молад Пятрунька,
Ты з доляю шчасліў будзеш,
Са зямлёю багат будзеш,
Са царэўнаю вот і жыць будзеш,
Вот і жыць будзеш, векаваць будзеш,
Векаваць будзеш, панаваць будзеш,
Златом-серабром купцаваць будзеш.
Патом таго, слаўны панічу,
Слаўны панічу [молад Пятрунька],
Да ўжо ж вам песня спета.

## 354

А у полі авёс ды вялік парос,
А ў тым аўсе камень ляжыць,
На тым камені ды змяя сядзіць.
Хацеў яе ды Пецечка забіць.
Яна стала прасіціся, маліціся:
— Не бі мяне, не губі мяне.
Я табе скажу тры радасці, тры карысці:
Першая радасць — цябе бог завець,
Другая радасць — цябе цар завець,
Трэцяя радасць — цябе кароль завець.
Цябе бог завець — долю даець,
Цябе цар завець — каралеўства даець,
Цябе цесць завець — дачку даець.

## 355

А у полі авёс стаіць.
Зялён явар, вішнёў сад!*
А ў тым аўсе сакол сядзіць.
Туды ішлі тры малойчыкі,
Тры малойчыкі-рыбалоўчыкі,
Стрэля, меця сакола ўбіці.
— Не бі ж мяне, не глумі мяне,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Скажу табе тры радасці:
Першую радасць — айца слухаць,
А другую радасць — ў войску служыць,
Трэцюю радасць — ажаніціся.
Айца слухаць — збавён будзеш,
У войску служыць — славён будзеш,
Ажаніўшыся — багат будзеш.

## 356

У роўным полі авёс расцець,
А ў тым аўсе белы камень,
На камені сакол сядзіць.
Вышаў, вышаў красны панічык,
Красны панічык, што млоды Ясек,
Меціць стрэліць, сакала забіць.
— Не бі, не бі, млоды Ясеньку,
Я то скажу да тры радасці:
Адна радасць — бацькі слухаць,
Друга радасць — цару служыць,
Трэцця радасць — жаніціся.
Бацькі слухаць — збавён будзеш,
Цару служыць — славён будзеш,
Жаніціся — багат будзеш.

## 357

Авёс зелен — позна сеян,
Віно ды віно ж маё зялёнае!*
Праз той авёс мяжа ляжыць,
Па той мяжы куна бяжыць.
Выйшаў, выцек красны панічык,
Красны панічык малады Іванька,
Стружкі стружа, стрэльбу набівае,
Стрэльбу набівае, на куну страляе.
Стала яна ды прасіціся:
— Не бі мяне, не страляй мяне,
Я табе скажу ды тры раданькі:
Першая рада — бацькоў слухаць,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Друга раданька — гасудару служыць,
Трэця раданька — ажаніціся.
Бацькоў слухаць — спасён будзеш,
Гасудару служыць — славён будзеш,
Ажаніўшыся — багат будзеш.
Вось табе, Іванька, песня спета,
Песня спета проці лета,
Проці цёплага і вясёлага,
І вясёлага і здаровага!

## 358

У роўным полі авёс расце,
Да віно ж, віно зялёнае!*
Праз той авёс мяжа ляжыць,
На той мяжы камень ляжыць,
Праз той камень куна скача.
Надыбаўся красны панічык,
Намеціўся куну страляць.
Яна ў яго прасілася:
— Не бі мяне, не страляй мяне.
Скажу табе тры надобейкі:
Першае надоб'е — айца слухаць,
Другое надоб'е — каралю служыць,
Трэцяе надоб'е — ажаніціся.
Ажаніўшыся — шчасліў будзеш,
Айца слухаць — спасён будзеш,
Каралю служыць — славён будзеш.
Ажаніўшыся — гаспадар будзеш,
На коніку паязджаць будзеш.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

25. Зак. 1108

## 359

Ой, на моры, на сінім Дунаі,
Віно ж мае зеляно!*
Ляжыць кладка брусаваная,
А масточкі ўсё каваныя.
Тудой ішло семсот коней.
Усе кладачкі пазгібаліся,
А масточкі паламаліся,
Семсот коней утапілася.
Скуль узяўся красны панічык,
Красны панічык малады Андрэйка,
Ляціць-бяжыць, гукаючы,
Свайго каня шукаючы:
— Вот не жаль жа мне семсот коней,
Вот жаль жа мне аднаго каня.
З яго рота цякло злота,
Ён капыцікам камень разбівае,
Ён хвосцікам вулку падмятае,
Ён вушкамі неба падпірае,
Ён вочкамі зорачкі шчытае,
Ён Андрэйку паненку шукае.

## 360

Лугам, лугам да далінаю,
[Вясна красна на ўвесь свет!]*
На том лузе семсот мастоў.
Тудэма ехаў слічны панічык,
Сталі тыя масты гібаціся,
Гібаціся і ламаціся,
Сталі коні спатыкаціся.
— Не шкада мне семсот мастоў,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

А шкада мне вараных коней,
Аднаго каня рыслівага,
А другога шчаслівага.
Ён вушыма сем міль чуе,
А вочкамі гвязды лічыць,
А хвосцікам след замятае.
— Ото ж табе, слічны панічу,
Песня спета проці лета,
Проці лета урадлівага,
Проці году шчаслівага.

## 361

Што й на выпасе, то й на выпасеку,
[Вясна красна на ўвесь свет!]*
Да ходзяць коні табуночкам,
Табуночкамі з жарабяткамі.
Паміж тых коней — конік сівенькі,
Конік сівенькі, белагрывенькі.
Ніхто таго каня не распутае,
Не распутае, не разнуздае.
Як абабраўся малады Іванька:
— Я ж гэтага каня да й распутаю,
Я распутаю да й разнуздаю.
Я ж на гэтым кані жаніцца паеду,
Жаніцца паеду я ў Турчыначку.
Вазьму сабе дзеўку я турчаначку,
Я турчаначку, красну паннаначку.

## 362

На балоце, на паплаве, гэй, лолам!
На балоце, на паплаве
Ходзіць стада вараное, гэй, лолам!
Ходзіць стада вараное.
Тудым ехаў бел малойчык, гэй, лолам!
Тудым ехаў бел малойчык
На коніку вараненькім, гэй, лолам!
На коніку вараненькім,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

На сядэлку залаценькім, гэй, лолам!
На сядэлку залаценькім.
Хустанькаю размахвае, гэй, лолам!
Хустанькаю размахвае,
З пастушкамі размаўляе, гэй, лолам!
З пастушкамі размаўляе:
— А мае ж вы пастушкове, гэй, лолам!
А мае ж вы пастушкове,
Не жэньце вы на калінаў мост, гэй, лолам!
Не жэньце вы на калінаў мост.
Калінаў мост уломіцца, гэй, лолам!
Калінаў мост уломіцца,
Вараное стада утопіцца, гэй, лолам!
Вараное стада утопіцца.
Не жаль жа мне варанога стада, гэй, лолам!
Не жаль жа мне варанога стада,
Як трох коней вараненькіх, гэй, лолам!
[Як трох коней вараненькіх],
Трох малойцаў маладзенькіх, гэй, лолам!
Трох малойцаў маладзенькіх.

### 363

На поплаўцы да на мураўцы,
Да віно ж наша зеляное!*
Там гуляла вараное стада,
Між таго стада — конь неязджалы.
Таго коня лоўцы лавілі,
Лоўцы лавілі, яго не злавілі.
Выйшаў, выбег малойчык Васілька.
— Я сабе каня сам асядлаю,
Сам асядлаю да й паеду,
Да й паеду ў чужую землю.
Прывязу сабе чужаземачку,
Сабе маладому да за мілую,
Сваёй матачцы за нявестачку,
Пасцель слаці, з панічом спаці.
— Ото ж табе, слаўны панічык,
Песня спета проціў лета,
Проціў Юр'я на добра здароўе,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Процiў лета радлiвага,
Процiў года шчаслiвага.
Проша выйсцi ды на ганачак,
Проша вынесцi капу яечак,
Капу не капу — паўкапы мала,
Паўкапы мала, каб усiм стала.
Чырвоны злоты нам на боты.
То мы й пойдзем ды гукаючы,
Слаўнага панiча звелiчаючы.

364

Ой, рана, рана да пава лятала,
[Вясна красна на ўвесь свет!]*
Усюды лятала, ў лузе не бывала.
А ў том лузе сем мiль мосту,
Сем мiль мосту маляванага.
Тудэй будзе ехаць малады панiчык
На сто коней вараненькiх,
Наш панiчык маладзенькi.
Стаў жа мосцiк ламацiся,
Стаў панiчык дзiвавацiся:
— Вот не жалка сто конiкаў,
А мне жалка каня варанога,
Каня варанога, сядла залатога.
Ён вухамi далёка чуе,
Капыцечкам зямлю крое,
А грываю неба падпiрае,
А хвосцiкам сляды замятае.
— Гэта табе, малады панiч,
Песня спета процiў лета,
Процiў лета ўрадлiвага,
Процiў году шчаслiвага,
Процiў Юр'я на добра здароўе,
Яйкi фарбаваны, мы людзi каханы,
Мы жычым праўдзiве, дай божа шчаслiве!

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 365

Да й за гуменцам, да за новенькім,
[Вясна красна на ўвесь свет!]*
Да парос авёс, да зеляненькі,
Да й унадзіўся конік вараненькі,
Да паеў авёс, да зеляненькі.
Вышлі хлопцы каня лавіці.
Лавілі, лавілі да й не злавілі.
Вышаў, выбег слічны панічык,
Слічны панічык, панічык і Толя.
— А чаго ж ты, конік, так разгуляўся,
Так разгуляўся, лавіцца не даўся.
Я цябе, конік, сам і спаймаю,
Сам і спаймаю, сядлом асядлаю,
Сядлом асядлаю, сяду да паеду,
Сяду да паеду ў чужу земачку,
У чужу земачку да па дзевачку.
Еду сялом — людзі дзівуюць.
Еду местам — места ззяе.
Таму добра будзе, чый зяць будзе,
А таму найлепей, чый сын едзе.

## 366

Ў вагародзе, ў чыстым полі,
Да зялёна віно, зеляно!*
Там гуляла коней стада,
Паміж той стады — конік неязджалы.
Тога коня лаўцы лавілі,
Лаўцы лавілі, не злавілі.
Вышаў, выбег малады малойчык,
Ўбокі ўзяўся, засмяяўся:
— Чаго конік разгуляўся?
Я цябе, конік, сам спаймаю,
Сам спаймаю, зауздаю,
Зауздаю, асядлаю.
Мы паедзем на паляванне
Да да паненачкі на гулянне.
Будзем ехаць цераз нова места,

---

* Рафрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Будзе места разлягаціся,
Будуць мяшчане дзівавацiся.
Будзем ехаць цераз нову вёску,
Будзе вёска разлягацiся,
Будуць вясковыя дзівавацiся:
— Чый сын едзе, тому й добра,
Чый зяць будзе, тому й лепей.

## 367

А ў гародзе да на пераходзе,
Вясна красна на ўвесь свет!*
Слічная паненка ячмень жала,
Ячмень жала, грэчку вязала.
Да прыйшоў да яе кавалер яе.
— Да памажы, божа, ячмень жаці,
Ячмень жаці, грэчку вязаці.
Зауздаю сівага каня
Да й паеду на ваеначку,
Прывязу сабе чужаземачку.
Бацьку і матцы за служачку,
А мне, маладому, да за жоначку.
Бацьку і матцы вады падаваці,
А мне, маладому, белу пасцель слаці.

## 368

Ой, у полі, полі ды хадзіла стада,
Вясна красна к нам прышла!*
Між таго стада — конь нелавушчы,
Нелавушчы і неасядлушчы.
Адкуль узяўся злічны панічык:
— Я ж таго каня ды сам спаймаю,
Ды сам спаймаю ды асядлаю,
Сяду, паеду ды жаніціся.
Ехаў масткамі — масты гіблюцца,
Уехаў у дзяразўню — людзі дзівяцца:
— Чый гэта сын едзе, каму зяцем будзе?
— Міхалёў сын едзе, Мар'і зяць будзе.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Да на небе, небе месячык іграе,
Вясна красна на ўвесь свет! *
Там Іванька коніка сядлае,
А ў яго мамка праўды пытае:
— Куды ты, сыночак, коніка сядлаеш?
— Да паеду, мамка, жаніцца,
Прывязу панейку маладзенькую,
Каб яна жала ды не ляжала,
Каб у полі жыта не зімавала,
На гары кудзеля не летавала.

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 370

А ў пакоі васкаваным,
[Вясна красна на ўвесь свет!]*
Стаіць ложа малявана,
На тым ложы паніч гожы
Служкі свае паклікае:
— Служкі мае вярненькія,
Закладайце коні вараненькія,
Мы паедзем у татаршчыну,
У татаршчыну і ў баяршчыну.
Цераз поле едзем — усё поле зіяе,
Цераз места едзем — усё места дзівуе,
Цераз вёску едзем — уся вёска шапкуе.
Бог таму дае, чый сын едзе,
Яшчэ таму лепей, чый зяць будзе.
— Ото ж табе, слічны панічу,
Песня спета проці лета,
Проці лета урадлівага,
Проці году шчаслівага.

*Віншаванне:*
Віншуем на гладкасць, на буйнасць,
Паненкам на зайздрасць.

## 371

Ой, ці дома, дома красны панічык?
Да віно ж, віно зялёнае!*
Хоць і ў доме, не акажацца —
У казловы боты абуваецца.
Сядзіць жа ён за столічкам,
За столічкам за цясовенькім,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Пісьмы піша, распісуе,
У чужыя землі рассылае:
У першую — у турэцкую,
У другую — у шведскую,
У трэцюю — у таленскую.
У першую — па коніка,
У другую — па золата,
У трэцюю — усё па дзевачку.
Як увайшоў ён у стаенку,
Ніхто таго каня не спаймае,
Не спаймае, не асядлае.
Як увайшоў ён у стаенку,
На ім шпоры зазвінелі,
На ім сукні зашасцелі,
На ім шапка, як [месяц], зззяіць,
На ім паясок, як зоры, свеціць.
Ён таго коніка ўсё паймае,
У Варшаве выязджае.
Як уехаў у Варшаву,
Пусціў стрэлку ў бок Аршавы.
Усе аршаўшчыкі надумеліся
І панічу кланяліся.
А чым жа мы будзем паніча дарыці?
Будзем дарыці дарам злотам,
Дарам злотам нелічоным,
Белым срэбрам неважоным.
Ён з коніка не ссядае,
Ён іх дароў не прымае.
Будзем дарыць краснай паненкай.
Ён з коніка ўсё ссядае
І галоўку й укланяе,
Ён дзеваньку забірае
І з Варшавы выязджае.

## 372

Добры й вечар, слічны панічу!
[Вясна красна на ўвесь свет!]*
А чы ўдома, слічны панічык?
Няма ўдома, ён ў Кракове.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Седзі паніч за сталамі
Са сваімі калегамі.
Седзі за сталамі, лісты піша,
У розныя землі лісты рассылае:
Адзін паслаў у нямецкую,
А другі [паслаў] у турэцкую,
А трэці — да ў альбоўскую.
Думаў паніч жаніціся,
Сабраліся, рахаваліся,
Чым мы будзем паніча дарыць,
Дарыць будзем, гадзіць будзем.
Вот мы убралі каня варанога
Да убралі ў залаты страмёна,
Як убралі, панічу падалі.
Паніч на каня а не спуйжал
Да вялеў войску наступаці,
Альбоўскую землю разваяваці.
Сабраліся, рахаваліся,
Чым мы будзем паніча дарыці,
Дарыць будзем, гадзіць будзем.
І выбралі слічну панну
Да убралі ў ядвабныя сукні,
Да убралі, панічу падалі.
Паніч за панну слічне падзеньковал
І схіліўся, і скланіўся,
Да не вялеў войску наступаці,
Альбоўскую землю ваяваці.
Віншуемы, слічны панічу,
Жэбы ў науцэ сень удавало,
Жэбы паніч вышэдл на прафэсо́ра,
Вшысцы бы паніча уважалі
І мы такжа паважалі,
Здалека чапка здэймавалі
Па спатканне рэнка цалавалі,
Віншуемы, слічны панічу,
Проціў лета песня спета,
Проціў лета урадлівага,
Проціў року шчаслівага.

## 373

Добры вечар, слічны панічок!
Вясна красна на ўвесь свет!*
Хоць і дома, не акажацца —
У каморы прыбіраецца.
Ён сеў сабе за столікам,
Піша пісьмы ў тры зямлі,
Піша пісьмы, размячае,
У тры зямлі раскладае:
У першую — па коніка,
У другую — па золата,
У трэцюю — да паненкі.
Па коніка пасла пашлю,
Па золата — таварыша,
Па паненку сам паеду,
На коніку паязджаць буду,
А золатам шафаваць буду,
А з паненкай векаваць буду.

Табе, панічок, песня спета,
Песня спета проці лета,
Лета цёплага і вясёлага.
Дай жа божа зорак дачакаці,
Гэтага паніча панам назваці.

## 374

Лужком, лужком ды далінкаю,
Ды віно ж маё зеляное!
Сцежачкамі дратаванымі,
Ой, зялёны явар, вінаград! **
Тудой ішлі валачобнікі,
Спяваючы, іграючы,
Малойчыка шукаючы.
А ці дома, дома слічны малойчык,
Слічны малойчык малады Іванька?
Хоць і дома, не акажацца —

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.
** Рэфрэны «Ды віно ж маё зеляное!» і «Ой, зялёны явар, вінаград!» паўтараюцца па чарзе праз адзін радок.

За столікам за цясовенькім
Піша лісты у тры землі:
У першую — у турэцкую,
У другую — у шведскую,
У трэцюю — у валынскую.
У турэцкую — па коніка,
У шведскую — па золата,
У валынскую — па валыначку.
На коніку паязджаць будзе,
А золатам шахаваць будзе,
А з валыначкай векаваць будзе!

## 375

А ў полі, полі чысцюсенькім
А бяжыць конік варанюсенькі.
Ніхто ж яго не спаймае,
Не спаймае, не асядлае.
Абабраўся молад жанішка,
А ён яго да спаймаў жа,
Да спаймаў жа і асядлаў жа,
А ўссеў жа ён і паехаў
А на Русь-поле ваяваціся.
— Выйдзі, выйдзі, а нярускі цар.
Цар не выходзя, а падаркі шле,
Выслаў яму варанога каня.
Ён гэтым падаркам не ўкарыўся,
А назад цару не скланіўся.
Выслаў цар яму слічну паненку,
Слічну паненку, красну дзеўку.
Ён гэтым падаркам і ўкарыўся,
А назад цару і скланіўся.

## 376

З-пад гаю зялёнага,
З-пад саду вішнёвага
Выступае цёмна войска.
Хто ў том войску старшыною?
Старшыною малады паніч
Душа-малойчык.
Што ж таму паняняці

Да ў дар даці?
Трэба таму да панічыку
У дар даці варана каня,
Сядланага да прыбранага.
Ён на тое не ўпавае,
Ён за тое не дзякуе...
Трэба яму да ў дар даці
Маладую да й паненачку,
Паненачку да й за жоначку.

## 377

А у полі, ў полі два дубочкі,
Зялёны явар, дуброва! *
Між тых дубоў Дунай цячэ,
Па Дунаі чаўнок плыве,
У тым чаўнаку паніч гукае,
Сабе дзевачку выклікае.
Малада дзеўчына не выходзіць,
Да ўсё слугі высылае,
Маладога паніча не прымае,
Не прымае, адсылае.
Як выводзяць каня варанога —
Ён на яго не спаглянуў,
Ён за яго не падзякаваў.
Як выводзяць маладу дзяўчыну —
Ён на яе да й спаглянуў,
Ён за яе да й падзякаваў:
— Дзякуй, дзякуй за паненачку,
За яе сукню шаўковую,
За яе хустку парчовую!

## 378

Ляцелі, ляцелі да два галубочкі,
Да віно ж наша зялёнае! *
Няслі, няслі па два жалудочкі.
Дзе жалудочкі ўпалі, там два дубы сталі.
Паміж тых дубоў да Дунай цячэ,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

А на тым Дунаі карабель плыве,
А ў тым караблі прыгожы панічык
Пад'язджае пад новы горад,
Выклікае пана турчаніна.
Турчанін да не выходзіць,
Ён сваіх слугаў да высылае.
— Я тваіх слугаў не прымаю,
Я твой горад да парубаю.
Пан яму дае шырокае поле,
Шырокае поле з вішнямі, садамі.
— Я таго поля і саду не прымаю,
Я твой горад да парубаю.
Пан яму дае прыгожу дзяўчыну,
Прыгожу дзяўчыну з русымі касамі.
Паніч з карабля да падхваціўся
Да таму пану ў ногі пакланіўся:
— Цяпер, пане, годзе ваяваці,
Годзе ваяваці, буду цесцем зваці.

## 379

Да ляцяць, ляцяць два галубочкі,
[Вясна красна!] *
Да нясуць да па жалудочку.
Дзе жалудочкі палі,
Там два дубы сталі.
Між тых дубоў да Дунай цячэ,
У том Дунаі чаўнок плыве,
У том чаўнаку малады паніч,
Малады паніч душа-Сцяпанка
Пад ноў горад пад'язджае,
Турчат выклікае:
— Выйдзі, выйдзі, пан турчанін!
Пан турчанін не выходзіць.
— Мы тваіх служак не прынімаем,
Мы твой горад расстраляем,
Расстраляем, разрубаем
Да стрэлкаміператычам,
К сабе паненку пераклічам.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 380

А на моры на Дунаі,
Да віно ж, віно зялёнае! *
Плыве човен маляваны,
А ў тым чаўне красны панічык,
Красны панічык малады Іванка
Залатым праслам апіраецца,
Із яго татулька уцяшаецца:
— Мой сыночак-сакалочак,
Да куды ж ты да й паедзеш?
— Я й паеду ў турэцкую зямлю,
У турэцкую зямлю з туркам ваяваці,
З туркам ваяваці, турэчынку браці.
— Вот табе, панічык, песня спета,
Песня спета проці лета.
Велікодная — то угодная,
Веліканоцная — то памоцная,
Жыві, панічык, у раскошы
І мей катух грошы,
Хлеба, солі й каб бяды ніколі.

## 381

Славен панічу!
Ой, чым жа ён славен?
Ён з турэцкім конем
Хоць перад кролем.
На сівым кані прыязджае,
Залаты стрэлкі настаўляе,
Альбоў-места разбівае.
Вышлі да яго слаўны мяшчане,
Даюць яму слаўныя дары.
Ён тых дароў не прымае,
Залаты стрэлкі настаўляе,
Альбоў-места разбівае.
Вышлі да яго з паноў панове,
З паноў панове, сенатарове,
Даюць яму сенатароўну.
Сенатароўна — панічава роўна.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Вялеў служкам скланіціся,
Вялеў служкам сталы заслаці,
Вялеў служкам кубкі стаўляці,
Віном, мёдам налівачі,
Усіх госці частаваці.
То ж на здароўе, храбры панічу,
З бйцам і з маткаю.

## 382

З-пад гаю зялёнага,
З-пад саду вішнёвага
Выступае цёмна войска.
Хто ў тым войску старшыною?
Старшыною млоды паніч,
[Млоды паніч] душа-малойчык.
Што ж таму паняняці
Да ў дар даці?
Трэба таму да панічыку
У дар даці варанога каня,
Сядланага ды прыбранага.
Ён на тое не ўпавае,
Ён за тое не дзякуе.
Трэба яму у дар даці
Маладую ды й паненачку,
Паненачку ды й за жоначку.

## 383

Да ў Варшаве крэсла стаіць,
Да віно ж, віно зялянo! *
На тым крэсле паніч сядзіць,
Паніч сядзіць да суды судзіць,
Суды судзіць да перасуджвае,
Па сто тысяч грошы бярэ.
Паднімаўся тры вайны збіці,
Тры паненкі замуж узяці.
Адну вайну маскоўскую,
А другую французскую
А трэцюю турэцкую.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Масковачка — есць гатаваці,
Французачка — ложка слаці,
Турэчанка — з панічом спаці.

384

У ляску, ляску на жоўтым пяску,
Зялён явар, кудравы! *
Там жа ляжала бруссе часана,
А на тым бруссі мужы сядзелі,
Мужы сядзелі, раду радзілі,
Раду радзілі, як піва варыць,
Як піва варыць ды каго жаніць.
Ну, будзем жаніць маладога Йванку.
Ой, жаніць, жаніць, чым яго дарыць?
Падарым яго вараным канём,
Вараным канём, залатым сядлом,
Залатым сядлом, слічнай паненкай,
Слічнай паненкай маладой Аленкай.

385

Да на вуліцы, да на шырокай,
Да зялён явар, зялёны! *
Там ляжалі брусы ўсё новыя,
Усё новыя, усё цясовыя.
А на тым бруссі два мужы сядзела,
Два мужы сядзела, два суды судзіла.
Адзін кажа: «Трэба піва варыць,
Трэба піва варыць, трэба сына жаніць».
Другі кажа: «Гарэлачку гнаці,
Гарэлачку гнаці, дачку аддаваці».

386

Да на вуліцы, да на шырокай,**
Вясна красна на ўвесь свет! *
Да сядзяць мужэ, да судзяць судэ,
Да судзяць судэ, да перасуджаюць,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.
** Кожны радок спяваецца два разы.

Каму піва варыць, каму сына жаніць,
Каму гарэлачку гнаць, каму дачку аддаваць.
А Мішачка кажа: «Буду сына жаніць».
А Андрэйка кажа: «Буду дачку аддаваць».

387

Высока, высока да месячык свеціць,
Да віно ж наша зеляное!*
Далёка, далёка да Міхалка паедзіць,
Да на коніку, да на вараненькім,
Да на сядзелцы, да на залаценькім.
Да за ім, за ім яго матка йдзе.
— Паволі, паволі, маё ты дзіцятка,
Каб твой конік не спатыкнуўся,
Каб ты, маладзенькі, не ўлякнуўся,
Каб цябе дзевачка здалёку пазнала,
Здалёку пазнала, міленькім назвала,
Цябе — міленькім, каня — вараненькім,
Каня — вараненькім, сядло — залаценькім.

388

Высока, высока да месяц свеціць,
Да зялёны явар, кудравы! *
Харашэнька да малойчык едзіць.
Да за ім, за ім яго бацюшка.
— Зволі, паволі, мой ты сыночак,
Каб твой конік не скапытнуўся,
Каб ты, маладзенькі, не улякнуўся,
Перад шлюбам не змыліўся.
— Не бойся, не бойся, мой бацюшка,
Вой, мой конік не скапытнецца,
А я, маладзенькі, не улякнуся,
Перад шлюбам не змылюся,
Зняўшы шапачку да й скланюся.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 389

Гой, на моры, на возеры,
Віно ж, віно зялёнае! *
Плыве чаўнок маляваны,
А ў чаўночку красны малойчык
Залатым вяслом папіраецца,
У яго матуля ўсё пытаецца:
— Мой сыночак-сакалочак,
Ты паедзеш да дзявочак.
Не ўглядайся на багатую,
А ўглядайся на работніцу.
Багатая будзе ганарыцца,
А бедная табе пакарыцца.
Багатая цябе не палюбіць,
А бедная цябе прыгалубіць.
Яна будзе служкаю ў хаце
І для мужа, і для яго маці.

## 390

Да было у бабкі тры дачкі,
Вясна красна на ўвесь свет! *
Першая дачушка — тонкая, высокая,
Другая дачушка — белая, румяная,
Трэцяя дачушка — чорненькая, маленькая.
Тонкую, высокую паповіч узяў,
Белую, румяную дзяковіч узяў,
Чорненькую, маленькую да вайтовіч узяў.
Да на вялікдзень, да на першы дзень
Сталі з'язджацца к маці у госці,
Сталі насміхацца да з вайтовіча:
— Ці табе не стала тонкай і высокай,

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Што ты не ўзяў белу і румяну,
Што ты узяў чорненьку, маленьку?
— Сосна высока, але яна гібка,
Рэдзька бела, але яна горка,
Мая чарненька, але саладзенька.

## 391

Было ў мамкі тры дачушкі,*
Вясна красна на дварэ! **
Тры дачушачкі да й услужачкі.
Адна дачушка — тонка, высока,
Другая дачушка — бела, румяна,
Трэцяя дачушка — чорна, маленька.
Тонку, высоку да Крыловіч узяў,
Белу, румяну да Бялевіч узяў,
Чорну, маленьку да Чарновіч узяў.
На вялікдзень да на першы дзень
Сталі зяці да з'язджаціся
Да з Чарновіча да смяяціся.
— Ці не было табе тонкай, высокай,
Ці не было табе белай, румянай?
Стаў Чарновіч ім адгадаваць:
— Тонка ліпка, чаму яна гібка,
Рэдзька бела, чаму яна горка,
Мак чарненькі саладзюсенькі.

## 392

Пасярод сяла жыла-была й удава,
Да зялёны явар, зялёны! **
А у той удавы да было тры дачкі.
Старшую дачушку да узяў паповіч,
А другую да узяў Калтовіч,
Трэцюю дачушку да узяў Ждановіч.
Да на першы дзень на вялікадня
Сабраліся к цёшчы у госці

---

* Кожны радок спяваецца два разы.
** Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Да з Ждановіча насмяяліся:
— Ці табе не было тонкай, высокай,
Ці табе не было белай, румянай,
А што ж ты ўзяў чорную, маленьку?
Стаў той Ждановіч думаць, гадаці,
Думаць, гадаці, што ім адказаці.
— Тонка, высока пераломіцца,
Рэдзька бела, патом яна горка,
Мак чарненькі патом саладзенькі.

## 393

— Салавеечка — дробна пташачка,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
Чаго ты рана з выр'я вылецеў,
З выр'я вылецеў ды ў палёт пайшоў?
Яшчэ па далінах снягі вялікі,
Снягі вялікі, воды ды глыбокі.
Недзе салавейку гняздзечка звіці.
— Як сяду я, паду ў вінным саду,
Як у вінным саду я й на ігрушачцы,
Я на йгрушачцы, на вярхушачцы.

## 394

— Чаму, салавейка, да не вылятаеш?
Зялён явар, кудравы! *
— Як жа я маю вылятаці?
Па залесейкам ды снягі ляжаць.
А ці мне снегу ды наесціся,
Ці мне лёду напіціся.

## 395

— Чаго, салавейка, рана вылятаеш,
Ды зялёны явар, зялёны! *
Рана вылятаеш, харашо спяваеш?
Яшчэ ж у нас па гарах снягі.
Па гарах снягі, па лугах воды.
— Я ж тыя снягі да паз'ядаю,
Я ж тыя воды паспіваю.
Сяду на калочку ды ўспяваю,
Усіх пташачак да паскликаю.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 396

— Чаму, салавейка, да не вылятаеш?
А зялёны явар, зялёны! *
— Як жа я маю рана вылятаці?
А шчэ й у полі зямлі не відаці,
А шчэ па лугах воды стаяці.
— Чаму, Іванька, да не жэнішся?
— Як жа я маю да жаніціся?
Шчэ ж мая дзеўка да не вырасла,
Хоць вырасла, шаўковай хусты да не вышыла,
Хоць вышыла, да не вымыла,
Хоць вымыла, да не выкачала,
Хоць выкачала, да ў складкі не склала,
Хоць у складкі й склала, да не паказала.

## 397

— А чаго ты, жораў, не вылётаеш рана?
Зялён явар, ты ж кудравы! *
— Як жа я магу да й вылётаваць,
Па загор'ейку ўсе снягі ляжаць,
Па калужынкам ўсе воды стаяць.
А мне гэтых снягоў не надыбацца,
А мне гэтай вады не напіцца!
— А чаго ж ты, [малойчык], да не жэнішся?
— Як жа я магу да й жаніціся,
Яшчэ ж мая дзевачка да не вырасла,
Шаўковай хусты да не выткала,
Бялёвых уціральнікаў да не выбеліла.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 398

Да хадзіла я да не дзень, не два,
Слава табе, госпаду, на ўвесь свет.*
Да ўсю нядзельку, да ўсю святую,
Да не найшла да такую гасьбу,
Да такое гасьбы, як у сваёй бабкі.
Я к сваёй бабцы у вароты,
Яна мяне да сябе на двор,
Я к ёй на двор, яна мяне ў сені,
Я [redacted] ёй у сені, яна мяне ў хату,
Я к ёй у хату, яна мяне за стол,
Яна мяне за стол, хлеб-соль на стол.
Да не найшла я такое гасьбы, як у свае бабкі,
А ў мае бабкі да ўсё харашэнька,
Каб яе кароўкі да пацяліліся,
А яе кабылкі пажарабіліся.

## 399

А йшлі, прайшлі валачобныя,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
Валачобныя — людзі добрыя,
А яны ішлі да дарогаю,
Да дарогаю, да шырокаю.
А яны ішлі, валачыліся,
Валачыліся, памачыліся,
Зайшлі к бабцы, пасушыліся.
Ой ты, бабка, паварачуйся,
Да ідзі, бабка, да ў клетачку,
А прынясі, бабка, пшонны пірог,
Сыр на тарэлку і кварту гарэлкі,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Да нясі, бабка, да па пары яец,
Да па пары яец усім валачобным,
Усім валачобным да людзечкам добрым.
Валачобныя да співаліся
Да бутылачкай падзяляліся,
А старой бабкай пахваляліся.

## 400

Да была ў бабкі курка-рабушка,
Вясна красна на ўвесь свет! *
Курка-рабушка, а бабка-старушка.
Нанясла яец да повен карабец.
Да прыйшлі к бабцы да гарэчнічкі,
Да гарэчнічкі, да ўсе бабіны ўнукі.
Да дала бабка да ўсім па яечку,
Да ўсім па яечку, да й па піражэчку.
Да й адной жа сіраце дала ў абедзве руцэ.
Да пабегла сірата за новыя варата,
Да не дзякуючы, да й падскакваючы.

## 401

Валачобныя —
Людзі добрыя,
Вясна красна на ўвесь свет! **

Валачыліся,
Памачыліся.

Зайшлі к бабцы,
Пасушыліся.

А была у бабкі
Курка-рабушка,

Да нанесла яец
Да цэлы карабец.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.
** Рэфрэн паўтараецца пасля кожнай страфы.

А тая бабка —
Усім па яечку,

Адной сіраце
Да не высталася.

Пашла тая сірата
За новыя варата.

— Вярніся, сірата,
Дам табе парася,

Дам табе парася
Да і пару яец,

Да і пару яец,
Каўбасы канец.

## 402

Сагні вобад — калясо будзе.*
Вясна красна, цёплы дзень! **
Пазаві ў хату — харашо будзе.
Кожнаму ж пяўцу — па адном яйцу,
Пачынальнічку — кварту гарэлкі.
Кварту гарэлкі, сыру на тарэлкі.
Прышлі к бабцы валачобныя,
Да дала ж бабка ўсім па яечку,
Адной сіраце да не высталася.
Пашла сірата за новыя варата,
Заплакаўшы, не падзякаўшы.
Сірата, вярніся, цябе бог кліча,
Цябе бог кліча, табе долю дае.
Первая доля — жыта ядраное,
Другая доля — валы й палавыя,
Трэцяя доля — дзеці дробныя.
Жыта ядраное пажынаць будзеш,
Валы палавыя паганяць будзеш,
Дзеці дробныя пасылаць будзеш.

---

* Кожны радок спяваецца два разы.
** Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 403

Да была ў бабкі курка-рабушка,
Да віно зеляно, мёд саладок! *
Курка-рабушка, а бабка-старушка.
Да прышлі к бабцы да рарэшнічкі,
Да рарэшнічкі, ўсё бабіны ўнучкі.
Да дала бабка усім па яечку,
Усім па яечку да й па піражэчку,
Да й адной сірацe да й ў абедзве руцэ.
Як пашоў сірата за новыя варата,
Да падскакуючы, да не дзякуючы.
Да вярніся, сірата, цябе бог кліча,
Цябе бог кліча і каня даруе,
І каня даруе, і долю гатуе.

## 404

Валачобнікі валачыліся,
Валачыліся, намачыліся.
Прышлі к бабцы, пасушыліся.
А была ў бабкі курка-рабушка,
А нанесла яец повен карабец.
А ўсім дзеткам па яечку,
Адной сірацe не дасталася.
Усе пашлі ды падзякаўшы,
Адна сірата — ды заплакаўшы,
Заплакаўшы, не падзякаўшы.
Вярніся, сірата, вазьмі сабе парася,
Парася і каня, шаўкова палатна.
На кані будзеш паязджаці,
Парасяці будзеш спажываці,
Шаўкова палатно панашываць.

## 405

Да была ў бабкі курка-рабушка,
Да зялён явар, зялёны! *
Нанесла яечак поўны карабечак.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Да прышлі к бабцы у год госці,
У год госці да кукольнічкі.
Да дала бабка ўсім па яечку,
Да сіраце ячную лусту.
Пашлі хлопцы падскакваючы,
А сірата заплакаўшы.
Вярніся, сірата, цябе пан кліча,
Цябе пан кліча і карову дарыць,
Каня сівага, белагрывага,
Кварту гарэлкі, сыр на тарэлкі.

## 406

А на першы дзень на вялікадня,
Вясна красна на увесь свет!*
Ішлі ж валачобнічкі да памачыліся,
Зайшлі к бабцы да пасушыліся.
Дала бабка усім па яечку,
Адной сіраце да не вызасталася.
Пашла сірата за новыя варата,
Заплакаўшы, не падзякаваўшы.
Вярніся, сірата, цябе бог кліча,
Цябе бог кліча, табе долю дае,
Каня й варанога, вала й палавога.
А на коніку наязджаціся,
А на волічку да наараціся.

## 407

Да на вялікдзень, да на першы дзень,
Сад, сад зеляны вішнёвы!*
Прышлі к бабцы да кукольнічкі,
Дала бабка ўсім па яечку,
Адной сіраце да не засталося,
Не засталося да не высталася.
Пашла сірата за новыя варота.
Вярніся, сірата, цябе пан кліча,
Цябе пан кліча і дару даруе,
І дару даруе булку хлеба,
Булку хлеба і кусок сала.

---
* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 408

Валачыліся валачобнічкі,
Вясна красна, дзень цёплы! *
Валачыліся, памачыліся
Да зайшлі к бабцы, пасушыліся.
А была ў бабкі курка-рабушка,
Да нанесла яец каробачку й карабец,
А ўсім дала па яечачку,
А адной сіраце да не вышлася.
А пайшла сірата да заплакаўшы,
Да заплакаўшы, не падзякаўшы.
Да вярніся, сірата, цябе бог кліча,
Цябе бог кліча да дарыць хоча.
Да дае ж табе бог шаўковую хустку.
Сірата не бярэ і «спасіба» не дае.
Пайшла сірата за новыя варата.
Да вярніся, сірата, цябе бог кліча,
Цябе бог кліча да дарыць хоча.
Да дае ж табе цялушку-палушку.
Сірата не бярэ і «спасіба» не дае.
Да пайшла ж сірата за новыя варата.
А вярніся, сірата, цябе бог кліча.
Да дае ж табе бог каня варанога,
Каня варанога, быка палавога.
Сірата ж не бярэ і «спасіба» не дае.
А пайшла ж сірата за новыя варата.
А вярніся, сірата, цябе бог кліча,
Цябе бог кліча да дарыць хоча.
А дае табе бог краснае яечка.
Сірата ўзяла і «спасіба» дала.

## 409

Да была ў бабкі курка-рабушка,
Вясна красна на ўвесь свет! *
Яна нанесла яец цэлы карабец.
Прыйшлі к бабцы валачобнічкі,
Валачобнічкі — бабіны унучкі.
Да усім бабка па яечку дала,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Адной сіраце да не высталася.
Пайшлі ж тыя паскакаўшы,
Паскакаўшы да падзякаваўшы.
Пайшла ж сірата заплакаўшы,
Заплакаўшы, не падзякаваўшы.
— Вярніся, сірата, я табе долю даю,
І каня, і вала, і хвост палатна.
— А я ж не хочу ні каня, ні вала,
Да я ж хочу краснага яйца.
— Вярніся, сірата, дам табе яйцо.
Як узяла сірата краснага яйца,
Пайшла ж яна паскакаўшы,
Паскакаўшы да падзякаваўшы.

## 410

Да прыйшоў баран, баран пад акенца,
[Сад зялёны вішнёвы!] *
Ой, ці прадуць дзеўкі валакенца?
Каторая не прадзе, за барана пойдзе.
А ў барана круты рогі, кучарава барада.
Да былі ў бабкі да тры куркі-рабкі,
Да нанеслі яец і вечачка й карабец.
Да прыйшлі да к бабцы валачобнічкі,
Валачобнічкі — ўсе бабіны ўнучкі.
Падавала бабка да ўсім па яечку,
Ой, адной сіраце да й не выйшлася.
Дае бабка сіраце ячную лусту,
А сірата не бярэ да «спасіба» не дае.
Дае бабка сіраце да коніка ў золаце,
А сірата не бярэ да «спасіба» не дае.
Пайшла тая сірата за новыя варата,
Да не дзякуючы, не падскакуючы.
Ой, вярніся, сірата, цябе бог кліча.
Дае бабка сіраце краснае яечка,
А сірата ўзяла да й «спасіба» дала.

## 411

Валачобныя — людзі добрыя,
Зялён явар, кудравы! *

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Валачыліся, памачыліся,
Зайшлі к бабцы, пасушыліся.
Ну-тка, бабка, паварочвайся,
Скараводкі — ў печ, па яечкі — ў клець,
Скараводкі — з печы да яечкі — з клеці.
Дарыла бабка ўсім па яечку,
Адной сіраце да не выстала ся.
Бадай, бабка, да не вызрала,
Як мне, сіраце, да не выстала ся.
Дарыла бабка курку-рабушку,
Сірата не бярэ, з-пад акна не ідзе.
Дарыла бабка бурую цялушку,
Сірата не бярэ, з-пад акна не ідзе.
Дарыла бабка краснае яечка,
Сірата ўзяла, з-пад акна пайшла.

## 412

Недалечка красна яечка,
[Вясна красна гожа] на ўвесь свет.*
Ды была ў бабкі курка рабенька.
Нанесла яец поўна века й карабец.
Ды ідуць, ды гудуць ўсе бабіны ўнучкі,
Ўсе бабіны ўнучкі — валачобнікі.
Ды ўсіх бабка абдзяліла ўнучак,
Адной сіраце ды й не выйшлася.
Ды даюць сіраце ды каня ў хамуце.
Сірата не бярэ ды не дзякуе,
Ды не дзякуе, не падскакуе.
Ды даюць сіраце ды кароўку з цялём.
Сірата не бярэ ды не дзякуе,
Ды не дзякуе, не падскакуе.
Дала бабка сіраце красна яечка,
Сірата ўзяла ды падзякавала,
Падзякавала і падскакавала.

## 413

Была ў бабкі курка-рабушка,
Вясна красна на ўвесь свет! *

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Нанесла яец поўны карабец.
Валачобнікі валачыліся,
Валачыліся, памачыліся,
Прыйшлі к бабцы перасушвацца,
Дала бабка ўсім па яечку,
Адной сіраце да не высталася,
Пайшла сірата не падзякаваўшы.
— Вярніся, сірата, на табе парася!
— Не вярнуся, бабка, не дала яечка.
— Вярніся, сірата, на табе вала!
— Не вярнуся, бабка, не дала яечка.

## 414

Валачобнікі валачыліся,
Зялёны явар, кудравы! *
Валачыліся, памачыліся,
Зайшлі ж яны, пасушыліся.
А ўсім бабка дала па яечку,
Адной сіраце ды не высталася.
Пайшла сірата заплакаўшы,
Заплакаўшы, не падзякаўшы.
— Вярніся, сірата, вазьмі сабе парася,
Вярніся, сірата, вазьмі сабе курку,
Вярніся, сірата, вазьмі сабе жарабя.
— Няхай тваё жарабя ваўкі з'ядуць,
Няхай тваё парася ў хляве здохне,
Няхай тваю курку каршуны задзяруць.

## 415

Ішлі, гулі валачоўнічкі,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
Валачоўнічкі, добрыя малойцы,
Ішлі яны да дарогаю,
Сустракалі яны госпада бога,
Яны сустрэлі і ўкланіліся,
Яны сустрэлі і ўкланіліся.
Госпаду богу памаліўшыся,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Зашлі яны [redacted] бабцы-старушцы,
Яны зашлі, укланіліся.
Дарыла іх бабка па яечку,
Адной сіраце не засталося.
Дае яму бабка курку-рабушку.
Сірата не бярэ і з хаты не йдзе.
Дае яму бабка пірог хлеба,
Пірог хлеба і кварту гарэлкі.
А сірата не бярэ і з хаты не йдзе.
Дала яму бабка красную панну,
Сірата пайшоў падскакуючы,
Падскакуючы, падзякуючы.

## 416

Валачобныя — людзі добрыя,
Ай, зялёны явар, кудравы! *
Валачыліся, памачыліся,
Зайшлі к бабцы, прасушыліся.
— А прадай, бабка, да рабога бычку.
— А мне рабы, ён самой трэба,
А мне рабы, ён скародзе грады.
— Ай, прадай, бабка, да лысага бычку.
— А мне лысы, ён самой трэба,
А мне лысы, ён жа мые місы.
— А частуй жа, бабка, людзей валачобных.
Стала бабка гасцей частаваці,
Паставіла бабка скавародку ў печу,
Пабяжала бабка па яечкі ў клеці,
Скараводкі з печы, а яечкі з клеці.
Ох, стала ж бабка яечкі дзяліці,
Адной сіраце да не высталася.
— А я дарую сіраце сыру тарэлку,
Сыру тарэлку й пракрасную дзеўку.
— Ох, спасіба, бабка, за сыру тарэлку,
За сыру тарэлку, за красную дзеўку.
Ох, пайшла сірата ды падзякаваючы,
Да падскакаваючы, да падскакаваючы.
— Ах, спасіба, бабка, за сыру тарэлку,
За сыру тарэлку, за пракрасную дзеўку.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 417

Валачобнічкі валачыліся,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
Валачыліся, памачыліся,
Зайшлі к бабцы, пасушыліся.
А ў тое бабкі курка-рабушка
Нанясла яец поўны карабец,
Поўны карабец з каробачкай.
Яна дала ўсім па яечку,
Адной сіраце ды не высталася.
— А на табе, сірата, ды варанога каня.
Ён каня не бярэць і з двара не ідзець.
— А на табе, сірата, маляваны вазок.
Вазка не бярэць і з двара не ідзець.
— А на табе, сірата, кован пояс.
Пояса не бярэць і з двара не ідзець.
— А на табе, сірата, слічную паненку.
Ён паненку узяў і з двара пайшоў,
І падзякаючы, і падскакаючы.

## 418

Была ў бабкі курка-рабушка,
[Вясна красна на ўвесь свет!] *
Прышлі к бабцы валачобнічкі,
Валачобнічкі, а ўсё ўнукі.
Усім, усім па яечачку,
Аднаму Іваньку не дасталася.
Ён рассердзіўся і разгневаўся.
Прынясіце яму пуховую шляпу!
Шапкі не бярэць, чалом не б'ець,
[Чалом не б'ець] і не дзякаваіць!
Прынясіце яму шаўковы платок!
Платка не бярэць, чалом не б'ець,
[Чалом не б'ець] і не дзякаваіць.
Прынясіце яму казловыя боты!
Ботаў не бярэць, чалом не б'ець,
[Чалом не б'ець] і не дзякаваіць.
Прывядзіце яму красную дзеўку!
Дзеўку ўзяў, чалом пабіў і падзякаваў.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 419

Повен засечак красных яечак,
[Зялён явар наш, зялён!] *
Усім рабяткам па яечку,
А мне, сіраце, да й ніводнага,
Вот я сірата да й пагневаўся.
Даюць сіраце сівага каня.
Сірата не ўзяў, шапачкі не зняў,
Шапачкі не зняў, да ножак не паў.
Даюць сіраце сто рублей грошы.
Сірата не ўзяў, шапачкі не зняў,
Шапачкі не зняў, да ножак не паў.
Даюць сіраце казловы боты.
Сірата не ўзяў, шапачкі не зняў,
Шапачкі не зняў, да ножак не паў.
Даюць сіраце лаўровы вянок.
Сірата не ўзяў, шапачкі не зняў,
Шапачкі не зняў, да ножак не паў.
Даюць сіраце красную дзеўку.
Сірата ўзяў і шапачку зняў,
Шапачку зняў і да ножак паў.

## 420

На першы дзень на вялікдзень
Прышлі да бабкі ранцавальнічкі,
Ранцавальнічкі — ўсе бабіны ўнучкі.
Таму і таму па яечку,
А сіраце ні скаралюпкі.
Сірата гэта вышла за варота.
Далі сіраце шубку дарагую,
Ён шубку прыняў і не падзякаваў.
Далі сіраце новыя боты,
Ён прыняў і не падзякаваў.
Далі сіраце бабровую шапку,
Ён прыняў і не падзякаваў.
Далі сіраце каня варанога,
Ён прыняў і не падзякаваў.
Далі сіраце сядло залатое,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Ён прыняў і не падзякаваў.
Далі сіраце красну паненку,
Красну паненку маладзеньку.
Ён паненку прыняў і шапку зняў,
І шапку зняў, і падзякаваў:
— Дзякуй табе, матка, за тваю дачку,
За тваю дачку, за работнічку,
Тонка прала, звонка ткала,
Бела бяліла, хараша хадзіла,
Рубашку сшыла і на пана злажыла.

## 421

Валачобнічкі валачыліся,
Вясна красна на ўвесь свет! *
Валачыліся, намачыліся,
Прышлі к бабцы, абсушыліся.
Да была ў бабкі курка-рабушка,
Курка-рабушка, бабка-старушка.
Да вынесла бабка ўсім па яечку,
Аднаму дзяцінку да не сталася.
Да вынесла бабка кварту гарэлкі,
Кварту гарэлкі, сыр на тарэлкі.
Ён на гэта да не паглянуў,
Не зняў шапку, не падзякаваў.
Да вывела бабка каня варанога.
Ён на гэта тожа не паглядзеў,
Не зняў шапку, не падзякаваў.
Да вывела бабка слічну паненку,
Слічну паненку маладу Аленку.
Ён на гэта хорашанька глянуў,
Да зняў шапку, да падзякаваў:
— Дзякуй, бабка, за твае падаркі,
За твае падаркі, за слічну паненку.
Сяду паеду я к цесцю ў госці.
У майго цесця залаты варота,
Злота варота, тын тынаваны,
Тын тынаваны, двор маляваны,
Сады-прысады панасаджваны,
Марскія пташкі папрынаджваны.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Сады-прысады да вадзіцаю,
Марскія пташкі да пшаніцаю.

## 422

А з-пад лесу, лесу цёмнага,
Да зялён явар, кудравы! *
Ох, ідзе, ідзе туча цёмная,
Туча цёмная, валачобная.
Валачобнікі валачыліся,
Валачыліся, намачыліся,
Зайшлі да бабкі, пасушыліся.
А дала бабка ўсім па яечку,
Усім па яечку, ды па краснен(і)кім,
Адной сіраце ды не высталася.
Вывела бабка ды каровіцу.
Сірата-дурата са двара не йдзець,
Са двара не йдзець і кароўку не бярэць.
Вывела бабка ды красну дзеўку.
Са двара пайшоў паскакуючы,
Паскакуючы, падзякуючы.

## 423

Валачоўнікі валачыліся,
Вясна красна на дварэ! *
Валачыліся, памачыліся,
Прышлі к бабцы, пасушыліся.
Бабка дала ім па яечку,
Адной сіраце да не вышлася,
Пашла сірата за новыя варата.
Вярніся, сірата, цябе бог кліча,
Цябе бог кліча, табе долю дае,
Табе долю дае, каня варанога,
Каня варанога, мужа маладога.
На кані вараным будзеш паязджаці,
З маладым мужам — век векаваці,
Век векаваці, дзетак гадаваці.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 424

А на першы дзень на вялікадня,
Вясна красна, дзень цёплы! *
Валачобныя валачыліся,
Па калені памачыліся,
Зайшлі к бабцы, пасушыліся.
Дала бабка ўсім па яечку,
А свайму ўнучку — два яечкі ў ручку.
Адной сірацe да не вышлася,
Да не вышлася, да не высталася.
Пашла сірата за новыя варата,
Не падзякаўшы, да заплакаўшы.
Вярніся, сірата, цябе бог кліча,
Цябе бог кліча, табе долю дае,
Каня варанога, князя маладога.

## 425

Да была у бабкі курка рабенька,
Кудах, кудах —
Назаўтра з яйцом.
Ды нанесла бабцы яец карабец.
Прыйшлі к бабцы валачобнікі.
Валачобнікі валачыліся,
Валачыліся, абмачыліся,
Прыйшлі к бабцы, абсушыліся.
Да дала бабка ўсім па яйцу,
Адной сірацe не хваціла яйца.
Ды дала бабка рэшата бобу.
Сірата прымае ды не дзякуе.
Ды дала бабка ды каня ў золаце.
Сірата прымае ды не дзякуе.
Ды дае бабка маладога пана —
Сірата прыняла ды падзякавала.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

# РОЗНЫЯ

## 426

Пасвіла бабка казла ў полі,
Яркае сонца ў ваконца! *
Лягла ж яна, задрамала,
Задрамала, казла пацярала.
Пашла яна дарогаю,
Дарогаю шырокаю.
Сустракае валачобнікаў.
— Ці відзелі вы казельку?
— Ідзі, бабка, за круту гару,
Там ты найдзеш казла свайго.
Сабяры, бабка, рожкі ды ножкі,
Навары, бабка, сем місак кашы,
Сабяры, бабка, папоў ды дзякоў,
Папоў ды дзякоў ды шэрых ваўкоў.

## 427

Вялічка ідзець —
Нечага надзець.
Зялёны сад вішнёвы! **
Лапці, аборы —
Усе мае прыборы.
Шапка-кібірка —
Пасярод дзірка.
Боты-халявы
Ззаду дзіравы.
Ляціць гуска,
Нясець хустку.
Ляціць сарока,
Нясець сарочку.
Ляціць сініца,

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.
** Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага двухрадкоўя.

Нясецъ спадніцу.
Ляціць вутка,
Нясецъ куртку.
Ляцяць удоды,
Нясуць боты.
Ляціць варона,
Нясецъ Мірона.

### 428

Вялічка ідзецъ — нечага надзецъ,
А зялёны сад вішнёвы! *
Лапці ды аборы — ўсе мае прыборы.
Саян дзіравы, фартук каравы.
Саян зашыю, фартук памыю.
Прыдзе вялічка, прыбяруся,
Выйду на вулку, пахвалюся.
Лапці, аборы — ўсе мае прыборы.

### 429

А вялічка йдзецъ — нечага надзецъ,
Зялёны сад, вішнёвы! *
Лапці і аборы — ўсе мае уборы.
Хвартух тонкі у дзве полкі,
Андрак тонкі у чатыры полкі.

### 430

Вялічка ідзецъ — нечага надзецъ,
Зялёна траўка-мураўка! *
Ні сарочачкі, ні спаднічачкі.
Ляціць сініца — будзіць спадніца,
Ляціць жураўка — будзіць шнуроўка,
Ляціць журавок — будзіць паясок,
Сядзіць баравік — шыецъ чаравік.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 431

Вялічка ідзець —
Нечага надзець.
Сярмяжка цяжка,
А ў кажушку душна,
А катаначкі нет.
Адна сарочка —
І тая на смерць,
Адна намётка —
І тая пакрыць.
Расцець муроўка —
Будзець шнуроўка,
Расцець лапушок —
Будзець хвартушок,
Расцець баравік —
Будзець чаравік,
А ляціць птушачка —
Будзець хустачка,
Плывець вутачка —
Будзець куртачка.

## 432

А вялічка ідзець,
Па яечку нясець.
Малым дзеткам
Па яечку нясець,
А старым бабкам
Па кіёчку нясець.
А вялічка ідзець —
А нечага надзець.
Надзець кажушок —
У кажушку душна,
А надзець світку —
У світцы спіцца.
Надзену каптан,
Буду хадзіць, як пан.
А мой каптан
Хлап'ём паткан,
Шоўкам шыты,
Лыкамі страчыты.

## 433

На гарэ ліпа раскідаецца,
Багатыр дочкай набіваецца:
— Вазьмі, худачок, маю дачушку,
Дам табе пасагу быка і цялушку,
Яшчо прыдатку — бобу лапатку,
К таму прычыны — пучок лучыны,
Пучок лучыны і мех мякіны,
Пагадзя трошку — сляпую кошку.

## 434

А ў полі дубок раскідаецца,
Зялёны сад вішнёвы! *
Пятрок дачкой набіваецца:
— Бяры, бяры маю дачушку,
Маю дачушку, быка і цялушку,
Быка і цялушку і бобу кадушку,
Бобу кадушку і хлеба краюшку.

## 435

— Ой, стары, стары, чаму не жэнішся?
Вясна красна на ўвесь свет! *
— Як мне жаніцца, дзеўкі замуж не йдуць.
А хоць пойдзе — пасцелі не сцеле,
А пасцеле, дык спаць не кладзецца.
Хоць спаць ляжа, да не пацалуе,
Хоць пацалуе, то назад плюне.
Узяў стары маладую жонку.
Пайшоў стары ды на рыначак,
Купіў стары ды нагаечку.
Ой, стаў стары маладую біці,
Стала маладая старога любіці.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

### 436

Як пайду, пайду з кута па лаўках,
Зялёна траўка-мураўка! *
З кута па лаўках, глядзя па дзеўках,
А ўсе дзевачкі белы-беленькі,
Адна дзевачка невымывака,
Невымывака, непрасавака.
Іванька ідзець, брус мыла нясець,
Брус мыла нясець, Манечцы даець.
— А на, Манечка, брус мыла майго,
Умыйся бела, утрыся суха.
Ты ж пабялееш, мне памілееш,
Ты ж бялюсенька мне мілюсенька.

### 437

Як пайду, пайду з кута па лаўках,
Зялёны сад вішнёвы! *
З кута па лаўках, глядзя па дзеўках.
Усе дзевачкі ды белы-бяленькі,
Адна Зіначка невымываха,
Невымываха, непрыбіраха.
Валодзька ідзець ды брус мыла нясець.
— А на, Зіначка, ды мыйся беленька,
Мыйся беленька, ды ўтрыся сухенька.
Мыйся вадою ды ўтрыся палою,
Мыйся вадою, будзеш са мною.

### 438

Валачобныя — людзі добрыя,
Вясна красна на ўвесь свет! *
Валачыліся, намачыліся.
Перайшлі кладку — найшлі ладку,
Перайшлі сялцо — найшлі яйцо,
Перайшлі другое — пацяралі тое.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 439

Валачобнікі валачыліся,
Зялёна траўка-мураўка! *
У памыйнічку намачыліся.
Перайшлі кладку — знайшлі аладку,
Прайшлі другую — ссорылі й тую.

## 440

Ішоў Арцём з красным яйцом,
Перайшоў рэчку — знайшоў авечку,
Перайшоў другую — згубіў і тую;
Перайшоў кладку — знайшоў ладку,
Перайшоў другую — згубіў і тую;
Перайшоў масток — знайшоў праснок,
Перайшоў другі — згубіў і тый;
Перайшоў сяльцо — знайшоў яйцо,
Перайшоў другое — згубіў і тое.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

# МУЗЫЧНАЯ ЧАСТКА

1 (тэкст 159)

Moderato

Да ля– це– ла сой– ка

це– раз но– ва сёл– ка, вя– сна

кра– сна на ўвесь свет!

2

♩=112

А у ле– се, ле– се

ды на ве– ра– се, вяс (ы) – на

крас– на на ўвесь свет!

28. Зак. 1108

3 (тэкст 330)

Allegretto

1. А у ле_ се, ле_ се ды на ве_

ра_ се, вя_ сна кра_ сна

на ўвесь свет! 2. Ма_ ла_ ды там хло_ пчык

ды ва_ лы па_ се, вя_ сна

кра_ сна на ўвесь свет!

4 (тэкст 5)

♩=120

Бо_ рам (ы), бо_ рам (ы), ба_ра_ ві_ нка_ ю,

бо_ рам, бо_ рам (ы), ба_ ра_ ві_ нка_ ю,

вя_ сна кра_ сна на два_ рэ!

5 (тэкст 367)

♩=112

А ў га- ро- дзе да на пе-ра- хо-дзе,

вя- сна кра- сна на ўвесь свет!

6 (тэкст 254)

♩=108

1. У га- ро- дзе, ў час-тым ча- ста-

ко- ле, вяс- на крас- на

на ўвесь свет! 2. Не мак- ру- жа

рас- цві- та- ла, зя- лён

я- вар, куд- ра- вы!

3. На- ля- це- лі птуш- кі з-за сі-ня- га мо- ра, вяс- на крас- на на ўвесь свет! Я- ны ж ту- ю ру- жу аб- шчы- ка- та- лі, зя- лён я- вар, куд- ра- вы!

7

♩=96

1. Да на поп- лаў- цы, да на мо- раў- цы, вяс- на крас- на к нам прыйш- ла!

2. Там дзяў- чы- на бель бя- лі- ла, вяс- на крас- на к нам прыйш- ла!

8 (тэкст 102)




1. На вя_ лі_ ка_ дня да на пе_ ршы дзень,



чыр (ы) _ во_ ны цвет на ўвесь свет!



2. Ва_ ла_ чоў_ ні _чкі са_ бі _ ра_ лі _ ся,



чыр (ы) _ во_ ны цвет на ўвесь свет!..



6. Су_ стрэ_ліж я_ ны го_ спа_ да бо_ га,



чыр (ы) _ во_ ны цвет на ўвесь свет!..



8. Ўка_жы нам да_ ро_ жку, ку_ ды жнам па_ йці,



чыр (ы) _ во_ ны цвет на ўвесь свет!

9 (тэкст 283)

♩=120



1. До_ бры ве_ чар, ды па_ не_ на_ чка,



до_ бры ве_ чар, ды па_ не_ на_ чка,



вя_ сна кра_ сна на два_ рэ!



2. Про_ша а_ дчы-ні _ ці нам а_ ке_ на_ чка,



про_ша а_ дчы-·ні _ ці нам а_ ке_ на_ чка,



вя_ сна кра_ сна на два_ рэ!



3. Про_ша а_дчы_ ні _ ці ды па_ га_ ва_ры_ ці,



про_ша а_ дчы_ ні _ ці ды па_ га_ва_ ры_ ці,



вя_ сна кра_ сна на два_ рэ!

10 (тэкст 28)

♩=92

1. Дай і- шлі хло- пцы да по-лем, бо- рам,
вя- сна кра- сна на два- ры!

2. Да по- лем, бо- рам, ба- ра-ві- нка- ю,
вя- сна- кра- сна на два- ры!

11 (тэкст 158)

♩=108

А ля- це- ла сой- ка
це- раз чыс- та по- ле, вяс- на
крас- на, дзень цёп- лы!

12 (тэкст 43)

♪=92

На пер_ шы дзень на вя_ лі_ ка_ дня,

зя_ лён я_ вар, зя_ лё_ ны!

13 (тэкст 408)

♩=88

Ва_ ла_ чы_ лі_ ся ва_ ла_ чоб_ ніч_ кі,

вяс_ на крас_ на, дзень цёп_ лы!

14 (тэкст 216)

♩=182

1. А на рэ_ ча_ чцы, а на бы_ стра_ е,

вя_ сна кра_ сна, дзень цё_ плы!

2. Там дзе_ ва_ чка ку_ бкі мы_ ла,

вя_ сна кра_ сна, дзень цё_ плы!

15 (тэкст 308)

♩=144

1. А на мо_ рач_ ку ды на сі_ нень_кім,

жар_ ка_ я сон_ ца ў а_ кон_ ца.

2. А ў ка_ мо_ ры у но_ вень_ кай,

жар_ ка_ е сон_ ца ў а_ кон_ ца.

16

♩=120

Ой, шлі лю_ дзі — ва_ла_ чо_ бні_ чкі,

зя_ лён я_ вар, ду_ бро_ ва!

17

♩=138

Свя_ ты Ю_ рай

па мя_ жы ха_ дзі ў,

зя_ лё_ным я_ вар, зя_ лё_ ны!

18 (тэкст 117)

♩=112

Ва_ ла_ чы_ лі_ ся
ва_ ла_ чон_ ні_ кі, да зя_ лён (ы)
я_ вар у дуб (ы) _ ро. ве!

19 (тэкст 285)

♩=98

1. До_ брыж ве_ чар, да па_ не_ на_ чка,
да зя_ лё_ ны я_ вар (ы), дуб (ы) _ро_ ва!
2. Про_ ша ад_ чы_ няць нам а_ ке_ на_ чка,
да зя_лё_ ны я_ вар (ы), дуб (ы)_ ро_ ва!

20

♩=120

Да і- шлі жы ва- лы

ва- ла- чо- бны- я, зя- лён (ы),

я- вар, дуб (ы) - ро- ва!

21 (текст 27)

♩=144

1. Ды йшла ту- ча, ту- ча цём- мна- я,

зя- лё- ны я- вар, зя- лё- ны!..

3. Да і- шлі ж я- ны ўсё да- ро- га- ю,

зя- лё- ны я- вар, зя- лё- ны!

4. Ўсё да- ро- га- ю, ўсё шы- ро- ка- ю,

зя- лё- ны я- вар, зя- лё- ны!




22 (тэкст 405)




23 (тэкст 166)




24 (тэкст 422)



25

♩ = 144



26

♩ = 144



27

Allegretto

28 (тэкст 326)

♩=84

Да у ле_ се, ў ле_ се

да (й) на ве_ ра_ се, да зя_ лё_ ны

я_ вар (ы), зя_ лё_ ны!

29

♪=80

Доб_ ры ве_ чар, па_ не_ нач_ ка!

зя_ лён са_ док віш_ нё_ вы!

30 (тэкст 427)

♩=116

Вя_ лі_ чка і- дзець - не_ ча_ га на_дзець.

Зя_ лё_ ны сад ві_ шнё_ вы!

31 (тэкст 318)

♩ =188

А ў га- ро- дзе на па- го- дзэ,
ды ві- но ж ма- ё зе- ля- но!

32 (тэкст 211)

Allegro

1. На кла- дач- цы на гі- бень-кай,
2. Там дзяў- чы- на бель бя- лі- ла,
ды ві- но ж ма- ё зе- ля- но!
ды ві- но ж ма- ё зе- ля- но!

3. Бель бя- лі- ла, пер-сцень у-ра- ні- ла,
4. І- шлі ма-лой-цы, тры ры-ба- лоў- цы,
ды ві- но ж ма- ё зе- ля- но!
ды ві- но ж ма- ё зе- ля- но!

33 (тэкст 311)

♩ =124

Ля- цеў со- кал
кру- гам, кру- гам, ды ві- но,
ві- но зе- ля- но!

34 (тэкст 316)

♩=108

У га_ ро_ дзе на па_ го_ дзе, ві_ но
ды ві_ но ж, ві_ но зя_ лё_ на_ е!

35 (тэкст 317)

♩=120

Ой, у а_ га_ ро_ дзе ды на пе_ра_ хо_ дзе,
траў_ка- му_ раў_ ка зя_ лё_ на_ я!

36 (тэкст 104)

♩=104

Адзін:

А ці ў до_ му, до_ му
па_ не гас_ па_ да_ ру?

Усе:

Ды ві_ но ж
ма_ ё зе_ ля_ но!

37 (тэкст 260)

♩=138

А ў га_ ро_ дзе ды на пе_ ра_ хо_ дзе
ста_ іць ру_ жа чыр_ во_ на_ я,
ві_ но ж ма_ ё, ві_ но зе_ ля_ но!

38 (тэкст 25)

♩=112

1. Дзень(і) доб_ ры дзень, па_ не гас_ па_
да_ ру, ды ві_ но ж ма_ ё
зе_ ля_ но_ е! 2. Ды ці ёсць, ці ня_ ма
ды х(ы)_ то до_ ма? Ды ві_ но ж
ма_ ё зе_ ля_ но_ е!

29. Зак. 1408

39 (тэкст 187)

♩=120

Ды ў кан_цы ся_ ла ды ста_

я_ ла вер_ ба, ды ві_ но ж,

ві_ но зе_ ля_ но!

40 (тэкст 191)

♩=100

Ой, ля_ це_ ла сой_ ка

са_ ка_ ці_ ста_ я, ві_ но

да ві_ но ж, ві_ но зя_ лё_ на_ е!

41 (тэкст 335)

Allegro

На ба_ ло_ це, на кра_ ко_ це,

ды ві_ но ж ма_ ё зе_ ля_ но_ е!

42

Moderato

Ста_ я_ ла бя_ ро_ за

тон_ ка, вы_ со_ ка, ды ві_ ко

ма_ ё зе_ ля_ но_ е!

43

♩=100

Про_ ша да_ вацъ, не жа_ ла_ вацъ,

дай нам ві_ на зе_ ля_ на,

ка_ б(ы) бы_ ло за што па-дзень-ка-вацъ,

дай нам ві_ на зе_ ля_ на.

44

Moderato

А з ка_ ла_ со_ чка
жы_ та бо_ чка, да ві_ но,
ві_ но ж зе_ ля_ но!

45

Moderato

Ой, на мо_ ру, мо_ ру
да(й) на сі_ нень_ кім,
а ві_ но, ві_ но зе_ ля_ но!

46

Allegro

Крас_ на_ е я_ еч_ ка
у_ жо не_ да_ леч_ ка.
Ды ві_ но ж ма_ ё зе_ ля_ но_ е!

47

♩=80

Ой, на на– шым

на шы– ро– кім во– зе– ры

ля– ле– я ва– да на мо– ры.

48

♩=92

До– бры ве– чар, па– не– нач– ка,

слі– чна, пен– кна па– нен– ка!

49

♩=84

Шу– мён, бу– ён а– вёс (ы) ло– зы,

да– ла– лам, да–ла– лам, да– ла– лам!

50

♩=116

Ва_ ла_ чо_ бніч (ы) _ кі

ва_ ла_ чы_ лі_ ся,

зя_ лён я_ вар, зя_ лён я_ вар,

ва_ ла_ чы_ лі_ ся.

51 (тэкст 229)

♩=116

Хо_ дзіць па_ ва па ву_ лі_ цы,

гэй, ві_ но! Хо_ дзіць па_ ва

па ву_ лі_ цы, ві_ но!

52 (тэкст 232)

Allegro moderato

Хо_дзіць па_ ва па ву_ лі_ цы, гэй, ві _но!

Хо_ дзіць па_ ва па ву_ лі_ цы, ві_ но!

53 (тэкст 297)

♩=128

1. Ой, шлі- бег- лі вал- хоў- ніч- кі,

гэй, ві- но! Ой, шлі- бег- лі

вал- хоў- ніч- кі, ві- но!

2. Пы- та- лі- ся но- ва два- ра,

гэй, ві- но! З но- ва два- ра—

ды па- нен- кі, ві- но!

54 (тэкст 199)

Moderato

У кан- цы ся- ла ста- іць вяр- ба,

гэй, ло- лам! У кан- цы ся-

ла ста- іць вяр- ба, ло- лам!

55 (тэкст 231)

Andante

Хо_ дзіць па_ ва па ву_ лі_ цы,

гэй, ло_ лым! Хо_ дзіць па_ ва

па ву_ лі_ цы, ло_ лым!

56 (тэкст 241)

♩=138

Тон_ка лён_ка — ка_ на_ пель_ка, гэй, ві_ но,

тон_ ка лён_ ка — ка_ на_ пель_ ка!

57 (тэкст 202)

♩=136

Па_ се_ я_ ла леш_ку лё_ ну, эй, ло_ лам,

па_ се_ я_ ла леш_ ку лё_ ну.

58 (тэкст 244)

♩ =96

1. А ў ба_ ру, ба_ ру,

там дзяў_ чы _ на ко_ ні пас_ сці_ ла,

зя_ лё_ ны сад ві_ шнё_ вы!

2. Ко_ ні па_ сці_ ла ды па_ гу_ бля_ ла,

зя_ лё_ ны сад ві_ шнё_ вы!

59 (тэкст 143)

♩ =88

Ў гас_ па_ ды_ ні краў_ цы

бы_ лі, чыр_ во_на ро_ жа,

сад (ы) зя_ лё_ ны віш_ нё_ вы!

60 (тэкст 230)

♩=144

Хо_ дзіць па_ ва ды па
ву_ лач_ цы ды мо_ віць, ві_
но ж, ві_ но зе_ ля_ но!

61 (тэкст 7)

♪=176

Адзін: Усе:

Ве_ чар доб_ ры, ня_ хай так бу_ дзе!

62 (тэкст 83)

І_ дзём, пай-дзём, ня_ хай так бу_ дзе!

63

♪=152

Жу_ ра_ ві_ нка, ня_ хай так бу_ дзе!
Сі_ ра_ ці_ нка, ня_ хай так бу_ дзе!

64 (тэкст 214)




65 (тэкст 79)




66 (тэкст 168)



67 (тэкст 94)

♩=192

1. Бла- ве- шчан- не, зя- лё- ны сад ві- шнё- вы!

2. Жы- та па- ру- ша- іць, зя- лё- ны сад ві- шнё- вы!

68 (тэкст 77)

♪=192

До- бры ве- чар, зя- лё- ны сад ві- шнё- вы!

69

♩=112

Га- спа- ды- нька, зя- лё- ны сад ві- шнё- вы!

70

♪=192

1. Га- спа- да- ро- чку, зя-
лё- ны сад ві- шнё- вы!
2. До- бры па- но- чку, зя-
лё- ны сад ві- шнё- вы!

71

♪=192

А ха- зя- ін, дык
што ж, што бу- дзе, дык што ж.
Ўстань пра- сні- ся, дык
што ж, што бу- дзе, дык што ж.

72

♩=84

1. А ў ля- су, ў ля- су

ды на ве- ра- су,

зя- лё- ны

сад ві- шнё- вы!

2. А там ста- ля- ры ды

цэ- ркву стаў- ля- лі,

зя- лё- ны

сад ві- шнё- вы!

73

♩=82

Ля- це- ла са- ва ды а- ка- ля ся- ла (й),

зя- лё- ны (й) сад (ы) ві- шнё- вы (й)!

74 (тэкст 340)

♩ =84

А ста_ іць ду_ бо_ к(ы),
ён то_ нак, вы_ сок
(ы), вяс_ на крас(ы)_ на, зя_ лё_ на!

75 (тэкст 237)

♩ =96

1. Ля_ та_ ла па_ва і ся_ла да са_ ду,
зя_ лё_ ны сад ві_ шнё_ вы!
2. Ра_ ня_ ла пе_ р'е ў зя_ лё_ ну тра_ ву,
зя_ лё_ ны сад ві_ шнё_ вы!

76 (тэкст 69)

♩=84

Дзень до_бры та_ му, хто ў гэ_тым да_ му,
зя_ лё_ ны сад ві_ шнё_ вы!

77 (тэкст 205)

♩ = 96

1. А ў ля- ску, ў ля-ску на жоў- тым пя- ску,
зя- лё- на траў- ка- -му- раў- ка!

2. А там мо- лай- цы цэр-кву ру- бі- лі,
зя- лё- на траў- ка- му- раў- ка!

78 (тэкст 436)

♩ = 92

1. Як пай-ду, пай-ду ў ку-та па- лаў- ках,
зя- лё- на траў- ка- му- раў- ка!

З Ку- та па лаў- ках, гля- дзя па дзеў- ках,
зя- лё- на траў- ка — му- раў- ка!

79 (тэкст 206)

♩=84

А ў ля_ ску, ў ля_ ску ды

там пры да_ лі_ не,

зя_ лё_ на ё_ ла_ чка, зя_ лё_ на!

там пры да_ лі_ не царк_

ву (і) ру- бі_ лі,

зя_ лё_ на ё_ ла_ чка, зя_ лё_ на!

80 (тэкст 131)

♩=140

1. Гас_па_ды_неч_ка — жу_ ра_ ві_нач_ ка,
2 У_стань ра_нень_ка, не спі поз_нень_ка,

о сад зя_ лё_ ны віш_ нё_ вы!
о сад зя_ лё_ ны віш_ нё_ вы!

3. Бя_ ры фа_ на_ рок, і_ дзі у хля_ вок,

о сад зя_ лё_ ны віш_ нё_ вы!

81 (тэкст 350)

♩=86

Ой, ў по_лі, ў по_лі шы_ро_ка мя_жа,

іг_рай_це, ма_лой_цы, спя_вай_це!

82 (тэкст 227)

♩=80

1. А ра_на, ра_на сон_ца зай_гра_ла,

ляй_лё, ляй - лё, лі_ляй - лё!

2. А ра_ней та_го па_ва ля_та_ла,

ляй - лё, ляй - лё, лі_ляй - лё!

83

♩=96

1. Пай- ду па лаў- ка- х (ы), г (ы)-

ля- дзя па дзеў- ках,

па ма- ла- дзі- цах не бу- ду.

2. А ці ўсе я- ны ды

ці ўсе ха- ра- шы,

ці ўсе ж я- ны бя- ле- нькі?

84

♩=126

Чэ- раз по- ле шы-

ро- ка- е, чэ- раз мо-

ра глы- бо- ка- е.

85

Allegro

Адзін

Гас- па- да- ру, сліч-

ны па- не, Хор: зя- лё- ны

сад, віш- нё- вы сад!

86 (тэкст 245)

Allegretto

А ў ляс-ку, ляс- ку на жоў-тым пяс- ку,

зя- лё- ны я- вар, ду- бро- ва!

87 (тэкст 286)

♩=136

Адзін: Хор:

І- дзём, пай- дзём па ву- лі- цы, спя-

вай- це, брат- цы, спя- вай- це!

88

Allegretto Адзін:



Кру- гом два- ра жа- лез- ны

Хор:



тын, зя- лё- ны сад, віш- нё- вы сад!

89

♪=144



Пай- дзём, брат-цы, ў доль ву- лі- цы,



я- во- р (ы), ду- бор зя- лё- ны!

90 (тэкст 55)

Allegretto



І- дзём, пай-дзём па ву- лі- цы, зя-



лё- ны сад, ві- шнё- вы сад!


Спя- ём пес - ню ся - му - та - му,


зя - лё - ны сад, віш - нё - вы сад!

# СПІС АСНОЎНЫХ КРЫНІЦ І ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ


Анталогія — Анталогія беларускай народнай песні. Укладанне і камент. Г. І. Цітовіч. Пад рэд. Р. Р. Шырмы. Мн., 1968.

Беларускі фальклор — Беларускі фальклор у сучасных запісах. Брэсцкая вобласць. Традыцыйныя жанры. Мн., 1973.

Булгаковский, Пинчуки—Булгаковский Т. Д. Пинчуки. Этнографический очерк. Песни, загадки, пословицы, обряды, приметы, предрассудки, поверья, суеверия и местный словарь. СПб, 1890.

Бессонов — Бессонов П. Белорусские песни с подробными объяснениями их творчества и языка, очерками народного обряда, обычая и всего быта. М., 1871.

Гілевіч, Абрады — Песні народных свят і абрадаў. Укл. і рэд. Н. С. Гілевіча. Мн., 1974.

Дембовецкий — Опыт описания Могилевской губернии в историческом, географическом, промышленном, сельскохозяйственном, лесном, учебном, медицинском и статистическом отношениях. Кн. 1. Могилев, 1882.

Е. П. — Народные белорусские песни. Собраны Е. П. СПб, 1853.

Крачковский — Крачковский Ю. Быт западнорусского селянина. М., 1874.

Романов, Бел. сб., II — Романов Е. Р. Белорусский сборник, вып. I—II. Киев, 1886.

Романов, Бел. сб., VII — Романов Е. Р. Белорусский сборник, вып. VII. Белорусские народные мелодии. Вильна, 1910.

Романов, Бел. сб., VIII — Романов Е. Р. Белорусский сборник, вып. VIII. Вильна, 1912.

Сахараў — Сахараў С. П. Народная творчасць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў. Рыга, 1940.

Сахараў, IV — Сахараў С. П. Народная творчасць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў. Рыга, 1938 (Рукапіс ФБАН БССР).

Сербов — Сербов И. А. Белорусы-сакуны. Пг., 1915.

Чуркін, 1949 — Чуркін М. Беларускія народныя песні і танцы. Мн., 1949.

Шейн, Материалы, I — Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. I, ч. 1. СПб, 1887.

Шейн, Песни — Шейн П. В. Белорусские народные песни. СПб, 1874.

Шырма, III — Беларускія народныя песні. У чатырох тамах. Запіс Р. Шырмы. Т. 3. Мн., 1962.

Ялатаў — Елатаў В. І. Ад песні да песні. Мн., 1961.

Czeczot, 1836—1839—Piosnki wieśniacze z nad Dźwiny, z okolic Lepla i z samegoż Lepla. Cz. 2. Między rokiem 1836—1839 zebrane. (Рукапіс. Захоўваецца ў Інстытуце літоўскай мовы і літаратуры АН ЛітССР.)

Černy—Pieśni białoruskie z powiatu Dziseńskiego gub. Wileńskiej. Zbiór wiadomości do antropologii krajowej, t. XVIII. Kraków, 1895.

F e d e r o w s k i, V—Federowski M. Lud białoruski, t. V. Warszawa, 1958.

H u r y n o w i c z—Hurynowicz A. Zbiór rzeczy białoruskich z gminy Wiszniewskiej parafii Żodziskiej powiatu Święcianskiego gub. Wileńskiej. Zbiór wiadomości do antropologii krajowej, t. XVII, dz. 2. Kraków, 1893.

T y s z k i e w i c z E.—Tyszkiewicz E. Opisanie powiatu Borysowskiego. Wilno, 1847.

T y s z k i e w i c z K.—Tyszkiewicz K. Wilja i jej brzegi pod względem hydrograficznym, historycznym, archeologicznym i etnograficznym. Drezno, 1871.

### Архівы

АІМ — Архіў сектара дыялекталогіі Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР (Мінск)

АІМЭФ — Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (Мінск)

РГО — Архіў Рускага геаграфічнага таварыства (Ленінград)

ИРЛИ — Архіў Інстытута рускай літаратуры (Пушкінскі дом, Ленінград)

ЦГАЛИ — Цэнтральны дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва СССР (Масква)

ФБАН — Фундаментальная бібліятэка імя Я. Коласа АН БССР (Мінск)

### Іншыя скарачэнні

бел. — беларускі
в. — вёска
вар. — варыянт
вобл. — вобласць
вуч. — вучань (вучаніца)
гл. — глядзіце
губ. — губерня
зап. — запісана (запісаў, запісала)
л. — ліст
м. — мястэчка
мг — магнітаграма
наст. — настаўнік (настаўніца)
п. — павет
перадрук. — перадрукавана
р. — раён
скар. — скарочаны
спр. — справа
с. — старонка
ст. — стужка магнітная як адзінка захоўвання магнітаграм
сш. — сшытак
ф. — фонд

## ГАСПАДАРУ І ГАСПАДЫНІ

### ВАЛАЧОБНІКІ — ГОСЦІ НЕДАКУЧНЫЯ

#### 1. А на вялікдзень ды на першы дзень

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 60, сш. 5, л. 2, № 4. Зап. студ. Мінскага пед. ін-та Л. М. Каладкевіч у 1960 г. у в. Пагулянка Чэрвеньскага р. Мінскай вобл.[1] ад Сцепаніды Іванаўны Юды, 68 г. «На вялікдзень»[2].

---

[1] Назвы мясцовасцей даюцца па адміністрацыйнаму падзелу, які існаваў у час запісу твора.

[2] У двукоссі пададзены заўвагі выканаўцаў ці збіральнікаў пра час выканання песні і яе характар.

## 2. Першым дзяньком ды вялікаднем

АІМЭФ, ф. 13, воп. 5, спр. 6, сш. 1, л. 19—20. Зап. Н. Русаловіч у 1948 г. у в. Скарынічы Мінскага р. «Валачобная».

Вар.: АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 35, сш. 1, л. 2—3. Зап. студ. Мінскага пед. ін-та Г. М. Дрозд у 1971 г. у в. Турэц Чэрвеньскага р. Мінскай вобл. ад Вольгі Уладзіміраўны Дудкінай, 72 г.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 78, сш. 41, л. 1, №1. Зап. студ. Мінскага пед. ін-та Н. А. Суша ў 1974 г. у в. Турэц Чэрвеньскага р. Мінскай вобл. ад Вольгі Іванаўны Мазоўкі; АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 70, сш. 8, л. 15, № 7. Зап. С. М. Міско ў 1973 г. у в. Блонь Пухавіцкага р. Мінскай вобл. ад Ганны Андрэеўны Красік, 77.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 107, сш. 1, л. 62, № 128. Зап. А. А. Шамак у 1975 г. у в. Волма Чэрвеньскага р. Мінскай вобл. ад групы жанчын. «Велікодная».

## 3. Чый гэта дамок, а ён навенькі

Гілевіч, Абрады, с. 100—101. Зап. Г. Жук у в. Трэці Гарадзец Ушацкага р. Віцебскай вобл. ад Алены Віннік, 58 г.

## 4. А мы ідзём, ідзём пад багаты дом

АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 77, сш. 2, л. 19—20. Зап. К. А. Цвірка ў 1973 г. у в. Дубішча Бешанковіцкага р. Віцебскай вобл. ад Марфы Ільінічны Сцепанец, 53 г., Марфы Васільеўны Сцепанец, 60 г., і Паўліны Дзмітраўны Кухты, 80 г.

## 5. Борам, борам, баравінкаю

АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 93, сш. 4, л. 53—59, № 46. Зап. Л. М. Салавей і Л. П. Барабанава ў 1975 г. у в. Губіна Уздзенскага р. Мінскай вобл. ад М. М. Чабан, Г. С. Азаркевіч, З. В. Тарасюк, З. Б. Азаркевіч, С. П. Даніловіч. «Валачобная».

Мг ф. 20, воп. 75, ст. 31, № 6. Расшыфр. мелодыю Л. М. Фёдараў.

Ноты № 4.

## 6. Гаспадару, слаўны панок

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 50, сш. 3, л. 13, № 42. Зап. М. Я. Грынблат у 1972 г. у в. Більдзюгі Шаркоўшчынскага р. Віцебскай вобл. ад Сабіны Канстанцінаўны Васюцёнак, 1909 г. н. «На вялікдзень. Вельканоцная».

## 7. Вечар добры

Ялатаў, с. 34, № 27. Зап. у 1959 г. у г. Браслаў Віцебскай вобл. ад Ганны Андрэеўны Ляўшы, 73 г.

Ноты № 61.

## 8. А з-за лесу, лесу цёмнага

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 63, сш. 4, л. 5—6. Зап. А. І. Гурскі ў 1961 г. у в. Жыцькава Барысаўскага р. Мінскай вобл. ад Аляксандры Ільінічны Круглік, 1904 г. н. «Валачобная».

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 68, сш. 3, л. 46—47, № 49. Зап. А. І. Гурскі ў 1973г. у в. Кураполле Пастаўскага р. Віцебскай вобл. ад Веры

Юльянаўны Хадкевіч, 54 г. «Велікодная (калядная)»; АІМЭФ, ф. 8, воп. 76, спр. 123, сш. 1, л. 33, № 36. Зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в. Курмялёўка Лепельскага р. Віцебскай вобл. ад Клаўдзіі Міхайлаўны Багданавай, 1971 г. н., і Яўгеніі Барысаўны Баранавай, 1911 г. н. «Валачобная, гаспадару»; АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, спр. 92, сш. 3, л. 30. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1974 г. у в. Абчуга Крупскага р. Мінскай вобл.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 76, спр. 117, сш. 3, л. 2, № 1. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1976 г. у в. Ассе Лепельскага р. Віцебскай вобл. ад Наталлі Мікалаеўны Сазон, 78 г.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 76, спр. 120, сш. 1, № 13. Зап. А. М. Пахомава ў 1976 г. у в. Камень Лепельскага р. Віцебскай вобл. ад Е. Б. Багданавай, 1914 г. н., і Л. С. Баешкі, 1916 г. н.

### 9. На добры вечар, сам пан хазяін!

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 72, сш. 6, л. 48, № 76. Зап. студ. Мазырскага пед. ін-та Г. Г. Курылец у в. М. Бокаў Мазырскага р. Гомельскай вобл. ад В. П. Антоненкі, 81 г., і А. М. Антоненкі, 79 г.

## СЛАЎНЫ ГАСПАДАР І ЯГО ДВОР

### 10. Із-пад лесу, лесу цёмнага

Бессонов, с. 3, № 2.

### 11. Валачэбнікі сабіраліся

Романов, Бел. сб., II, с. 450—451, № 3. Зап. у Рагачоўскім п. «Валачобная».

Вар.: Романов, Бел. сб., II, с. 451, № 4. Зап. у в. Латыгава Сенненскага п.

### 12. Ішлі, прайшлі валачэбнічкі

Шэйн, Материалы, I, с. 149—150, № 143. Зап. С. М. Рачынская ў Панікольскай вол. Бельскага п. Смаленскай губ.

### 13. У цёмным лесе стучыць, гручыць

Гілевіч, Абрады, с. 122—123. Зап. А. Белавусава і В. Дубоўская ў в. Царковішчы Ушацкага р. Віцебскай вобл. ад Тэклі Булкі, 90 г.

Вар.: Tyszkiewicz K., с. 329. Зап. у Барысаўскім п. «Песня адрасавана гаспадыні».

### 14. А ў Сымонькі на двары тры свіронечкі

Бессонов, с. 9, № 8.

### 15. Славен, славен наш хазяін

АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 103, сш. 1, л. 83, № 89. Зап. В. М. Каламыцава ў 1975 г. у в. Магільнае Уздзенскага р. Мінскай вобл. ад М. Д. Туміловіч і М. Ф. Ванагель.

Мг ф. 20, воп. 75, ст. 98, № 7.

### 16. А з-пад лесу, лесу цёмнага

Романов, Бел. сб., VIII, с. 165. Зап. у м. Карма Рагачоўскага п. Магілёўскай губ. «Спяваецца пчалярам».

### 17. Добры вечар, ды паненачка

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 99 а, сш. 1, л. 17, № 12. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1965 г. у в. Бокшыцы Слуцкага р. Мінскай вобл. ад Марыі Міканораўны Шэлег, 1910 г. н. «Кукобнікі пяюць».
Мг ф. 20, воп. 73, ст. 18, № 12.

### 18. Да цераз поле, да шырокае

Шейн, Материалы, I, с. 146—147, № 141. Зап. П. М. Шпілеўскі ў Віцебскай губ.
Вар.: Шейн, Песни, с. 80—81, № 139.

### 19. Ішлі, брылі валачэбнікі

Шейн, Песни, с. 81—82, № 140. Зап. П. В. Шэйн ад адстаўнога салдата Тараса Ліпава, ураджэнца Віцебскага п.

### 20. Ішлі-брылі валачобнічкі

Романов, Бел. сб., VIII, с. 171. Зап. у Пуглееўскай вол. Горацкага п. Магілёўскай губ.

### 21. А ў нядзелю ранюсенька

Hurynowicz, с. 52 (187), № 148. Зап. у Вішнеўскай гміне Свянцянскага п. Віленскай губ.

### 22. Вой, ці дома, дома сам пан хазяін?

АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 70, сш. 4, л. 4—5, № 2. Зап. А. С. Фядосік у 1973 г. у в. Крынка Асіповіцкага р. Магілёўскай вобл. ад Еўдакіі Елісееўны Аўдзейчык, 51 г.

### 23. Добры вечар, пане гаспадару!

Гілевіч, Абрады, с. 88—89. Зап. З. Кулеш у в. Сіняўская Слабада Карэліцкага р. Гродзенскай вобл. ад Яўгеніі Наумовіч, 72 г.

### 24. Добры вечар, пане гаспадару!

АІМЭФ, ф. 8, воп. 78, спр. 156, сш. 4. Зап. А. С. Ліс у 1978 г. у в. Нягневічы Навагрудскага р. Гродзенскай вобл. ад С. Тур, З. Тур, Г. Гутар, М. Клімко.

### 25. Дзень (і) добры дзень, пане гаспадару

Шырма, III, с. 57—58, № 32. Зап. у 1932 г. у в. Пагора Навагрудскага п. ад Надзі Дубравічанкі, 23 г.
Ноты № 38.

### 26. А з-пад лесу, лесу цёмнага

Гілевіч. Абрады, с. 99—100. Зап. В. Косінец у в. Роскі Сялец Аршанскага р. Віцебскай вобл. ад Ульяны Косінец, 70 г.

### 27. Ды йшла туча, туча цёмная

АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 72, сш. 4, л. 14—15, № 13. Зап. Л. М. Салавей і Н. М. Маркава ў 1973 г. у в. Зарэчча Клічаўскага р. Магілёўскай вобл. ад Ганны Заяц, Вольгі Філончык і Стэфы Белакурскай.

Мг ф. 20, воп. 73, ст. 66, № 15. Расшыфр. мелодыю В. М. Каламыцава. Ноты № 21.

### 28. Да й ішлі хлопцы да полем, борам

АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 93, сш. 4, л. 29—30, № 25. Зап. Л. М. Салавей і Л. П. Барабанава ў 1975 г. у в. Вуса Уздзенскага р. Мінскай вобл. ад В. Ф. Нісцюк, 1902 г. н., і Н. А. Лісаковіч, 1912 г. н. «Валачойная».

Мг ф. 20, воп. 75, ст. 37, № 4. Расшыфр. мелодыю Л. М. Фёдараў. Ноты № 10.

Вар.: Романов, Бел. сб., II, с. 453, № 6. Зап. у в. Аляксенічы Сенненскага п.; Романов, Бел. сб., VIII, с. 171—172. Зап. у Рагачоўскім п. Магілёўскай губ.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 22, сш. 3, л. 32—33, № 22. Зап. Л. А. Малаш у 1969 г. у в. Туркі Докшыцкага р. Віцебскай вобл. ад Надзі Папірадзень, 1911 г. н.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 70, сш. 1, л. 39, № 33. Зап. А. С. Фядосік, І. К. Цішчанка і С. М. Міско ў 1973 г. у в. Коўрын Бабруйскага р. ад С. М. Дашкоўскага, 80 г.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 91, сш. 1, л. 32—34, № 7. Зап. К. Б. Кузняцова ў 1964 г. у в. Ходцы Сенненскага р. Віцебскай вобл. ад Дар'і Сцяпанаўны Зелянковай, 1915 г. н., і Алены Сцяпанаўны Паус, 1910 г. н.; АІМЭФ, ф. 8. воп. 73, спр. 71, сш. 1, л. 71. Зап. В. І. Скідан у 1973 г. у в. Туркі Бабруйскага р. Магілёўскай вобл. ад А. А. Будніка; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 52, сш. 8, л. 3, № 5. Зап. студ. Мінскага пед. ін-та В. М. Надольская ў 1972 г. у г. Жодзіна Мінскай вобл. ад Таццяны Пятроўны Разумовіч, 1905 г. н.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 78, сш. 42, л. 4, № 8. Зап. студ. Мінскага пед. ін-та А. Д. Сазонава ў 1974 г. у в. Мадоры Рагачоўскага р. Гомельскай вобл. ад Кацярыны Лявонаўны Сазонавай, 47 г.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 18 а, сш. 1, л. 44. Зап. Д. І. Шыцік у 1965 г. у в. Фядоры Столінскага р. Брэсцкай вобл. ад І. Л. Моніч, 1900 г. н.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 72, сш. 4, л. 13, № 12. Зап. Л. М. Салавей і Н. М. Маркава ў 1973 г. у в. Зарэчча Клічаўскага р. Магілёўскай вобл. ад Ганны Заяц, Вольгі Філончык і Стэфы Белакурскай.

### 29. Добры вечар, да паненачка!

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 99 а, сш. 1, л. 16, № 11. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1965 г. у в. Бокшыцы Слуцкага р. Мінскай вобл. ад Марыі Мікanoраўны Шэлег, 1910 г. н. «У кукобніках».

Мг ф. 20, воп. 73, ст. 18, № 11.

### 30. Добры вечар, пане гаспадару!

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 76, сш. 14, л. 11, № 18. Зап. студ. Мінскага пед. ін-та Л. Касцюкевіч у 1974 г. «Валачэнікі».

